

Алесь Зайка

# Прыказкі і прымаўкі,

*жарты і каламбуры,*
*прыгаворкі і языкаломкі,*
*вясельныя прыгаворкі пры дзяльбе каравая,*
*вітанні і зычэнні,*
*ветлівыя і ласкавыя выразы,*
*засцярогі і прысяганні,*
*праклёны і адкляцці,*
*жартоўныя праклёны і дражнілкі-кепікі,*
*зневажанні і параўнанні,*
*прыкметы народнага календара*

**з Косаўшчыны**

А л е с ь  З а й к а

# Прыказкі і прымаўкі,

*жарты і каламбуры,*
*прыгаворкі і языкаломкі,*
*вясельныя прыгаворкі пры дзяльбе каравая,*
*вітанні і зычэнні,*
*ветлівыя і ласкавыя выразы,*
*засцярогі і прысяганні,*
*праклёны і адкляцці,*
*жартоўныя праклёны і дражнілкі-кепікі,*
*зневажанні і параўнанні,*
*прыкметы народнага календара*

**з К о с а ў ш ч ы н ы**

Мінск
“Тэхналогія”
2015

УДК 398(476.7-21Косава)
ББК 82.3(4Бел)
З-17

**Зайка, А.**

З-17 Прыказкі і прымаўкі, жарты і каламбуры, прыгаворкі і языкаломкі, вясельныя прыгаворкі пры дзяльбе каравая, вітанні і зычэнні, ветлівыя і ласкавыя выразы, засцярогі і прысяганні, праклёны і адкляцці, жартоўныя праклёны і дражнілкі-кепікі, зневажанні і параўнанні, прыкметы народнага календара з Косаўшчыны / Алесь Зайка. – Мінск : Тэхналогія, 2015. – 286 с.

ISBN 978-985-458-257-3.

Гэтая кніга – першае сістэматызаванае апісанне парэміялагічнага і фразеалагічнага багацця мовы жыхароў аднаго з куткоў Беларусі – радзімы Тадэвуша Касцюшкі. Запісы фальклорнага матэрыялу зроблены даследнікам у 1969–2014 гг.

Разлічана на шырокае кола чытачоў.

**УДК 398(476.7-21Косава)**
**ББК 82.3(4Бел)**

**ISBN 978-985-458-257-3**

# ЗМЕСТ

# *Падзяка*

**Г**этая кніга – плён маёй доўгай, клапатлівай працы. Працы, якая, што праўда, аніяк не абцяжарвала. Наадварот, прыносіла радасць, адчуванне споўненага абавязку перад людзьмі – маімі суайчыннікамі, што зберагглі, захавалі ў мауленні жывое народнае слова. Мяне заўсёды здзіўлялі яркасць і моц іх мастацкага мыслення, уменне выказацца асацыятыўна, вобразна, дасціпна. Усім ім – мой шчыры дзякуй.

Выказваю сардэчную падзяку Зьмітру Санько, паплечніку і сябру, які некалі заахвоціў мяне да збірання выслоўяў роднай мне Косаўшчыны, дбайна апекаваўся мною, урэшце стаў рэдактарам гэтай кнігі, зычлівым і прынцыповым.

Цягам доўгіх гадоў я нязменна адчуваў падтрымку, ухвалу і зацікаўленасць у выніках працы блізкіх мне людзей – Алеся Разанава, Міколы Аляхновіча і Валера Гапеева. Вялікі ім дзякуй.

Вельмі ўдзячны Ганне Хаванскай, якая выканала кампутарны набор гэтага зборніка, а таксама Наталі Санько, якая ласкава пагадзілася зрабіць выпраўленне электроннай версіі.

У працы побач са мною заўсёды была мая жонка Антаніна. Дужа часта, пакідаючы на яе пільныя хатнія справы, я ездзіў па вакольных вёсках і мястэчках у пошуках самабытных выразаў – прыказак і прымавак, жартаў і прыгаворак, параўнанняў і языкаломак, але ніколі не чуў ад яе словаў дакору. Наадварот, яна з вялікім зацікаўленнем ставілася да майго занятку, кожнага разу цярпліва чакала з падарожжа, каб парадавацца прывезеным зіхацінкам роднае мовы, была мне першым памачнікам і дарадцам. За ўсё гэта ёй – асаблівая падзяка.

# *Да чытачоў*

Калі вы будзеце знаёміцца з кнігай, то абавязкова кінецца ў вочы прозвішча інфарманта, прозвішча жанчыны, якое найчасцей сустракаецца, паўтараецца: гэта – Лушчык Вера Ігнатаўна. Яна маці маёй жонкі. Пасля смерці ў 1992 годзе мужа Івана Іванавіча жыла з намі ў Заполлі, хоць душою была заўсёды ў родных Альшаніцах. Цяжка і доўга хварэла, але цярпела, не траціла аптымізму.

Слова – самавыяўленне асобы, характару, натуры. Дасціпная, жартаўлівая, Вера Ігнатаўна мела сваю мову, адметную, яркую, з багатым лексічным складам, своеасабліва сінтаксічна арганізаваную. Ад яе я занатаваў шмат дыялектных слоў, выслоўяў, прыказак, прымавак, загадак, народных жартаў, легендаў і паданняў.

У знак вялікай павагі і ўдзячнасці я і прысвячаю ёй гэтую кнігу.

Нарадзілася Вера Ігнатаўна Лушчык (у дзявоцтве Лісок) 26 верасня 1930 года ў вёсцы Альшаніца Квасевіцкага сельсавета Івацэвіцкага раёна, памерла 10 лістапада 2004 года. А пра сябе яна раскажа сама (жыццяпіс занатаваны ў 2003 годзе):

*“У майго бацькі было два старэйшыя браты і сястра. Браты за багацьцем пагналіся ды пабралі сабе жанок з добрым прыданым, а мой бацька ўзяў маці за красу, але бедную. За гэта браты зь яго пасьміхаліся: “Мы пасеялі жыта на полі, а ты, Ігнаце, на сундуку пасееш”. Але бацька не апускаў рукі. Упраўляўся і на сваёй зямлі, і асадніку польскаму абрабляў поле, дужы надта быў. Асаднік, чалавек неблагі, крыўды не чыніў: і з умалоту збожжа дасьць, і картоплямі дзяліўся. Мы галодныя не расьлі.*

*Бацька любіў мяне. Быў старэйшы брат у мяне, Саша, з фронту не вярнуўся, былі яшчэ двое братоў меншых і сястра, а бацька ўсюды мяне з сабой браў. Каня на начлег вадзіла. Як зьбярэмся гуртом ля агню, як пачнуць страхі расказваць, то баімося глянуць у цемень. А могліцы недалёка былі.*

*Памерла была дзеўка, а харошая была. Хлопцы велькія дый кажуць: “Паклічма, то, можа, прыйдзе”. І загукалі: “Зінка, хадзі сюды! Зінка, хадзі сюды!” Седзімо, бачым: едзе нехта на кані белым, адно тупу-тупу, тупу-тупу, але не пазнаць хто. І гэты*

*конь недалёка ад нас стаў і нагою зямлю грабе. А мы адзін на аднаго: "Бачыш?" – "Бачу". – "Бачыш?" – "Бачу". Косы дыбам на галаве сталі. На гэтых хлопцаў шэпчам: "Гэта праз вас!" І давай хрысціцца. Бачым, той конь тупу-тупу – і пабег да моглiц, і толькі агонь пайшоў. І ўсё, па той раз ніхто не галёкнуў, ніхто на тыя могліцы і нагою не ступіў.*

*Усё рабіла з маленькае, бо маці хварэла. І прала – ано шпулі выляталі, і картоплі на дзьве рукі капала за вельку, і жала, і ткала.*

*Вайна пачалася, а мы сама ў дзявок браліся. Брат старэйшы ў партызанах быў, то, бывала, поўная хата іх найдзе. Бацька брату гаварыў: "Толькі, сынку, чужога не бяры нідзе, прыходзь дахаты сам і хлопцаў прыводзь, знайду, што паесьці, і з сабою аддам апошняе, каб толькі людзі цябе не клялі".*

*Але папатрасьліся, баяліся, што немцы расстраляюць. У нас у сяле староста быў харошы, Буткевіч фамілія. Сяло партызанскае было, ля Гуты блізка, а ніводнага чалавека ў сяле не расстралялі, не спалілі ні аднае хаты, староста адстойваў людзей. Пачалі ў Германію адпраўляць маладых, то сваіх дзьвюх дачок адправіў, каб чужых не вывозілі. А ўжо пад самы канец вайны Буткевіча забілі партызаны. А людзі шкадавалі яго: усіх ратаваў, а сам прапаў, магілы не ведаем яго. Шкадавалі ўсе, плакалі.*

*Брата майго пакідалі, як скончылася партызаншчына, у міліцыі служыць. Але ён сказаў: "Чым у міліцыю, то лепш на пазіцыю".*

*Маці мая выгадавала пяцёра дзяцей, хварэла ўсё. І пенсіі не заслужыла ў гасударства, і за сына забітага толькі за пару гадоў да яе сьмерці сталі даваць дванаццаць рублёў.*

*У 1946 годзе я пайшла паштальёнам рабіць. А пошта была на краю Косава, туды, пад Старажоўшчыну. Равароў не было, пяшком хадзіла. Праўда, тады яшчэ калхозаў не было, то сваімі коньмі ў Косаў людзі езьдзілі: то ў млін, то да доктара. Падвозілі й мяне. І дождж, і кўдаса, а трэба ісьці, бо людзі чакаюць: каму пенсія дзецям, што бацькоў на фронце пабілі, каму пісьмо, бо многа тады па вярбоўцы павыяжджала, ды хлопцаў у армію пабралі. Бывала, мароз трашчыць, бацька мне кажушка пашыў, а калені ўсё роўна сінія з холаду. Стану, патру-патру, ды зноў пабегла.*

*Вазьму пошту і бягу ў Скураты, адтуль – у Квасевічы, потым у Хрышчонавічы і, нарэшце, у Альшаніцы, дахаты. Як падумаю зараз, і як гэта ўсё вытрымала? Але ж маладая была, дужая, рослая. Бачу, ужо і хлопцы на мяне паглядаюць. І пахварсіць хацелася, ды не было ў чым.*

*Даўней Альшаніцы не былі такім закінутым сялом, як цяпер: і сямігодка была, і медпункт, і сельсавет. Танцы рабілі ў Топталавай хаце. Хлопцы з усёй акругі да нас прыходзілі. Скуратоўскія галасістыя былі, надта харашэ сьпявалі. Здалёк чутно, што на танцы ідуць. Я іх усіх ведала, а прыглянуўся мне Казак, так іх называлі па-вулічнаму. І я яму глянулася.*

*Але хітры быў мой Іван, ведаў, што трэба бацькоў улагодзіць. А ён, хоць малады хлопец, але столяр быў на ўсю ваколіцу. Шпулю вытачыў, калясо ў каваротку, палазы ў санкі бацьку майму зрабіў, ды ўсё настае: "Выходзь за мяне замуж". Я яшчэ маладзенькая, сямнаццаць гадкоў толькі, хацелася і дзеўкаю пахадзіць, а бацька кажа: "Дурань, ідзі, зямлі німа, каб яны паземлянелі, то ніхто замуж ні возьме. Бярэ, то ідзі, пускай жабракі на сьвет, хай гадуюцца". Гэта тата выпер мяне за яго. Але я не шкадую. Душа ў душу пражылі. Іван моцна шкадаваў мяне.*

*Праз год сын нарадзіўся, пасьля дачка, пасьля зноў сын. Трое дзяцей, усіх выгадавалі. Добрыя яны ў мяне. Але ж надта рана памёр мой Іван, Казак, як яго ўсе клікалі. Дбаў пра сям'ю, кідаўся ўсюды, каб грошай зарабіць: у калхозе ніц не плацілі, а мы будаваліся. То на Бронную езьдзіў, там сталярны цэх быў. Хацеў на Броннай хату ставіць, а я, дурная, не дала. Можа, там лягчэй пражылі б. А тут начальнікі што хацелі, тое і рабілі зь людзьмі.*

*Накасіў мой Іван сена на Пабежыне (балота за дваццаць пяць кіламетраў ад Альшаніц), на плечах з вады выносілі, сушылі. Прывязьлі, на вышкі закінулі. А на другі дзень падагналі калхозную машыну (Савін старшынёю быў) і з вышак сена забралі. Можа, тады ў Івана і першы рубец на сэрцы паявіўся.*

*А то пайшла дачка ў магазін, зь дзецьмі, усім хлеба прадалі, а ёй магазіншчык сказаў: "Табе хлеба німа, твой бацько ў калхозі ні робіць".*

*Ой, усяго й не раскажаш. А я ўсё жыцьцё ў калхозе прарабіла, грамат назарабляла, а пенсія – курам на сьмех. Гэта цяпер, як першую групу далі, трохі больш даюць. Але што з таго? Зараз мае рукі ложкі да рота не давядуць. Дзякую Богу за дзяцей, што не акінулі. А жыцьцё маё птушкай праляцела, як адзін дзень".*

# *Прадмова*

Сучасны Івацэвіцкі раён – так склалася здаўна – уяўна дзеліцца на тры рэгіёны – Быценшчыну, Косаўшчыну і Целяханшчыну, і кожны куточак адметны, непаўторны, варты пільнага вока і гісторыка, і этнографа, і мовазнаўца.

Калі Быценшчына ды Косаўшчына знаходзяцца ў арэале гарадзенска-баранавіцкай дыялектнай групы гаворак, то Целяханшчына – заходнепалескай.

На фармаванне дыялектнага ландшафту наклалі адбітак, безумоўна, асаблівасці прыроднага характару (на поўдзень – балоты, пясчаныя выспы, на поўнач – палі ды светлыя хваёвыя бары), а таксама колішняя адміністрацыйная мяжа паміж Слонімскім ды Пінскім паветамі, якая была канчаткова замацаваная ў выніку рэформы 1565–1566 гадоў у Вялікім Княстве Літоўскім і трывала з нязначнымі зменамі да сярэдзіны XX стагоддзя. Усе гэтыя фактары паспрыялі развіццю самасвядомасці мясцовага люду, праяўленню яго адрознай, своеасаблівай матэрыяльнай і духоўнай культуры. Целяханшчына – гэта ўжо “палешукі”, пачатак Палесся; Быценшчына ды Косаўшчына – “ліцьвіны”, “ліцьвінская зямля”.

Размаўляюць на Косаўшчыне гаворкай, якая вельмі блізкая да літаратурнай мовы і вызначае яе нацыянальную спецыфіку. Тут ёсць дзеканне і цеканне, пераход **в, л** у пэўнай пазіцыі ў **у** нескладовае, цвёрдыя шыпячыя, **р**, **ц**, аглушэнне звонкіх зычных у канцы слова і складу перад глухім зычным, цвёрдыя губныя на канцы слова, чаргаванне **ро, ло** з **ры**, **лі** ды інш.

У гэтай працы ўжыты алфавітны парадак размяшчэння матэрыялу. Пры гэтым укладальнік кіраваўся тым, што тэматычны, прадметна-тэматычны парадак ці размяшчэнне словазлучэнняў па апорным слове мэтазгодныя толькі пры шырокім ахопе тэрыторыі, вялікім зборы зыходнага матэрыялу. Наш жа зборнік змяшчае сабранае толькі з аднаго кутка Беларусі, увесь набытак – “вось тут, перад вачыма”.

Большасць слоўнікавых артыкулаў складаецца з наступных частак: *а)* парэміялагічнай або фразеалагічнай адзінкі, пададзенай у

літаратурным напісанні; *б)* семантычнай характарыстыкі ад укладальніка; *в)* тлумачэння інфарманта (пазначанае *тлум. інф.*), цытаты з аповеду (*з аповеду інф.*) або прыкладу (*прыклад інф.*), якія захоўваюць асаблівасці, характэрныя для мясцовай гаворкі; *г)* прозвішча і ініцыялаў інфарманта, звестак пра год яго нараджэння, час запісу, месца жыхарства і адміністрацыйную прыналежнасць сялібы (паводле стану на 1 лістапада 2013 года).

## *Скароты назоваў сельскіх саветаў*

Жытл. – Жытлінскі

Квас. – Квасевіцкі

Кос. – Косаўскі

Люб. – Любішчыцкі

Міл. – Мілейкаўскі

Падст. – Падстарынскі

Стайк. – Стайкаўскі

Ягл. – Яглевіцкі

# ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

**Абедаў, а жывот не ведаў.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

Гэтак кажа той, хто ўстаў галодны з-за стала.

**Або пан, або прапаў.** Букшта В.К., 1938 г.н., 2001. Сенькавічы Падст.

Так кажуць, калі пачынаюць рызыкоўную справу.

**Абы балота, а чэрці знойдуцца.** Мацвіеня В.К., 1917 г.н., 2001. Лазаўцы Міл.

*"Былі б рукі, а работа для йіх заўсёды знойдзяцца"* (тлум. інф.).

**Абы шыя, а хамут знойдзецца.** Клютко Р.А., 1960 г.н., 2003. Аўсто Стайк.

Так жартоўна суцяшаюць кавалера, які думае, што не знойдзе сабе пары.

**Абяцанка – цацанка, а дурню радасць.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Пра абяцанне, якое цешыць, але не будзе выкананае.

**Агонь вадою тушаць, а сварку маўчаннем.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Агонь горшы за злодзея: злодзей хоць вуглы пакіне, а агонь нічога.** Снітка Г.В., 1925 г.н., 2001. Любішчыцы Люб.

**Агуркамі вячэру не адбудзеш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Пасля цяжкай працы патрэбна сытная яда.

**Ад аднаго берага адарваўся, а да другога не прыстаў.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра чалавека, які не трымаецца свайго, роднага.

**Аддай рукамі, будзеш забіраць нагамі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Бывая, пазычыш каму што, то папаходзіш, каб аддаў"* (тлум. інф.).

**а) Даў рукамі, хадзі нагамі.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2004. Скураты Квас.

*"Пазычыць лёхко, а пасьля папаходзіш, каб вярнуць пазычанае"* (тлум. інф.).

**Аддам на святыя ніколі.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра чалавека, які клянецца аддаць пазыку, але якому няма веры.

**Ад думкі галава баліць.** Жук Дз.А., 1919 г.н., 1995. Жамайдзякі Міл.

Звычайна кажуць тады, калі нешта моцна турбуе, палохае нявырашанасцю, вымагае пільнага абдумвання.

**Адзін Бог без граху.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2002. Заполле Кос.

Кажуць, калі спрабуюць апраўдаць, патлумачыць свае ці чужыя ўчынкі, паводзіны, на думку іншых людзей, не зусім прыстойныя.

**Адзін Бог святы ведае, што будзе.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Адзін дуб у полі – то не лес.** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 1996. Бялавічы Кос.

Без людзей, без людской падмогі не пражывеш.

**Адзін з'еш вала – адна хвала.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Кажуць, калі хваляць гасціннага чалавека, упікаючы гэтым скупога.

**Адзін раз густа, а другі пуста.** Грынчык Н.І., 1944 г.н., 2008. Івацэвічы.

Пра непрактычнасць, марнатраўства іншага чалавека.

**Адзін раз схлусіш – другі не павераць.** Дакучыц С.Р., 1929 г.н., 1996. Ятвезь Квас.

**Адзін скача, другі плача, трэці песенькі пяе.** Бахур Г.В., 1923 г.н., 2003. Яглевічы Ягл.

Пра разнастайнасць, рознабаковасць, непрадказальнасць жыцця.

**Адзін строчыцца, а ўсім хочацца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Страчыцца – гізавацць. Так кажуць пра карову, якая ўцякае ад гіза. Тут: пра чалавека, які ўвяжацца ў непатрэбную справу ды іншых за сабой цягне.

**Адзін у плот, другі ў агарод.** Ялоўскі У.С., 1930 г.н., 1995. Зыбайлы Жытл.

Так кажуць, калі ўбачаць, што людзі ніяк не паразумеюцца.

**Ад зладзейства не разжывешся.** Шумовіч А.В., 1924 г.н., 1997. Хрышчонавічы Квас.

**Ад злосці баляць косці.** Івановіч Г.К., 1919 г.н., 2001. Халап'я Падст.

*"У злоснаго чалавека заўсёды кепскі настрой, у яго ўсё баліць"* (тлум. інф.).

**Ад зямлі адарваўся, а да неба не дастаў.** Букшта В.К., 1938 г.н., 2001. Сенькавічы Падст.

З пэўнай іроніяй кажуць пра таго, хто перабольшвае свае магчымасці.

**Адклад не ідзе на лад.** Рамашка У.І., 1931 г.н., 1995. Галынка Міл.

Не адкладвай работу на потым, старайся яе выканаць адразу.

**Ад коласу да коласу – не чуваць бабскага голасу.** Гоган М.Т., 1930 г.н., 2004. Заполле Кос.

Рэдкая збажына, будзе слабы ўраджай.

**Ад коласу да коласу няма месца і воласу.** Лунь А.М., 1916 г.н., 1996. Заполле Кос.

*"Кажуць, калі густая збажына, калі павязьніка чакая шмат работы"* (тлум. інф.). Павязьнік – дзяцюк, які вяжа снапы і ставіць мэндлі.

**Ад курыцы плота няма.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2004. Скураты Квас.

*"Ад дурноты німа ратунку, німа абароны"* (тлум. інф.).

**Ад ляносці не баляць косці.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2002. Скураты Квас.

Так дакараюць гультая ці смяюцца з яго.

**Адна бяда не ходзіць, за сабою другую (сем) водзіць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Кажуць, спагадаючы таму, каго апанавала бяда.

**Адна галава добра, а дзве лепей.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пры вырашэнні жыццёвых праблем добра параіцца з іншым чалавекам.

**Адна галавешка не гарыць, дзве лепей.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. у пары, у шлюбе лепей жыць.

**Аднаго бацькі дзеці.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Ёсць тое, што яднае людзей, – сям'я, род.

**Аднае маткі дзяткі, ды не аднае ўхваткі.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2002. Заполле Кос.

"*Кроў адна, а повад розны*" (тлум. інф.). Повад – паводзіны, характар.

**Аднаму і ля кашы няспорна.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

"*Безь люцкой помачы ні пражывеш*" (тлум. інф.).

**Адна паршывая авечка ўвесь статак псуе.** Куратнік І.С., 1915 г.н., 1997. Гічыцы Ягл.

**а) Адно цяля паганае ўсю чараду апаганіць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Нягодны чалавек усё сяло абняславіць*" (тлум. інф.).

**Адна скула замінае.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1996. Скураты Квас.

У гаспадарцы прыдасца нават, здавалася б, непатрэбная рэч.

**Адно вока бачыць далёка, а два – яшчэ далей.** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1974. Заполле Кос.

У жыцці спадзявайся не толькі на сябе, але слухай і іншых.

**Адно дзіця, як вока ў лобе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*“Адно дзіця альбо сірата, альбо цацка”* (тлум. інф.).

**Адно дзіця, як кол у плоце.** Шчурко Ф.А., 1926 г.н., 2001. Заполле Кос.

*“Адно дзіця – гэто адзінота на ўсё жыцьцё: ні сястры, ні брата – прыперціся німа да каго”* (тлум. інф.).

**Адно зерне пуды збірае.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Ашчаднасць – аснова дабрабыту.

**Адной рукой вузел не развяжаш.** Ціток А.У., 1905 г.н., 1975. Заполле Кос.

Без людской дапамогі цяжка справіцца з жыццёвымі турботамі.

**Адной рукой дае, а дзвюма адбірае.** Карловіч І.П., 1914 г.н., 1974. Бялавічы Кос.

Пра хітрага, карыслівага чалавека.

**Адно ў пушку, другое ў трыбушку.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2004. Скураты Кос.

*“Так жартуюць з мужыка й жонкі, якія багацеюць на дзяцей штогот”* (тлум. інф.).

**Адны бацькі гадавалі, ды не адную долю ад Бога атрымалі.** Ткачук Я.В., 1915 г.н., 1996. Міхнавічы Стайк.

*“Кажны чалавек мая свой лёс”* (тлум. інф.).

**Адны пануюць, а другія гаруюць.** Стась Я.І., 1948 г.н., 1983. Заполле Кос.

Пра маёмасную няроўнасць людзей.

**Ад паклону спіна не баліць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1991. Альшаніца Квас.

*“Каб дабіцца праўды, трэба пакланіцца: ат паклону сьпіна не баліць”* (тлум. інф.).

**а) Ад паклону галава не адваліцца.** Пархута Г.І., 1927 г.н., 2008. Жамайдзякі Міл.

**Ад парога падлогу не мятуць.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*“На ўсё на сьвеце е парадак”* (тлум. інф.).

**Ад работы не гарба́цеюць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Работа – на радасьць, работа – на здароўе"* (тлум. інф.).

**Адрыгнуцца ваўку каровячыя слёзы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Крыўднік паплоціцца за прычыненую крыўду.

**Ад свайго злодзея не ўсцеражэшся.** Ступак М.П., 1930 г.н., 2007. Падстарынь Падст.

*"Калі завядзецца злодзяй у сям'і, то зь йім цяшко зладзіць"* (тлум. інф.).

**Ад смерці не адмолішся, не адкупішся і не адпросішся.** Прыступчык М.В., 1925 г.н., 2003. Падстарынь Падст.

**Ад сябе не схаваешся (не ўцячэш).** Прымак М.І., 1919 г.н., 2008. Івацэвічы.

*"Ад людзей можно схавацца, нешчо ўтаіць, а ат сябе нідзе спрату ні найдзеш"* (тлум. інф.).

**Ад сябе толькі курыца грабе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Кажан найперш думае пра сябе"* (тлум. інф.).

**а) Усе да сябе грабуць, адна курыца ад сябе.** Мацвіеня В.К., 1917 г.н., 2001. Лазаўцы Міл.

*"Калі ні дурань, то кажны клапоціцца пра сябе"* (тлум. інф.).

**Ад цяплосці не баляць косці.** Брыль А.А., 1937 г.н., 2001. Плехава Люб.

Кажуць таму, хто наракае на гарачыню.

**Ажаніўся – навек жонкай падавіўся.** Жаліс Э.В., 1939 г.н., 2003. Няхачава Стайк.

Пра чалавека, які нешчаслівы ў сямейным жыцці.

**Ажаніцца – не ўпіцца.** Прыступчык М.В., 1925 г.н., 2003. Падстарынь Падст.

Перш чым ажаніцца, трэба добра падумаць.

**Апёкся на малацэ, то на халодную воду дзьмуць будзеш.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 1980. Альшаніца Квас.

Той, хто спазнаў бяду, прыкрасць, цяпер усяго баіцца.

**Арэх і рак – адзін смак.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Спажываючы іх, ніколі не спатоліш голаду, ніколі не наясіся, бо яды гэтай мала.

**а) Баба і рак – адзін смак.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Ашуканствам свет пройдзеш, а назад не вернешся.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

**Баба з воза – каню лягчэй.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2002. Косава.

Калі хто адмаўляецца ад супольнай працы, то кампаньёнам ад гэтага толькі лепш: яны пазбаўляюцца ад таго, хто тармозіць справу.

**Баба і чорта перахітрыць.** Бялевіч А.Ц., 1909 г.н., 1996. Рацкевічы Міл.

Жанчыны, здольныя на хітрасць, вынаходлівыя.

**Баба ў тры вузлы завяжацца, а свайго даб'ецца.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

**Бабу б'юць за язык.** Андрыяшка А.В., 1933 г.н., 2010. Размеркі Стайк.

"*Жанчынам шкодзіць доўгі язык, празь яго маюць непрыемнасьці*" (тлум. інф.).

**Багатага і Бог любіць.** Бахур І.В., 1925 г.н., 1996. Боркі Падст.

**Багатаму і чорт дзяцей калыша.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1998. Альшаніца Квас.

Багатаму ўсе рады паслужыць.

**Багаты беднаму не спагадае.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

"*У багатаго ўсё е, ён ні бачыць, што бедны сядзіць бяс хлеба*" (тлум. інф.).

**а) Багаты з беднага не спагадае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1983. Заполле Кос.

*“Багатаму вечне ўсяго мало. Яму дзіво: “Мне ўсяго вобмаль, а як тады бедны жыве?”* (тлум. інф.).

**Багаты спявае, а бедны плача.** Бабей Р.Д., 1911 г.н., 1995. Ёдчыкі Квас.

*“Шчо б ні гаварылі, а кажнаму сваё”* (тлум. інф.).

**Багаты чалавек не грашыма, а здароўем.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., Бялавічы Кос.

**Байструк – божы струк.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*“Няшлюбнае дзіця – божае дзіця. Так кажуць людзі. Яму ў жыцьці трэба спадзявацца толькі на бога”* (тлум. інф.).

**Балота без чорта не бывае.** Кот Н.М., 1945 г.н., 1993. Заполле Кос.

Ва ўсякай грамадзе, ва ўсякім гурце знойдзецца той, хто ігнаруе правілы традыцыйнай маралі, паводзіць сябе непрыстойна.

**Бачыць вока, ды ісці далёка.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Здаецца, і няшмат працы, але, узяўшыся за яе, патраціш многа часу.

**Баязлівы і свайго ценю баіцца.** Собаль П.З., 1927 г.н., 2003. Квасевічы Квас.

**Бедавальнікаў многа, а ратавальнікаў няма.** Жук Дз.А., 1919 г.н., 1995. Жамайдзякі Міл.

*“Пабедаваць памогуць, а вось рады якое знайсьці, памахчы німа каму”* (тлум. інф.).

**Беднаму няма чаго губляць.** Мяхведзь А.П., 1930 г.н., 2007. Руда Падст.

*“У беднаго й так нічого німа, страты ён ні баіцца”* (тлум. інф.).

**Без ахвоты няма работы.** Бурына Ф.А., 1939 г.н., 2001. Сакоўцы Міл.

На ўсякую работу трэба мець хаценне.

**Без Бога ні да парога.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

Без Божага бласлаўлення не варта пачынаць ніякую справу.

**Без Божай волі з галавы і волас не ўпадзе.** Суцько М.Д., 1925 г.н., 2003. Була Міл.

Усё падуладна Богу.

**Без грэбеня (начыння) і вош не заб'еш.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

"*Усякае начыньне павінна быць у дбайнага гаспадара*" (тлум. інф.).

**Без навукі і пастала не спляцеш.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2002. Косава.

**Без працы сядзець – можна адубець.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Будзеш сядзець рукі склаўшы – з голаду памрэш*" (тлум. інф.).

а) **Без працы сядзець – можна здурэць.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2001. Заполле Кос.

У працы хутка ляціць час.

**Без сваркі няма гаспадаркі.** Шчурко Г.А., 1960 г.н., 1994. Корачын Жытл.

Вядзенне сялянскай гаспадаркі нярэдка выклікае спрэчкі паміж мужам і жонкай.

**Без сякеры не цясляр, без лапаты не агароднік.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Кожны шануе тыя прылады працы, без якіх не можа абысціся.

**Без хлеба яда – да парога хада.** Макарчэня М.М., 1934 г.н., 1995. Заполле Кос.

"*У хлебі жыцьцёвая сіла*" (тлум. інф.).

**Белыя рукі чужой працай жывуць.** Карловіч І.П., 1914 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

"*Белыя рукі ў гультая*" (тлум. інф.).

**Бессаромнае вока дыму не баіцца.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2005. Размеркі Стайк.

Чалавек без сораму людзей не баіцца, ён здатны на подласць.

**Бі каня аўсом, а не пугаю.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

"*Дагледжанаго каня падганяць ні трэба, ён сам бяжыць. Гэдак і чалавек: калі добра пад'ясі, то й праца спорыцца*" (тлум. інф.).

**Блізка відаць – далёка сцібаць.** Зайка Г.А., 1900 г.н., 1984. Заполле Кос.

Сцібаць – ісці, крочыць.

**Блізкі сусед лепш, чым далёкая радня.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2006. Стайкі Стайк.

"*Як бяда, то бяжыш да суседа, просіш, каб выручыў*" (тлум. інф.).

**Бога хвалі і чорта не гняві.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Трэба жыць у міры і згодзе з усімі людзьмі.

**Бог высока, а пан далёка.** Жук А.І., 1934 г.н., 2004. Уласаўцы Жытл.

Трэба найперш спадзявацца, разлічваць на свае сілы. "*Так кажуць, як німа заступцы, як чалавек бедны*" (тлум. інф.).

**Бог даў – Бог узяў.** Голуб В.І., 1930 г.н., 2002. Скураты Квас.

"*Даўней дактароў ні было. Захварэя дзіця – і памрэ. Такімі словамі спачувалі бацькам*" (тлум. інф.).

**Бог знае куды, калі, нашто.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2004. Альшаніца Квас.

**Бог казаў дзяліцца.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1990. Альшаніца Квас.

Трэба памагаць бедным і ўбогім.

**Бог лесу не раўняе і людзей гэтаксама.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Бога на суд не падасі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Як бог даў, так і будзе: бога на суд не падасі*" (тлум. інф.).

**Бог не без міласці, свет не без добрых людзей.** Шчурко Л.І., 1949 г.н., 2009. Заполле Кос.

**Бог не роўна дзеліць.** Вайцяшук М.Т., 1916 г.н., 1995. Верашкі Квас.

У кожнага свой лёс: аднаму шчасціць больш, другому менш.

**Бог не цяля, пазнае круцяля.** Сяўчук Л.А., 1905 г.н., 1983. Бялавічы Кос.

Той, хто жыве ашуканствам і падманам, атрымае па заслугах.

**Бог сірату любіць, але шчасця не дае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1998. Альшаніца Квас.

Гэтак кажуць, спагадаючы сіраце.

**Бог тройцу любіць.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2003. Заполле Кос.

Чалавек, якому нешта недадаюць, гэтак жартуе, нагадваючы пра тое.

**Браты – воўчыя раты.** Зайка В.А., 1942 г.н., 2012. Заполле Кос.

"*Так кажа сястра пра братоў. Да йіх ні вельмі прытулісься, бо трэба ш сястры зямлі даць у пасах, калі замуж будзя йсьці*" (тлум. інф.).

**Браў воўк, узялі і воўка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Нядобрыя ўчынкі, справы, колькі б яны ні тварыліся, стануць вядомыя, будуць мець канец.

**Будзе галава, будуць і грошы.** Мацвіеня В.А., 1917 г.н., 1995. Галік Міл.

"*Чалавек, у якого разумная галава на плячах, заўсёды прыдумая, як зарабіць грошы*" (тлум. інф.).

**Будзем жывы і Богу мілы, а людзям сам чорт не дагодзіць.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 2001. Заполле Кос.

"*Ні дагаджайця людзям, а дагаджайця богу, так некалі мая маці казала*" (тлум. інф.).

**Будзем мы – будуць і грошы.** Зеляня М.М., 1944 г.н., 2003. Квасевічы Квас.

"*Будзем жывыя мы, то заробім грошы. Мёртваму нічого ні трэба*" (тлум. інф.).

**Будзе ў людзей – будзе ў нас.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

"*Тое, шчо ў людзей е, калі пастараямся, будзя і ў нас*" (тлум. інф.).

**Будзеш салодкі – праглынуць, будзеш горкі – праклянуць.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

Трэба паводзіць сябе з людзьмі роўна: не запабягаць і не заядацца.

**Будзь свайму слову гаспадар.** Куратнік І.С., 1915 г.н., 1997. Гічыцы Ягл.

**Бульба – хлебу падмога.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

**Бывала, буяла, а цяпер расці не хоча.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

"*Кажны хваліць сваю маладосьць*" (тлум. інф.).

**Была б галава, а вошы знойдуцца.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Чалавек часам няўрокам накліча бяду на сваю галаву.

**Была мамка міла, як срачку мыла.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

"*Маці трэба была, як здаровая была, як гадавала, як памагала, а на старасьці й дзеці адвярнуліся*" (тлум. інф.).

**Была ў папа апошняя жонка.** Міскевіч М.М., 1913 г.н., 1995. Харошча Міл.

Так кажуць, калі нехта клянецца, што зрабіў благое апошні раз.

**Былі б косці, а мяса нарасце.** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 2001. Бялавічы Кос.

"*Ні сьмейся с худога, ён патаўсьцее*" (тлум. інф.).

**Быў конік ды з'ездзіўся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1998. Альшаніца Квас.

Са шкадаваннем кажуць, калі страцяць здароўе.

**Б'юць не за тое, што ўкраў, а за тое, што папаўся.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

"*Пакараньне дастаняш, калі зловяць цябе на дрэнным учынку*" (тлум. інф.).

**Бяда адна не ходзіць, за сабою другую водзіць.** Серая В.В., 1912 г.н., 1995. Заполле Кос.

*"Калі ашанують няшчасьці, то ні ведаяш, як атрасьціся ад йіх"* (тлум. інф.). Ашанаваць – апанаваць, авалодаць.

**Бяда вымучыць і вывучыць.** Саўчук М.Р., 1922 г.н., 1997. Жытлін Жытл.

Бяда вучыць не паўтараць памылак.

**Бяда на бядзе едзе, бядою паганяе.** Шыманчык В.В., 1933 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

Так кажуць, калі не шанцуе ў жыцці.

**Бяда не па лесе, а па людзях ходзіць.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Бяды не шукай, яна сама цябе знойдзе.** Паляшчук В.Д., 1931 г.н., 2001. Юкевічы Стайк.

**Бяздоннай бочкі не напоўніш, а багатага не накорміш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Багатаму ўсяго мало. Чым боляй багацьця, тым боляй хочацца"* (тлум. інф.).

**Бярэш кароўку, бяры і вяроўку.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2003. Скураты Квас.

Калі трацішца большае, няма чаго плакаць па меншым.

**Вада дала – вада ўзяла.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2008. Заполле Кос.

*"Знайшоў што, а тады згубіў – ні бядуй: вада дала – вада ўзяла"* (тлум. інф.).

**Вада камень падмывае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Настойлівы чалавек усяго даб'ецца.

**Варона малая, а горла вялікае.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Пра крыклівага, зласлівага чалавека, які ўрэшце займеў невысокую начальніцкую пасаду.

**Вачыма еў бы, але душа не пускае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажа пра сябе хворы, якому не ўсё можна есці.

**Век смачна есці не будзеш.** Вясна А.А., 1901 г.н., 1981. Заполле Кос.

Не заўсёды будзе шанцаваць у жыцці.

**Век чужым розумам не пражывеш, свой трэба мець.** Дакучыц С.Р., 1929 г.н., 1996. Ятвезь Квас.

**Відаць па вачах, хто ходзіць па начах.** Касавец Р.В., 1913 г.н., 1995. Азярцо Падст.

*“Злодзяя выдаюць пужлівыя вочы”* (тлум. інф.).

**Відаць пана па халявах.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

*“І хваліцца, і нос дзярэ высоко, але пазнаяш чалавека па апратцы, які ён”* (тлум. інф.).

**Відаць шкурка, але не пазнаеш, якая ў яго натурка.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Вонкавае аблічча чалавека вельмі падманлівае.

**Вока – яма, дна няма.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра сквапнага чалавека.

**Волас сівее – мужык дурэе.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*“Сьмяюцца с сталага мужчыны, які заглядвая на чужых кабет”* (тлум. інф.).

**Вольнаму – воля, а беднаму – рай.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*“Кажнаму сваё на сьвеці”* (тлум. інф.).

**а) Вольнаму – воля, а святому – рай.** Зеляня М.М., 1944 г.н., 2001. Квасевічы Квас.

**Вось хамут твой і дуга, а я табе не слуга.** Шарубейка І.М., 1934 г.н., 2003. Воля Жытл.

Кажа работнік гаспадару, калі не выконваецца дамова.

**Воўка ногі кормяць.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Каб зрабіць нешта вартаснае, жыць у дастатку, то трэба пастарацца.

**Воўк не сабакі баіцца, а звягі яго.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра надакучлівасць прыдзірак, часам нясцерпных.

**Воўчая натура да лесу цягне.** Гойшык І.І., 1923 г.н., 1996. Размеркі Стайк.

Як чалавек ні хавае сваёй сутнасці, але з часам яна праявіцца.

**Вочы бачылі, што выбіралі, а цяпер плачце, хоць павылазьце.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так адказвае жонка мужу на папрокі пра яе нядбайнасць.

**Вочы баяцца, а рукі зробяць.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

*"Як убачыш, колькі зрабіць трэба, то спалохаясься, а возьмясься за працу – відзён яе канец"* (тлум. інф.).

**Вочы не бачаць, то й душа не баліць.** Бялевіч І.Дз., 1932 г.н., 2001. Сакоўцы Міл.

Жывуць дзеці не на вачах у бацькоў, то, здаецца, усё добра ў іх.

**Вош і блыха не падымуць мяха.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Кожны мусіць ведаць пра свае магчымасці і здольнасці.

**Вучышся, то намучышся.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Вучоба – нялёгкая справа.

**Вырас да неба, а дурны больш, чым трэба.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра недалёкага, несур'ёзнага чалавека.

**Высока лятаеш – нізка сядзеш.** Міхнюк А.В., 1965 г.н., 2002. Гошчава Стайк.

Пра чалавека-ганарліўца, які займае высокую пасаду.

а) **Высока ўзляцеў, каб нізка не ўпаў.** Прымак М.І., 1919 г.н., 2008. Івацэвічы.

**Вышэй за галаву (нос) не падскочыш.** Баркоўская Г.Ф., 1924 г.н., 2005. Альба Квас.

Трэба сувымяраць жаданні з сваімі здольнасцямі і магчымасцямі.

**Вялікая лыжка рот дзярэ.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Зайздросны чалавек хоча мець як мага болей, але праз гэта можна і здароўе страціць.

**Вясенні дзень год корміць.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Аснова дабрабыту земляроба закладваецца вясной.

**Гадзі ліху, абы было ціха.** Кавальчук М.Р., 1944 г.н., 1998. Аляксейкі Стайк.

"*Так гавораць жанчыны, у якіх ліхія мужыкі*" (тлум. інф.).

**Гадка з'есці, шкада кінуць.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2002. Косава.

"*Чалавек звыкаяцца з рэчамі. Здаецца, й непатрэбная ўжэ, а шкада выкінуць. А яшчэ так кажуць пра няўдалую жонку*" (тлум. інф.).

**Гадуй дзеці – не будзе за кім сядзеці.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

"*Гадаваць дзяцей – вечны клопат. Вырастуць дзеці – пойдуць унукі*" (тлум. інф.).

**Гадуй дочкі, то будзеш хадзіць без сарочкі.** Зубко М.Л., 1933 г.н., 2002. Бялавічы Кос.

"*Дочкам трэба даць багаты пасах*" (тлум. інф.).

**Гадуй, маці, дзеці – будзеш бяду меці.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Вырастаюць дзеці – усё больш турбот: то пабіўся, то напіўся, то няўдало ажаніўся*" (тлум. інф.).

**Галава вялікая, а розуму мала.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**а) Галава як цэбар, а розуму няма.** Радзюк Л.М., 1959 г.н., 2002. Грыўда Міл.

**Галава гуза знойдзе (шукае).** Зайка А.П., 1911 г.н., 1987. Заполле Кос.

Пра свавольніка, неслуха.

**Галава сівая, а розуму няма.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра чалавека, які век пражыў, а розуму не прыдбаў.

**Галоднай куме хлеб на ўме.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Што хвалюе і трывожыць, пра гэта чалавек і думае ўвесь час.

**Галоднай курыцы проса сніцца.** Грынчык Н.І., 1944 г.н., 2008. Івацэвічы.

Што каго турбуе, той пра тое і думае.

**Галоднаму і жук мяса.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

"*Галодны не выбірая смакоў*" (тлум. інф.).

**Галоднаму хлеб сніцца.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1999. Скураты Квас.

"*Пра што думаяш, тоя й сьніцца*" (тлум. інф.).

**Гара з гарою не зыдзецца, а чалавек з чалавекам зыдзецца.** Собаль П.З., 1927 г.н., 2002. Квасевічы Квас.

Пра непрадказальнасць людскіх лёсаў, сустрэч, спатканняў.

**Гарбатага магіла выправіць.** Клютко Р.А., 1960 г.н., 2003. Аўсто Стайк.

"*Які нарадзіўся, такі й памрэ*" (тлум. інф.).

**Гаспадарку весці – не барадою (ганавіцамі) трэсці.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2001. Заполле Кос.

Ганавіцы – нагавіцы. Гаспадаранне патрабуе, каб яму аддавалі ўсе сілы і здольнасці.

**а) Гаспадарку весці – не пасталы плесці.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Пасталы – мяккі скураны абутак, які насілі даўней; часам так называлі лапці.

**Гаспадар на сваім агародзе раўня ваяводзе.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

"*Кажны на сваім надворку вялікі начальнік*" (тлум. інф.).

**Глухі не дачуе, то прыдумае.** Максімчык В.У., 1933 г.н., 2005. Бялавічы Кос.

"*Чалавек, які недачувая, выпляця такоя, што дзіву даесься*" (тлум. інф.).

**а) У глухога не прападзе: не дачуе, то прыкладзе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Глядзі сябе, бо цябе ніхто не паглядзіць.** Міхнюк В.В., 1968 г.н., 2008. Івацэвічы.

**Гнілое палена пераэкыве здаровае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Хворы чалавек, ледзьве клевая, але трымаяцца за жыцьцё, а здаровы, дужы вазьме і ўпадзя, як дуп у буру"* (тлум. інф.).

**Гнілым паленам плота не падапрэш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Калі німа здароўя, то яго німа, а хворы чалавек ні да чаго ні годны"* (тлум. інф.).

**Голад не цешча, з дому не вывезеш.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Голае косткі ніхто не любіць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Беднаго ніхто ні любіць, бо каля яго ні пажывісься. Навят родныя дзеці"* (тлум. інф.).

**Гора красы не дадае.** Баркоўская Г.Ф., 1924 г.н., 2005. Альба Квас.

**Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"Гора ўсё заставіць рабіць"* (тлум. інф.).

**Горка рэдзька – усе ядуць, замужам кепска – усе ідуць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Кажная дзеўчына хоча выйсьці замуш, бо прырода патрабуя, доля яе такая"* (тлум. інф.).

**Горш няма, як з хама пан.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1990. Альшаніца Квас.

Пра таго, хто не па заслугах, не па здольнасцях выбіваецца ў начальнікі.

**Госці – што ў горле косці.** Пераходзька В.Р., 1973 г.н., 2014. Івацэвічы.

*"Як у хаці госьці, багата клопату. Гасьцям трэба шмат увагі"* (тлум. інф.).

**Госць на першы дзень золата, на другі – серабро, на трэці – медзь, дахаты едзь.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1983. Альшаніца Квас.

*"Доўгія госьці стамляюць, бо трэба йім усяк дагаджаць"* (тлум. інф.).

**Граза на лес не ідзе.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Граза – пагроза. *"Трэба часом і накрычаць, прыгразіць чалавеку, каб ён адумаўся"* (тлум. інф.).

**Грахі спаць не даюць.** Ялоўскі В.А., 1923 г.н., 1995. Зыбайлы Жытл.

*"Зрабіў прыкрасьць каму – ня мецьмеш супакаеньня"* (тлум. інф.).

**Грашыма наеты не будзеш.** Гарчакоў А.К., 1938 г.н., 2001. Бараны Ягл.

*"Калі німа чаго купіць у краме, то грошы – паперкі"* (тлум. інф.).

а) **Грошы ў рот не пакладзеш.** Антонік У.М., 1936 г.н., 2004. Була Міл.

**Грош да гроша – будзе какоша.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Какоша – курыца; тут: багацце, заможнасць. Хто беражлівы, ашчадны, той багаты.

**Грошы ёсць – дзеўкі любяць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Грошы здароўя не дабавяць.** Гардзейка А.М., 1915 г.н., 1995. Галік Міл.

**Грошы не муляюць.** Бахур І.В., 1925 г.н., 1996. Боркі Падст.

*"Запас бяды ні чыніць, лішнія грошы ні шкодзяць"* (тлум. інф.).

**Грошы як вада: сёння ёсць, а заўтра няма.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1997. Альшаніца Квас.

**Грэх ленавацца, а рабіць не грэх.** Казімірчык Т.Р., 1949 г.н., 2005. Івацэвічы.

Скажа так той, хто працуе ў прысвятак.

**Грэх у мех.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Заграшыў, яшчэ заграшыў, назьбіраў грахоў поўны мех, панёс і выкінуў грахі на сьметнік, і забыўся на йіх"* (тлум. інф.).

**Грэчка, як авечка: альбо пашанцуе, альбо не.** Бялевіч А.А., 1944 г.н., 2006. Мілейкі Міл.

*"Гэто прымаўка пчаляроў. Як павядуцца авечкі, то поўны хлеў. Кап пчолы ўзялі добры ўзяток, то трэба, каб было сонцо, і трохі хмурыласё, прыпарвало"* (тлум. інф.).

**Гу́каць – не стукаць.** Лушчык А.İ., 1953 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Сьпяваць – ні цэпом махаць"* (тлум. інф.).

**Гулі не аднаго ў лапці абулі.** Мінчук П.İ., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Гулі – гулянка, вечарынка, танцы. *"Гуляка – гультай, ні любіць працаваць. İ на боты яму ні ўзьбіцца, век будзя ў лапцях хадзіць"* (тлум. інф.).

**Гультай за работу – мазалі за рукі.** Лушчык В.İ., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

У гультая рукі далікатныя.

**Гультаю заўсёды свята.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2002. Размеркі Стайкі.

**Гультаю ніколі работы няма.** Лушчык В.İ., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Гумно плача без гаспадара, а хата без гаспадыні.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

*"Начальнікам у гумне, дзе захоўваяцца збажына, – мушчына, а ў хаці камандуя жанчына"* (тлум. інф.).

**Гуртам і бацьку лягчэй біць.** Максімчык В.У., 1933 г.н., 2002. Бялавічы Кос.

Любую работу лягчэй гуртам, грамадой рабіць.

**а) Гуртам і ў бядзе лягчэй.** Суцько М.Д., 1925 г.н., 2003. Була Міл.

**Гушча дзяцей не разганяе.** Лушчык В.İ., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Дастаток у хаці сям'ю гуртуя, а беднасьць застаўляя шукаць кусок хлеба далёко ад дому"* (тлум. інф.).

**Гэта не голад, калі аўсяная луста ў торбе.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1982. Заполле Кос.

*"Які п хлеб ні ляжаў на сталі, гэто ўжэ ні голад"* (тлум. інф.).

**Гэткія людзі каб густа сеяліся, а рэдка ўсходзілі.** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 1995. Руда Падст.

Пра благога, ліхога чалавека.

**Да абеду не мог, па абедзе аблёг.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажуць пра гультая, абібока.

**Да абеду плачуць, а па абедзе скачуць.** Зайка А.Ц., 1920 г.н., 1987. Бялавічы Кос.

Так кажуць пра заведзены на Радаўніцу парадак: зранку ідуць на могілкі, плачуць, а па абедзе памінаюць чаркай памерлых.

**Дабра без ліха не бывае.** Шыманчык У.А., 1917 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

"*Жывеш добра – чакай дрэннага*" (тлум. інф.).

**Даганяючы не нацалуешся.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1998. Скураты Квас.

Спазніўшыся, цяжка дагнаць тых, хто за працу ўзяўся раней.

**Дагледзіш каня дома, а ён цябе ў дарозе.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

"*Даўней конь быў асноваю гаспадаркі, яго шанавалі й даглядалі*" (тлум. інф.).

**Да добрага (да раскошы) хутка прывыкаеш.** Таўрэль Н.Г., 1948 г.н., 1999. Яглевічы Ягл.

**Да добрага чалавека бруд не прыстае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Да добрага чалавека ніякія плёткі не прыстаюць*" (тлум. інф.).

**Дажыліся палякі: ні хлеба, ні табакі.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

З пэўнай іроніяй так кажуць пра сябе або пра іншых, калі ў доме, у гаспадарцы вялікая нястача, недахоп самага неабходнага.

**Дай Бог адным куском падавіцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Жаданне кожнага пражыць жыццё з адным мужам, з адной жонкай.

**а) Добра адным куском падавіцца.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Дай Божа даваць, чым пытаць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Заўсёды ляхчэй даваць, чым пытаць"* (тлум. інф.).

**Дай Божа нашаму цяляці ды ваўка спаймаці.** Шчурко Л.І., 1949 г.н., 2003. Заполле Кос.

Марыць можна, але каб гэтыя мары яшчэ і збываліся...

**Дай Божа ў добры час сказаць, а ў ліхі памаўчаць.** Бахур І.В., 1925 г.н., 1996. Боркі Падст.

Так кажа абачлівы чалавек ці той, хто баіцца сурокаў.

**"Дай" ніхто не любіць, а "на" і глухі пачуе.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2003. Размеркі Стайк.

**Дай рубель – і крычы цэлы дзень.** Трында Р.Р., 1903 г.н., 1966. Заполле Кос.

Прыказка з калгаснага жыцця. *"Як плоцяць, так і робяць. Як ні падганяя, ні крычыць брыгадзір, ніхто яго ні слухая, лянуюцца рабіць"* (тлум. інф.).

**Дай яйка, ды яшчэ і аблупленае.** Жук А.І., 1934 г.н., 2004. Уласаўцы Жытл.

Так кажуць пра абібока, гультая, які любіць пакарыстацца з чужой працы.

**Далей паложыш – бліжэй возьмеш.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2002. Размеркі Стайк.

Тое, што добра схавана, не прападзе, зберажэцца надалей.

**Далі сабачку лейцы кіраваць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Нягоднага, амаральнага чалавека паставілі начальнікам над людзьмі.

**Дамашняга злодзея не ўпільнуеш.** Максімчык В.У., 1936 г.н., 2002. Бялавічы Кос.

*"Бо ён ведая ўсе хады й выхады, бачыць, дзе хто ходзіць"* (тлум. інф.).

**Да нашага берага нічога добрага не прыплыве.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажуць, калі ў дом прыходзіць новы чалавек: няўдалыя, на погляд сямейнікаў, нявестка ці зяць.

**Даносчыку першая чарка і першая палка.** Міраноўскі У.П., 1927 г.н., 1997. Хадакі Жытл.

*"Што данёс – пахваляць і пачастуюць, а няпраўдай абернецца данос – высьпятка дадуць"* (тлум. інф.).

**Да папа з пустымі рукамі не ходзяць.** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

*"Э, да начальства, як да папа, с пустымі рукамі ня йдзі"* (тлум. інф.).

**Да пары збанок воду носіць: вушка адарвецца і збанок паб'ецца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Усяму ёсць канец. Прыйдзе пара – і дрэннае адкрыецца.

**Да работанькі няма ахвотанькі.** Дакучыц С.Р., 1929 г.н., 1996. Ятвезь Квас.

Так кажуць пра гультая.

**Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Няма нічога мілейшага на свеце за родную хату, за родны кут.

**Дар – за дар, а дарма – ніц.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Дарма нічога не робіцца. Гэтак кажуць таму, хто хоча скарыстаць з чужой працы.

**Дарога на канцы языка.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2001. Бялавічы Кос.

Пытайся ў людзей, яны дарогу падкажуць.

**Дасць Бог бяду, то і грошы знайду.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Прыйдзя бяда ў хату, усё нажытая прадасі"* (тлум. інф.).

**Дасць Бог дзень – дасць і ежу.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Не трэба занадта турбавацца, гарачыцца, трэба спадзявацца на лепшае.

**Датуль круціў, пакуль голаў скруціў.** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

*"Махляру расплата будзя: голаў ён сабе скруціць"* (тлум. інф.).

**Даў Бог цяля, ды няма хлява.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

*"Так заўсёды ў гаспадарцы: е адно, то не хапая другого, вечная мітрэнга"* (тлум. інф.).

**Даўгі спаць не даюць.** Мінчук М.Дз., 1930 г.н., 1997. Галенчыцы Ягл.

*"Напазычаяш грошай ды думай, як аддаць"* (тлум. інф.).

**Дачка адна ды долі жадна, а ў каго сем – доля ўсем.** Шчурко В.М., 1970 г.н., 1984. Заполле Кос.

Кажуць, калі адзіная ў сям'і дачка не мае шчасця.

**Да чыстага ніякі бруд не прыстане.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Да сумленнага чалавека ніякія нагаворы не прыстаюць.

**Да яго з ласкаю, а ён з ляскаю.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Пра злоснага, сярдзітага чалавека.

**Да яды мастак, а да работы сяк-так.** Гардзейка А.М., 1915 г.н., 1995. Галік Міл.

Так кажуць пра гультая.

**Два буслы не робяць вясны.** Макарэвіч Т.І., 1935 г.н., 2001. Галенчыцы Ягл.

Не заўсёды трэба давяраць прыкметам.

**Дзе баліць, там рукі, дзе міла, там вочы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Дзе больш даходу, там больш расходу.** Бахур І.В., 1925 г.н., 1996. Боркі Падст.

*"Беднаму чалавеку трэба на ўсём эканоміць, а багаты дазволіць сабе раскошу"* (тлум. інф.).

**Дзе гарэлка, там бяда.** Рабчэня Т.В., 1972 г.н., 2008. Квасевічы Квас.

**Дзе гной гарбамі, там жыта капамі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Ураджай там, дзе зямля добра ўгноеная.

**Дзе гной, там лой.** Касавец В.Р., 1921 г.н., 1995. Азярцо Падст.

Лой – нутраны тлушч (авечы, ялавічны). *"Лою бывая шмат, калі ў добрым доглядзі жывёла. Так і с полям. Добра ўгноіш палеток, атрымаяш добры ўраджай"* (тлум. інф.).

**Дзе густа, а дзе пуста.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2003. Заполле Кос.

*"Нівядома, якія картоплі гэты год будуць. Зышлі, дзе густо, дзе пусто"* (тлум. інф.).

**Дзе двое – там рада, дзе трэці – там здрада.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Двоя яшчэ паразумеюцца, а трэці – гэто гурт. А ў гурці мало згоды"* (тлум. інф.).

**Дзе іголка, там і нітка.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2009. Заполле Кос.

*"Мужык і жонка – двое як адно"* (тлум. інф.).

**Дзе кароўка, там і вяроўка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Згубіўшы, страціўшы большае, не трэба бедаваць пра малое, нязначнае.

**Дзе коратка, там рвецца.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2002. Стайкі Стайк.

Адна бяда другую за сабою вядзе.

**Дзеля абеду сто вёрст еду.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2004. Скураты Квас.

*"На вясельле трэба ехаць за сьвет. А я й дома знайду што смачно паесьці"* (тлум. інф.).

**Дзе нарадзіўся, там і згадзіўся.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Не шукай шчасця на чужыне, няма нідзе лепш, як дома.

**Дзень гайды, навек бяды.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Гайда – тут: вяселле, шумнае, шматлюднае. Выслоўе – папярэджанне маладым сур'ёзна ставіцца да шлюбу, да свайго выбару. Так пасмяюцца з таго, хто нядаўна ажаніўся. *"Маўляў, вясельле – гэто весела. Вось жонка, зьвяга й жэмра, – на ўсё жыцьцё"* (тлум. інф.).

**Дзень – маці, дзень – мачыха.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Дзень на дзень не выпадае; усе дні ў Бога розныя.

**Дзе нянек многа, там дзіця бязносае.** Зайка М.Ф., 1946 г.н., 1968. Заполле Кос.

“*Калі ў рабоці ўсе начальнікі, то посьпеху ні чакай*” (тлум. інф.).

**Дзе пакладзеш, там і возьмеш.** Зеляня М.М., 1944 г.н., 2003. Квасевічы Квас.

Пра акуратнасць, пра парадак у гаспадарцы.

**Дзе п’юць, там і льюць.** Таўрэль У.А., 1938 г.н., 1995. Була Міл.

Кажуць на бяседзе, калі незнарок разліюць пітво.

**Дзе свае сабакі кусаюцца, хай чужыя не мяшаюцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Нельга лезці ў чужую сям’ю, радню, калі там нелады.

**Дзе сядзеш, там і злезеш.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2002. Косава.

“*Гэтым чалавеком ні падапрэсься, ён табе ні дапаможа: на ём дзе сядзяш, там і зьлезяш*” (тлум. інф.).

**Дзе тонка, там і рвецца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

“*Зрабіў работу абы-як, то яна табе вылязя боком*” (тлум. інф.).

**Дзеўку замуж тады аддаюць, калі бяруць.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Дзе цесна, там пацешна.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

У вялікай сям’і ўсё на пацеху, усё на радасць.

**Дзе цёмна, там прыёмна.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

Ц ё м н а – тут: бедна. “*Бедныя людзі гасьцінныя, прыветныя*” (тлум. інф.).

**Дзеці гадаваць – век векаваць.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1982. Заполле Кос.

“*Гадуючы дзяцей, ні заўважаяш, як бяжыць час*” (тлум. інф.).

**Дзеці гадаваць, як гарачы камень качаць.** Прыступчык М.В., 1925 г.н., 2003. Падстарынь Падст.

Дзяцей гадаваць, выхоўваць няпроста, клопатна.

**Дзе чорт не пасіліў, туды бабу паслаў.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

"*Баба ў тры вузлы завяжацца, а свайго даб'ецца*" (тлум. інф.).

**Дзіця малое – слёзы малыя.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Малыя дзеці на вачах у бацькоў, а паедуць у сьвет – пераживаньне бацькам*" (тлум. інф.).

**Дзіця не шчаня, за плот не выкінеш.** Куратнік І.С., 1915 г.н., 1997. Гічыцы Ягл.

"*Якоя б ні было дзіця – яно тваё*" (тлум. інф.).

**Дзіця хоць крывое, але бацькам мілое.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1996. Альшаніца Квас.

Сваё дзіця, якоя б яно ні было, бацькам любае, дарагое.

**Дзіця шкадуй, як дýшу, а трасі, як грушу.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

"*Ні папускайся, ні давай волі дзецям*" (тлум. інф.).

**а) Любі дзіця, як душу, а трасі, як грушу.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Ні патурай, ні песьці лішне, буць строгі*" (тлум. інф.).

**Дзяды не зналі бяды, а ўнукі набяруцца мукі.** Зайка А.С., 1920 г.н., 1994. Бялавічы Кос.

"*Даўней было спакайней, цішэй, ляпей*" (тлум. інф.).

**Дзяржы авечкі, не будуць голыя плечкі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Калі хочаш трымаць сябе ў цяпле, разводзь авячок: будуць і рукавіцы, і кажух, і суконная сьвітка*" ( тлум. інф.).

**Дзяцей на свет пускаць лёгка, а гадаваць цяжка.** Максімчык В.У., 1936 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

**Для глухога поп два разы абедню не правіць.** Зайка А.С., 1920 г.н., 1994. Бялавічы Кос.

Так кажуць на просьбу паўтарыць сказанае.

**Для дзіцяці дзень – маці, а ноч – мачыха.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Добра дзіцяці днём, калі ўсе каля яго, а ноччу яно адно"* (тлум. інф.).

**Добра браць, ды кепска аддаваць.** Бялевіч А.Ц., 1909 г.н., 1996. Рацкевічы Міл.

*"Бярэш чужоя – аддаеш сваё"* (тлум. інф.).

**Добрае далёка чутно, а ліхое – яшчэ далей.** Здзітавец С.І., 1921 г.н., 1995. Бусяж Міл.

*"Даўней так вучылі маладых шанаваць сваё імя: добрая слава ляціць далёко, а благая – яшчэ далей"* (тлум. інф.).

**Добра там, дзе нас няма.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., Заполле Кос.

*"Не хвалі чужоя, а сваё беражы"* (тлум. інф.).

**а) Там добра, дзе нас няма.** Грынчык Н.І., 1944 г.н., 2008. Івацэвічы.

Кажуць таму, хто хваліць чужое, чужыя землі.

**Добра, то хочацца яшчэ лепш.** Серая В.В., 1912 г.н., 1987. Заполле Кос.

**Добра ўсё ўмець, ды не ўсё рабіць.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Добра, як ззáмаладу косці грызеш, а на старасць – мяса.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1975. Заполле Кос.

*"Лепяй ззамаладу цяжэй жыць, а старасьць каб была лёхкай, спакойнай, каб ні хварэць"* (тлум. інф.).

**Добрую траву сеюць, а ліхая сама ўсходзіць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Дабру вучаць, а ліха само родзіцца"* (тлум. інф.).

**Добры будзеш, то з'ядуць, ліхі будзеш – праклянуць.** Міскевіч М.М., 1913 г.н., 1995. Харошча Міл.

**Добры пачатак – палавіна работы.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Калі добра падрыхтуешся да справы, поспех гарантаваны.

**Добрыя і Богу трэба.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Так кажуць, калі без пары памірае добры чалавек.

**Дождж ідзе – грыбы будуць, дзеўкі растуць – зяці будуць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Водпаведзь таму, хто бядуе, што нараджаюцца адны дзяўчаты.

**Дождж ідзе не там, дзе просяць, а дзе жнуць і косяць.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

а) **Не тады дождж ідзе, калі просяць, а калі жнуць ды косяць.** Пропер А.А., 1950 г.н., 2005. Верашкі Квас.

б) **Дождждык, дзе ты быў, як мы цябе прасілі? – Я там быў, дзе сена касілі. – Дождждык, дзе ты быў, як мы цябе ждалі? – Я там быў, дзе жыта жалі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Дома і вуглы дапамагаюць.** Голуб В.І., 1930 г.н., 2007. Скураты Квас.

*"Пайшла ў бальніцу, то яшчэ больш захварэла. А дома й вуглы памагаюць вылячыцца"* (тлум. інф.).

**Доўга лечаным канём не наедзеш.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Хворы чалавек – не работнік.

**Доўг не вяроўка – не парвецца.** Зайка Н.Ф., 1951 г.н., 1972. Заполле Кос.

*"Вяроўка парвецца ды выкіняш, а доўх астаецца"* (тлум. інф.).

**Доўг плечы не муляе, але спаць не дае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2003. Альшаніца Квас.

*"Улезяш у даўгі, то й сон не бярэ. Доўх плечы ні муляя, але й спаць ні дае"* (тлум. інф.).

а) **Доўг не раве, але спаць не дае.** Зайка Н.Ф., 1951 г.н., 1972. Заполле Кос.

*"Усё думаяш, як аддаць, каб ні быць вінным чалавеку"* (тлум. інф.).

**Дочкі пакінуць без сарочкі.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., Скураты Квас.

*"Так сьмяюцца з бацькоў, у якіх много дачок. За йімі, як замуж ідуць, трэба добрае прыданае даць"* (тлум. інф.).

**Думкі за гарамі, а смерць за плячамі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

І думкі няма пра смерць, а лёс можа інакш распарадзіцца.

**Дурнем нарадзіўся, дурнем і памрэ.** Максімчык В.У., 1936 г.н., 2004. Бялавічы Кос.

*"А йшчэ кажуць: які зранку, такі да вечара"* (тлум. інф.).

**Дурнога салаўя дурная песня.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

У неразумнага чалавека неразумная гаворка.

**Дурны той, хто валы пагубіць.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Так адказвае той, каго вінавацяць у неразумнасці паводзін, учынкаў, да каго залішне прыдзіраюцца, прыстаюць. *"Згубіць валы можа толькі зусім нядбайны чалавек, бо валы марудныя, непаваротлівыя"* (тлум. інф.).

**Дурню пальца пакажы – рагатаць будзе.** Лісок Ё.І., 1936 г.н., 1990. Альшаніца Квас.

**Дурню (п'янаму) сам чорт з дарогі сходзіць.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

*"А яшчэ ў нас кажуць: з дурнём, с п'яным павядзесься, то бяды ні абярэсься"* (тлум. інф.).

**Дурню сем вёрст не дарога.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Неразумны чалавек не ўмее кантраляваць сваe ўчынкі.

**Дурню хоць кол на галаве чашы, то ён усё сваё.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра ўпартага чалавека.

**Душы сваёй на далонь не вымеш і не пакажаш.** Зыбайла С.А., 1909 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Пра складанасць паразумення паміж людзьмі.

**Едзеш на дзень – бяры хлеба на тыдзень.** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1988. Хрышчонавічы Квас.

**Есці дай і выпіць дай, а работы не пытай.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

*"Папрасіла чалавека дрова парубаць (сядзіць цэлыя дні дома без работы), то есьці дай і выпіць дай, а работы ні пытай: і палавіны ні парубаў"* (тлум. інф.).

**Есць за вала, робіць за камара.** Бабей Р.Д., 1911 г.н., 1995. Ёдчыкі Квас.

Пра гультая.

**Еж хлеб з вадою, абы не з бядою.** Крыштопік Т.І., 1968 г.н., 1984. Заполле Кос.

Не журыся, што жывеш у беднасці, радуйся, што бяда мінае.

**Ён не забагацее, а я не збяднею.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Так скажа чалавек, калі здагадаецца, што яго ашукалі.

**Ён свістаў, пакуль дастаў, а ты свішчаш, пакуль зышчаш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Сьвістаў – ашукваў, каб вымануць грошы ў каго-небуць, а ты зараз будзяш сьвістаць – думаць, як гэтыя грошы вярнуць"* (тлум. інф.).

**Ёсць грошы, то і сам харошы.** Гардзейка А.М., 1915 г.н., 1995. Галік Міл.

*"Грошы е – і дзеўкі любяць"* (тлум. інф.).

**Ёсць – разыдзецца, а няма – абыдзецца.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2006. Заполле Кос.

Трэба спакойна ставіцца да таго, што нечага не стае, напрыклад грошай.

**а) Калі маеш – разыдзецца, а не маеш – абыдзецца.** Зубко Л.М., 1968 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

**Ёсць у мяшку, будзе і ў гаршку.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Калі добры ўмалот і скрыні збожжам напоўняны, то будзя чым карміць сям'ю"* (тлум. інф.).

**Ёсць хлеб – будзе і да хлеба.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"Калі скрыні поўныя, то й сьвінчо выкарміш"* (тлум. інф.).

**Жаба з вады – не пі вады, жаба ў воду – пі воду.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 1994. Бялавічы Кос.

Дзе жывуць жабы, там чыстая вада.

**Жменя да жмені – будзе поўна вярэня.** Пястрак С.Д., 1907 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Вярэня – варыўня. Пра дбайнага, запаслівага гаспадара.

**Жонка тры вуглы ў хаце трымае, а муж – аднаго.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Парадак у хаце трымаецца на жанчыне.

**Жонку б'е не мужык, а ейны язык.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

Пра языкастую кабету.

**Жонку мужык любіць здаровую, а сястру – багатую.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

а) **Мужык любіць жонку здаровую, а брат сястру – багатую.** Жук Дз.А., 1919 г.н., 1995. Жамайдзякі Міл.

б) **Мужык любіць жонку здаровую, а цешчу – багатую.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Жонку – у яму, на другую гляну.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Яма – магіла.

**Жонцы праўды не кажы.** Зайка А.Ф., 1937 г.н., 2008. Косава.

Жанчына не ўмее трымаць сакрэты.

**Жыве кот і жыве сабака.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Пра рознасць жыццёвых умоў.

а) **Жыве кот і сабака: кот на печы, а сабака на двары.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Жыві для людзей, пажывуць і для цябе.** Гоган А.Д., 1922 г.н., 2002. Заполле Кос.

Не будзь эгаістам, думай, як дапамагчы чалавеку, дапамогуць тады і табе.

**Жыві не так, як хочацца, а як можацца.** Лісок Ё.І., 1936 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Трэба жыць па магчымасцях.

**Жывіце як браткі, а рахуйцеся як жыдкі.** Зайка С.М., 1947 г.н., 1979. Косава.

Пра чалавека, які стараецца разлічыцца за ўсякую паслугу, жадаючы быць незалежным.

**Жывы пра жывое думае.** Дылюк Г.В., 1959 г.н., 2012. Івацэвічы.

Паўната жыцця ў працы, у клопатах.

**Жывы ў зямлю не палезеш.** Мацвіеня В.К., 1917 г.н., 1995. Лазаўцы Міл.

*"У кажнага свой лёс, у кажнага свая доля. Трэба жыць, як бог даў"* (тлум. інф.).

**Жыта родам, а жыццё пераходам.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Жыта паўтараецца ў цыклах, фазах, чалавечае жыццё праходзіць, пралятае.

**Жыццё пражыла, як на свінні праехала.** Ткачук Я.В., 1915 г.н., 1996. Міхнавічы.

Так кажуць, калі наракаюць на няўдалае, нешчаслівае жыццё.

**Забярэ смерць – з матылямі не паляціш.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра непазбежны канец чалавечага жыцця.

**За вялікім пагонішся – малое згубіш.** Голуб В.І., 1930 г.н., 2001. Скураты Квас.

За вялікім пагонішся, можаш страціць тое, што ўжо маеш. Будзь стрыманы ў жаданнях.

**За гарою валы задарма.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Добра там, дзе нас німа"* (тлум. інф.).

**Загляне сонца і ў наша аконца.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1981. Заполле Кос.

Ніколі ў жыцці не трэба траціць надзею на перамены, на лепшае. Прыйдзе добрая часіна і да нас.

**Заграбі ў куток смецце – і маўчы.** Жылка М.С., 1941 г.н., 2001. Заполле Кос.

Здараюцца нелады ў сям'і – не расказвай пра іх нікому: не будзе плётак.

**За грошы здароўя не купіш.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2001. Бялавічы Кос.

**За грошы і сам харошы.** Зайка А.С., 1920 г.н., 1986. Бялавічы Кос.

*"З грашыма кажны разумны ды прыгожы"* (тлум. інф.).

**За грошы няма вошай.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Дзе е грошы, там дастаток, бо вошы – ад бядноты"* (тлум. інф.).

**За дабро дабром плаціць трэба.** Мінчук М.Дз., 1930 г.н., 1997. Галенчыцы Ягл.

**За двума зайцамі пагонішся, то ніводнага не зловіш.** Бабей Р.Д., 1911 г.н., 1995. Ёдчыкі Квас.

*"Не бярыся адразу за некалькі работ, адну да канца давядзі"* (тлум. інф.).

**За другога чалавека не бярыся.** Голуб В.І., 1930 г.н., 2004. Скураты Квас.

*"У чужую душу ні ўлезяш, ні ведаяш, што ў яго ў галаве"* (тлум. інф.).

**За дурною галавою ды няма нагам спакою.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

Неабдуманыя ўчынкі дадаюць турботаў. *"О, пайшоў касіць, а мянташкі ні ўзяў. Прышлося вяртацца – за дурною галавою ды німа нагам спакою"* (тлум. інф.).

**Зазронае вока бачыць далёка.** Грудавая С.Г., 1968 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

З а з р о н ы – зайздросны. *"Зазроны чалавек усё да сябе прыгроб бы"* (тлум. інф.).

**а) Зазронаму воку ўсяго мала.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Зазроны чалавек, кап прымеў, то ўсё сабе пабраў бы"* (тлум. інф.).

**За кампанію цыган павесіўся.** Шчурко І.П., 1923 г.н., 1997. Заполле Кос.

*"Вялікая сіла грамада: куды ўсе, туды й ты"* (тлум. інф.).

**За маё жыта ды я ж і біта.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2007. Стайкі Стайк.

**а) За маё дабро ды мяне і набілі.** Ляховіч П.У., 1934 г.н., 1995. Гладышы Міл.

Крыўдна, калі за дабро плоцяць ліхам.

**Замок – ад добрага чалавека.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

Ліхому чалавеку, злодзею замок не перашкода.

**Запас бяды не чыніць.** Кулецкі М.А., 1952 г.н., 2001. Дубітава Міл.

Назапашанае нікому не пашкодзіць.

**а) Запас есці не просіць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**б) Запас месца не пралежыць.** Здзітавец М.М., 1885 г.н., 1966. Заполле Кос.

**За перабірачку дастанеш у срачку.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

Кажуць на дзяцей, пераборлівых у ежы.

**Зараза заразу знойдзе адразу.** Гоган А.Д., 1922 г.н., 2003. Заполле Кос.

"*Паганяц, шкодлівы чалавек шукая такога, як сам*" (тлум. інф.).

**За свае грошы кожны харошы.** Майсейчык А.А., 1924 г.н., 1979. Гошчава Стайк.

Калі маеш грошы, то сяброў багата.

**За сон не бярыся.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

У сне чалавек часам скажа такое, чаго ніколі не сказаў бы, каб не спаў.

**За старым і новае зберажэцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Пра беражлівасць, ашчаднасць.

**Захоча Бог пакараць, то розум адыме.** Трында В.І, 1963 г.н., 1975. Заполле Кос.

Пра неразважнасць паводзін.

**Захочаш сабаку выцяць, то кія знойдзеш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Паставіш перад сабою мэту, знойдзеш сродкі яе дасягнення.

**Зачыні чорту дзверы, то ён у вакно.** Уласавец Н.Я., 1936 г.н., 2007. Уласаўцы Жытл.

"*Бессаромны чалавек усюды пралезя, яму законы ні пісаныя*" (тлум. інф.).

**За што купіў, за тое прадаю.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2003. Скураты Квас.

*"Што пачуў, тоя й кажу"* (тлум. інф.).

**З багны выжанеш чорта, то ён у лес уцячэ.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Як пайдуць нелады ў хаці, то ад йіх цяшко атрэсьціся"* (тлум. інф.).

**З бацькам і маці – Бог у хаце, хто іх зневажае, той шчасце губляе.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2001. Заполле Кос.

*"Німа большаго шчасьця на сьвеці, калі жывыя бацькі. Хто йіх крыўдзіць, німа таму дараваньня"* (тлум. інф.).

**Збірай ззáмаладу, то на старасць як знойдзеш.** Сяўчук Л.А., 1905 г.н., 1983. Бялавічы Кос.

*"Старайся маладым дом пабудаваць, сат пасадзіць, сям'ю завесьці, сяброў прыдбаць, да поту працаваць, то старасьць будзя спакойная"* (тлум. інф.).

**З Богам не патаргуешся.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

**З братам сварыся, а з суседам мірыся.** Валах В.М., 1969 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

*"Па-сусецку трэба жыць у згодзі й міры, памагаць адзін аднаму"* (тлум. інф.).

**З вечара дзеўка, а ранкам дзіцяя.** Зайка А.І., 1953 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Так кажуць пра дзяўчыну-падлетка.

**З вялікага грому ды малы дождж.** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 2001. Руда Падст.

*"Некалі камуністы казалі, шчо пабудуюць рай на зямле – камунізм. Шуму, гвалту нарабілі. Але зь вялікаго грому ды малы дошч"* (тлум. інф.).

**З гурту выбераш курту.** Валах М.А., 1937 г.н., 1994. Бялавічы Кос.

Хто перабірае, той добрай жонкі не мае.

**Здаровы з хворага не спагадае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Здаровы с хворага ні спагадая, лічыць, шчо той прытвараяцца"* (тлум. інф.).

**а) Здаровы хворага не разумее.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

**Здароўя за грошы не купіш.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1982. Заполле Кос.

**З добрага ку́ста смачная капуста.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"З добраго, паважанаго роду – добрая дзеўка, добры кавалер"* (тлум. інф.).

**З дужым не біся, з багатым не судзіся.** Бахур Г.В., 1923 г.н., 2003. Яглевічы Ягл.

*"Бо заўсёды йіх верх будзя"* (тлум. інф.).

**Зерне да зярняці збіраецца мерка.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра беражлівасць, ашчаднасць.

**З зямлі прыйшло, у зямлю пайшло.** Рабчэня Т.І., 1942 г.н., 1997. Заполле Кос.

*"Усё зямля нараджая, усё зямля забірая"* (тлум. інф.).

**З зяцем сварыся – і за клямку дзяржыся, з сынам сварыся – і на печ церабіся.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2009. Заполле Кос.

*"Зяць – чужы чалавек, і выгнаць можа, а сын пазлуецца ды забудзяцца"* (тлум. інф.).

**З ім і сем сабак не збрэшуцца.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Пра балбатуна, перасмешніка.

**З кім жыць – таго не гнявіць.** Бурвін К.А., 1937 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Трэба дагаджаць блізкім людзям.

**З кута ў кут – і вечар тут.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 2001. Заполле Кос.

*"Зімні дзень караткі. Ні згледзіш – ужэ вечар"* (тлум. інф.).

**Зладзейскія вочы ўсё бачаць.** Мінчук М.Дз., 1930 г.н., 1997. Галенчыцы Ягл.

*“Злодзей адно й цікуя, кап што ўкрасьці”* (тлум. інф.).

**Злодзей пакіне вуглы, а агонь нічога.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Злосці поўныя косці.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2002. Размеркі Стайк.

Так кажуць пра злоснага чалавека.

**З напасці можна прапасці.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*“Узьвядуць паклёп на нявіннага чалавека, гатовы ў магілу загнаць”* (тлум. інф.).

**Знойдзеш – радуйся, згубіш – не плач.** Міскевіч М.М., 1913 г.н., 1995. Харошча Міл.

*“Усё ў жыцьці бывая: і знойдзяш, і згубіш”* (тлум. інф.).

**З песні слова не выкінеш.** Шыманчык У.У., 1967 г.н., 1982. Бялавічы Кос.

Сумленне вымагае сказаць усю праўду, нават непрыемную.

**З песні хоць трэсні, а есці дай.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*“Гулі, песьні ні накормяць, трэба памятаць пра работу”* (тлум. інф.).

**З пустога калодзежа не нап’ешся.** Бялевіч Г.І., 1950 г.н., 2009. Даргужы Міл.

У дурня нічому не навучышся.

**З разумным пагаворыш, то розуму набярэшся, а з дурным, то апошні страціш.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**З сваім біся, сварыся і за адзін стол садзіся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

У вялікай сям’і, радні часам узнікаюць спрэчкі, непаразуменні. Але іх трэба вырашаць мірна, спакойна.

**З свайго мазаля багаты не будзеш.** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 1996. Бялавічы Кос.

*"Мало хто на сьвеці ражжыўся ні крадучы. Як тольki багаты, то знай: палавіна ўкрадзяно"* (тлум. інф.).

**З старым жыць – ваўком выць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Дайней з-за багацьця, з-за зямлі ішлі за старых замуш. Цяпер гэтаго німа, а прыкаска засталася"* (тлум. інф.).

**З таго свету яшчэ ніхто не вярнуўся.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., Заполле Кос.

**З яго людзей не будзе.** Мяхведзь К.П., 1925 г.н., 1995. Руда Падст.

*"Пра чалавека, ад якого нічого добраго ні дачакаясься"* (тлум. інф.).

**Зямля святая ўсіх нас зраўняе.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

У смерці ўсе роўныя.

**Зямля ўсіх прымае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Зямля ўсіх прымая: і добрых, і кепскіх"* (тлум. інф.).

**Зяць любіць узяць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Зяць любіць, каб цесць з цешчай дапамагалі, адорвалі падарункамі.

**Зяць на дачцэ як золата ў руцэ, а сын на нявестцы як гаўно на трэсцы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Дачка мілейша за нявестку, нявестка – чужоя дзіця, чужая костка"* (тлум. інф.).

**І жалеза іржа есць.** Аўрусевіч С.С., 1921 г.н., 2001. Няхачава Стайк.

Няма нічога вечнага на свеце.

**І козы наетыя, і сена цэлае.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Так кажуць, калі ўсім дагодзяць.

**Ілбом сцяны не праб'еш.** Ялоўская А.І., 1926 г.н., 1995. Зыбайлы Жытл.

Часам трэба скарыцца паганай сіле, каб захаваць сваё здароўе.

**І мая душа не з клочча.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Клочча – пачаскі, пачассе. *"І я чалавек, і я гонар маю"* (тлум. інф.).

**І не дай, і не лай.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

*"Калі й дасьць, то абгаворыць, зьняславіць – то й ні дай, і ні лай"* (тлум. інф.).

**І пакажуць, і памажуць, а паесці не дадуць.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1995. Заполле Кос.

*"Падвядуцца чым смачным, а паспрабаваць ні дадуць"* (тлум. інф.).

**І пальцы на руцэ няроўныя.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1982. Заполле Кос.

*"Лес ніроўны, і людзі ніроўныя, неаднолькавыя"* (тлум. інф.).

**І сам не гам, і другому не дам.** Шэлест Г.І., 1964 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Пра скупога, сквапнага чалавека.

**І сцены вушы маюць.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Папярэджанне быць асцярожным, бо незычліўцы могуць падслухаць размову.

**І так бывае: хто працуе, той не мае.** Шастала Ю.І., 1938 г.н., 2004. Косава.

**І ў Парыжы з аўса не зробіш рыжы.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Рыжа (дыял.) – рыс. Усё на свеце мае сваю вартасць, горшае не пераробіш на лепшае.

**І чорт таго хоча, што жанчына хоча.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 1993. Заполле Кос.

Кажуць пра грэшныя намеры жанчыны.

**І я – не я, і хата не мая.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2003. Косава.

Кажуць пра таго, хто адмаўляецца ад раней сказанага.

**Каб ведаў, дзе ўпадзеш, то саломы падаслаў бы.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

Чалавек не ўладны над лёсам, не ўсё можа прадбачыць.

**Каб з ім дагаварыцца, трэба пуд гароху з'есці.** Бабей Р.Д., 1911 г.н., 1995. Ёдчыкі Квас.

Пра незгаворлівага, упартага чалавека.

**а) Каб з ім згаварыцца, трэба бочку бобу з'есці.** Верабей В.І., 1930 г.н., 1995. Аўсто Стайк.

**Каб людзі не паміралі, то зямля правалілася б.** Касавец В.Р., 1921 г.н., 1995. Азярцо Падст.

"*Так даўней казалі старыя людзі, але й зара так кажуць*" (тлум. інф.).

**Каб майму дзіцяці той розум, што ў мужыка ззаду.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

"*Так казаў жыд. Гэто значыць, мужык скажа, а пасьля агледзіцца, шчо ні трэба было так гаварыць*" (тлум. інф.).

**Каб не кішка, то ў золаце хадзіў бы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1998. Альшаніца Квас.

"*Каб людзі ні трацілі грошы на ежу, то багатыя былі п*" (тлум. інф.).

**Каб не клін і не мох, то цясляр бы здох.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1998. Альшаніца Квас.

Так пасмейваюцца з цесляра, які з дапамогай кліна і моху хавае свае хібы ў працы.

**Каб не піў ды не еў, то за гарою стаў бы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

"*То тады разбагацеў бы, схаваўся б ад беднасьці, як за гарою*" (тлум. інф.).

**Каб свінні рогі, то ўвесь свет перавярнула б.** Бакавец Г.І., 1961 г.н., 1999. Івацэвічы.

"*Калі дурному чалавеку даць волю, то ён наробіць бяды*" (тлум. інф.).

**Каго Бог звёў, то людзі не разлучаць.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

*«Памятаю, мама ўсё так казала: «Калі бох каго зьвёў, то людзі не разлучаць, як ні стараціммуцца"»* (тлум. інф.).

**Каго Бог любіць, таго і карае.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

*"Каго любіць бох, таму пасылая выпрабаваньні, ці цьвёрдай ён веры"* (тлум. інф.).

**Кажух – не вата, капуста – не гарбата.** Зайка А.С., 1920 г.н., 1995. Бялавічы Кос.

Пра шкалу вартасцяў у гаспадарцы, у штодзённым жыцці.

**Каласы поўныя вісяць, пустыя стаяць.** Гоган Г.С., 1929 г.н., 2001. Заполле Кос.

*"Як пусты чалавек, то хоча, каб яго бачылі, ведалі; люцкі чалавек сьціплы"* (тлум. інф.). Людскі – добры, спагадлівы.

**Калека калеку не любіць.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

*"Нямоглы нямогламу ні паможа, як і бедны беднаму"* (тлум. інф.).

**Калёсы любяць змазку, а жонка любіць ласку.** Міхнюк А.В., 1965 г.н., 2006. Гошчава Стайк.

**Калі бацькі дзяцей кормяць – дзеці скачуць, калі дзеці бацькоў кормяць – бацькі плачуць.** Гоган А.Д., 1922 г.н., 2002. Заполле Кос.

Няпроста складваюцца дачыненні паміж бацькамі і дзецьмі.

**Калі Бог схоча пакараць, то розум адыме.** Зайка С.М., 1947 г.н., 2009. Косава.

*"Бох пакарае ганарліўца, адымя ў яго розум, пакажа яго дурноту праз ганебны ўчынак"* (тлум. інф.).

**Калі Богу ўгодны, то не будзеш галодны.** Папко Т.Ф., 1906 г.н., 1995. Мілейкі Міл.

Гэтак кажуць, дакараючы таго, хто залішне дбае пра дастатак.

**Калі ем, то глух і нем.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1991. Альшаніца Квас.

*"Так папярэджваюць тых, хто шумна паводзіць сябе за сталом"* (тлум. інф.).

**Калі і святыя даруюць, то Бог не даруе.** Стась В.У., 1955 г.н., 2001. Заполле Кос.

*"Цяшкі грэх ніколі ні даруяцца"* (тлум. інф.).

**Калі мінула дваццаць пяць, дома сядзь.** Макарэвіч Т.І., 1935 г.н., 2001. Галенчыцы Ягл.

Пра дзяўчыну, якая доўга не выходзіць замуж.

**Калі свае б'юцца, чужы не лезь.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**а) Дзе свае сабакі кусаюцца, хай чужыя не мяшаюцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Нельга лезці ў чужую сям'ю, радню, калі там нелады.

**б) Свае сабакі кусаюцца, а чужыя хай не мяшаюцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Свае паб'юцца й паміраца, а ты ўлезяш, ворагом станяш"* (тлум. інф.).

**Калі ўзяўся за гуж, то не кажы, што нядуж.** Воўна І.Л., 1934 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Калі ўзяўся за справу, то атступу німа"* (тлум. інф.).

**Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе.** Макарчэня М.М., 1934 г.н., 1995. Заполле Кос.

Г. зн. галодны не будзеш.

**Калі хочаш пасварыцца, то пазыч грошай.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

*"Пазычаная часта вяртаюць з лаянкай"* (тлум. інф.).

**Каля вады хадзіў, а ног не замачыў.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Так кажуць пра сумленнага чалавека, якога не спакусіла магчымасць пажывіцца чужым.

**Каля вады ходзячы, намочышся, а каля дабра – пажывішся.** Шарубейка І.М., 1934 г.н., 2003. Воля Жытл.

Так кажа той, хто не супраць пакарыстацца дармовым, украдзеным.

**а) Каля дабра ходзіш, каля дабра пажывішся.** Хацімка К.П., 1891 г.н., 1974. Гошчава Стайк.

**Каля дзіцяці адна ноч маці, а другая – мачыха.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 1999. Размеркі Стайк.

*"У адну ноч дзіця сьпіць, і ты засьнеш, у другую дзіця ні сьпіць, і ты воком ні зьвядзеш"* (тлум. інф.).

**Каму баліць, той крычыць.** Сяўчук Л.А., 1905 г.н., 1983. Бялавічы Кос.

Кожны гаворыць пра свае балячкі.

**Каму горача, то адсунецца.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

*"Каму гаворка ні падабаяцца, вольны пайсьці, пакінуць кампанію"* (тлум. інф.).

**Каму добра зранку, то добра і да вечара.** Ялоўская А.І., 1926 г.н., 1997. Зыбайлы Жытл.

Вера ў перадвызначанасць чалавечых лёсаў, іх рознасць, неаднолькавасць.

**Каму няўдача, а каму ўдача.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Згубіла кашалька з грашыма, то мне няўдача, а некаму ўдача"* (тлум. інф.).

**Каму смех, каму бяда.** Ганчарэня Л.А., 1947 г.н., 1983. Заполле Кос.

*"Тое самае іначай ацэньваяцца: на багатым падзярэцца адзежа ці вобуй – сьмех, дробязь, на бедным – бяда, патрата"* (тлум. інф.).

**Кармі мукою – пойдзе рукою.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Шанцуе ў гаспадарцы тым, хто добра даглядае жывёлу.

**Квасок з трасок.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Квас – страва. Так кажуць пра страву, прыгатаваную з таго, што траплялася пад руку. Тут чуецца хвала ўмельству і вынаходлівасці гаспадыні.

**Кідай, Божа, сваё, бо наша само падае.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2003. Скураты Квас.

Г. зн. у нас не ладзіцца, нам не шанцуе, не шчасціць.

**Кіем таго, хто не пільнуе свайго.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Асуджэнне нядбайнасці, марнатраўства ў вядзенні гаспадаркі.

**Кінеш каменем, то ўсё ў свайго.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Так кажуць, калі вялікі род. Тут пахвальба і гонар за свой род, за родавае гняздо.

**Кінеш перад сабою – знойдзеш за сабою.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1994. Альшаніца Квас.

Зробіш чалавеку дабро, ён табе тым жа аддзячыць.

**а) Кінеш спераду – знойдзеш ззаду.** Піскун А.Б., 1967 г.н., 2008. Жамайдзякі Міл.

**Кінуўся ў бойку – чуба не шкадуй.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2001. Заполле Кос.

Узяўся за справу, то сілы не беражы.

**"Кінь стрэльбу й вуду, – сказаў хлеб, – з табою буду".** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Азартныя паляванне і рыбныя ловы забіраюць увесь час.

**Кладзі гной густа, то не будзе поле пуста.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Добра ўгноіш зямлю, то зьбярэш добры ўраджай"* (тлум. інф.).

**Кожнаму дразду жаль па свайму гнязду.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Кожнаму чалавеку мілыя тыя мясціны, дзе нарадзіўся і вырас.

**Кожнаму свая балячка баліць.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1998. Заполле Кос.

У кожнага свая бяда, кожнаму сваё найперш баліць.

**Кожная галава свой розум мае.** Рабчэня Т.В., 1972 г.н., 2009. Квасевічы Квас.

Пра неаднолькавасць, рознасць людзей.

**Кожная птушка па-свойму гняздо ўе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Кажны чалавек ладзіць сваё жыцьцё так, як лічыць патрэбным"* (тлум. інф.).

**Кожны гад цяплу рад.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 1996. Заполле Кос.

Кожная жывая істота радуецца цяплу.

**Кожны кулік сваё балота хваліць.** Дайлід В.В., 1984 г.н., 2010. Івацэвічы.

Кожны хваліць сваё, да чаго прывык, з чым зрадніўся.

**Кожны на свой капыл цягне.** Ёвік У.П., 1924 г.н., 1996. Кушняры Падст.

"*Кажны стараяцца схіліць, каб рабілі так, як ён хоча, як ён думая*" (тлум. інф.).

**Кожны па сабе мерае.** Шчытляк С.В., 1975 г.н., 2011. Заполле Кос.

Кожны мерае ўчынкі іншых людзей па сабе, на сваё разуменне.

**Кожны цыган сваю кабылу хваліць.** Турчына Н.К., 1922 г.н., 1995. Грыўда Міл.

Кожны хваліць тое, што дарагое яму, блізкае, роднае.

**Колькі не таіся, вош на лоб выпаўзе.** Хацімка К.П., 1891 г.н., 1974. Гошчава Стайк.

Таемнае ўсё роўна стане яўным.

**Конская (каровячая) маці не звялася.** Шчурко Ф.А., 1926 г.н., 2003. Заполле Кос.

Так супакойваюць чалавека, які панёс страту ў гаспадарцы.

**Конь на чатырох нагах, ды і то спатыкаецца.** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 1995. Руда Падст.

Так кажуць, калі просяць дараваць благі ўчынак.

**Конь не бяжыць – хвост падвяжы, жонка не любіць – грошы пакажы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Корміш мукою, то йдзе рукою.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Пастараясься, патурбуясься, то і ў гаспадарцы ўсё ўдаецца: і вадзіца, і плодзіца*" (тлум. інф.).

**Коса, крыва, абы жыва.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 1998. Бялавічы Кос.

"*Усякая бывае ў люцкім жыцьці, і добрае, і благое, трэба дзякаваць богу за тоя, што жывеш*" (тлум. інф.).

**Кось-кось – ды ў аглоблі.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1982. Заполле Кос.

Кажуць так пра таго, хто спачатку абяцае залатыя горы, а пасля падманам дамагаецца карыслівых мэтаў.

**а) Кось-кось да аброку, а пасля па боку.** Зайка К.В., 1972 г.н., 1987. Заполле Кос.

**б) Кось-кось, пакуль не запрог, а запрог, то пугаю.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2001. Скураты Квас.

**Крадзеным не разжывешся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Усякі крадзеж не на карысць.

**а) Крадзеным сыты не будзеш.** Шчурскі У.Ф., 1911 г.н., 1998. Альшаніца Квас.

**б) На крадзеным не разбагацееш.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Краса да вянца, а розум да канца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Краса мінецца, а розум – не*" (тлум. інф.).

**Крумкач крумкачу вока не выкале.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Злодзеі, махляры моцна трымаюцца хаўрусу, іх яднае грэх.

**Круці не круці, а грошы плаці.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

"*Зрабіў табе чалавек работу – заплаці яму па праўдзі*" (тлум. інф.).

**Круці не круці, а трэба памярці.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так жыццё ўладкавана.

**Крывога дзерава не выправіш.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Дзерава – дрэва. Натуру чалавека цяжка змяніць.

**Куды іголка, туды і нітка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Галоўны ў сям'і – мужчына, гаспадар. Жонцы трэба трымацца гаспадара, слухацца*" (тлум. інф.).

**Куды крумкачу ні лятаць – усюды падлу кляваць.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

*"Калі кепскі чалавек, то кепскі ён усюды"* (тлум. інф.).

**Куды машына, туды і Макрына.** Казімірчык Т.Р., 1949 г.н., 2010. Івацэвічы.

*"Жыла Макрына. Аўтобусы тады ні хадзілі, то яна прыходзіла да праўленьня калгаса і ехала, куды йшла машына: у Косава – значыць, у Косава, у Ружаны – значыць, у Ружаны. Гэдык цяпер кажуць на жанчыну, якая бадзяяцца бяс справы, добрую гультайку"* (тлум. інф.).

**Куды ні кінь – усюды клін.** Паляшчук В.Д., 1931 г.н., 2001. Юкевічы Стайк.

Пра цяжкае, бязвыхаднае становішча. І стараецца чалавек, рупіцца, але жыццёвыя абставіны супраць яго.

**Купіў бы, ды купіла няма.** Стась І.В., 1912 г.н., 1998. Заполле Кос.

Без грошай нічога не купіш.

**Купіў бы сяло, ды грошай гало.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Трэба сувымяраць свае жаданні з фінансавымі магчымасцямі.

**Купіў, не купіў, абы барыш выпіў.** Зайка А.Ф., 1937 г.н., 2013. Косава.

Так хутчэй скажа блазан, рагатун.

**Купіш не купіш, а патаргавацца трэба.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

*"А чаго тады хадзіць па кірмашы, калі ні таргавацца?"* (тлум. інф.).

**Курыца спявае на сваю галаву.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажуць пра таго, хто весяліцца без супыну, у нястрымнай весялосці перабірае меру.

**Ладзь воз зімою, а сані летам.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Ладзіць – рамантаваць. Воз – калёсы. У добрага гаспадара гаспадарчы рыштунак павінны быць заўсёды падрыхтаваны да ўжытку.

**Лай не лай, а маё аддай.** Пястрак С.Д., 1907 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Забіраць пазычанае бывае цяжка, часам даходзіць да лаянкі.

**Ласкавае цяля дзве маткі ссе.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

*"Гэдык і чалавек. Вясёлы ды ласкавы – усім мілы"* (тлум. інф.).

**Ласкаю і нежывога падымеш.** Валах М.А., 1937 г.н., 2009. Бялавічы Кос.

Усе любяць ласкавае слова.

**Ласы на чужыя каўбасы.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Кажуць пра таго, хто імкнецца пажывіцца за кошт іншых.

**Лепей даць, чым пытаць.** Шчурская А.У., 1942 г.н., 1997. Альшаніца Квас.

*"Даўней часта хадзілі па вёсцы жабракі, пагарэльцы, старцы, пыталі міласьціну. Людзі йім спачувалі, баючыся, каб йіх самых ні напаткала такая доля"* (тлум. інф.).

**Лепей за рубель паляжаць, чым за тры нарабіцца.** Ціток І.І., 1951 г.н., 1993. Заполле Кос.

Прымаўка савецкай пары, калі існавала ўраўнілаўка.

**Лепей з разумным згубіць, чым з дурным знайсці.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Бо з дурным чалавекам цяшко паразумецца, прыйсьці да згоды, то лепяй ні зьвязвацца"* (тлум. інф.).

**Лепей кепска ехаць, чым добра ісці.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Лепей позна, чым ніколі.** Зайка Т.В., 1973 г.н., 1987. Заполле Кос.

Лепей працу зрабіць пазней, чым не зрабіць зусім.

**Лепей чакаць, чым выглядаць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Так атказваюць дзяўчаты, якія выходзяць замуж за хлопца, якому трэба йсьці ў вармію"* (тлум. інф.).

**Лепш блізкі сусед, чым далёкая радня.** Мігель М.В., 1962 г.н., 1974. Заполле Кос.

*"Часам сусед бліжэйшы за самую блізкую радню"* (тлум. інф.).

**Лепш везці воз грабу, як адну бабу.** Шчурко У.І., 1961 г.н., 1976. Заполле Кос.

Баба – жанчына. *"Калі гэтая баба бурклівая, зьвяглівая"* (тлум. інф.).

**Лепш дзеверы чатыры, чым залвіца адна.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Дзевер – мужаў брат. Залвіца – мужава сястра. Прыйшла ў сям'ю маладая жанчына, дык незамужняя залвіца стараецца братавую прынізіць, падкрэсліць, што яго выбар няўдалы.

**Лепш сваё старое, чым чужое новае.** Аўласевіч С.С., 1921 г.н., 2001. Няхачава Стайк.

Лепш карыстацца хоць старым, але сваім.

**Лепш сем раз згарэці, чым раз заўдавеці.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Бо ўвесь клопат па доглядзе дзяцей кладзецца на плечы ўдаўца.

**Лепш хлеб з вадою, чым пірог з бядою.** Арцяшук А.М., 1961 г.н., 1976. Заполле Кос.

Матэрыяльныя нястачы нішто ў параўнанні з душэўным спакоем.

**Летам кожны кусток начаваць пусціць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Летам нагою, а зімою рукою.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Парупішся летам, зімою як знойдзеш.

**Лёгка пазычаць – цяжка аддаваць.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 2005. Альшаніца Квас.

*"Пазычаяш чужоя, аддаеш сваё"* (тлум. інф.).

**Лёгка прыйшло, лёгка і пайшло.** Рабчэня Т.І., 1942 г.н., 2003. Заполле Кос.

*"Дасталося нешчо бясь цяшкасьці альбо дарэмна, то ні трэба шкадаваць, калі набытае згубіцца, змарнуяцца"* (тлум. інф.).

**Лёгка сказаць, ды цяжка зрабіць.** Вайцяшук М.Т., 1916 г.н., 1995. Верашкі Квас.

**Лёс свой і на кані не аб'едзеш.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 1996. Заполле Кос.

Жыццёвая дарога доўгая; што табе прызначана, тое і будзе.

**Ліха перамелецца – мука будзе.** Здзітавец С.І., 1921 г.н., 1995. Бусяж Міл.

Усё ў жыцці прамінае, трэба спадзявацца на лепшае.

**Ліха ў вадзе не тоне і ў агні не гарыць.** Зайка Е.Я., 1903 г.н., 1984. Заполле Кос.

Калі прычэпіцца ліха, то цяжка яго пазбыцца.

**Ліхога бортніка і мёд горкі.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

*"Як ліхі чалавек, то чыста ўсім нямілы"* (тлум. інф.).

**Ліхое ляціць ды ў вочы глядзіць.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Трэба быць пільным, бо часта ліхі чалавек лёстачкі патпуская, каб убіцца ў ласку"* (тлум. інф.).

**Ліхой скулы не чапай.** Саломенік І.І., 1928 г.н., 1995. Падстарынь Падст.

Не чапай, асцерагайся ліхога чалавека.

**Ліхому чалавеку нічым не дагодзіш.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

*"Ты яму душу выкладзі, усё роўна кепскі будзяш, ні дагодзіш"* (тлум. інф.).

**Лішняга і свінні не ядуць.** Маскалюк М.А., 1961 г.н., 1976. Заполле Кос.

*"Ва ўсім павінна быць мера"* (тлум. інф.).

**Лішняя капейка ў кішэні не муляе.** Касавец В.Р., 1921 г.н., 1995. Азярцо Падст.

**Любіў воўк кабылу – пакінуў хвост ды грыву.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так асуджаюць крывадушнага чалавека, які гаворыць адно, а думае, робіць другое.

**Любіш смачна есці, любі і працаваць.** Зайка А.С., 1920 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

**Людзей не судзі, лепей на сябе паглядзі.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

Не спяшайся асуджаць за хібы іншых, будзь памяркоўны.

**Людзей слухай, але і свой розум май.** Куіс М.Д., 1925 г.н., 2008. Косава.

Перасцярога таму, хто жыве чужым розумам.

**Людзі – божыя сабакі: на Бога не пагаўкаюць, то адзін на аднаго.** Самсановіч К.В., 1972 г.н., 2011. Івацэвічы.

Людзі злосць выліваюць адзін на аднаго.

**Людзі на грашах, як воўк на мясе.** Зайка Е.Я., 1903 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Людзям языка не завяжаш.** Палонскі І.А., 1932 г.н., 2001. Панкі Люб.

Людзей не прымусіш маўчаць.

**Ля гультая – Бог ды я.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

Нікому не патрэбен гультай, толькі адзін Бог яшчэ спадзяецца, што ён пераменіцца.

**Ляжаш не клятая, устанеш не мятая.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2003. Заполле Кос.

Так кажуць пра адзінокую жанчыну.

**Ляжы ляжачку, то з'ясі гарачку, а хто рана ўстае, таму пан Бог дае.** Ціток А.У., 1905 г.н., 1985. Заполле Кос.

Заўсёды быў у пашане руплівы, клапатлівы гаспадар.

**Лянівому валу і пуга не памагае.** Бакіевіч А.К., 1918 г.н., 2002. Косава.

"*Як уродзіцца чалавек гультаём, то й грозьбы яму ні страшныя*" (тлум. інф.).

**Лянуешся рабіць, то есці не пытай.** Шчурко І.П., 1923 г.н., 1982. Заполле Кос.

**Магіла ўсіх прымае.** Шчурскі У.Ф., 1911 г.н., 1998. Альшаніца Квас.

Перад смерцю ўсе роўныя.

**Маім салам ды мне губы мажуць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Маім набыткам мяне частуюць, выдаючы ўжэ за свой"* (тлум. інф.).

**Маладога кроў грэе.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2002. Косава.

*"Малады – рухавы, хуткі, на ём аш скура гарыць, яму і ў марос цяпло. А стары мерзьня, яго кроў ні грэя"* (тлум. інф.).

**Маладым весяліцца, а старым маліцца.** Верабей М.Ф., 1924 г.н., 1998. Аўсто Стайк.

На ўсё свая пара.

**Малако ў каровы на языку.** Зайка А.Ф., 1937 г.н., 2005. Косава.

Чым лепей карову накорміш, тым больш яна дасць малака.

**Мала пражыта, ды многа пералсыта.** Баркоўская Г.Ф., 1924 г.н., 2005, Альба Квас.

Так кажа пра сябе чалавек з няпростым лёсам.

**Мала чые бычкі, абы нашы цяляткі былі.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2003. Скураты Квас.

*"Гэтак аткажуць бацькі, калі йім папракаюць, што дачка нагуляла дзіця"* (тлум. інф.).

**Маленькі сабачка да смерці шчаня.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Малы ростам чалавек заўсёды выглядае маладзейшым.

**Малы жук ды вялікі гук.** Бурдзь Н.М., 1975 г.н., 1990. Заполле Кос.

Малы начальнік, а гонару, пыхі многа.

**Малыя дзеткі – малыя бедкі, вялікія дзеткі – вялікія бедкі.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2001. Заполле Кос.

*"Малыя дзеці – пры бацьках, на вачах. А вырастуць, разьедуцца – адны трывогі, перажываньні за йіх"* (тлум. інф.).

**Малыя дзеці – рукі баляць, вялікія – сэрца баліць.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1982. Заполле Кос.

**Малыя дзеці спаць не даюць, вялікія – сам не заснеш.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

**а) Малыя дзеці спаць не даюць, вялікія дзеці жыць не даюць.** Мікалайчык Л.А., 1930 г.н., 2004. Боркі Падст.

**Маўчыш, то двух навучыш.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

*"Улезяш у сварку, пачнеш крычаць, пасварысься. Вымаўчыш, выбачыш – і ат сябе адвядзеш бяду, і другі сьціхня"* (тлум. інф.).

**а) Хто маўчыць, той двух навучыць.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Хто вымаўчыць, выбачыць, той патушыць спрэчку.

**Маці наб'е, то ніхто не бачыць, а мачыха наб'е – усе бачаць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Маці парвала пазуху, дзецям хаваючы, а дзеці парвалі пазуху, ад маці хаваючы.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2004. Размеркі Стайк.

*"Маці стараяцца ўсё лепшая дзецям аддаць, а дзеці часам забываюць пра маці, думаюць толькі пра сябе"* (тлум. інф.).

**Мачыха – не маці, не дасць паспаць дзіцяці.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Што тут казаць? Мачаха – ні родная маці, ні ўсякая пашкадуя"* (тлум. інф.).

**Мая доля пад вярбою.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Пра нешчаслівую долю. *"Мая доля як пахілая вярба"* (тлум. інф.).

**Меней гавары, а больш рабі.** Сяўчук Л.А., 1905 г.н., 1983. Бялавічы Кос.

**Меней знаеш – лепей спіш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Чым менш пасвечаны ў чужыя таямніцы, тым спакайней.

**Менш кусай, то больш з'ясі.** Фядосік М.К., 1928 г.н., 1998. Гошчава Стайк.

Так кажуць сквапнаму чалавеку.

**Міла ці няміла, а купіў, то еж.** Собаль П.З., 1927 г.н., 2003. Квасевічы Квас.

*"Купіў які тавар – ні выкіняш, будзяш насіць, ажаніўся – жыві, вочы бачылі, шчо выбіралі"* (тлум. інф.).

**Млін меле – мука будзе, язык меле – бяда будзе.** Белаблоцкі В.Я., 1905 г.н., 1985. Заполле Кос.

Непрадуманае слова часта прыводзіць да бяды.

**Могліц дзявочых няма.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажа жанчына, якая, усё жыццё несучы ў сабе надзею на сямейнае шчасце, так і не выйшла замуж. Але смерць усіх раўняе.

**Мой бацька, як хачу, так і плачу.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Сваю бяду кожны па-свойму перажывае.

**Мокраму дождж не страшны.** Дылюк Г.В., 1959 г.н., 2012. Івацэвічы.

Чалавек, які перажыў вялікую бяду, не баіцца дробязных непрыемнасцяў.

**Мужык дурны, як варона, а хітры, як чорт.** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 2001. Руда Падст.

Мужык дзе розумам не дойдзе, то хітрасцю возьме.

**Мужыку жонка, як у небе абалонка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Абалонка – тут: прасвет у хмарным небе.

**Мужыку жонка, як у вакне абалонка: згніла – паставіў другую.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2006. Скураты Квас.

*"Дайней шкла ні было, то ў вокны нацягвалі пузыры. Згніе, то мянялі на новы. Гэдык і мужык: памрэ жонка, то хутчэй шукая другое"* (тлум. інф.).

**Мужык у халупе, што скула на дупе.** Шчурко Л.І., 1949 г.н., 2009. Заполле Кос.

*"Дайней мужык мала калі затрымліваўся ў хаці: мужчынская работа найболей на дварэ. У хаці гаспадарыла жанчына. Калі ж ён заставаўся, то лес с павучаньнямі й папрокамі. Сваім буркаценьнем злаваў жонку"* (тлум. інф.).

**Мы – у свет, а доля – услед.** Кухценя П.М., 1923 г.н., 1996. Сенькавічы Падст.

Куды б ні паехаў, ад сябе не ўцячэш: твая доля з табою.

**Мякка сцеле, ды мулка спаць.** Куратнік І.С., 1915 г.н., 1997. Гічыцы Ягл.

Пра таго, хто многа абяцае, але нічога не выконвае.

**Мяці смецце на сваім надворку, на чужым гаспадары падмятуць.** Карпенка В.М., 1926 г.н., 1994. Заполле Кос.

*"Дбай пра спакой і мір у сваёй хаці, у чужой разьбяруцца бесь цябе"* (тлум. інф.).

**На адным месцы і камень мохам абрастае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Трэба пільнавацца роднага кута. Пераязджаючы з месца на месца, траціш нажытае.

**На Беларусі і пчолы як гусі.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2002. Косава.

У роднай староньцы ўсё лепшае, чым на чужыне.

**На бітай дарозе трава не расце.** Рабчэня У.І. 1940 г.н., 1998. Заполле Кос.

Поспех чакае чалавека тады, калі ён ідзе сваёй, няходжанай дарогай.

**На благое доўга вучыцца не трэба.** Букшта В.К., 1938 г.н., 2001. Сенькавічы Падст.

Дрэнны прыклад заразлівы.

**а) На благое вучыць не трэба – сам навучыцца.** Зайка С.М., 1947 г.н., 2002. Косава.

**На Бога спадзявайся, але ж і сам старайся.** Кар'евікоў В.М., 1975 г.н., 1986. Бялавічы Кос.

**На бяду мала трэба.** Голуб М.С., 1951 г.н., 2001. Квасевічы Квас.

Бяда прыходзіць раптоўна, нечакана.

**На бяседзе – усе суседзі, а па бядзе – хто дзе.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Хто твае сапраўдныя сябры, даведаешся, як напаткае няшчасце.

**Навалачка дзярэцца – на новую бярэцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Не трэба доўга бедаваць, ва ўсякіх варунках трэба захоўваць аптымізм.

**На век не нагуляешся, не выспішся на век.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1982. Заполле Кос.

**На воўка памоўка, а мядзведзь спадцішка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Вінавацяць аднаго, але сапраўдны віноўнік іншы.

**Навука хлеба не просіць, а хлеба дае.** Шчурко А.А., 1972 г.н., 1987. Заполле Кос.

Пра важную ролю ведаў, адукацыі.

**Навуку за плячыма не насіць.** Бурвін К.А., 1937 г.н., 2005. Бялавічы Кос.

**Навучы дурня Богу маліцца, то ён лоб разаб'е.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Ва ўсякай справе павінна быць пачуццё меры.

**Нагаварыў цэлае бярэмя і ўсё лесам.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра бязладную, бязглуздую гаворку.

**На гнілое дзерава ўсе козы скачуць.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Да хворага чалавека ўсе балячкі прыстаюць.

**На гультая – пан Бог ды і я, а рабоча няхай балбоча.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Рабоча – тут: працавіты чалавек. Балбоча – тут: старанна працуе. "*Гультай лёхко пражыве, а старанны, руплівы чалавек увесь век работай душыцца*" (тлум. інф.).

**На гэтае лета добра і гэта.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

"*Трэба дзякаваць богу за тоя, што дае, нават калі лето было неспрыяльнае*" (тлум. інф.).

**Надакучыць летам весніцы адчыняючы, а зімою нос уціраючы.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

*"Прышло цяпло – усе ў руху, толькі вешнічкі рыпяць, а зімой хаваюцца па хатах"* (тлум. інф.).

**Надарыў Бог Мікіту на валакіту.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Цяжка простаму чалавеку знайсці праўду.

**На другі век не станеш.** Карловіч І.П., 1914 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

*"Хочацца пажыць, ды здароўя німа: на другі век ні станяш"* (тлум. інф.).

**Над сіратою і Бог з калітою.** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1975. Заполле Кос.

Каліта – тут: жабрачая торба. *"Нават бог беднай сіраце шчасьця ні дае"* (тлум. інф.).

**Наеты з галоднага не спагадае.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Наеўся дабра – напіўся з вядра.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Калі смачнаго паясі, то ў смак і вады зь вядра нап'есься"* (тлум. інф.).

**Наехалі госці на бабіны косці.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Госьці – добра, але колькі клопату гаспадыні, каб йіх добра сустрэць, пачаставаць"* (тлум. інф.).

**На загуменне ад'ехалася, і ўжо роднага слова за грошы ў яе не купіш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Загуменне – месца, прастора за вясковымі гумнамі. Так смяюцца з чалавека, які ганьбуе сваёй мовай.

**Назад толькі ракі ходзяць.** Гоган І.Я., 1931 г.н., 2004. Заполле Кос.

Адступаць ад сказанага, абяцанага нельга.

**На зямлі не будзеш багаты, будзеш гарбаты.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2011. Заполле Кос.

Цяжкая праца селяніна.

**На каго Бог, на таго і людзі.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"І так чалавеку ні шанцуя, а тут яшчэ й людзі навярнуліся"* (тлум. інф.).

**На лечаным кані доўга не наездзіш.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2009. Грыўда Міл.

Старое, карыстанае, зношанае доўга не паслужыць; чалавек без здароўя ўжо не здольны на ўсю сілу рабіць.

**На ліху едзеш і ліхам паганяеш.** Макарэвіч Т.І., 1935 г.н., 2001. Галенчыцы Ягл.

Калі не пашанцуе ў жыцці, то цяжка вылезці з бяды, нядолі.

**На магілу свінні плакаць не прыйдуць.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2006. Стайкі Стайк.

Гэтак кажа той, каго папракаюць, што ён не ў пару ўправіўся па гаспадарцы.

**На назе бот рыпіць, а ў гаршку трасца кіпіць.** Пропер А.А., 1950 г.н., 2005. Верашкі Квас.

*"Сам сябе ўквечвая, упрыгожвая, траціць грошы на ўбраньне, а ў засеках пуста"* (тлум. інф.).

**На наш век дурняў хопіць.** Вайцяшук М.Т., 1916 г.н., 1995. Верашкі Кос.

Цынічнае выказванне чалавека, які жыве за кошт іншых.

**Наняўся, як прадаўся.** Мяхведзь К.П., 1925 г.н., 1995. Руда Падст.

Наняты чалавек бяспраўны, ён выконвае ўсё, што яму скажуць.

**На першы дзень госць – золата, на другі – серабро, на трэці медзь – дахаты едзь.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Ва ўсім трэба ведаць меру.

**На свае рукі шукаеш мукі.** Здзітавец А.У., 1974 г.н., 1989. Заполле Кос.

*"Работа заўсёды знойдзяцца, але ні трэба сябе замучваць ёю, усю ні пераробіш"* (тлум. інф.).

**На сваім надворку і сабака пэвен.** Прыступчык М.В., 1925 г.н., 2003. Падстарынь Падст.

Пэвен – пэўны, упэўнены. Сярод сваіх людзей адчуваеш сябе ўпэўнена, вольна.

**а) На сваім сметніку і певень гаспадар.** Гойшык І.І., 1923 г.н., 1996. Размеркі Стайк.

У сваіх людзях смела сябе пачуваеш.

**На сярдзітых воду возяць.** Пархута Г.І., 1927 г.н., 2008. Жамайдзякі Міл.

Так кажуць таму або пра таго, хто раздражнёны, чый гнеў нічым не апраўданы.

**На́ табе, Божа, што мне не гожа.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2003. Скураты Квас.

Пра таго, хто пад выглядам дабрадзейства дорыць непатрэбную рэч.

**На той свет з сабою не забярэш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра залішняе назапашванне багацця.

**На тым свеце ўсе роўныя будзем.** Жук А.І., 1934 г.н., 2004. Уласаўцы Жытл.

**На ўсё ёсць пара.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

У свеце існуе пэўная заканамернасць.

**а) Усё добра ў пору.** Шчурко І.М., 1974 г.н., 1989. Заполле Кос.

**На хаценне ёсць цярпенне.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2003. Скураты Квас.

Г. зн. не трэба патураць усякім капрызам.

**Начная зязюля дзённую перакукуе.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Жонка лёстачкамі, ласкавым вуркатаннем пераменіць насуперак свекрыві думкі мужа, настоіць на сваім.

**На чужое дабро вочы гараць.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., Размеркі Стайк.

Так кажуць пра зайздроснага, сквапнага чалавека.

**На чужой старонцы і сабаку на "вы" называюць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

У чужых людзях нязвыкла, няўтульна.

**На чужыне і жук мяса.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"На чужыне ніколі ні ражжывесься. Німа лепяй як дома"* (тлум. інф.).

**На чыім возе еду, таму песню спяваю.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Мусіш дагаджаць таму, ад каго залежыш.

**Наша Сора то шые, то пора.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

З пэўнай іроніяй кажуць пра таго, хто ўвесь у працы, але плёну не відаць.

**Нашто прадаваў, калі шкадаваў.** Букшта В.К., 1938 г.н., 2001. Сенькавічы Падст.

Не варта шкадаваць таго, што збыў.

**Не адно ліха, дык другое.** Валошчык Г.У., 1938 г.н., 2002. Косава.

Так кажуць пра чалавека, якому проста не шанцуе.

**Не балеў мне па табе трыбух, не баліць і дух.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Гэдык казала сьвякроў пра нявестку"* (тлум. інф.).

**Не бачыць сава, якая сама.** Зубко Л.М., 1968 г.н., 1983. Бялавічы Кос.

Перш чым каго асуджаць, паглядзі на сябе.

**а) Не гудзі, на сябе паглядзі.** Савосціна В.І., 1930 г.н., 2008. Косава.

**Не бойся звяглівага, а куслівага.** Зайка Е.Я., 1903 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Ні бойся таго, хто крэчма крычыць, бойся таго, хто спацьцішка кусая"* (тлум. інф.).

**Не будзь плохі, бо з'ядуць блохі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Плохі – спакойны, рахманы, сарамлівы. Г. зн. часам у жыцці і адпор трэба даваць.

**Не будзь ра́яны, не будзеш лаяны.** Карпенка В.М., 1926 г.н., 1984. Заполле Кос.

*"Ні давай парад нікому. Бо ні спраўдзіцца тое, што раілася, то нажывеш бяду, цябе аблаюць"* (тлум. інф.).

**Не было дабра зранку, не будзе і да вечара.** Жылка В.А., 1952 г.н., 1980. Заполле Кос.

Вера ў наканаванасць лёсу. *"Як ні склалася жыцьцё ў маладосьці, то не паправіць яго да старасьці"* (тлум. інф.).

**Не бяры нічога, не бойся нікога.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Ні будзеш красьці, будзеш спаць спакойно"* (тлум. інф.).

**Не варта шкурка вырабу.** Крыштопік К.І., 1974 г.н., 1989. Заполле Кос.

Справа, якую задумаў чалавек, неапраўдана затратная.

**Не вер каню ў дарозе, а бабе на парозе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**а) Жонцы не вер дома, а каню ў дарозе.** Зайка А.С., 1920 г.н., 1988. Бялавічы Кос.

*"Жонка можа дома ашукаць, а конь у дарозе зацяцца"* (тлум. інф.).

**Не выбірай дзеўку ў царкву ідучы, а выбірай лён тручы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Выбірай сабе нявесту за работаю"* (тлум. інф.).

**Невялікая дажджынка, а работніку перапынка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Не гані Бога ў лес, калі ў хату ўлез.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1988. Заполле Кос.

*"Добра чалавеку, а ён хоча яшчэ ляпей"* (тлум. інф.).

**Не гані каня, глядзі, каб сам за яго не пабег.** Ялоўская М.Д., 1929 г.н., 1995. Яблонка Жытл.

Тут перасцярога, папярэджанне таму, хто не клапоціцца пра жывёлу.

**Не давай каню пугі, а давай аўсу.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Не дай Бог з хама пана.** Івановіч Г.К. 1919 г.н., 2001. Халап'я Падст.

*"Чалавек, які выляс крышку ў людзі, натто высоко сябе нясе, ні потступу да яго, ні прыступу"* (тлум. інф.).

**а) Не дай Бог свінні рогі, а мужыку панства.** Пархута Г.І., 1927 г.н., 2008. Жамайдзякі Міл.

**Не дай – бяда, і дай – бяда.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Не пазычыш – пакрыўдзіш, але й пазычыш, то папаходзіш, пакуль зышчаш, верняш"* (тлум. інф.).

**Не да парасят, калі свінню смаляць.** Дакучыц С.Р., 1929 г.н., 1996. Ятвезь Квас.

*"Як бяда, німа калі думаць пра іншых, трэба ратавацца самому"* (тлум. інф.).

**Недасол на стол, перасол на галаве.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Перасолянае ніхто ні будзя есьці, толькі давядзе да сваркі"* (тлум. інф.).

**Не дзьміся, еж тое, што ў місе.** Крываль А.І., 1974 г.н., 1989. Заполле Кос.

Так кажуць пераборліваму ў ежы чалавеку.

**Не думаў, не гадаў, куды папаў.** Свігла В.А., 1958 г.н., 2007. Косава.

*"Часам чалавек трапляя ў такую сітуацыю, ажно дзіву даецца"* (тлум. інф.).

**Не жадай другому, што табе не міла.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

**а) Што сабе не жадаеш, то не зыч другім.** Гардзейка А.М., 1915 г.н., 1995. Галік Міл.

Залатое правіла маралі.

**Не жаніўся – тры ганучы, ажаніўся – тры ганучы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра няўдалую жонку. *"І пасагу за сабой ні мела, ды яшчэ німа паратку ў хаці"* (тлум. інф.).

**Не заглядай на чужую жонку, бо вочы пакосіш.** Высоцкая Н.А., 1914 г.н., 1995. Юкевічы Стайк.

**Не зайздросці чужому, сваё май.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

*"Дрэнная звычка – зайздрасьць, старайся лепяй сам здабыць, каб і ў цябе было"* (тлум. інф.).

**Не запрог, не нукай.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2000. Заполле Кос.

Ніхто не мае ўлады над чалавекам, ён вольны, і не трэба папіхаць ім.

**Не за сваю справу не бярыся.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 1996. Заполле Кос.

**Не заўсягды, як на Дзяды.** Паляшчук В.Д., 1931 г.н., 2001. Юкевічы Стайк.

На Дзяды, калі памінаюць продкаў, стол асабліва багаты.

**Не злавіў за руку, не кажы, што злодзей.** Серы В.У., 1974 г.н., 1989. Заполле Кос.

Асцерагайся вінаваціць чалавека, калі няма пераканаўчых доказаў.

**Не знаеш роду – не жаніся.** Макарчэня Н.У., 1977 г.н., 1992. Бялавічы Кос.

*"Даўней пільна глядзелі, якого роду жаніх альбо нявеста"* (тлум. інф.).

**Не з нас пачалося, не намі і скончыцца.** Ляховіч П.У., 1934 г.н., 1995. Гладышы Міл.

Жыццёвыя праявы бясконцыя, як само жыццё.

**Не з усякае хмары дождж.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Казаць, абяцаць можна, але верыць сказанаму, абяцанаму не заўсёды трэба.

**Не зыч ліха другому, каб не давялося самому.** Рамашка У.І., 1931 г.н., 1995. Галынка Міл.

Гавораць так, калі хтосьці жадае бяды іншаму чалавеку.

**а) Не капай другому яму, сам у яе ўвалішся.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

**Не ідзі туды, дзе цябе не клічуць.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

Г. зн. не будзь надакучлівым, неадчэпным.

**Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Зрабі тое, што задумаў, а тады будзеш радавацца.

**Не кажы – не магу, а кажы – не хачу.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2003. Косава.

Кажуць чалавеку, калі бачаць, што ён не хоча дапамагчы.

**Не кайся рана ўстаўшы і рана ажаніўшыся.** Пястрак С.Д., 1907 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Так запярэчаць суразмоўцу, які лічыць нейкае дзеянне, учынак дачасным.

**а) Не шкадуй рана ўстаўшы і рана ажаніўшыся.** Еўтух А.І., 1940 г.н., 1984. Заполле Кос.

**Не купі двара, а купі суседа.** Пархута Г.І., 1927 г.н., 2008. Жамайдзякі Міл.

Двор – тут: палац. *"І ў палацы станя жыць кепско, калі сусед ліхі"* (тлум. інф.).

**Не мела баба клопату – купіла парася.** Шчасная М.І., 1976 г.н., 1990. Бялавічы Кос.

Кажуць пра чалавека, які па сваёй ахвоце здабыў сабе лішні клопат.

**Не надзявай рызы, калі не поп.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Не бярыся за тое, чаго не ўмееш рабіць.

**а) Не поп, не ўбірайся ў рызы.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

*"Ні паказвай сябе разумнікам, усе ведаюць, які ты"* (тлум. інф.).

**Не наеўся, не наліжашся.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

Не паспеў своечасова зрабіць, то цяпер і спяшаючыся не зробіш.

**Не памірае стары, а паравы́.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

*"Памірая той, каму прыйшла пара. Сьмерць ні глядзіць: стары ты ці малады"* (тлум. інф.).

**Не плач: яшчэ свіная маці не звялася.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажуць таму, хто бядуе, плача аб страце ў гаспадарцы: згінула карова ці што інш.

**Не плюй у ваду – піць будзеш.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2002. Заполле Кос.

*"Ні гань, ні гняві людзей: табе зь йімі жыць"* (тлум. інф.).

**Не рабі дабра – не мецьмеш зла.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 1996. Заполле Кос.

*"Часам зробіш чалавеку дабро, але ні дагодзіш, вось ён на цябе крыво й паглядая"* (тлум. інф.).

**Не рабі ліхога – не бойся нікога.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1998. Даргужы Міл.

*"Людзям дабро трэба рабіць"* (тлум. інф.).

**Не работа страшыць гаспадара, а турбота.** Зайка А.Ф., 1937 г.н., 2005. Косава.

*"Каб зрабіць задуманае, трэба добра парупіцца"* (тлум. інф.).

**Не радзіся красным, а радзіся шчасным.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1983. Заполле Кос.

Прыгожы чалавек не заўсёды шчаслівы.

**Не радуйся, дзядку, з майго ўпадку.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2006. Заполле Кос.

*"Бо сёньня ў мяне, а заўтра ў цябе"* (тлум. інф.).

**Не радуйся (не смейся), рабе́, бо будзе і табе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Не цешся з чужое бяды, бяда можа спаткаць і цябе.

**а) Не радуйся чужой бядзе – да цябе прыйдзе.** Горбач Р.І., 1961 г.н., 2012. Івацэвічы.

**б) Не смейся чужой бядзе: цябе не міне.** Шчурко С.В., 1977 г.н., 1991. Бялавічы Кос.

**Не раскусіўшы арэха, зерне не з'ясі.** Жук Дз.А., 1919 г.н., 1995. Жамайдзякі Міл.

Не паспытаўшы, не набраўшыся вопыту, плёну добрага не чакай.

**Не смейся, квасок, ты сам з трасок.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Ні сьмейся з другого: ты нідалёко адышоў ад яго"* (тлум. інф.).

**Не судзі нікога – не будзеш сам суджаны.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2002. Заполле Кос.

**Не тады сабак кормяць, як на паляванне ідуць.** Бакавец У.М., 1950 г.н., 2008. Івацэвічы.

Да ўсяго трэба рыхтавацца загадзя. Кажуць тады, калі выяўляецца непадрыхтаванасць, непрадуманасць у справе.

**Не такі страшны чорт, як яго малююць.** Зайка С.В., 1975 г.н., 1990. Заполле Кос.

Не трэба баяцца нечага новага.

**Не так шкоды, як выгоды.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Чалавек жыве адзін, на прасторы. Усюды палеткі засеяны. Трэба пільнаваць жыўнасьць, каб не нарабіла шкоды, патравы. Але затое на свабодзі, а ні ў сяле, у таўкатні"* (тлум. інф.).

**Не тая маці, што нарадзіла, а тая, што выгадавала.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2006. Стайкі Стайк.

**Не той ліхі, хто крычыць, а той ліхі, хто маўчыць.** Касавец В.Р., 1921 г.н., 1996. Азярцо Падст.

Трэба баяцца таго, хто спадцішка, моўчкі кусае.

**Не той прыяцель, хто мёдам мажа, а той, хто праўду кажа.** Вайцяшук М.Т., 1916 г.н., 1995. Верашкі Квас.

Гэтак кажуць тады, калі даюць ацэнку сапраўднаму сябру.

**Не толькі на Бога спадзявайся, але і сам старайся.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

**Не ўдалося бабе забіць лося.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажуць, калі задуманае не ўдалося, не спраўдзілася.

**а) Хацеў забіць лося, ды не ўдалося.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"Думаў і натто зарабіць на сьвіньнях да каравах, па пяцёро трымаў, ды ні ўдалосё: грошы памяняліся"* (тлум. інф.).

**Не ўмееш баўкун класці – не лезь на яго.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Баўкун – адмысловы воз. Г. зн. не бярыся не за сваю справу. *"Як ні ўмееш баўкун класьці, то ні лесь на яго, бо абернесься"* (тлум. інф.).

**Не ўмееш муціць, то й не бярыся.** Доўжык В.Ф., 1906 г.н., 1985. Заполле Кос.

Муціць – маніць.

**Не ўсе разам плачуць, не ўсе разам скачуць.** Здзітавец М.М., 1885 г.н., 1966. Заполле Кос.

*"У адных – вясельле, а ў другіх – хаўтуры"* (тлум. інф.).

**Не ўсё трэба гаварыць, што знаеш.** Саўчук М.Р., 1922 г.н., 1997. Жытлін Жытл.

Часам сказанае не прыносіць карысці.

**Не хвалі сябе, няхай людзі пахваляць.** Жылка В.А., 1952 г.н., 2002. Заполле Кос.

Людзі дадуць аб'ектыўную ацэнку тваёй вартасці.

**Не чапай дурня, а то бяды не абярэшся.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Так папярэдзяць таго, хто звязваецца з неразумным чалавекам.

**Ніхто наперад не знае, што каго чакае.** Макрушыц А.М., 1972 г.н., 1987. Бялавічы Кос.

Пра нявызначанасць лёсу.

**Ніхто не бачыць, як сірата плача, а бачаць, як скача.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

**Ніхто не ведае, як хто абедае.** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1975. Заполле Кос.

Праўды пра сямейнае жыццё іншых людзей да канца ніхто не ведае.

**Ніхто праўды не любіць.** Макарчэня П.Ф., 1914 г.н., 1983. Заполле Кос.

**Ніхто сабе не вораг.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

Ніхто сабе ліха не жадае.

**Новае сітка на калочку, а старое на палку валяецца.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Новы чалавек карыстаецца большай увагай, чым іншыя людзі.

**Новая мятла па-новаму мяце.** Клютко Р.А., 1960 г.н., 2003. Аўсто Стайк.

Новы начальнік наводзіць свае парадкі.

**а) Новае памяло па-новаму мяце.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2003. Заполле Кос.

**б) Новы венік па-новаму мяце.** Кавальчук М.Р., 1944 г.н., 1998. Аляксейкі Стайк.

**в) Новы поп – новыя парадкі.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2005. Альшаніца Квас.

**Ногі ў вадзе – галава ў бядзе.** Зайка А.Ф., 1937 г.н., 2005. Косава.

"*Даўней натто баяліся прастудзіцца, бо цяшко было вылячыцца ад запаленьня лёхкіх*" (тлум. інф.).

**Нуда горшая за каросту.** Красная Н.Р., 1929 г.н., 1998. Альшаніца Квас.

Нуда душу выядае, ад яе цяжка пазбавіцца.

**а) Нуда горшая за хваробу.** Ялоўская А.І., 1926 г.н., Зыбайлы Жытл.

**Нябожчык на лаве, а сена грабі.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

"*Якія б ні былі пільныя справы, усё кідай, а сено грабі – даражы пагодлівым днём*" (тлум. інф.).

**Нявестка – чужая костка, свякроў – чужая кроў.** Шчурко Л.М., 1971 г.н., 1985. Заполле Кос.

"*Нявестка – ні дачка, а сьвякроў – ні маці*" (тлум. інф.).

**Нявінныя слёзы дарма не мінаюць.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

"*Бох е на сьвеці: ліха будзе пакарана*" (тлум. інф.).

**Няма галавы без воласа, а поля без коласа.** Здзітавец М.М., 1885 г.н., 1966. Заполле Кос.

Так кажуць, калі хочуць апраўдаць сваю безгаспадарчасць.

**Няма горшай кары, як жыццё не ў пары.** Собаль А.С., 1927 г.н., 2010. Заполле Кос.

*"Кажны чалавек мусіць ажаніцца, так нам нададзено"* (тлум. інф.).

**Няма дроў – будуйся, няма хлеба – жаніся, няма грошай – судзіся.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Пачнеш будавацца – трэскі будуць, будзяш жаніцца – на каравай мукі дастаняш, будзяш судзіцца – пойдзяш грошы пазычаць"* (тлум. інф.).

**а) Няма хлеба – жаніся, людзі нанясуць, няма дроў – будуйся, трэскі будуць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Няма кахання без абдымання.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Любіць маладыя, то й абдымаяцца, слых чалавек мая, то песьні сьпявая, а музыка грая"* (тлум. інф.).

**Няма лесу без воўка, а сяла без злодзея.** Станкевіч Т.А., 1970 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"У гурце, кампаніі заўсёды знойдзяцца чалавек, які выславіць усіх сваімі благімі ўчынкамі"* (тлум. інф.).

**Няма ні акыш, ні аюсь.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Кажуць пра гультая, у якога пусты хлеў.

**Няма рыбы без косці, а чалавека без злосці.** Лісок М.І., 1932 г.н., 1996. Альшаніца Квас.

Кожнага чалавека можна вывесці з цярпення.

**Няма смачнейшай вадзіцы, як з роднай крыніцы.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Так кажуць, калі хочуць выказаць замілаванне да роднага краю.

**Няма статку – няма ўпадку.** Шчурко Г.А., 1961 г.н., 2006. Заполле Кос.

**Няма такіх грабель, каб ад сябе граблі.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1991. Альшаніца Квас.

Кожны стараецца для сябе і на сваю руку.

**Няма той хаткі, каб не было звадкі.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2002. Скураты Квас.

У кожнай сям'і здараюцца нелады, непаразуменні, сваркі.

**Няма шчасця зранку, не будзе і ўвечары.** Зеляня М.М., 1944 г.н., 2001. Квасевічы Квас.

"*Калі нарадзіўся чалавек зь нешчасьлівым лёсам, то й да канца шчасьця ні будзя*" (тлум. інф.).

**Няпраўдаю свет пройдзеш, ды назад не вернешся.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2006. Стайкі Стайк.

"*Бо табе ўжэ ніхто ні паверыць, веры ні будзе табе*" (тлум. інф.).

**Няпрошанаму госцю лыжкі няма.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Няхай валяецца: свайго дачакаецца.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2003. Косава.

На ўсё свая пара.

**Няхай мужык як лапаць, абы за ім не плакаць.** Хацімка К.П., 1891 г.н., 1974. Гошчава Стайк.

"*І маруда, і нехлямяжы, і брыткаваты, а мы зь йім ладзілі, бо добры быў, шкадаваў мяне*" (тлум. інф.).

**Няхай п'е мора, хопіць і берагам.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2009. Заполле Кос.

"*Зазроны, сквапны чалавек усяго не пабярэ, застанецца й нам*" (тлум. інф.).

**Няхай таго пярун спаліць, хто сам сябе зганіць.** Верабей Н.С., 1930 г.н., 1998. Аляксейкі Стайк.

**Няхай твая свіння войтам будзе.** Шчурко І.П., 1923 г.н., 1991. Заполле Кос.

Гэтак кажа той, хто хоча спыніць доўгую спрэчку.

**Няхай той пасціць, хто на печы сядзіць.** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1974. Заполле Кос.

Калі рабіць цяжкую работу, то пра пост няма чаго думаць.

**Няхай той певень здохне, якога курыца б'е.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

"*Німа горшай бяды, калі ў сям'і жонка бярэ верх*" (тлум. інф.).

**Падман наверх выйдзе.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2001. Бялавічы Кос.

Рана ці позна праўда наверх выйдзе, мана раскрыецца.

**Пад хворага рук не падкладзеш.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2008. Альшаніца Квас.

*"Прас каторы год маці ляжыць, а нічым памахчы ні магу: каб магла, то рукі сваe патклала п, да ні паткладзеш, ні паможа"* (тлум. інф.).

**Пажывем далей – пачуем болей.** Шчурко Т.І., 1969 г.н., 1985. Заполле Кос.

Чым даўжэй чалавек жыве, тым болей ведае.

**Пазнаюць дачку і ў андарачку.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1986. Заполле Кос.

Пазнаюць добрую дзяўчыну і не прыбраную, па яе рабоце.

**Пазычаеш чужое, аддаеш сваё.** Саўчук М.Р., 1922 г.н., 1997. Жытлін Жытл.

Такі чалавек: сваё аддаваць шкада.

**Пайдзі да людзей, то пачуеш, што ў цябе дома робіцца.** Барташэвіч Н.П., 1949 г.н., 2001. Яблонка Жытл.

*"Як ні стараясься захаваць у тайні, што робіцца ў тваёй хаці, усё роўна людзі неяк даведаюцца, стануць гаварыць"* (тлум. інф.).

**Пайшла смерць па пана і сама прапала.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Багаты чалавек мая доступ да дактароў, яго добра лечаць, то ён доўго жыве"* (тлум. інф.).

**Пакараў Бог Мікіту на валакіту.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Цяшко знайсьці праўду ў чыноўнікоў, папаходзіш, усю душу выматаюць, пакуль толку даб'есься"* (тлум. інф.).

**Пакуль высокі нагнецца, то малы наробіцца.** Ціток А.У., 1905 г.н., 1975. Заполле Кос.

Так гаворацъ, заступаючыся за чалавека невысокага росту.

**Пакуль да Бога, то чэрці душу выматаюць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Дасягненне мэты патрабуе шмат сіл, намагання.

**Пакуль да пана, то падпанкі душу вымуць.** Бакіевіч А.К., 1918 г.н., 2001. Косава.

*"Да высокага начальства цяшко дабіцца, бо малыя начальнікі ні пускаюць"* (тлум. інф.).

**Пакуль жаніцца – усё загаіцца.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так суцяшаюць таго, хто выцяўся, параніўся.

**Пакуль з багатага пух, то з беднага дух.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

*"Беднаму цяшко судзіцца з багатым. Бо за багатым грошы і ўлада"* (тлум. інф.).

**Пакуль не намучышся, то не навучышся.** Крыштопік С.В., 1967 г.н., 2003. Зялёны Бор Стайк.

Навука праз муку даецца, патрабуе цярпення, настойлівасці.

**а) Трэба намучыцца, пакуль навучыцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Пакуль памярці, то трэба яшчэ памучыцца.** Шыманчык У.А., 1917 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

*"Шчасьлівы той, каму бох лёхкую сьмерць дае"* (тлум. інф.).

**Пакуль Піліп прыбраўся, то Мірон насярбаўся.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980

*"Усякія людзі е на сьвеці: адзін быстры ў рабоці, другі – маруда"* (тлум. інф.).

**Пакуль свая вош не ўкусіць, то не навучыцца.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1990. Альшаніца Квас.

*"Пакуль жыцьцё не навучыць, не заставіць задумацца, то маладыя нікого не слухаюць: ні бацькоў, ні старэйшых"* (тлум. інф.).

**а) Тады з яго будуць людзі, як свая вош укусіць.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. як набярэцца розуму, вопыту.

**Пакуль сонца ўзыдзе, то раса вочы выесць.** Грудавы Р.А. 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Пакуль жыццё наладзіцца, то здароўе страціш, не будзе калі жыць.

**Пакуль тоўсты ссохне, то худы здохне.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Трэба ж тоўстым бараніцца перат худымі, стройнымі, вось і кажуць"* (тлум. інф.).

**Палюбі мяне чорную, а белую ўсялякі палюбіць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Палюбі мяне, як я па-рабочаму апранута, а як апрануся па-сьвяточнаму, тады кажнаму даспадобы"* (тлум. інф.).

**Па маёй смерці няхай тут хоць выюць чэрці.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Так кажа чалавек з эгаістычнай натурай.

**Па малаку ног не павалаку.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Цяжкая праца патрабуе сытнай ежы.

**Памалу едзеш – далей будзеш.** Бурдзюк У.У., 1970 г.н., 1985. Бялавічы Кос.

Асцярожнасць, разважнасць нікому не пашкодзіць.

**Паміраць збірайся, а жыта сей.** Карпенка В.М., 1926 г.н., 1984. Заполле Кос.

*"Як ні цяшко, а клапаціся пра будучыню: ні ты пакарыстаесься з працы свае, то іншыя дзякуй скажуць"* (тлум. інф.).

**Пана клянуць, а пан таўсцее.** Здзітавец С.І., 1921 г.н., 1995. Бусяж Міл.

Праклёны багатаму не шкодзяць.

**Панам сеюць, жнуць і косяць, а сабе хлеба просяць.** Мацвіеня В.А., 1917 г.н., 1995. Галік Міл.

Так кажуць, калі хочуць падкрэсліць маёмасную няроўнасць.

**Па нітачцы клубок знойдзеш.** Бабей Р.Д., 1911 г.н., 1995. Ёдчыкі Квас.

Адна зачэпка дазволіць раскрыць злачынства.

**Паны сварацца, а ў мужыкоў чубы трашчаць.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"Тыя, хто кіруя намі, сварацца, а дастаецца простаму чалавеку"* (тлум. інф.).

**Папа ведаюць усе, а поп нікога.** Суцько М.Д., 1925 г.н., 2003. Була Міл.

*"Бо ён адзін на ўсю акругу"* (тлум. інф.).

**Папала сляпой курыцы зерне.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 1994. Заполле Кос.

Так часцей за ўсё чалавек смяецца з самога сябе, калі ўдасца знайсці ці прыдбаць нешта нязначнае.

**Папаўся, жучку, у панскую ручку.** Лісок М.І., 1932 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Кажуць на чалавека, які трапіў у складанае становішча, а выйсця не відаць.

**Папаў у нерат – ні ўзад, ні ўперад.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Гэтак кажуць, калі чалавек трапляе ў складанае, бязвыхаднае становішча.

**Папоўскае вока зайздроснае.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

*"Папу даюць, а яму ўсяго мало"* (тлум. інф.).

**а) Папоўскае вока не здаволіш.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2002. Косава.

**б) Папоўскія вочы завідушчыя, папоўскія рукі заграбушчыя.** Зайка Е.Я., 1903 г.н., 1984. Заполле Кос.

**Папрацуеш да поту – будзеш есці ў ахвоту.** Бабей Р.Д., 1911 г.н., 1995. Ёдчыкі Квас.

**Папу і кадзіла не дапаможа.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Кажнаму давядзецца даць атказ за зробленае"* (тлум. інф.).

**Папытаецца люты, ці добра абуты.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Па раду́ і куры чубатыя.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Дзяцей можна пазнаць па бацьках.

**Пасля кашы няма пашы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Пасьля сытнай яды рабіць ні хочацца"* (тлум. інф.).

**Пасці тады, як няма яды.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пасціць – захоўваць пост.

**– Па чыё, воўча, ідзеш? – Па сірочае і па ўдовіна.** Емяльянчык В.А., 1957 г.н., 2013. Івацэвічы.

*“Воўк ведая, дзе гаспадарка бясь пільнага вока гаспадара, туды й кіруя. Нідзе не шанцуя беднай сіраце і ўдаве, усе беды сыплюцца на йіх”* (тлум. інф.).

**Пашкадаваў воўк кабылу – пакінуў хвост ды грыву.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Пра крывадушнага, помслівага чалавека: на словах шкадуе, а цішком кусае.

**Пашлі дурное, а за ім другое.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Так кажуць пра таго, хто не можа справіцца з простым заданнем.

**Першая жонка ад Бога, другая – ад людзей.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*“Першая жонка богом, лёсом наканавана, а другую людзі пасваталі”* (тлум. інф.).

**Пі, піяка, пі, на старасць торба і кій.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Гарэлка прыводзіць да бяды, жабрацтва.

**Пісаў пісака – не прачытае сабака.** Трында У.Р., 1933 г.н., 1989. Заполле Кос.

Пра таго, хто мае непрыгожы почырк, піша неахайна, брудна.

**Піць пі, але розуму не прапівай.** Макарэвіч Т.І., 1935 г.н., 2011. Галенчыцы Ягл.

Ва ўсім трэба ведаць меру.

**Плакаў Якаў – усё Бог адзінакаў, а як стаў спяваць, то й стаў Бог даваць.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Парада нават у самых цяжкіх жыццёвых абставінах захоўваць аптымізм.

**Плач, галасі, а рады не дасі.** Мінчук М.Дз., 1930 г.н., 1997. Галенчыцы Ягл.

*"Калі прыйдзя бяда ў хату, то плач, галасі, а рады ні дасі"* (тлум. інф.).

**Плюй у вочы – скажа: дождж ідзе.** Шастала Ю.І., 1938 г.н., 2006. Косава.

Так кажуць пра бессаромнага чалавека.

**Пня прыбяры, пень стане харошы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Сьвяточно апраняцца чалавек – пахарашэя, ні пазнаць"* (тлум. інф.).

**Пойдзеш у свет, і бяда за табою ўслед.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**а) Ты ў свет, і бяда (доля) ўслед.** Ткачук Я.В., 1915 г.н., 1996. Міхнавічы Стайк.

Калі трапіў у паласу няўдач, то іх цяжка пазбыцца.

**Поп глухім два разы абедню не правіць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Трэба быць уважлівым, калі нешта кажуць ці тлумачаць.

**Пра воўка памоўка, а ён тут як тут.** Зайка А.В., 1970 г.н., 1985. Заполле Кос.

Кажуць, калі ў гаворцы згадваюць чалавека, а ён у гэты момант прыходзіць.

**Прадаў кароўку, прадавай і вяроўку.** Зайка А.С., 1920 г.н., 1996. Бялавічы Кос.

Страціўшы большае, няма чаго плакаць па малым, дробязным.

**Пра свайго гаварыць – душа баліць.** Шыманчык У.А., 1917 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Гэтак бядуе чалавек, калі нехта з блізкіх зрабіў учынак, які ганьбіць увесь род.

**Праўда вочы коле.** Кругляеўскі С.Г., 1931 г.н., 2001. Ёдчыкі Квас.

Праўду не ўсе любяць, бо многім яна як папрок, як выкрыццё.

**Праўда даражэйша за грошы.** Сяўчук Л.А., 1905 г.н., 1983. Бялавічы Кос.

**Праўда крыўдзе вочы павыдзірала.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Трэба спадзявацца, верыць у сілу праўды.

**Праўда наверх выйдзе.** Хацімка К.П., 1891 г.н., 1974. Гошчава Стайк.

*"Як ні хаваюць праўды, праўда пераможа"* (тлум. інф.).

**Праца чалавека лечыць.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2001. Заполле Кос.

У працы чалавек забывае пра свае хваробы.

**Працуй, нябожа, то й Бог дапаможа.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

Не спадзявайся на іншых, сам працуй, сам старайся.

**Прыгожаму ўсё да твару.** Снітка Г.В., 1925 г.н., 2001. Любішчыцы Люб.

**Прыгожую дзеўку і добрую карову з сяла не выпусцяць.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2010. Размеркі Стайк.

*"Так жартуюць: прыгожая дзеўчына і ў сваім сяле ні заседзіцца. А ў гаспадарцы шануюць добрую карову"* (тлум. інф.).

**Прыехалі новасці з далёкае воласці.** Голуб В.І., 1930 г.н., 2005. Скураты Квас.

Так кажуць, каб пасмяяцца з чалавека, які аднекуль прыехаў і забаўляе ўсіх неверагоднымі гісторыямі.

**Прыйдзе коза да воза, папытае сена.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажуць, калі хочуць папярэдзіць таго, хто ганьбуе сваім, родным.

**Прыйшла пара – ідзі з двара.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажуць дзяўчыне, якой прыйшла пара ісці замуж.

**Прымаку па баку, а прымачцы – у срачцы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Збыткуюць с прымака, а жонцы збыткі на руку, бо яна ў сябе дома, у бацькоўскай хаці "* (тлум. інф.).

**Прымачы хлеб сабачы.** Здзітавец У.А., 1939 г.н., 1975. Заполле Кос.

Прымак не адчувае сябе гаспадаром у хаце, усе ім папіхаюць.

**Пустая бочка моцна грыміць.** Бялевіч Г.І., 1950 г.н., 2009. Даргужы Міл.

*"Недалёкі, пусты чалавек, якога зрабілі начальнікам, разьвівая бурную дзейнасьць, ад якой мала карысьці"* (тлум. інф.).

**Пусты колас угару тырчыць.** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 1995. Руда Падст.

*"У дурного чалавека пыхі, гонару много"* (тлум. інф.).

**Пусці падсуседа ў хату, а сам з хаты.** Жук А.І., 1934 г.н., 2004. Уласаўцы Жытл.

З чужым чалавекам у адной хаце цяжка ўжыцца.

**Пусці свінню за стол, то яна і ногі на стол.** Шыманчык В.В., 1933 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

Кажуць пра нахабнага, грубага, нявыхаванага чалавека.

**П'янаму Бог саломку падсцілае.** Прыступчык В.К., 1925 г.н., 2001. Руда Падст.

Гэтак выказваюць здзіўленне: п'яны ўпадзе, а сінякоў не наб'е.

**П'янаму і чорт дарогу саступае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"П'янаму саступі, сь п'яным ні сварыся, ні зьвязвайся"* (тлум. інф.).

**П'яны праспіцца, а дурань ніколі.** Мяцечка У.А., 1923 г.н., 2005. Мілейкі Міл.

*"Дурны чалавек горшы за п'яніцу. П'яніца хоць прасьпіцца"* (тлум. інф.).

**Рабіла, не рабіла, абы хараша гаварыла.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Выслоўе з савецкіх часоў.

**Рабі, рабі ды папраўся.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Паправіцца – пастарацца. *"Працуеш у калхозі, а дадому прыйдзяш – рабі, рабі ды папраўся: ніхто за цябе ні зробіць тваёй работы"* (тлум. інф.).

**Рабіць не грэх, грэх красці.** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1975. Заполле Кос.

Так адказвае чалавек, калі яго дакараюць, што працуе ў свята.

**Работы ніколі не пераробіш.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2003. Размеркі Стайк.

**Радаваўся старац, што прайшоў марац, а настаў май, ды панеслі яго ў гай.** Зайка В.А., 1942 г.н., 2014. Заполле Кос.

Пра непрадказальнасць лёсу. Гай – тут: могілкі.

**Рада душа ў рай, ды грахі не пускаюць.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2005. Размеркі Стайк.

Пра таго, хто хацеў бы дасягнуць нечага, але здольнасцяў на гэта не мае.

**а) Хацеў бы ў рай, але грахі не пускаюць.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Так кажа той, хто плануе нешта зрабіць, але не мае на гэта магчымасці, сродкаў.

**Радасць – весяліцца трэба, гора – памагаць трэба.** Здзітавец А.М., 1912 г.н., 1983. Заполле Кос.

Гэта правіла, закон чалавечага сужыцця.

**Радня да паўдня, а як сонца зайдзе, яе ніхто не найдзе.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

*“Гэдык кажуць, як трапляюць у бяду. Радня суцешыць у бядзе колькі дзён, а табе гараваць гадамі”* (тлум. інф.).

**Разумны дурному саступіць павінен.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Разумны навучыць, а дурны памучыць.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

**Разумны не скажа, а дурны не ўбачыць.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2003. Косава.

*“Разумны чалавек ні скажа, калі ўбачыць нейкую загану ў другім чалавеку, а дурны яе ні ўбачыць”* (тлум. інф.).

**Рана загоіцца, а ліхое слова не забудзецца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Ранак – панак.** Рабчэня Т.І., 1942 г.н., 2001. Заполле Кос.

Раніцай праца асабліва плённая.

**Ранняя птушка дзюбку калупае, а позняя вочы прадзірае.** Ціток А.У., 1905 г.н., 1975. Заполле Кос.

Пакуль гультай прачнецца, руплівы чалавек ужо наробіцца.

**Рамяство за плячыма не носяць.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2003. Скураты Квас.

Уменне ніколі не пашкодзіць, лішнім не будзе.

**Рука руку мые.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1989. Альшаніца Квас.

"*Так кажуць, калі бачаць, што хаўрусьнікі выгароджваюць адзін аднаго, пакрываюць ніпраўду*" (тлум. інф.).

**Рыба ў рацэ, а не ў руцэ.** Вясна У.Л., 1942 г.н., 2002. Заполле Кос.

Кажуць таму, хто дужа самаўпэўнены і заўчасна радуецца поспеху.

**Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе ляпей.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

"*Кажны чалавек імкнецца да лепшага*" (тлум. інф.).

**Рэдзька горка – усе ядуць, замуж кепскі – усе ідуць.** Зыбайла С.А., 1909 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

**Сабака і той ласку любіць.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2005. Размеркі Стайк.

Усё жывое на зямлі любіць ласку.

**Сабака сабаку знае.** Лісок М.І., 1932 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Свой свайго пазнае: які сам, такога й шукая*" (тлум. інф.).

**а) Сабака сабаку не кусае, знае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Сабаку сем вёрст не дарога.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2005. Размеркі Стайк.

Калі чалавек прагне чагосьці, адлегласць яму не перашкодзіць.

**Сава не ўродзіць сакала, а такога, як сама.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1989. Заполле Кос.

Дзеці заўсёды падобныя да бацькоў, нават у хібах і заганах.

**Сам за парог, а язык за пірог.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра нясцерпнае жаданне паласавацца пачастункам.

**Сам сябе не хвалі, хай людзі пахваляць.** Папко Т.Ф., 1906 г.н., 1995. Мілейкі Міл.

**Саступі дурню дарогу – Бог веку прыбавіць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"З дурнём ні зьвязвайся, то здаравейшы будзяш"* (тлум. інф.).

**Сваё дзіця не шчаня, за плот не выкінеш.** Бялевіч А.Ц., 1909 г.н., 1996. Рацкевічы Міл.

*"Якое б ні было дзіця, няхай сабе й шкодлівае, але ж твая крывінка, родная"* (тлум. інф.).

**Сваё за плот валі, але хвалі.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Так ушчуваюць таго, хто пагардліва ставіцца да свайго, роднага.

**а) Цыган за плот валіць, а сваё хваліць.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Сваё хвалі, але чужога не гань.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 1932. Альшаніца Квас.

**Свайго розуму нікому не ўставіш.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Цяжка змусіць іншага жыць так, як ты лічыш правільным.

**Свату першая чарка і першая палка.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2005. Размеркі Стайк.

*"Сват запівая маладых, але атрымлівая карбунцоў, калі йіх жыцьцё ні складваяцца"* (тлум. інф.). Карбу́нцаў атрымаць – пытлю, прачуханца дастаць.

**Сваю долю канём не аб'едзеш.** Кухценя П.М., 1923 г.н., 1995. Сенькавічы Падст.

Пра непазбежнасць лёсу.

**Свая матка, то галоўка гладка.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1982. Заполле Кос.

*"Свая маці дагледзіць, папесьціць"* (тлум. інф.).

**Свая ношка не цяжка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**а) Свая сярмяжка нікому не цяжка.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

**Свая хатка як родная матка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Усё любо, усё міло там, дзе нарадзіўся й вырас"* (тлум. інф.).

**Свет вялікі, а падзецца няма дзе.** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 2001. Бялавічы Кос.

Так кажа чалавек, якога апанавалі няшчасці, ад якіх ён ніяк не можа пазбавіцца.

**Свет не без добрых людзей.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

**Свіння не з'есць, пакуль не пакачае.** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1974. Заполле Кос.

Кажуць іранічна пра таго, у каго ежа выпала з рук.

**Свіння пройдзе і то рохне.** Бахур Г.В., 1923 г.н., 2003. Яглевічы Ягл.

Кажуць услед чалавеку, які не павітаўся.

**Святы самі лезуць у хаты.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

*"Даўней людзі былі набожныя, кажны прысьвяток сьвяткавалі"* (тлум. інф.).

**Сем гадоў у папа і не ведала, што сука без хваста.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

Пра таго, хто не хоча ведаць, ігнаруе мясцовыя звычаі.

**Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Перш чым пачаць нейкую справу, прадумай да дробязяў, як яе будзеш рабіць.

**Сем разоў дагадзі, а адзін раз не дагадзі – і кепскі будзеш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Сем разоў жаніўся – усё весяліўся, адзін раз будаваўся – і то падарваўся.** Шыманчык В.П., 1910 г.н., 1983. Альшаніца Квас.

Цяжкая, адказная справа – пабудова дома.

**Семярым давала, з аднаго пытала.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра распусную дзяўчыну.

**Сілаю не будзеш мілаю.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2008. Размеркі Стайк.

*"Сілаю ні прымусіш любіць"* (тлум. інф.).

**Сірату лаюць і б'юць, ды плакаць не даюць.** Максімчык В.У., 1936 г.н., 2005. Бялавічы Кос.

Сірочая доля горкая.

**Сірочы вянок – з белых квяток.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Нявесьці, у якой жывыя бацькі, у шлюбны вянок уплятаі чырвоную стужку, сіраце – белую"* (тлум. інф.).

**Сірочы хлеб горкі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1998. Альшаніца Квас.

*"Кажны сірату куском папракае"* (тлум. інф.).

**Сірочыя слёзы дарма не прападаюць.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

Напамін пра тое, што крыўдзіць сірату – вялікі грэх.

**Скачы, уража, як пан кажа.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Як пачаў служыць уладзі, то будзеш рабіць, як скажуць, як загадають"* (тлум. інф.).

**Скоры паспех – людзям на смех.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Усялякую працу трэба выконваць акуратна, не спяшаючыся.

**Скрыпучае дзерава доўга жыве.** Таўрэль У.А., 1938 г.н., 1995. Була Міл.

Часам хваравіты чалавек, які глядзіць самога сябе, жыве даўжэй за здаровага. *"Скрыпучае дзераво перажыве й здаровае"* (тлум. інф.).

**Скупы два разы плоціць.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2001. Бялавічы Кос.

Той, хто купляе няякасны, але танны тавар, урэшце прайграе, бо змушаны купляць ізноў.

**Слаба паеўшы, на азярод глянеш – і зноў есці хочацца.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Азярод – прыстасаванне са слупоў і жэрдак для прасушвання снапоў, травы.

**Слёз не пераплачаш, а песень не нераспяваеш.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

У жыцці трэба быць разважным, спакойным і не кідацца ў роспач, калі здараюцца цяжкасці.

**Сліны не падымеш, а слова не вернеш.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Трэба быць уважлівым і асцярожным да прамоўленага слова.

**Словам забіць можна.** Рабчэня У.І., 1940 г.н., 1998. Заполле Кос.

Неасцярожнае слова можа параніць і нават загубіць чалавека.

**Служба не дружба.** Шастала Ю.І., 1938 г.н., 2004. Косава.

На працы трэба захоўваць субардынацыю.

**Сляпы сляпому дарогі не пакажа.** Крыштопік Т.У., 1969 г.н., 1984. Заполле Кос.

*"Здарыцца бяда – шукай чалавека хаджалага, знанага, які сам пабыў у бядзе, бо сьляпы сьляпому дарогі ні пакажа"* (тлум. інф.).

**Смачна есці, хараша хадзіць і нічога не рабіць.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2001. Заполле Кос.

Жыццёвае крэда гультая.

**Смачны пірог удаўся, але пад скарынку кот схаваўся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Пра няўдала спечаны хлеб. *"Праўду трэба сказаць чалавеку; але каб ні пакрыўдзіць моцно, трэба яго й пахваліць"* (тлум. інф.).

**Смерць без прыключкі не бывае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Прыключка – тут: прычына. Без прычыны ніхто не памірае.

**Смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра непрадказальнасць пэўных момантаў у жыцці людзей.

**Сонца грэе – душа млее.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Чалавек заўсёды рады цяплу, сонцу.

**Сошкаю гараў, як папала, а хочаш, каб хлеба зямліца давала.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Толькі старанная, руплівая праца прыносіць дабрабыт.

**Спалоханая варона і пня баіцца.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1990. Заполле Кос.

Хто сутыкаўся з непрыемнасцю, няўдачай, робіцца празмерна асцярожным.

**Сполка колка.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2001. Заполле Кос.

Сполка – суполка. У грамадзе, у хаўрусе здараюцца і рознагалоссі, разлад, сваркі.

**Спосабам бацька хату спаліў.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Ва ўсякай справе трэба шукаць прасцейшыя шляхі.

**Справядлівага чалавека Бог любіць, але шчасця яму не дае.** Красная Н.Р., 1929 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Праўду не ўсе любяць.

**Старасць не радасць.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2002. Размеркі Стайк.

У старасці чалавека апаноўваюць хваробы, пакідаюць сілы.

**Старое адзенне новае беражэ.** Валошчык Г.У., 1938 г.н., 2005. Косава.

Ашчаднасць, беражлівасць спрыяе дабрабыту сям'і.

**Старое рвецца – на новае бярэцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так жартуюць, калі падралася адзенне.

**Старое як малое, што ўдзень бачыць, тое ўночы пытае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Стары ўбачыць днём прысмакі, а сорам папытаць, ажно ноччу яны яму сьняцца, у сьне пытая"* (тлум. інф.).

**Стары вол баразны не псуе, але і глыбока не бярэ (не арэ).** Таўрэль У.А., 1938 г.н., 1995. Була Міл.

Стары, вопытны чалавек не сапсуе справы, за якую бярэцца, але многа траціць часу на яе здзяйсненне.

**Стаў па судах цягацца – давядзецца за торбу ўзяцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Кап судзіцца, трэба мець вялікія грошы, бо суд даводзіць часом да жабрацтва"* (тлум. інф.).

**Суджанага і на кані не аб'едзеш.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

*"Ат свайго ні ўцячэш, ні ўратуясься, ні ўвільнеш. Шчо табе суджана, таго ні мінеш"* (тлум. інф.).

**Сусед гарэў, а ён рукі грэў.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Усякія "дабрадзеі" ёсць на свеце.

**Сухая лыжка рот дзярэ.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

*"Так кажа мужык жонцы, пытаючы ў яе перад ядою гарэлкі, – гэта адно. Другое: каб зьдзейсьніць задуманае, трэба начальніку даць хабар"* (тлум. інф.).

**Сушыць не работа, а турбота.** Зайка А.Ф., 1937 г.н., 2005. Косава.

*"Турбуяцца чалавек, непакоіцца, ажно цяшко на душэ, а ўзяўся рабіць – і паспакайнеў"* (тлум. інф.).

**Сцеражкога і Бог сцеражэ.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Хто абачлівы, той унікне бяды, небяспекі, непрыемнасцяў.

**Сцеражыся каровы спераду, каня ззаду, а жанчыны з усіх бакоў.** Гоган І.Я., 1931 г.н., 2004. Заполле Кос.

Пра жаночае вераломства, падступнасць.

**Сыты з галоднага не спагадае.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Так кажуць пра чалавека, які не здольны спачуваць іншым.

**Сэрца не камень, адпусціцца.** Лісок М.І., 1932 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Чалавек, які мае добрае сэрца, даруе іншаму нагаворы, памылкі, ён саступлівы, падаткі"* (тлум. інф.). Пада́ткі – схільны да кампрамісу.

**Сякі-такі варнач – ды ўсё лепшы за плач.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

Варнач – тут: муж. Так супакойвае сябе жанчына, якую крыўдзіць няўдаліца-муж.

**а) Сякі-такі мужчына – ды ўсё ж дровы і лучына.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**б) Сякі-такі целяпей, а ўсё з ім ляпей.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Таго сонца, што ў ваконцы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажа хворы, бедны, няшчасны чалавек, у якога мала радасці ў жыцці.

**Тады адпачну, як рукі на грудзі складу.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Так адказвае чалавек, калі яго ўшчуваюць за празмерную працавітасць.

**Тады дзяцей вучаць, як каля лавы ходзяць.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

Вучыць дзіця трэба з маленькага.

**а) Тады сына вучаць, як упоперак лавы ляжыць.** Пястрак С.Д., 1907 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

**Тваё дзела – з носа ды ў рот.** Лушчык І.І. 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

"*Так асякуць таго, хто ўмешваяцца ў чужую справу*" (тлум. інф.).

**а) Тваё дзела цялячае.** Зайка Ф.Я., 19 07 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Тваё "зараз" як польскае "пачэкай".** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. доўга яшчэ давядзецца чакаць, пакуль будзе выканана просьба.

**Той здароўя не шануе, хто не хварэў.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Той сабака страшнейшы, што лашчыцца, а не той, што брэша.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

"*Трэба асьцерагацца чалавека ліськлівага*" (тлум. інф.).

**Топіцца, то за брытву (саломіну) хопіцца.** Ткачук Я.В., 1915 г.н., 1996. Міхнавічы Стайк.

*"Калі ў чалавека бязвыхаднае становішча, то каб выйсьці зь яго, ён скарыстоўвая хоць які шанец"* (тлум. інф.).

**Тры разы перасяліцца, што раз пагарэць.** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 1996. Бялавічы Кос.

Перасяленне вымагае клопату і грошай.

**Трэба ведаць, калі сказаць, а калі памаўчаць.** Грынчык Н.І., 1944 г.н., 2008. Івацэвічы.

**Ты яму пра хлеб, а ён пра гарэлку.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"П'яніца любую гамонку зводзіць да гарэлкі"* (тлум. інф.).

**Ты яму слова, а ён табе дзесяць.** Дылюк С.В., 1926 г.н., 2001. Стайкі Стайк.

Пра дзёрзкага, непачцівага, непаважлівага чалавека.

**У адзін кут, у другі кут – ды і вечар тут.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2003. Альшаніца Квас.

*"За клопатамі, турботамі ні згледзіш, як міне дзень"* (тлум. інф.).

**У адным мяшку два каты не ўседзяць.** Прымак М.І., 1919 г.н., 2004. Івацэвічы.

*"Дзьве гаспадыні ля аднае печы ні ўжывуцца"* (тлум. інф.).

**У бабы косы доўгія, а розум кароткі.** Пархута Г.І., 1927 г.н., 1985. Жамайдзякі Міл.

**У багатага (добрага) гаспадара і на Каляды муху знойдзеш.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. у хаце цёпла, ёсць хлеб і да хлеба.

**У багатага і певень нясецца, а ў беднага і курыца не хоча.** Ціток А.У., 1905 г.н., 1975. Заполле Кос.

Багатаму чалавеку шанцуе ў жыцці.

**У багатага на сметніку болей, чым у беднага ў хаце.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2001. Заполле Кос.

**У багатым двары варэнікі на стале, а ў беднае Ганулі няма і цыбулі.** Ціток А.У., 1905 г.н., 1975. Заполле Кос.

**У Бога дзён многа.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

Так кажуць таму, хто прыспешвае ў рабоце.

**У Бога няма парога.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Адказ на заўвагу, што нельга здароўкацца цераз парог.

**У Бога ўсяго многа.** Бахур І.В., 1925 г.н., 2001. Боркі Падст.

**Увесь век чыста хадзіць не будзеш.** Івановіч Г.К., 1919 г.н., 2001. Халап'я Падст.

Жыццё – не свята, давядзецца і забрудзіцца, запэцкацца.

**У вочы ліском, а за вочы пяском.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Ліском – лісьліва. "*Будзе лісьліва паглядаць табе ў вочы, а на людзях бэсьціць*" (тлум. інф.).

**У гасцях добра, а дома лепей.** Бахур І.В., 1925 г.н., 2001, Боркі Падст.

Так кажуць, вярнуўшыся з гасцей.

**У гультая рукі не баляць.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

**Уданы як запраданы.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Уданы – абгавораны, абылганы, той, на каго ўзвялі паклёп.

**Удаўцова сэрца, як у Піліпаўку сонца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. халоднае.

**Удзень і ўночы не заплюшчваюцца вочы.** Хацімка К.П., 1891 г.н., 1974. Гошчава Стайк.

Турботы і ўначы не даюць заснуць.

**У дзеўках звекавала, бо кавалераў перабірала.** Ткачук Я.В., 1915 г.н., 1996. Міхнавічы Стайк.

**У дзіцяці дзіцячы розум.** Бакіевіч А.К., 1918 г.н., 2003. Косава.

*“Так кажуць дарасламу, які робіць альбы-што, як дзіця”* (тлум. інф.).

**У добрага мужа і варона жонка.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*“Як акуратны, разумны мужчына, то ніколі ні будзя перад людзьмі брыдзіць жонку, якая б яна ні была”* (тлум. інф.).

**У добрай гаспадыні ёсць масла і сала ў скрыні.** Зайка А.Ф., 1937 г.н., 2005. Косава.

Сапраўдная гаспадыня ашчадная і запаслівая.

**У добры час сказаць, а ў ліхі памаўчаць.** Івановіч Г.К., 1919 г.н., 2001. Халап’я Падст.

Асцярожнасць ніколі не пашкодзіць.

**У дождж касі – пагодаю грабці будзеш.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

*“Касіць можно і ў дошч, а грабці толькі пагодаю”* (тлум. інф.).

**а) Хто ў дождж косіць, той у пагоду грабе.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**У дурнога салаўя дурная песня.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1995. Альшаніца Квас.

*“Неразумны чалавек нічого добраго ні скажа, ад яго нічого вартаго ні пачуяш”* (тлум. інф.).

**У каго густа, у каго пуста.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Часам вынік працы не залежаў ад асабістых якасцяў працаўніка, але ад прыродных з’яваў.

**У каго дочкі, у таго маці без сарочкі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*“Бо маці ні думая пра сябе, а дбая, каб дочкі мелі багаты пасах, усё стараяцца для йіх”* (тлум. інф.).

**а) У каго дочкі, будзе лапіць сарочкі.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

**У каго згуба, у таго граху поўна губа.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2000. Заполле Кос.

*“Украдзя ў цябе нехта, а ты ў галаве перабіраяш, думаяш пра многіх. Яшчэ горш, клянеш людзей, якія не вінаваты душою, бяручы грэх на сваю душу”* (тлум. інф.).

**У каго родна матка, у таго галоўка гладка.** Хацімка К.П., 1891 г.н., 1974. Гошчава Стайк.

Родная маці песціць і клапоціцца пра дзіця.

**У каго сіла, у таго і праўда.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Хто мае ўладу – з тым праўда. Выслоўе з горкага жыццёвага досведу.

**У каго язык крывы, у таго гаворкі многа.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так смяюцца з гаркавага (картавага) чалавека.

**У камень страляць, толькі стрэлы псаваць.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Дурнога, упартага чалавека не пераканаць.

**У каровы малако на языку.** Грудавы Л.М., 1968 г.н., 1984. Заполле Кос.

**У кожнага свая натура.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**У кудасу добры гаспадар сабаку з двара не выгане.** Пястрак С.Д., 1907 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Кажуць таму, хто ў непагадзь збіраецца нешта рабіць.

**Укусіў бы сябе за локаць, ды не дастаць.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2001. Заполле Кос.

Так кажа чалавек, які раскайваецца ў тым, што зрабіў.

**У ліхога бортніка і мёд горкі.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1983. Альшаніца Квас.

Пра помслівага, ліхога чалавека.

**У людзей многа дроў, ды гараць, а ў мяне адно, ды не хоча гарэць.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра незайздросны лёс адзінокага чалавека.

**У людзях і я чалавек.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажа чалавек, які ў сям'і не карыстаецца павагай.

**У гэтакім веку ўжо сеяць трэба на прыпеку.** Рабчэня Е.К., 1912 г.н., 1985. Заполле Кос.

Так кажуць пра сябе пажылыя людзі.

**У малым гаршку і кашка смачная.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Смачнае тое, чаго мала, вобмаль.

**Умела гаспадыня гатаваць, ды не ўмела падаваць.** Прымак М.І., 1919 г.н., 2008. Івацэвічы.

Пра гаспадыню, што не ўмее абыходзіцца з гасцямі, не ўмее запрасіць.

**Умелі дзіця нарадзіць, умейце і вучыць.** Баркоўская Г.Ф., 1924 г.н., 2005. Альба Квас.

**Умельства за плячыма не насіць.** Шчурко С.П., 1968 г.н., 1984. Заполле Кос.

Чаму навучышся, прыдасца ў жыцці.

**У няўмекі рукі калекі.** Шастала Ю.І., 1938 г.н., 2004. Косава.

*"У няўмелага чалавека с-пад рук выходзіць брак"* (тлум. інф.).

**У няўмекі рукі не баляць.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Няўмека не бярэцца ні за што.

**У панядзелак і жабракі не ходзяць.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Спакон вякоў людзі лічаць панядзелак цяжкім днём.

**У полі і жук мяса.** Пархута Г.І., 1927 г.н., 2008. Жамайдзякі Міл.

*"Калі папрацуеш у ахвоту, то ўсякая страва смачная"* (тлум. інф.).

**У родным краі, як у раі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Нідзе няма лепш, як дома, дзе нарадзіўся і жывеш.

**У рэчцы розная рыба.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2009. Грыўда Міл.

Так адказваюць на папрок пра несамавітыя паводзіны кагосьці з сям'і.

**У сваёй хатцы добра і срацы.** Зыбайла С.А., 1909 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

У сваёй хаце адчуваеш сябе вольна.

**У сваёй хаце і памерці добра.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

**У сваім дварочку, як у вяночку.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Німа мілей за свой двор, за сваю хату. Як расьцьвітуць у агароччыку да каля плоту кветкі, то хата як у вяночку стаіць*" (тлум. інф.).

**У сваркі дрэнны канец.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

"*І аднаму, і другому кепско, у сварцы німа пераможцоў*" (тлум. інф.).

**Усё добра, што ў меру.** Мікалайчык Л.А., 1930 г.н., 2004. Боркі Падст.

"*Ва ўсім чалавек павінен ведаць меру: вада – і дабро, і ліхо, агонь – і дабро, і ліхо, гарэлка – і дабро, і ліхо*" (тлум. інф.).

**Усё роўна рот разяўляць, чым плакаць, лепш спяваць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так суцешыць засмучанага вясёлы, жыццярадасны чалавек.

**Усім добры не будзеш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**а) Усім не дагодзіш.** Макарчэня М.М., 1934 г.н., 2002. Заполле Кос.

**б) Усім сам Бог не дагодзіць.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Усім не надаешся.** Доўжык В.Ф., 1906 г.н., 1985. Заполле Кос.

"*Усім хочацца памахчы, але ж махчымасьці німа*" (тлум. інф.).

**У сіроцтве жыць – слёзы ліць.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

Сірочая доля горкая.

**У скорага на пупе, у вялага на дупе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*У быстраго, хапаткого да працы чалавека – кіла, у гультая ат седні срака баліць*" (тлум. інф.).

а) **У скорага на пупе, у лявага на дупе.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Лявы – лянівы.

**У страха вочы вялікія.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

"*Баязьлівы й пня баіцца*" (тлум. інф.).

**У судзе багаты рэдка вінаваты.** Собаль П.З., 1927 г.н., 2003. Квасевічы Квас.

"*Рэдка вінаваты, бо аткупіцца*" (тлум. інф.).

**У сэрца (у душу) не заглянеш.** Бакіевіч А.К., 1918 г.н., 2003. Косава.

**Усякая матка хваліць сваё дзіцятка.** Максімчык А.Р., 1897 г.н., 1975. Заполле Кос.

**У Тамаша жонка хараша, а ў Рыгора – хоць вывезі з двора.** Ціток А.У., 1905 г.н., 1975. Заполле Кос.

"*Бо Тамаш ніколі ні скажа на людзях пра сваю жонку кепскаго слова, а Рыгор як нагаворыць, то хоць з двара вывозь*" (тлум. інф.).

**У ціхім балоце чэрці водзяцца.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Ніхто ні загляне ў душу чалавека: з выгляду ціхмяны, рахманы, а тоіць буру ў сабе*" (тлум. інф.).

**У чужое шчасце не ўкупішся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

"*Чужое шчасьце сабе ні забярэш*" (тлум. інф.).

**У чужой старане не так сонца свеціць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Усё інакш на чужыні, цяшко прывыкнуць і да людзей, і да звычаёў, і да клімату*" (тлум. інф.).

**У чужую душу не заглянеш.** Мажэйка І.М., 1969 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

**У чужым воку парушынку згледзіць, а ў сваім бервяна не бачыць.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Пра таго, хто заўважае чужыя хібы, але не бачыць сваіх.

**У яго адна дарога, а ў цябе дзесяць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1995. Альшаніца Квас.

*"Чалавек пайшоў, паехоў, а ты думаяш, перабіраяш, дзе мох падзецца"* (тлум. інф.).

**Хай конь думае, у яго галава вялікая.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Так адкажа чалавек, якому раяць падумаць пра свае паводзіны.

**Халасты – вочы гастры.** Зайка Г.А., 1900 г.н., 1984. Заполле Кос.

*"Усе вочы на дзяўчат, бо вышуквая, выбірая сабе дзеўку"* (тлум. інф.).

**Харошая шкурка, ды ліхая натурка.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2005. Размеркі Стайк.

*"З твару харошы, а пажывеш зь йім – зьвер"* (тлум. інф.).

**Хата чужая як свякроў ліхая.** Лушчык В. І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"У чужой хаці цяшко жыць, як і зь ліхой сьвякроўю, там ні сагрэясься і ніхто ні паспагадая"* (тлум. інф.).

**Хатняга злодзея не ўпільнуеш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Калі пачне красьці свой, які ведае ў хаці хады й выхады, то бяды ні абярэсься"* (тлум. інф.).

**Хату збудаваць – не скрынку збіць.** Зайка А.Ф., 1937 г.н., 2005. Косава.

Будоўля патрабуе шмат часу, шмат намаганняў.

**Хацеў злавіць злодзея, ды сам папаўся.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Пра крывадушнага чалавека, махляра.

**Хвалілася свіння, што гаўна есці не будзе.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

Кажуць пра чалавека, які абяцаў не рабіць больш штосьці дрэннае, але яму няма веры.

**Хвораму нічога не міла.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

*“Хвораму чалавеку нічого ні міло, нішто ні радуя, ён думая толькі пра сваю хваробу”* (тлум. інф.).

**Хворс – свінні пад хвост.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*“Ні трэба хварсіць, слаба апранацца ў марос, а трэба дбаць пра здароўя”* (тлум. інф.).

**Хіцер Зміцер, але і Саўка не дурань.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

*“Кажуць пра хітрага чалавека, які хацеў абдурыць кагосьці, але ні ўдалося, бо патрапіў на кемліваго”* (тлум. інф.).

**Хлеба перапечка, а дроў поўна печка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Каб спячы нават невялікую булачку, трэба ўсё роўна напаліць печ. Часам справа здаецца дробязнай, нявартаснай, але і да яе трэба ставіцца сур’ёзна.

**Хлеб будзе – і да хлеба будзе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Хлеб не нявестка, які ўдаўся, такі з’есца.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1996. Скураты Квас.

*“Нявестка – назаўсёды, а хлеб зьесца, які б ні ўдаўся”* (тлум. інф.).

**Хлеб сказаў: “Кінеш стрэльбу і вуду – з табою буду”.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

*“Хлеп патрабуя, кап чалавек аддаваў яму ўвесь час. Калі ж чалавек захопіцца паляўніцтвам ці рыбалоўствам, то хлеба на стале ні будзя”* (тлум. інф.).

**Хлеб, соль ды вада – уся наша яда.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Хлеб, соль ды вада – аснова жыцця.

**Хлеб-соль еж і праўду рэж.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Нягледзячы на залежнасць ад працадаўцы, кажы праўду.

**Хлопец на кані едзе, а дзяўчына родзіцца і яму згодзіцца.** Ціток І.М., 1969 г.н., 1984. Заполле Кос.

Вялікая розніца ў гадах – не перашкода для шлюбу.

**Хлопец як пастол, а вядзі яго за стол.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Хоць брыткі хлопяц, а май павагу, бо гэто хлопяц, можа, яшчэ й замуж за яго пайдзеш"* (тлум. інф.).

**Хоць благое плецянішка, але за ім зацішка.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2002. Заполле Кос.

Благі – стары, паношаны; благі (пра чалавека) – кволы, нядужы. Плецянішка – паліто. *"Хоць старое паліто, але ратуя ат холаду; хоць благенькі мужык, а жонцы заступца"* (тлум. інф.).

**Хоць гаршком называй, толькі ў печ не стаўляй.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

*"Называй, як хочаш, языком шкоды вялікай ні зробіш – перацярплю"* (тлум. інф.).

**Хоць дрыжу, але гонар дзяржу.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Пра чалавека, які апрануўся для хворсу, не па пагодзі"* (тлум. інф.).

**Хоць за вала, абы дома не была.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005.Стайкі Стайк.

Калі дзяўчыне мінула пара выходзіць замуж, то жаніхоў не выбіраюць, ідуць за таго, хто пасватаўся.

**Хоць за зайца, абы яйца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажуць пра дзяўчыну, якой не церпіцца выйсці замуж, або пра тую, што заседзелася ў дзеўках і жадае пайсці замуж хоць за якога хлопца.

**Хоць з вадою, абы не з бядою.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

*"Кап толькі бяды ні было, пражыць можна на вадзе ды хлебі"* (тлум. інф.).

**Хоць не ўежна, то вылежна.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Гультай хоць і не даесьць, але наляжыцца ў ахвоту"* (тлум. інф.).

**а) Хоць не ўежна, ды ўлежна.** Лушчык В.І,, 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Малы заробак, але й праца лёхкая"* (тлум. інф.).

**Хоць ох, але ўдвох.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

*“Хоць старыя, без здароўя, але ўдвох весялей”* (тлум. інф.).

**Хоць салому еж, а гонару не губі (не трацьь).** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*“Е людзі, якія ні даядуць, а на ўборы грошай ні пашкадуюць”* (тлум. інф.).

**Хочаш ворага нажыць – грошай пазыч.** Карпенка В.М., 1926 г.н., 1984. Заполле Кос.

**Хочаш, каб воўк быў сыты і козы цэлыя.** Екель Н.М., 1975 г.н., 1990. Заполле Кос.

Так кажуць таму, хто хоча дагадзіць людзям, якія па-рознаму разумеюць жыццё.

**Хочаш прапасці – навучыся красці.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Хто апарыўся на малацэ, той на халодную ваду дзьмухае.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

Той, хто паспытаў бяды, ліха, робіцца асцярожным.

**Хто багаты, той разумны.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., Заполле Кос.

*“У багатаго е грошы, ён усяго даб’ецца: у каго грошы, у таго й праўда”* (тлум. інф.).

**Хто ведаў бы дзятла, каб не яго доўгі нос.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра чалавека, які не ўмее трымаць язык за зубамі, разгалошвае сакрэты.

**Хто вязе, на таго і валяць.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Хто сумленна выконвае работу, на таго стараюцца ўзваліць яшчэ больш.

**а) Хто добра цягне, на таго і кладуць.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

**Хто гнуўся, той у магіле апынуўся, а хто агінаўся, той жывы застаўся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра стаўленне да прымусовай працы. Выслоўе савецкага часу.

**Хто гуляе змоладу, той памрэ з голаду.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"Гультай на старасьці нічога ні мая: ні дома, ні сям'і"* (тлум. інф.).

**Хто дбае, той і мае.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Хто дбайны гаспадар, у таго дастаток у хаці"* (тлум. інф.).

**а) Хто як дбае, так мае.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

**Хто ззáмаладу працуе, той на старасці пануе.** Шчурскі У.Ф., 1911 г.н., 1996. Альшаніца Квас.

**Хто з языком, той з пірагом.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Чалавека, здольнага да слова, вітаюць усюды.

**Хто знае, хто ведае, той добра абедае, а хто не знае, не чуе, той дома не начуе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

У жыцці трэба быць дапытлівым, цікаўным.

**Хто каля вады ходзіць, то намочыцца, а каля дабра – пажывіцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Які б ні быў чалавек, а паквапіцца на дармовае"* (тлум. інф.).

**Хто каму годзіць, той сабе шкодзіць.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2002. Скураты Квас.

Іншым памагай, але і сябе глядзі.

**Хто капейку не беражэ, той сам рубля не варты.** Зайка А.Ф., 1937 г.н., 2005. Косава.

Пра эканомнасць, ашчаднасць.

**Хто коней мяняе, у таго хамут гуляе.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Хто шукае яшчэ лепшага, чым у яго ёсць, страціць усё.

**Хто мае дочкі – ходзіць без сарочкі.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

*"За дочкамі трэба даць пасах, таму бацькі апошняе аддаюць, выдаючы йіх замуж"* (тлум. інф.).

**Хто мае пчолы, той мае мёд, хто мае дзеці, той мае смурод.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Так адкажуць таму, хто папракне за непарадак у хаце.

**Хто малады ажаніўся, той не памыліўся.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

"*Маладому ляхчэй ажаніцца, чым пажылому. І сілы, кап пабудавацца, абжыцца, у маладого болей*" (тлум. інф.).

**Хто на неба пазірае, той без хлеба падыхае.** Бялевіч А.Ц., 1909 г.н., 1996. Рацкевічы Міл.

"*Хто ано чакая, кап хутчэй сонцо зайшло, хто ляніцца рабіць, той хлеба ні мецьмя*" (тлум. інф.). Ано – толькі.

**Хто не нарадзіўся, той паміраць не будзе.** Куратнік І.С., 1915 г.н., 1997. Гічыцы Ягл.

**Хто не робіць, той нічога не мае.** Максімчык В.У., 1933 г.н., 2002. Бялавічы Кос.

**Хто нічога ў хляве не трымае, той убытку не мае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

"*У каго німа ні каровы, ні сьвіней, у таго нічого ні прапáдзя, яму перажываць німа чаго*" (тлум. інф.).

**Хто новага не мае, той старому рад.** Зайка А.М., 1968 г.н., 1983. Заполле Кос.

Трэба задавальняцца тым, што ёсць.

**Хто парася ўкраў, таму ў вушах пішчыць.** Мінчук М.Дз., 1930 г.н., 1997. Галенчыцы Ягл.

Хто адчувае за сабою віну, той не мае спакою.

**Хто прастуе, той дома не начуе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

"*Хто ходзіць нацянькі, часта блудзіць*" (тлум. інф.).

**Хто працуе, той і мае.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Хто старанны, дбайны ў працы, у таго дастатак у хаце.

**Хто пра што, а цыган пра сала.** Зайка С.М., 1947 г.н., 2005. Косава.

Што каму рупіць, той пра гэта і гаворыць.

**Хто пытае, той не блудзіць.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

**Хто раз украў, таго больш цягне.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2001. Заполле Кос.

Калі чалавеку ўдалося раз штосьці ўкрасці і яго не злавілі, то яму зноў хочацца ўкрасці.

**Хто рана ўстае, таму Бог падае.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

*"Руплівы, дбайны чалавек, які с сонцом устае, мая дастаток у хаці"* (тлум. інф.).

**Хто сам сябе хваліць, няхай таго пярун спаліць.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"Нядобра чалавеку самого сябе хваліць, няхай гэто другія робяць"* (тлум. інф.).

**Хто сам хлусіць, той другім не верыць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Чалавек заўсёды судзіць іншых людзей па сабе"* (тлум. інф.).

**Хто скача, а хто плача.** Стась Ж.Б., 1975 г.н., 1990. Заполле Кос.

*"Ні ўсе разом весяляцца, ні ўсе разом плачуць"* (тлум. інф.).

**Хто скупы, той не дурны.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1984. Заполле Кос.

*"Э, чалавек ашчадны, нават трошкі скупаваты, – ні дурны: ён грошай на вецяр ні кідая"* (тлум. інф.).

**Хто спіць да сонца, у таго хлеб у машонцы.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. вобмаль, мала. Машонка – тут: невялікая торба.

**Хто ў боб, хто ў гарох.** Кікун У.Ф., 1933 г.н., 2011. Мілейкі Міл.

Так кажуць, калі паміж людзьмі няма паразумення.

**Хто ў жніво халадку шукае, той галадае.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"У жніво само цяшкая работа, і толькі гультай хаваяцца ад яе"* (тлум. інф.).

**Хто ў карчму ўчашчае, той хлеба не мае.** Пястрак С.Д., 1907 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Чалавек, які пачуў смак у гарэлцы, загубіць гаспадарку.

**Хто ў краю́ – у божым раю́, хто пасярэдзіне – у воўчай бярэзіне.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Жыць на краю сялібы – вялікая выгода. Вольно ўсім – і людзям, і скаціні. Сярод людзей жыць – жыць у цясноці, у сварках і зватках"* (тлум. інф.).

**Хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Крадзеж у лесе традыцыйна не лічыўся за грэх.

**Хто ходзіць, той спатыкаецца, хто робіць, той памыляецца.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"Усяк бывая ў жыцьці: і памылісься ў чымсьці, і паправісься – жывы чалавек, усяк выходзіць"* (тлум. інф.).

**Хто хутка есць, той хутка робіць.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2003. Размеркі Стайк.

*"Чалавек быстры – хуткі ва ўсім: і ў ядзе, і ў рабоці"* (тлум. інф.).

**Хто цягне, на таго валяць.** Зайка А.Ф., 1937 г.н., 2005. Івацэвічы.

Пра чалавека, які робіць не толькі сваю, але і чужую працу.

**а) Хто цягне, на тым едуць.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2002. Заполле Кос.

**Хто чужое шкадуе, свайго не мае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Трэба сваё глядзець, пільнаваць"* (тлум. інф.).

**Цалуюць, але ўсе бязносыя.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2003. Альшаніца Квас.

Б я з н о с ы я – тут: бедныя. *"Хіляцца да цябе, бо спадзяюцца, што пажывяцца, а тут самому трэба, кап хто памох"* (тлум. інф.).

**Цацанка-абяцанка, а дурню радасць.** Куіс М.Д., 1925 г.н., 2003. Косава.

Не трэба быць даверлівым і спадзявацца на лёгкі поспех, слухаючы чыесьці абяцанні.

**Цаца-цаца – ды ў кішэню.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 2002. Заполле Кос.

*“Спадабалася што, дык ужо цікуя, каб ніхто ні ўбачыў ды кап пакласьці сабе ў кішэню”* (тлум. інф.).

**Цераз сілу і конь не бярэ.** Антонік У.М., 1936 г.н., 2006. Була Міл.

Трэба сувымяраць свае сілы з магчымасцямі.

**Ці карова, ці цяля – Бог не любіць круцяля.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Ніхто не любіць таго, хто ашуквае, хлусіць.

**Ці плач, ці галасі – рады не дасі.** Гоган Г.Я., 1975 г.н., 1990. Заполле Кос.

Як суцяшэнне тым, у каго здарылася непапраўная бяда.

**Ціха, бо разбудзіш ліха.** Собаль П.З., 1927 г.н., 2000. Квасевічы Квас.

Папярэджанне не чапаць зласлівага чалавека.

**а) Не будзі ліха – няхай спіць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*“Не чапай ліхого чалавека, абміні яго, вымаўчы яму, выбач”* (тлум. інф.).

**Ціхая вада берагі рве.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Часам і незаўважны, ціхі, спакойны чалавек здольны на рашучыя ўчынкі.

**Цэлы дзень языком малоціць, а ўмалоту не відно.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажуць пра пустамелю.

**Чалавек галодны ні на што не годны.** Макарчэня М.М., 1934 г.н., 1995. Заполле Кос.

**Чалавек не свіння – усё з’есць.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

Так пасмяюцца з усёеднасці чалавека.

**Чалавек як муха: тут ёсць, а тут няма.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра кароткасць чалавечага веку і немінучасць смерці.

**Чаму ззáмаладу навучышся – на старасць як знойдзеш.** Куратнік І.С., 1915 г.н., 1997. Гічыцы Ягл.

**– Чаму ты бедны? – Бо дурны. – Чаму дурны? – Бо бедны.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Чарвяку прыходзіцца сем разоў на вяку, а мужыку сто разоў на вяку.** Крыштопік Ю.І., 1976 г.н., 1991. Заполле Кос.

На доўгім жыццёвым шляху чалавек спазнае шмат нягод і выпрабаванняў.

**Чорт сем пар лапцей стаптаў, пакуль пару дабраў.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажуць пра сужэнцаў, якія ў адмоўных якасцях не саступаюць адно аднаму.

**Чорт толькі ў лазу завядзе, а жанчына ў нетру.** Кот Н.М., 1945 г.н., 1998. Заполле Кос.

Мужчына, паддаўшыся жаночым чарам, задаволіць усе яе капрызы.

**Чужая балячка нікому не баліць.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Чужое няшчасце здаецца меншае, чым сваё.

**Чужая кроў не прападзе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

За пралітую нявінную кроў заўсёды чакае пакаранне, расплата.

**Чужое вока бачыць далёка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Заўсёды здаецца, што збоку відней.

**Чужое дабро бярэ за рабро.** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 2001. Руда Падст.

"*Ш чужого ні пакарыстаясься. Яно ні пойдзе на дабро*" (тлум. інф.).

а) **Чужым дабром не забагацееш.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

б) **Чужое на карысць не пойдзе.** Стась С.Я., 1976 г.н., 1991. Заполле Кос.

**Чужое ніхто не шкадуе.** Бабей Р.Д., 1911 г.н., 1995. Ёдчыкі Квас.

"*Чужого ні шкада, бо ты да яго сваіх рук ні прыклаў*" (тлум. інф.).

**Чужое хвалі, а свайго ў гразь не тапчы.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Можа, чужое што й лепшае, але любі й шануй сваё"* (тлум. інф.).

**Чужой бядзе не радуйся.** Макарчэня А.Л., 1977 г.н., 1991. Заполле Кос.

**Чужому навучайся, а свайго не цурайся.** Зыбайла С.А., 1909 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

*"Папаў у чужыя людзі – жыві, як яны, пераймай йіх звычаі, але й свайго ні забывай, ні цурайся"* (тлум. інф.).

**Чужую бяду рукамі развяду, а ў сваёй толку не знайду.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Чужыя беды здаюцца не такімі сур'ёзнымі, як свае.

**Чужы кусок дзярэ раток.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2003. Косава.

Крадзенае ў рот не лезе.

**Чужымі рукамі жар заграбаць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

На стараннуюпрацу чужога чалавека не разлічвай, не спадзявайся.

**Чужым розумам не пражывеш.** Папко Т.Ф., 1906 г.н., 1995. Мілейкі Міл.

**Чужыя грахі перад вачыма, а свае за плячыма.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2004. Скураты Квас.

У іншых бачым хібы, а сваіх не заўважаем.

**Чуў звон, ды не ведае дзе ён.** Гоган І.Я., 1931 г.н., 2004. Заполле Кос.

Пра чалавека, які поўніцца здагадкамі, чуткамі.

**Шавец боты робіць, а ў апорках ходзіць.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Так кажуць пра таго, хто стараецца для іншых, а пра сябе не думае.

**Шкадуеш дзіця – не шкадуй яму дубца.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

З народнай педагогікі.

**Шкадуй дзіця, як душу, а трасі, як грушу.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Шкадуй дзіця, але не давай яму праводзіць час марна, у ляноце.

**Што будзе, тое будзе.** Прымак М.І., 1919 г.н., 2004. Івацэвічы.

**Што галава, то розум.** Жук А.І., 1934 г.н., 2004. Уласаўцы Жытл.

Пра разнастайнасць падыходу пры развязанні якога-небудзь пытання.

**Што год, то ўдод.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так жартуюць з тых, у каго часта нараджаюцца дзеці.

**Што думаеш, тое сніцца.** Бахур Г.В., 1923 г.н., 2003. Яглевічы Ягл.

**Што зарабіў, тое і сцерабіў.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Гэтак смяюцца з неабачлівага, неашчаднага чалавека.

**Што з воза ўпала, тое прапала.** Здзітавец А.М., 1912 г.н., 1984. Заполле Кос.

Што страчана, згублена, змарнавана, таго назад не вернеш.

**Што згарыць, то не згніе.** Кікун У.Ф., 1933 г.н., 2001. Мілейкі Міл.

Так суцяшаюць чалавека, які бядуе аб нейкай страце.

**Што зробіць хам, не пераробіць і пан.** Собаль П.З., 1927 г.н., 2001. Квасевічы Квас.

"*Што зробіць малы начальнік, то вышэйшы ні пераробіць*" (тлум. інф.).

**Што край, то звычáй.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

У кожнай мясцовасці свае звычаі, парадкі.

**Што летам нагою, то зімою рукою.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Летом столькі ягад ды грыбоў, што нагамі падбіваяш, а як назапасіш, то ўсю зіму есьці будзяш*" (тлум. інф.).

**Што людзям, тое і нам.** Крывецкая В.М., 1977 г.н., 1991. Бялавічы Кос.

*"Што будзя людзям, тое й нам, німа чаго загадзя перайманца"* (тлум. інф.).

**Што малое здзярэ, то старое зжарэ.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"І малыя, і старыя ні працуюць. Яны ні могуць прынесьці прыбыток у гаспадарцы"* (тлум. інф.).

**Што пастол зробіць, тое бот не пераробіць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Часам малы начальнік як зробіць, то і высокаму начальніку цяжка перарабіць"* (тлум. інф.).

**Што праўда, то не грэх.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2001. Заполле Кос.

Якая б ні была праўда непрыемная, але трэба з ёю пагадзіцца.

**а) Што торба – то не мех, што праўда – то не грэх.** Букшта В.К., 1938 г.н., 2001. Сенькавічы Падст.

**Што старана, то навіна.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Што ў касцелі, тое і ў пасцелі.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 19800. Заполле Кос.

Пра чалавека, які не бачыць розніцы паміж святочным адзеннем і буднім; пра неахайнасць.

**Шчаняты хутка робяцца, ды сляпыя родзяцца.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2004. Скураты Квас.

Што зроблена хутка, будзе мець кароткі век.

**Шчасліваму і Бог памагае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Шчасце за гарамі, а бяда за плячамі.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

*"Ніхто ні ведая, як стаць шчасьлівым, а бяда – яна вось, побач с табою"* (тлум. інф.).

**Шыла ў мяху не схаваеш.** Мінчук М.Дз., 1930 г.н., 1997. Галенчыцы Ягл.

Таямніца – ці добрая яна, ці дрэнная – вылезе наверх, адкрыецца.

**Яблык ад яблыні далёка не падае.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Якія бацькі, такія і дзеці.

**Я болей забыўся, чым ты ведаеш.** Доўжык С.А., 1976 г.н., 2008. Заполле Кос.

Так адказваюць, калі хто-небудзь пачынае павучаць, даказваць сваё.

**Яго лепш карміць, чым апранаць.** Воўна Г.І., 1964 г.н., 1979. Заполле Кос.

Пра чалавека, які не беражэ вопраткі, адзення.

**Язык доўгі, а розум кароткі.** Серая Т.У., 1977 г.н., 2008. Заполле Кос.

Пра таго, хто плявузгае, што сліна да губы прынясе.

**Языком брашы, а рукам волі не давай.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Гэтае выслоўе – папярэджанне гарачліваму, ахвочаму да бойкі чалавеку.

**Языком мянціць – не рабіць.** Фядосік М.К., 1928 г.н., 1995. Гошчава Стайк.

Размовы весці – не працаваць, рукі не забаляць.

а) **Языком мянціць – спіна не баліць.** Лушчык В.І. 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Яйка курыцу вучыць.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

Выказваюць нездавальненне, калі малодшы папраўляе старэйшага.

**Як адзін крычыць, то другі маўчыць.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2004. Скураты Квас.

*"Сварку тушаць маўчаньнем"* (тлум. інф.).

**Якая матка, такое і дзіцятка.** Мяхведзь К.П., 1925 г.н., 1995. Руда Падст.

Дзеці пераймаюць ад бацькоў характар, звычкі.

**Якая мая мама, такая я сама.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 2000. Заполле Кос.

**Якая шкурка, такая натурка.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2001. Заполле Кос.

Па выглядзе пазнаеш характар чалавека.

**Якая яда, такая хада.** Шчурко Л.М., 1971 г.н., 1985. Заполле Кос.

Як хто пад'еў, так і робіць.

**Як багаты, то і разумны.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

"*Можа, і не хацеў бы, а прыходзіцца слухаць багатаго*" (тлум. інф.).

**Як бацька памрэ, то дзеці напалову сіроты, а як маці памрэ, то круглыя сіроты.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Як бацько памрэ, то маці дзяцей ні пакіня, усё для йіх аддасьць, а як маці памрэ, то бацько пра дзяцей хутко забудзяцца, бо жонку сабе шукая*" (тлум. інф.).

**Як беднаму жаніцца, то і ноч кароткая.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

"*Беднаму заўсёды ні шанцуя*" (тлум. інф.).

**Як Бог красу дзяліў – спала, як Бог шчасце дзяліў – устала.** Лісок Ё.І., 1936 г.н., 1990. Альшаніца Квас.

**Як Бог лесу не зраўнаваў, так і людзей.** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1974. Заполле Кос.

"*Лес ніроўны й людзі ніроўныя*" (тлум. інф.).

**Як Бог не згубіць, то людзі не загубяць.** Шчурко М.Дз., 1941 г.н., 2014. Заполле Кос.

"*Калі бох цябе ні пакіня, то людзей баяцца німа чаго*" (тлум. інф.).

**а) Як Бог не згубіць, то людзі нічога не зробяць.** Шчурко Ф.А., 1926 г.н., 2002. Заполле Кос.

"*Усё ва ўладзе бога. Як бох ні забудзяцца, ні пакіня цябе, людзі нічого ні зробяць*" (тлум. інф.).

**Як будзе добры дагляд, то буду і да Каляд.** Шчурко Л.І., 1949 г.н., 2009. Заполле Кос.

"*Дайней трымаліся сваяцтва. Бывало, памалоцяць збожжа, назапасяць дроў на зіму, тады ходзяць у госьці адзін да аднаго. Гасьцявалі й тыдзень, і другі. Ні чужаліся гэдак, як зара*" (тлум. інф.).

**Як будзе ў людзей, то будзе і ў нас.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Чалавек схільны да пераймання, імкнецца не адстаць ад іншых.

**Як бяда, то не лезе ў рот і яда.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2001. Бялавічы Кос.

**Як возьме свінню сыць, то дагары сцыць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра чалавека, які дурэе з раскошы, вырабляе абы-што.

**Як вядзецца, то і певень нясецца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра ўдачлівага чалавека.

**Як гукнеш, так і адгукнецца.** Гоган А.Д., 1922 г.н., 2002. Заполле Кос.

*"Як ты зь людзьмі, гэдык і людзі да цябе"* (тлум. інф.).

**Як дапячэ, то сам уцячэ.** Трында А.У., 1963 г.н., 1978. Заполле Кос.

*"Як цяшко стане, сам дасьць лататы"* (тлум. інф.).

**Як есць, так і робіць.** Мінчук М.Дз., 1930 г.н., 1997. Галенчыцы Ягл.

*"Хто ў смак, хутко есьць, той і ў рабоці спрытны"* (тлум. інф.).

**Як ёсць грошы, то ўсякі харошы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Нават з фізічнымі недахопамі.

**Як жнуць, то і жонкі людзі.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Даўней у час жніва асноўная работа клалася на плечы жанчыны, тады яна была паважаная асоба.

**Як запрагаюць, то "кось-кось", а як запрагуць, то "но".** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1991. Альшаніца Квас.

Не заўсёды трэба верыць абяцанням.

**а) Як ловяць, то "кось-кось", а як зловяць, то дугою.** Бабей Р.Д., 1911 г.н., 1995. Ёдчыкі Квас.

**Як заскочана, так будзе і заплочана.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Як заскочана – тут: як скакаў, як стараўся працаваць. "*Як рабіў, як стараўся, так і палучыў*" (тлум. інф.).

**Як захочаш сабаку выцяць (вытнуць), то кія знойдзеш.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Калі паставіш перад сабою мэту, то знойдзеш шляхі яе дасягнення.

**Як здароў, то сто сяброў, а як знямог, то адзін Бог.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Хворы ды нямоглы нікому не трэба, аднаму Богу.

**Як з пана пан, то аддасць каравы, а як з мужыка пан, то здзярэ пасталы.** Макарчэня А.М., 1962 г.н., 1978. Заполле Кос.

Мужык, які стаў панам, не мае літасці. Каравы́ – каровы.

**Як зрабіў, так і зарабіў.** Кукса М.П., 1928 г.н., 2001. Куляшы Міл.

Заробак залежыць ад колькасці і якасці зробленага.

**Як зранку, так і да вечара.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Як не пашанцуе чалавеку з маладосці, то і да старасці не будзе шчасціць.

**Як з яйца, так і да канца.** Здзітавец А.У., 1974 г.н., 2012. Заполле Кос.

**Які вецер вее, такі адвявае.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

"*Як ты да чалавека, гэдык і чалавек да цябе*" (тлум. інф.).

**Які купец, такі тавар.** Бялевіч А.Ц., 1909 г.н., 1996. Рацкевічы Міл.

"*Кажны выбірая тавар па сваёй кішэні*" (тлум. інф.).

**Як купіць, то дарага, як прадаць, то танна.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

Цяжка дагадзіць скупаватаму чалавеку.

**Які нарадзіўся, такі і памрэ.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2003. Косава.

**а) З лысінкаю нарадзіўся, з лысінкаю і памрэ.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

У характары чалавека з часам мала што мяняецца.

**Якім рогам дастану, такім і чухаюся.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Як выходзіць, так і жыву"* (тлум. інф.).

**Які палец ні парэж, аднолькава баліць.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

Кожнае дзіця дарагое бацькам.

**Які поп, такі яго прыход.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

У добрага гаспадара ўсюды парадак.

**Які розум, такая і гаворка.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Якія грошы, такі тавар.** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1974. Заполле Кос.

*"Па грашах і тавар"* (тлум. інф.).

**Які цесля – такі клін, які бацька – такі сын.** Верабей М.Ф., 1924 г.н., 1998. Аўсто Стайк.

Бацькі паўтараюцца ў дзецях.

**а) Якое дрэва – такі клін, які бацька – такі сын.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Якія сані, такія і самі.** Серая В.У., 1979 г.н., 1994. Заполле Кос.

*"Кажны заслугоўвая тоя, чаго варты"* (тлум. інф.).

**Як кепска замужам, то наплачашся, як добра, то наскачашся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Як людзі, так і мы.** Прымак М.І., 1919 г.н., 2001. Івацэвічы.

*"Што ўсе людзі робяць, тоя й ты рабі"* (тлум. інф.).

**Як ляжыш, то выгадуеш вош, як бяжыш, то дагоніш грош.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Старанны, руплівы чалавек здабудзе дабрабыт.

**Як мужык з жонкай сварыцца, то ў гаршку трасца варыцца.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

Сваркі бурацъ сям'ю. Без згоды ў сям'і не будзе дастатку.

**Як наварыла, так і еж.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2004. Скураты Квас.

*"Несмач ніхто ні хоча есьці"* (тлум. інф.).

**Як наясіся дабра, то нап'ешся з вядра.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Пасля смачнай, сытнай ежы і вады нап'ешся.

**Як не будзеш раяны, то не будзеш лаяны.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2010. Заполле Кос.

*"Ніколі ні давай парадаў, бо калі твае парады ні спраўдзяцца, здабудзяш непрыяцеляў"* (тлум. інф.).

**Як не вымые рука, то не выпалашча рака.** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1974. Заполле Кос.

Да ўсяго трэба прыкласці рукі, нішто не зробіцца само.

**Як не еў, то не мог, а наеўся, то аблёг.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра гультайства.

**Як не запрог, то не нукай.** Воўна Г.І., 1961 г.н., 1976. Заполле Кос.

Гэткімі словамі абсякуць таго, хто любіць у працы пакрыкваць на іншых.

**Як не палюбіш на брудна, то і на чыста трудна.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2002. Заполле Кос.

*"Калі кавалер ні прыглядзяў дзеўку ў працы, то на гулянцы тым болей"* (тлум. інф.).

**Як не ўкусіць, то ўшчыкне, а ўсё роўна не міне.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Пра надакучлівага, прыдзірлівага чалавека.

**Як ні варочай, адно аднаго карочай.** Здзітавец А.М., 1912 г.н., 1982. Заполле Кос.

Усе людзі розныя па характарах, здольнасцях.

**Якое ехала, такое судасіла.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра няўдалых мужа і жонку. Судасіць – спаткаць.

**Якое карэнне, такое і насенне.** Зайка Е.Я., 1903 г.н., 1983. Заполле Кос.

**Якой мерай мераеш, такой табе памераюць.** Карпенка В.М., 1926 г.н., 1983. Заполле Кос.

“*Як ты да людзей, гэдык і людзі да цябе*” (тлум. інф.).

**Як падмажаш, так паедзеш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

“*Як дасі хабар, то справу зрушыш зь месца*” (тлум. інф.).

**Як памёр Міранец, то ішоў увесь канец, а як памёр Радзючок, толькі поп ды дзячок.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Канец – тут: вуліца. “*Як памрэ багаты, то ўсе йдуць правясьці ў апошнюю дарогу, спадзеючыся на багатую вячэру. А як бедны чалавек памрэ, то чаго да яго йсьці?*” (тлум. інф.).

**а) Як памрэ багаты, то ўсе ідуць у хату, а як памрэ бедачок, то ідзе поп і дзячок.** Ціток А.У., 1905 г.н., 1975. Заполле Кос.

**Як панадзіцца воўк у авечкі, то пакуль усіх не пераваложыць.** Шчурскі У.Ф., 1911 г.н., 1991. Альшаніца Квас.

“*Як завядзецца злодзей у сяле, то цяжко ад яго пазбавіцца*” (тлум. інф.).

**Як папыталі, так адказалі.** Рабчэня У.І., 1940 г.н., 2004. Заполле Кос.

“*Ты да чалавека з павагаю – і да цябе гэдаксама*” (тлум. інф.).

**Як паслаўся, так і выспаўся.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2003. Стайкі Стайк.

“*Як пастараўся, так і маяш*” (тлум. інф.).

**Як пачну лопаць, то за тыдзень локаць, за сорак дзён – гіба вон.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Прыгаворка ткаллі. Локаць – старадаўняя мера даўжыні, роўная прыблізна паўметра. Гіба – мера асновы, палатна даўжынёй на хатнюю сцяну.

**Як пашыеш, так і зносіш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Як пойдзеш нацянькі, то праходзіш тры дзянькі.** Міхнюк В.В., 1968 г.н., 2007. Івацэвічы.

Не заўсёды простая дарога прыводзіць да мэты.

**Як прыйдзе смерць, сарочку знойдзеш.** Доўжык В.Ф., 1906 г.н., 1985. Заполле Кос.

Не трэба марыць пра недасяжнае, аддаленае ў часе, трэба жыць сённяшнім днём.

**Як прыпрэ, то і Кузьму бацькам назаве.** Бурдзь А.М., 1963 г.н., 1978. Заполле Кос.

"*У бядзе кажны шукая люцкой помачы, прыхільнасьці*" (тлум. інф.).

**Як пякла хлеб маці, то быў закалец на палец, стала пячы я, то стала на два.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Закалец – сыры, нявыпечаны хлеб пры ніжняй скарынцы. "*Хлеп сеў на скарынку, бо ні выхадзіўся ў дзяжы*" (тлум. інф.). Кажуць іранічна пра таго, хто смяецца з няўдачы іншага.

**Як п'ян, то капітан, а праспіцца, то свінні баіцца.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

"*Як нап'ецца, то герой, а працьверазея, то забыўся на сваё геройство*" (тлум. інф.).

**Як робіш, так маеш.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2002. Косава.

**Як сеў, так і прыкіпеў.** Бахур Г.В., 1923 г.н., 2002. Яглевічы Ягл.

Пра бестурботнага, нядбалага, бесклапотнага чалавека.

**Як скажа, то не пераржуеш.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра бязглуздага чалавека і яго гаворку.

**Як стукаеш, так і адчыняюць.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

"*Як добра папросіш чалавека, то ён ні ў чым табе ні адмовіць*" (тлум. інф.).

**Як ступіў, то і саграшыў.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

*"Цяшко чалавеку ўстрымацца ад граху, адно спадзяваньне – на божае дараваньне"* (тлум. інф.).

**Як судзінка поўна, то й гаспадынька моўна.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Судзінка – бочка ці скрыня, у якую ссыпалі збожжа. *"Як поўная камора прыпасаў, тады й гаспадыня нешчо варта і да яе голасу прыслухоўваюцца"* (тлум. інф.).

**а) Як поўная скрыня, то і я гаспадыня.** Савосціна В.І., 1930 г.н., 2003. Косава.

**Як сучка не схоча, сабачка не скоча.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Не жыццёвыя абставіны, а распуста прыводзіць да граху.

**Як схочаш, то вяроўку на шыю знойдзеш.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Без старання, хацення выніку не даб'ешся.

**Як сцячэ, то і кепская гаспадыня хлеба напячэ.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Як ураджайны гот, і мука сыпляцца, цячэ ж жорноў, то кажная гаспадыня хлеп напячэ"* (тлум. інф.).

**Як топішся, то і за брытву хопішся.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

У цяжкім, безвыходным становішчы шукаеш паратунку, выкарыстоўваеш апошні шанц.

**Як трывога, усе да Бога, а па трывозе – забыліся аб Бозе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Да бога заўсёды зьвяртаюцца ў няшчасьці, а пакінула бяда – і бох ні патрэбян"* (тлум. інф.).

**Як ты да Бога, гэтак і Бог да цябе.** Валах М.А., 1937 г.н., 2009. Бялавічы Кос.

*"І да бога, і да людзей трэба быць шчырым, праўдзівым"* (тлум. інф.).

**Як ты да людзей, так людзі да цябе.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра ўзаемапавагу.

**а) Як ты да мяне, так і я да цябе.** Максімчык В.У., 1936 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

**Як у голаў зайдзе, то і на печы знайдзе.** Верабей К.С., 1963 г.н., 1978. Заполле Кос.

**Як хачу, так па бацьку плачу.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Чалавек вольны ў паводзінах.

**Як хлеб на возе, то няма бяды ў дарозе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Г. зн. галодны не будзеш.

а) **Як хлеб у возе, то і абед у дарозе.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

**Як хочаш памагчы, то лепей памаўчы.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2002. Скураты Квас.

Часам парады чужога чалавека дакучаюць, збіваюць з толку.

**Як хто есць, так і робіць.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2002. Размеркі Стайкі.

**Як чалавек здаровы, то і багаты.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Як чуюць, то начуюць.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Да добрага, спагадлівага чалавека прытуліцца кожны, тым болей жабрак.

**Як яны людзі, то і я чалавек.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Як альбы-які прымаюць за людзей, то й мяне лічэця чалавеком"* (тлум. інф.).

**Яму Бог не дагодзіць.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2003. Косава.

*"Пра буркліваго, усім не задаволенаго чалавека"* (тлум. інф.).

**Яму гавары, а ён дагары.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2001. Заполле Кос.

Пра непаслухмянага, упартага чалавека.

**Яму хоць плюй у вочы, скажа: дождж ідзе.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра бессаромнага чалавека.

**Я не зямля, усіх не пабяру.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2004. Скураты Квас.

Так кажа той, хто не хоча ці не можа памагчы.

**Я не людзі, але і ты не чалавек.** Галабурда Л.П., 1962 г.н., 1978. Заполле Кос.

Так кажуць у адказ на абвінавачанне ў дрэнных паводзінах.

**Я не сонца: усіх не сагрэю.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Кажуць, калі дзеці спадзяюцца на дапамогу старых, ужо нямоглых бацькоў.

**Ятроўка горш за воўка.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Ятроўка – мужава сястра.

**Яшчэ таго Бог не ўрадзіў, хто б д'яблу дагадзіў.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Так кажуць, калі хочуць падкрэсліць нясцерпны характар чалавека.

# ПРЫКМЕТЫ З НАРОДНАГА КАЛЕНДАРА, НАЗІРАННІ

**Авёс гаворыць: “Сей мяне ў гразь, то будзеш князь”.** Пястрак С.Д., 1907 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

**Боб цвіце, сабака ліняе, бедны гаспадар хлеба не мае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

“*Якрас калі цьвіце боп і да новага ўраджаю далёко, а старых запасоў німа, у сялянскай гаспадарцы наступая бясхлебіца*” (тлум. інф.).

**Бусел кажа: “Удаўлюся, удушуся, але на дванаццатым тыдні вярнуся”.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. на дванаццатым тыдні пасля Калядаў.

**Варвары кусок ночы ўварвалі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

4 (17) снежня – дзень святой Варвары; неўзабаве пасля яго паступова пачынае большаць дзень, меншае ноч.

**Грамніцы – палова зіміцы.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2001. Заполле Кос.

Грамніцы – свята, якое адзначаецца 2 (15) лютага.

**Гром на крыгу – халодная вясна.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Гуляй, кіёк, апошні дзянёк, заўтра Пакровы – пасякуць на дровы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

На Пакровы (14 (27) кастрычніка ) жывёлу ўжо не выпускалі на пашу.

**Гусі ляцяць нізка – зіма блізка.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

**Да Благавешча і зімы не лай, і саней не хавай.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Благавешча – Благавешчанне, свята, якое прыпадае на 25 сакавіка (7 красавіка).

**Да Святога Духа не скідай кажуха, і па Святым Дусе ў тым самым кажусе.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Да Святога Духа – да свята Сёмухі (Тройцы), праз сем тыдняў пасля Вялікадня.

**Дзе мухаморы, там і баравікі.** Таўрэль У.А., 1938 г.н., 1995. Була Міл.

**а) Дзе чырвоныя мухаяркі, там і баравікі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Мухаяркі – мухаморы.

**Дождж у маю – хлеб гультаю.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2010. Размеркі Стайк.

*"Дошч у маі на добры ўраджай"* (тлум. інф.).

**Жаваранак прылятае на праталіну, шпак на прагаліну, журавель з цяплом, а ластаўка з лістом.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос

**Жураўлі ляцяць высока – зіма яшчэ далёка.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Зімні дзянёк, што камарыны насок.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2001. Заполле Кос.

Г. зн. кароткі, малы.

**Зіму завалачы ў летнік.** Пястрак С.Д., 1907 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

*"Значыць, сані завалачы ў падпаветку"* (тлум. інф.).

**Ілля нарабіў гнілля.** Ціток Н.П., 1963 г.н., 1978. Заполле Кос.

*"Здараяцца, шчо ў пачатку жніўня часта йдуць дажджы, на жніво й сенакос"* (тлум. інф.).

**І ў дурня трэба, каб было сена на Юр'я.** Ціток А.У., 1905 г.н., 1975. Заполле Кос.

Адзначалася два Юр'евы дні: 23 красавіка (6 траўня) – "галодны" і 26 лістапада (9 снежня) – "халодны". Тут: веснавы.

**Калі год сухі, купляй пчолку, а калі мокры, купляй кароўку.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"У сухі гот – кветак много, калі год мокры – парасьце трава"* (тлум. інф.).

**Калі грыбна, то і хлебна.** Касавец Р.В., 1913 г.н., 1995. Азярцо Падст.

Дажджы спрыяюць росту як грыбоў, так і збажыны.

**Калі зязюля закувала на голы лес, то галодны год будзе.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2005. Размеркі Стайк.

**Калі зязюля прыляціць, то ўжо вока закрые лістком.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Калі ўперад вольха распусціцца, то будзе мокры год, а як бяроза, то сухі.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Камары мак таўкуць – будзе цяпло.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2006. Косава.

**Касі каса, пакуль раса, раса спала, каса стала.** Гоган І.Я., 1931 г.н., 2004. Заполле Кос.

**Кот дзярэ кіпцюрамі дрэвы, рэчы – на змену надвор'я.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

**Куры шурпяцца – на змену надвор'я.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

Шу́рпяцца – натапырваюцца.

**Куры цярэбяцца і купаюцца – дождж будзе.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1982. Заполле Кос.

**Ластаўка дзень пачынае, а салавей канчае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Маладзік рогі задраў – на пагоду.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Марац адмарозіць палец.** Зайка А.Ф., 1937 г.н., 2005. Косава.

Пра магчымыя маразы ў сакавіку. Марац – сакавік.

**Марка косіць сена шпарка, а прыйдзе мароз – паклаў ды павёз.** Стась І.В., 1912 г.н., 1998. Заполле Кос.

**Мікола галодны і халодны.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Дзень святога Міколы святкуецца двойчы: 9 (22) траўня і 6 (19) снежня. У траўні, калі канчаліся запасы, Мікола быў галодны, другі Мікола адзначаўся ў снежні, калі ўжо холад на дварэ.

**Многа снегу – многа хлеба.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2006. Грыўда Міл.

**На Благавешчанне бусел яйцо знясе.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Благавешчанне – свята, якое адзначаецца 25 сакавіка (7 красавіка).

**На Благавешча птушка гнязда не ўе, а дзеўка касы не пляце.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Благавешчанне лічылася адным з найважнейшых святаў. У той дзень звычай забараняў амаль усе работы.

**На Галавасек ігруш нельга есці, бо скулы апануюць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Галавасек – "адсячэнне галавы" хрысціцеля Іаана, адзначаецца 29 жніўня (11 верасня).

**На Грамніцы нап'ецца певень вадзіцы.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**На Пятра – пару булачак напякла, а на Іллю – цэлую печ налью.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пятро – свята, якое адзначаецца 29 чэрвеня (12 ліпеня). Ілля – свята, якое адзначаецца 20 ліпеня (2 жніўня).

**а) На Пятра прыпякла, а на Іллю поўну печ налью.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**б) На Яна нажала, на Пятра напякла, а на Іллю поўну печ налью.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**На Юр'я валам дай, а сам на печ уцякай.** Ціток А.У., 1905 г.н., 1975. Заполле Кос.

Юр'е – свята, якое адзначаецца 23 красавіка (6 траўня).

**Не паліняла да Яна, хай ідзе да другога пана.** Маскалюк В.С., 1928 г.н., 1975. Заполле Кос.

У простым сэнсе: як не паліняла карова да 7 ліпеня, да Яна, не паправілася на пашы, гэта благая карова, трэба яе збываць. У пераносным сэнсе: не справіўся чалавек з работай у вызначаны тэрмін, не трэба з ім мець ніякіх справаў.

**Ноччу трашчыць, а днём плюшчыць.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Гэдак гавораць пасьля Крашчэньня. Бо ўжэ дні большыя сталі, сонца днём много, а ноччу ўсё роўно зіма бярэ сваё"* (тлум. інф.).

**Паляцелі жураўлі – полудзень паняслі.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980.

Полудзень – тут: абед. Дні ў восені кароткія.

**Піліп дзеці адзявае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"У Пiліпаўку кудзелю прадуць, а ў Мясает ткуць"* (тлум. інф.).

**Прыйшла Пакрова – стала карова.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пакрова – свята, якое прыпадае на 1 (14) кастрычніка.

**Прыйшоў Багач, кідай рагач, бяры сявеньку і сей памаленьку.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Багач – свята, якое прыпадае на 8 (21) верасня.

**Прыйшоў Пятрок – апаў лісток, прыйшоў Ілля – апала два, прыйшло Успленне – пакрыла карэнне.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Пра наступленне восені. Пятрок, Ілля, Успленне – святы, якія прыпадаюць на 29 чэрвеня (14 ліпеня), 20 ліпеня (2 жніўня) і 15 (28) жніўня.

**а) Прыйшоў Пятрок – апаў лісток, прыйшоў Ілля – пытаецца, ці ёсць ралля, прыйшло Успленне – пытаецца, ці ёсць насенне, прыйшоў Спас – пытаецца, ці ёсць запас, прыйшоў Багач – кідай рагач, бяры сявеньку і сей памаленьку.** Мяцечка У.А., 1923 г.н., 2004. Мілейкі Міл.

**б) Прыйшоў Пятрок – апаў лісток, прыйшоў Ілля – апала два, прыйшло Успленне – пасыпалася насенне.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Пытае Ілля, ці гатова ралля, а Успленне, ці гатова насенне.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Звычайно да Ільлі кажны гаспадар стараўся зраліць палеток, а ўжэ пасьля Успленьня, ці, як казалі, першай Прачыстай, пачыналі сеяць азімае жыто"* (тлум. інф.). Зраліць – заараць.

**Сабака качаецца з боку на бок – чакай змены надвор'я.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

**Свіння збірае па надворку салому і носіць у хлеў – унačы дождж будзе.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

**Сухі марац, мокры май – будзе жыта, нібы гай.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Трашчы, не трашчы – прайшлі Крашчы (Вадохрышчы).** Крывецкая В.М., 1952 г.н., 2006. Бялавічы Кос.

Лічылася, што пасля Вадохрышча (6 (19) студзеня) вялікіх маразоў ужо не будзе.

**Увосень – работ восем.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Удушуся, удаўлюся, а на сёмым тыдні акажуся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"На сёмом тыдні пасьля Каляд прылятая з выраю жаваранок"* (тлум. інф.).

**У марцы, як у гарцы.** Вясна А.А., 1901 г.н., 1980. Заполле Кос.

Гарнец – мера сыпкіх рэчываў, звычайна мералі зерне. Пра няўстойлівае сакавіцкае надвор'е, *"перамешанае, як у гарцы"*.

**У Якуба адна рахуба: або забіць, або спаліць.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Якуб – прысвятак. Ва ўніятаў прыпадае на 25 ліпеня. У гэты дзень здараліся навальніцы з маланкай і громам.

**Як грыміць гром на голы лес, то будзе галодны год.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2002. Косава.

**Як зязюля кукуе, каб хоць вока закрыць лісток быў, то добры год будзе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Як на Грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, то будзе мокрае лета.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1987. Заполле Кос.

**а) Як на Грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, то на Юр'я наліжацца вол травіцы.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Як на рожках маладзіка можна павесіць вядро – будзе дождж, нельга – дні будуць пагодлівыя.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

# ЖАРТЫ, КАЛАМБУРЫ, ПРЫГАВОРКІ

**Або грай, або грошы аддай.** Рабчэня У.І., 1940 г.н., 1986. Заполле Кос.

Так кажуць лянівому музыку.

**Або сяк, або так, няхай будзе з рыбы рак.** Голуб І.В., 1931 г.н., 1998. Скураты Квас.

Пра згодлівага чалавека, зычлівага, што любіць пажартаваць.

**Абы ў цягнік трапіць, а месца знойдзецца.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Так кажа чалавек, поўны аптымізму, які ніколі не траціць надзеі на станоўчае развязанне справы.

**Ад капусты трыбух тлусты, ад бацвіння – пасі свіння.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

"*Капусту вараць з затаўкай, а бацьвіньня – поснае. Вось і пасылаюць пасьвіць сьвіньня, кап было чым закрасіць і бацьвіньня*" (тлум. інф.). Бацвінне – страва з лісця сталовых буракоў.

**"Адкуль, дзеўка?" – "З Цягуж". – "А замуж хочаш?" – "Чаму ж". – "А кросны ткаць умееш?" – "Цьфу ты, ліха прычапілася".** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

**Адразу з'ямо тваё, а потым кожны сваё.** Ціток І.І., 1951 г.н., 1996. Заполле Кос.

Так жартуюць, калі гуртам выконваюць якую-небудзь працу, а пад час абеду садзяцца есці ўзятае з дому.

**"А можа?" – "Можа надвое варожа".** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

У кожнай справе не варта спадзявацца на шанцаванне.

**"А ці добра было ў гасцях?" – "Ой, добра. Усяго было: і піці, і есці – толькі прымусу не было".** Шчурко Ф.А., 1926 г.н., 1999. Заполле Кос.

**Байструк – божы струк, не хадзі на поле, бо бадзяк закоде.** Лунь К.І., 1924 г.н., 2002. Заполле Кос.

Байструк – пазашлюбнае дзіця.

**Без бульбы няма ходу, толькі жывот як калода.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"Хоць жывот вялікі, беларусу бяз бульбы ніяк нельга жыць"* (тлум. інф.).

**Без драбіны ўсе чэрві з яблыні пазбірае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра высокую жанчыну.

**Без падмазкі і без краскі, як кабылка без хваста.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

З пэўнай доляй гумару так кажуць пра маладзіцу, якая не абыходзіцца без касметыкі.

**Без стуку, без груку павезлі як суку.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Суседка замуж дачку аддала, безь вясельля, бо радзіць пара, то бяс стуку, бяз груку павязьлі як суку"* (тлум. інф.).

**Белых блох наеўся ды лёг, а чорны блох – усё "трох" ды "трох".** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*"Белыя блохі – гэто картоплі, чорны блох – гэто блохі. Тут: наеўся картоплёў ды лёг атпачыць, адна бяда – блохі кусаюць"* (тлум. інф.).

**Бі сваіх, каб чужыя баяліся.** Рабчэня У.І., 1940 г.н., 1999. Заполле Кос.

Так жартам кажуць, калі б'юцца паміж сабою сваякі ці аднавяскоўцы.

**Бульба смажана, пячона, бульба сёння, бульба ўчора.** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 2001. Руда Падст.

**Бывае, і каўбаса страляе.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

*«Ехоў чалавек поначы с Косава. А дарога ішла празь лес. Выйшлі бандзіты: "Давай, дзядзько, грошы!" А ён палез у торбу, дастаў каўбасу, што купіў у косаўскаго жыда, наставіў: "Цякайця, а то страляць буду!" Перапалохаліся тыя ды ходу. А дзядзько прыехоў дахаты ды кажа: "Бывая, і каўбаса страляя"»* (з аповеду інф.).

**Была сіла, як маці насіла, а кінула насіць – дык і сілы не стала быць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*“За мáцярынымі плячыма ўсе разумныя, спрытныя да лоўкія, а як ні станя мацяры, дык і марнея ўсё”* (тлум. інф.).

**Велькі пан, бо носіць чырвоны каптан!** Мяцечка У.А., 1923 г.н., 2004. Мілейкі Міл.

Гэтак смяюцца з чалавека-задавакі.

**Вялікі пасе індыќі, а малы жане валы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Ж а н е – гоніць. У гэтым жартоўным выслоўі ўсё наадварот: гэта ж вялікі павінен пасвіць валы, а малы – індыкі.

**Габлюй, сынку, я сякераю папраўлю.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

*«Сын габлюя дошку, але неакуратна, абы-як. Бацька глядзіць і кажа: “Габлюй, сынку, габлюй, я сякераю папраўлю”. І цяпер, калі бачаць няўмелага работніка, кажуць: “Габлюй, сынку, я сякераю папраўлю”»* (з аповеду інф.).

**Гарачае сырым не бывае.** Лісок М.І., 1932 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*«Паставіла гаспадыня на стол мяса ды бядуя, просіць прабачэньня ў госьця: “Выбачай, кумок, можа, трохі й ні даварана”. Кум пабачыў цэлую міску мяса і кажа: “Нічого, кумачка, гарачае сырым не бывая”»* (з аповеду інф.).

**“Гарэлка, ты, гарэлка, гарна ты, як дзеўка. А пашпарт у цябе е?” – “Няма”. – “Ну, вось табе і турма!”** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Так прыгаворвае жартаўнік перад тым, як выпіць чарку.

**Гарэлка як мядок, сама просіцца ў раток.** Голуб І.В., 1931 г.н., 1982. Скураты Квас.

Так прыгаворваюць у час бяседы.

**Гаспадар за чарку, гаспадыня за скварку.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Так кажуць, калі ў хату прыйшоў нечаканы госць.

**Гонар, гонар маладому, пасе качкі каля дому.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Так смяюцца з хлопца, які лічыць сябе дарослым.

**Гора скача, гора плача, гора песенькі пяе.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"Гора ні дасьць спакою: і заскачаш, і заплачаш, а надакучыць гараваць, то будзяш песенькі сьпяваць"* (тлум. інф.).

**Госпадзі, забі таго да смерці, у каго жонка хароша і многа грошай.** Лісок М.І., 1932 г.н., 1999. Альшаніца Квас.

Хароша – прыгожая. Так смехам кажа чалавек, якому не шанцуе.

**Госць, не дзьміся, а еж, што ў місе.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

**Гуляй, тата, заўтра свята, а па сваце будзе гуляць маці.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Перад святам жанчына ў клопатах, у турботах, муж вольны ад іх. А пасля свята ўжо жанчына вольная, можа даць сабе спачынак.

**Гэта ж твой бацька, як валы краў, то хлявы зачыняў, а ты хаты зачыніць не хочаш.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Кажуць таму, хто не зачыняе за сабою дзверы.

**Гэтак есці хочацца, што начаваць няма дзе.** Шыманчык А.П., 1941 г.н., 2001. Скураты Квас.

**Гэта не бык, што карова бора, гэта не мужык, што жонка б'е.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Гэта не бяда, як п'ецца вада.** Лушчык Л.І., 1958 г.н., 2008. Альшаніца Квас.

Вада п'ецца пасля сытнага абеду.

**Гэта не кум, што на куме не быў.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Гэтую бяду я рукамі развяду.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Такімі словамі супакоіць аптымістычны чалавек.

**Дай, Божа, хлопца нежанатага, але багатага.** Шчурко Ф.А., 1926 г.н., 2001. Заполле Кос.

Так прыгаворваюць, жартуюць маладыя дзяўчаты.

**Дай сала хлеб даесці.** Пястрак С.Д., 1907 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

*"Сала не ва ўсіх даўней было, то часам жартам пыталі, калі бачылі ў іншага добры кусок сала"* (тлум. інф.).

**Даўно было і ўжо быллём зарасло.** Банасевіч М.В., 1924 г.н., 1995. Гошчава Стайк.

**"Дзве каровы, два валы – наш пасаг не малы". – "Едзьце, едзьце дахаты – ваш пасаг багаты".** Собаль А.С., 1927 г.н., 2010. Заполле Кос.

Жартуюць, калі сватаюць дзяўчыну.

**Дзе п'юць, там і льюць.** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 1997. Бялавічы Кос.

Так супакойваюць таго, хто ненаўмысна разліе што-небудзь за сталом.

**Дзе сеў, там і злез.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

Пра лайдака, гультая. *"На яго дзе сеў, там і зьлес"* (прыклад інф.)

**"Дзе ты гэта чуў?" – "Сарока на хвасце прынесла".** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

**"Дзеці, дзеці, і дзе вас падзеці? Ці прадаць, ці цыганам аддаць?"** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1995. Альшаніца Квас.

Так часам жартуюць з сябе, з сваёй вялікай, шумлівай сям'і.

**Дзякуем за тую, наліце другую.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2004. Грыўда Міл.

Так прамаўляюць у час бяседы, калі жадаюць яшчэ выпіць.

**Дзякуй гэтаму дому, пойдзем к другому.** Зайка У.В., 1931 г.н., 1979. Заполле Кос.

Так кажуць, развітваючыся пасля добрага пачастунку.

**Дзякуй за абед, што наеўся дармаед.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Так прыгаворваюць пасля добрага абеду, устаючы з-за стала.

**Дзякуй за хлеб, кашу, а яшчэ за ласку вашу.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2001. Скураты Квас.

Гэтак дзякуюць гаспадыні за пачастунак пры развітанні.

**Добры нос за сто вёрст гарэлку чуе.** Жук А.І., 1934 г.н., 2004. Уласаўцы Жытл.

Жартуе чалавек, як неспадзявана трапіць на пачастунак.

**Добрыя ўсе пайшлі, адно смецце засталося.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так смяюцца з дзяўчат-перарosткаў, векавух.

**Дурная галава заўсёды баліць.** Дакучыц С.Р., 1929 г.н., 1996. Ятвезь Квас.

Жартуюць з чалавека, які скардзіцца на боль галавы.

**Еду па жонку пятую, судзі, Божа, па дзясятую.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Еж, дурню, бо то з макам.** Емяльянчык В.А., 1957 г.н., 2009. Івацэвічы.

*"Гэтымі словамі ўшчуваюць малого, які ні хоча есьці"* (тлум. інф.).

**Еж, пакуль рот свеж. Памрэш – калом не ўвапрэш.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Еж, хоць расперажыся, але рабіць не ляніся.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2001. Заполле Кос.

**Ежце, госцейкі, ежце, усё роўна свінням выліваць.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

Жартуюць пад час бяседы.

**Ежце, ежце ды паляжце.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Пасмяюцца, пажартуюць у час сытнага, смачнага абеду.

**Жаніся, каб дурні не звяліся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1997. Альшаніца Квас.

Так жартам бласлаўляюць сына на шлюб.

**Жывем, пажываем, дабра нажываем.** Белая Л.В., 1974 г.н., 2014. Івацэвічы.

Звычайна так адказваюць таму, хто папытаецца пра жыццё.

**Жывем, як за царом Гарохам: снег гарыць, саломай тушым.** Ціток І.М., 1938 г.н., 2014. Заполле Кос.

**Задарма і тата маму не пацалуе.** Лушчык Л.І., 1958 г.н., 2012. Альшаніца Квас.

Так адказваюць, калі хто просіць дапамагчы ў якой-небудзь справе без аплаты.

**а) За так і мужык жонку не пацалуе.** Кучук І.М., 1938 г.н., 1998. Альшаніца Квас.

**За лежняю няма калі пасядзець.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2002. Косава.

*"Як жывеш?" – "Работы много. За лежняю німа калі пасядзець"* (з апаведу інф.).

**Зарабіць не зарабіў, але нарабіўся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніцы Квас.

Прыгаворка з калгаснага жыцця.

**За работаю і памерці не будзе калі.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Жартуюць з рупліўца, які без працы і хвілінкі не пасядзіць.

**З Богам, Параська, добра, што чалавек знаходзіцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1996. Альшаніца Квас.

Жартаўлівае пажаданне дзяўчыне, якая заседзелася ў дзеўках і ўрэшце ідзе замуж.

**З вялікага выбору выбераш засёру.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Пра пераборлівых кавалера ці дзяўчыну.

**Здароў, каб па табе поп зароў.** Лісок М.І., 1932 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Грубаваты жарт у адказ на прывітанне.

**З'еж акрайчык – будзе сын Мікалайчык.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2005. Размеркі Стайк.

Вясёлы жарт у час абеду.

**Злодзей на злодзею едзе, злодзеем паганяе.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Пра злачынную хеўру.

**Злосці – поўныя косці.** Шарубейка І.М., 1934 г.н., 2003. Воля Жытл.

Часам кажуць нястрымнаму, гарачліваму чалавеку.

**Знайшлі смешкі з бабінае плешкі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1994. Альшаніца Квас.

Так кажуць у абарону жанчыны, з якое кпяць, смяюцца.

**Знаць не знаю, ведаць не ведаю.** Паўлоўская Т.М., 1948 г.н., 2013. Косава.

Так адкажа чалавек, у якога пра нешта пытаюць.

**Зубы то зубы, але й каню далі!** Лісок М.І., 1932 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

*«Конь зубы выбіў хлопцу, а сябры суцяшаюць: "Зубы то зубы, але й каню далі"»* (з аповеду інф.).

**Зямлі скварка, а людзям чарка.** Шыманчык М.А., 1949 г.н., 2002. Заполле Кос.

Грубы жарт пра смяротнасць чалавека.

**Зяць на парог, а цешча за яйцы.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

*"Ні пасьпея зяць у хату зайсьці, як цешча хуччэй бяжыць яечню смажыць"* (тлум. інф.).

**І дай – гаворацць, і не дай – гаворацць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1994. Альшаніца Квас.

Так жартуюць з сябе жанчыны.

**Ідзі замуж, пускай жабракі на свет.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1994. Альшаніца Квас.

Так жартам бласлаўляюць дачку на шлюб.

**Ім не дай зарабіць, ім дай нарабіцца.** Кармановіч І.Г., 1967 г.н., 1995. Косава.

Жартоўная, трапная характарыстыка, якую давалі жыхары мястэчка Косава вяскоўцам з Заполля. А яшчэ так кажуць пра тых, для якіх сама праца – шчасце.

**І на зайчыкі стралец, і да дзевак маладзец.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Пра ўдалага дзецюка.

**Каб жыць у шчасці, трэба красці, красці, красці.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 1995. Заполле Кос.

Выслоўе, якое з'явілася ў савецкі час.

**Казак на каня – будзе сеча.** Стась І.В., 1912 г.н., 1998. Заполле Кос.

З пэўнай доляй іроніі, жартам кажуць пра зуха, малойца.

**Калі хлопец пракос пройдзе і плот загародзіць, то можа жаніцца.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

*"Так даўней казалі старыя людзі, жартуючы с хлопцаў"* (тлум. інф.).

**"Калі ты ўрэшце ажэнішся?" – "Каб жонка есці не пытала, то ажаніўся б".** Рабчэня Т.І., 1942 г.н., 2005. Заполле Кос.

**"Калі тое было?" – "Калі ты пеша пад стол хадзіў".** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. вельмі даўно.

**Каму вінаваты – усім дарую.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2005. Скураты Квас.

Так пажартуе той, хто абцяжараны даўгамі.

**Кароста – хвароба не проста.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Смяюцца з таго, хто захварэў на каросту.

**Кахаліся – цукеркі насіў, а расставаліся – назад прасіў.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Квасок з трасок.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1984. Заполле Кос.

Г. зн. з усяго, што трапілася пад рукі. Так згатаваць умее толькі кемлівая, здатная гаспадыня. К в а с о к (памянш. ад квас) – суп, галоўны кампанент якога – сушаныя грыбы.

**Крадзенае заўсёды смачнейшае.** Жук А.І., 1934 г.н., 2004. Уласаўцы Жытл.

Так апраўдваюць сябе тыя, хто пакарыстаўся чужым.

**Крупіна за крупінаю бегае з дубінаю.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Жартуюць, калі нястача ў сям'і, калі пусты, рэдкі крупнік.

**Лепш замуж пайсці за альшаніцкага пастала, чым за квасевіцкага бота.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1995. Альшаніца Квас.

Мясцовая показка. Гаварылі так дзяўчаты з Альшаніцы, бо яны ганарыліся сваёй вёскай, у якой былі ўсе выгоды: і лес, і рэчка, – чаго не было ў суседніх Квасевічах.

**Лысы, на чужых падушках косы пагубіў.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2004. Заполле Кос.

Косы – валасы. Так кажуць, калі хочуць пасмяяцца з лысага чалавека.

**Людзі не свінні, усё з'ядуць.** Жаліс Э.В., 1939 г.н., 2001. Няхачава Стайк.

Грубы жарт пра ўсёеднасць чалавека.

**"Маж, зяцёк, масла, маж!" – "Мажу, цешча, мажу". – "Не, ты не мажаш, ты кавалкамі кладзеш!"** Бакавец М.М., 1958 г.н., 2002. Івацэвічы.

**Мужык – пакуль сіла, баба – пакуль жыва.** Ганчарэня Л.А., 1947 г.н., 1983. Заполле Кос.

Тут: мужык – муж, баба – жонка. Жартоўнае выказванне пра сэксуальныя магчымасці мужчыны і жанчыны.

**Мы з табою радня: твой бацька ў майго парася купіў.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Кажуць, калі нехта набіваецца ў сваяцтва.

**Мы з табою, як рыба з вадою: рыба – пад лёд, а мы – кабыле пад хвост.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

Так часам іранічна характарызуюць людзі сваё сяброўства, сваю блізкасць.

**Мыш капіцы не баіцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так жартуе малая хударлявая жанчына, у якое тоўсты, грузны муж.

**"Мяса любіш?" – "Люблю". – "То ідзі да ваўка служыць".** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Набок з дарогі, едзе пан крываногі.** Здзітавец М.М., 1885 г.н., 1965. Заполле Кос.

Жартоўная прыгаворка, якой праганяюць людзей, што замінаюць праезду.

**На бязлюддзі і мы людзі.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Так пасмяецца з сябе чалавек з пачуццём гумару.

**На двары мароз, а пад носам адліга.** Папко Т.Ф., 1906 г.н., 1995. Мілейкі Міл.

Жартуюць з смаркатага чалавека.

**Наеўся, аж кішка прутам стала.** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

Кажуць пасля добрага пачастунку.

**Наеўся, напіўся і на бок паваліўся.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1984. Заполле Кос.

Гэткімі словамі выказваюць вялікае задавальненне пасля сытнай ежы.

**Наеўся так, што пальцам можна дастаць.** Грэцкі У.М., 1910 г.н., 1982. Бялавічы Кос.

Жартуюць пасля добрага абеду.

**Наехала гасцей з усіх валасцей.** Шчурко Ф.А., 1926 г.н., 2000. Заполле Кос.

Так пажартуюць, так кажуць, калі гасцей поўная хата.

**На капейку выпіў, а на рубель задаецца.** Лісок Ё.І., 1936 г.н., 1992. Альшаніца Квас.

**На капейку выпіў, а так свае дурасці хапае.** Макарчэня А.У., 1973 г.н., 1988. Бялавічы Кос.

Так жартуюць з п'янага чалавека.

**На мацяру пабажуся, а на бацьку не бяруся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Трохі мудрагеліста так адкажа той, у каго запытаюць, хто яго маці ці бацька.

**Наперадзе сабакі бягуць, а ззаду паны едуць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Так весела кпяць з таго, хто ў рабоце вырываецца наперад, выпярэджвае ўсіх.

**Не буду дзьвіцца, няхай казырыцца, вакол пуза абвяду, можа, козыра знайду.** Жаліс Э.В., 1939 г.н., 2003. Няхачава Стайк.

Так кажуць, калі гуляюць у карты. Дзьвіцца – глядзець.

**Не ліжы таўкача – цешча лысая будзе.** Шыманчык А.П., 1941 г.н., 2001. Скураты Квас.

Жартоўная прыкмета, жартоўнае папярэджанне.

**Не наеўся – не налiжашся.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 1986. Заполле Кос.

*«Ні пасьпеў зрабіць за дзень, а ўжэ цямнея. Чалавек сьпяшаяцца, з усяе сілы стараяцца закончыць. І, бачна, – ні пасьпея. Тады яму скажуць: "Ні наеўся – ні наліжасься. Заўтра будзя дзень"»* (тлум. інф.).

**Не праганяю, але проша вон.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Так жартоўна кажуць таму, хто заседзеўся ў гасцях.

**Не той чарвяк, што мы ямо, а той, што нас есць.** Жылка І.С., 1947 г.н., 1999. Заполле Кос.

Жартуюць, калі ў садавіне пападзецца чарвяк.

**Ні самому падзьвіцца, ні людзям паказаць.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

*"Пра няўдалую, непрыгожую жонку, нявестку"* (тлум. інф.). Падзьвіцца – паглядзець.

**Нічога, што сыраватае, у жываце даварыцца.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Так кажа непераборлівы ў ежы чалавек.

**Нос свярбіць – гарэлку чуе.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1990. Альшаніца Квас.

Жартоўная прыкмета.

**Няма лепшага зелля, як жонка на пахмелле.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Так жартуюць мужчыны пасля ўчарашняй бяседы.

**Няма хлеба, то будзем аладкі есці.** Лісок М.І., 1932 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Жартоўнае выказванне, поўнае аптымізму.

**Няхай лепей жывот лопне, чым дабро прападзе.** Ганчарэня Л.А., 1947 г.н., 1999. Заполле Кос.

Так жартуе з сябе гаспадыня, даядаючы тое, што засталося пасля бяседы.

**“Ой, нешта будзе!” – “Нешта будзе: ці гусь, ці качка”.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2014. Размеркі Стайк.

Гэтак суцяшаюць чалавека, які хвалюецца, трывожыцца.

**От, гадота, не адарвеш ад рота.** Лісок Ё.І., 1936 г.н., 1988. Альшаніца Квас.

Так жартуюць мужчыны пра гарэлку.

**Ох, цямне́ мае!** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2011. Заполле Кос.

Прыгаворка, якой выказваюць вялікае здзіўленне.

**Пад’елі? Акыш на седала!** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

Так жартам выпраўляюць дзяцей пасля вячэры спаць. Тут відавочная паралель з курамі, якія, падзяўбаўшы зерня, садзяцца на седала.

**Пакуль жыў буду, не забуду.** Ціток І.І., 1951 г.н., 1999. Заполле Кос.

Пра нейкі незвычайны выпадак, што моцна засеў у памяці.

**Панаядаліся, аж папругі паадпускалі.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

Так дзякуюць гаспадарам за добры пачастунак. «*Яшчэ кажуць: “Наеліся пад завязку”*» (тлум. інф.).

**Пані на ўсе сані.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1983. Заполле Кос.

Так жартуюць з тоўстай, мажной жанчыны.

**Пасадзіў бы за душу, ды баюся, што задушу.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2001. Скураты Квас.

Так муж жартуе з любае жонкі.

**Пасля кашы няма пашы.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

“*Пасьля сытнага абеду ўжо гараць ні хочацца*” (тлум. інф.).

**Першая чарка калом, а другая сакалом.** Міхнюк В.В., 1938 г.н., 1979. Размеркі Стайк.

Гэта бяседны жарт.

**Пі і еж, пакуль жывеш, як памрэш – калом не ўвапрэш.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Гэтак жартуюць пад час бяседы з таго, хто адмаўляецца выпіць чарку.

**Плясь у кашу, добра, што не ў нашу.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

*"Так скажуць, пасьмяюцца, калі нешчо трапіло ў ежу: вугольчык, муха ды інш."* (тлум. інф.).

**Пойдзем людзей паглядзець і сябе паказаць.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

Кажуць жартам, калі выбіраюцца ў госці.

**"Просім!" – "Самі ў рот носім!"** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Бяседная прыгаворка. Так адказваюць на запрашэнне частавацца.

**"Прынясі вады!" – "Тры пядзі ад барады – нагніся ды напіся!"** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Так жартам адказваюць таму, хто просіць прынесці кубак вады.

**Развязаўся мех на смех.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Жартам кажуць пра сям'ю, у якой кожны год нараджаюцца дзеці.

**Рана росна, днём млосна, вечарам камары, хоць ляж ды памры.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажуць, калі хочуць пасмяяцца з гультая.

**Рэзні, каб штаны злезлі.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Так жартоўна просяць гарманіста пайграць.

**Сабакі не брахалі – і сала ўкралі.** Валах М.А., 1937 г.н., 1998. Бялавічы Кос.

Жартуюць, калі штосьці прапала ў гаспадарцы.

**Сем баб на воз – і конь панёс!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Гармідару такого нарабілі, шчо конь спалохаўся"* (тлум. інф.).

**Скончылі работу? Мыйце рукі, ідзіце дахаты!** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Жартоўная прыгаворка, з якой звяртаецца да работнікаў гаспадар перад вячэрай.

**Смачна, бо дарага.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2003. Скураты Квас.

*"Усё дарагое – смачнае"* (тлум. інф.).

**Смех, а не работа.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2005. Бялавічы Кос.

Пра нядбайна зробленую работу.

**Смех дый годзе!** Жук Дз.А., 1919 г.н., 1995. Жамайдзякі Міл.

*"Ні ведаю, ці плакаць мне, ці сьмяяцца сь цябе і с твае работы? Ано скажу: сьмех дый годзе! І ты, і твая работа нікуды ні вартыя!"* (прыклад інф.).

**Сточкі – на дочкі.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так жартуюць, калі наліваюць у чарку гарэлку з дзвюх бутэлек.

**Такі галодны, вала з'еў бы.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Тая, што хвастом матае.** Максімчык В.У., 1936 г.н., 2004. Бялавічы Кос.

Так кажуць у адказ на дакучлівае дапытванне пра каго-небудзь.

**Тваю салому будуць свінні есці.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

Так смяяліся з чалавека, які нядбайна малаціў збажыну.

**Твая справа такая: наеўся – ды на печ.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Кажуць часам дзіцяці, калі пачынае капрызіць.

**Трапіў, жучку, у панскую ручку!** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1995. Альшаніца Квас.

Так кажуць чалавеку, якому доўга ўдавалася пазбегнуць пакарання.

**Трасцу з'еж!** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2000. Размеркі Стайк.

*"Не схацеў есьці разом з усімі за сталом, то зарас трасцу зьеш!"* (з аповеду інф.).

**Ты мне радня: як мой бацька гарэў, то твой плечы грэў.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Жартоўнае выказванне пра ступень роднасці, сваяцтва.

**а) Ты мне радня: твой бацька ў майго парася купіў.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Ты яму гавары, а ён табе дагары.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Пра чалавека, які стаіць на сваім, з якім ніяк не паразумеешся.

**У папа апошняя жонка.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

Кажуць, калі не вераць дадзенаму слову, кляцьбе.

**Уперадзе сабакі бягуць, а ззаду паны едуць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так жартам кажуць пра чалавека, які ў рабоце вырываецца наперад.

**Усё насуперак: як ён уніз, то яна ўгору.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Вясёлая, жартоўная прыгаворка з сямейных адносін паміж мужам і жонкай.

**Усё цела затрымцела, бо гарэлкі захацела.** Рабчэня У.І., 1940 г.н., 2002. Заполле Кос.

Кажа весялун перад пачаткам бяседы.

**Усяго майго, што з'ела і выпіла.** Зайка Е.Я., 1903 г.н., 1981. Заполле Кос.

*"Нічого добраго я ў сваім жыцьці ні бачыла, усяго майго, што зьела і выпіла"* (тлум. інф.).

**Усяк бывае: жук мычыць, а карова бурчыць.** Лісок М.І., 1932 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Шмат на свеце неадпаведнасцяў, незразумелага.

**Хоць альховы, абы новы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так смяюцца з распуснай жанчыны.

**Хоць гумно згарэла, але й мышэй ляснула!** Бакавец М.М., 1958 г.н., 2012. Івацэвічы.

Такімі словамі супакойвае сябе вясёлы характарам чалавек пасля пажару.

**Хто ззаду валачэцца, таму яечня пячэцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Жартоўнае выслоўе. Так апраўдвае сябе той, хто адстае ў працы.

**Хто каго любіць, той таго чубіць.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2000. Косава.

Гэтак, смеючыся, кажуць пра дачыненні маладых, якія сімпатызуюць адно аднаму.

**Хто любіць папа, хто пападдзю, а хто папову дачку.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 1995. Заполле Кос.

Гэтая жартоўная прыказка пра рознасць густаў.

**Хто муціць, хто круціць, той вып'е і закусіць, а хто праўду кажа, той хай так спаці ляжа.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Выслоўе, якое нарадзілася ў савецкі час.

**а) Хто круціць, той вып'е і закусіць, а хто праўду кажа, той галодны спаць ляжа.** Зайка А.С., 1920 г.н., 1993. Бялавічы Кос.

**Хто мяне ўспамянуў, каб таго кій не мінуў.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Кажа той, каму ікнецца.

**Хто на каго, і я на таго.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2002. Заполле Кос.

Так кажа весялун у час бойкі, калі ён не ведае, хто з кім б'ецца.

**Хто не хоча рабіць, таму хлеба не даць, і ні капусты, ні бацвіння – няхай корміць свінні.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

**Хто па абедзе не аддыша, таго Бог за свінню запіша.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Жартоўнае папярэджанне тым, хто пасля абеду не адпачывае.

**“Хто?” – “Хто хто? Хтокала!”** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Хтокала – тут: той, хто пытае.

**Ці выйграў, ці прайграў.** Воўна І.Л., 1934 г.н., 1991. Заполле Кос.

Так кажа чалавек, схільны да рызыкі.

**Ці запаленне, ці рожа – ад мяне дапаможа.** Рабчэня У.І., 1940 г.н., 2002. Заполле Кос.

Так жартуе мужчына, які прапануе жанчыне сябе замест лекаў. *“Хадзем, вылечу. Ці запаленне, ці рожа – ад мяне дапаможа”* (прыклад інф.).

**Ці пан, ці прапаў.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 2001. Заполле Кос.

**“Ціт, ідзі малаціць!” – “Жывот баліць”. – “Ціт, ідзі есці!” – “А дзе мая вялікая лыжка?”** Здзітавец М.М., 1885 г.н., 1966. Заполле Кос.

Вядомая показка пра гультая.

**Ці я з дзвюх рук ем?!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1998. Альшаніца Квас.

Так кажа пра сябе чалавек, які шмат і цяжка працуе.

**Цыбуля горка – усе ядуць, замуж кепскі – усе ідуць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1995. Альшаніца Квас.

**Цяпло, аж з носа пацякло.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2000. Скураты Квас.

**Часам – з квасам, парою – з бядою.** Куіс М.Д., 1925 г.н., 2003. Косава.

Так адказвае чалавек, калі пытаюцца ў яго, як жыве.

**Чый бы ні быў бычок, абы цяля наша.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Адкажуць бацькі людзям на папрок, на насмешку, што іх дачка нагуляла дзіця.

**“Што варыла?” – “Яглі! Галодныя спаць ляглі”.** Бахур Г.В., 1923 г.н., 2003. Яглевічы Ягл.

Даўняя вясёлая прыгаворка, якая гучала ў беднай сям'і, дзе часам не было чым павячэраць.

а) **"Што на вячэру?" – "Яглі! Каб хутчэй спаць ляглі".** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Што гэта за бяда, калі п'ецца вада?** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Так жартуе з сябе ўволю наеты чалавек.

**Што мы – на мякіну робім?** Рабчэня У.І., 1940 г.н., 2002. Заполле Кос.

*"О, як вы многа ўсяго накуплялі!" – "А шчо мы – на мякіну робім?"* (з аповеду інф.).

**Штосьці ў горле таранчыць, трэба горла прамачыць.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2002. Скураты Квас.

Бяседная прыгаворка.

**Як дам у шыю, то чорт другую прышые.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Як ем, то глух і нем.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2002. Размеркі Стайк.

Так кажуць, калі хочуць спыніць гаворку за сталом.

**"Як зваць?" – "Як крупы драць".** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Як здаецца, то хрысціцца трэба.** Ціток І.І., 1951 г.н., 1997. Заполле Кос.

Пажаданне чалавеку, не ўпэўненаму ў чымсьці.

**"Як здароўе?" – "Горшае, як было, але лепшае, чым будзе".** Рабчэня У.І., 1940 г.н., 2006. Заполле Кос.

Дасціпны адказ на пытанне пра здароўе.

**Які з яго пан: на саломе спіць, пазурамі чухаецца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Так смяюцца з чалавека, які выбіўся ў невялікага чыноўніка і надта ганарыста паводзіць сябе.

**Як толькі якое, то адразу.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1990. Альшаніца Квас.

Так смяюцца са схільнага да бойкі чалавека.

**Як ты да мяне па-людску, то і я да цябе па-чалавечы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Жонка ўсё хварэла, есьці ні варыла, хаты ні прыбірала – паміраць сабралася. А мужык плача, галосіць: "І якое табе даць рады, кап ты ачуняла?" – "Ведаяш, Сьцяпанко, стары дуб у Дзядох расьце, ідзі да яго, бо людзі кажуць, што ён гаворыць, якую раду даць хвораму". Пайшоў мужык, а яна другою дарогаю абагнала яго, улезла ў дупло дуба і чакая. Стаў Сьцяпан перад дубом ды пытаяцца: "Дубе, дубе, скажы, чым жонцы памагчы?" Дуб адказвая жаночым голасом: "Ні сьпі ўначы, а часьцей жонку варушы!" Так і зрабіў ён. Прачнуўся ранком, а ў хаце прыбрано, на стале – аладкі зь яечняю. І жонка здаровая, вясёлая. Глядзіць Сьцяпан на жонку і дзівіцца. А яна кажа: "Як ты да мяне па-люцку, то і я да цябе па-чалавечы"* (з аповеду інф.).

**Ямо хлеб усякі: белы, чорны і ніякі.** Рабчэня У.І., 1940 г.н., 2005. Заполле Кос.

Так кажуць, калі не заўсёды хлеб бывае на стале.

**Ясна як цёмная ноч.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2013. Заполле Кос.

# ВЯСЕЛЬНЫЯ ПРЫГАВОРКІ ПРЫ ДЗЯЛЬБЕ КАРАВАЯ

**Будзь багата, як зямля, здарова, як вада, пладавіта, як свіння.** Жук А.І., 1934 г.н., 2004. Уласаўцы Жытл.

**Гэтыя грошы я сама зарабляла, хачу, каб маладая маладога пацалавала.** Лунь А.М., 1916 г.н., 1998. Заполле Кос.

**Дару акрайчык, каб быў сын Мікалайчык.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Дару букет бярозы, каб муж дахаты прыходзіў цвярозы.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

**Дару бурачком, каб не быў дурачком.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1983. Альшаніца Квас.

**Дару вам качаргу, каб у кожным вуглу было па хлапцу-малайцу, а пасярод хаткі бегалі дзяўчаткі.** Стась Я.І., 1948 г.н., 1991. Заполле Кос.

**Дару вам рубель, каб купілі карабель, днём каталіся, а ноччу цалаваліся.** Стась Я.І., 1948 г.н., 1991. Заполле Кос.

**Дару вядро суніц, каб не глядзеў на чужых маладзіц.** Піскун А.Б., 1967 г.н., 2008. Жамайдзякі Міл.

**Дару вянок цыбулі, каб не давалі (не паказвалі) адно аднаму дулі.** Шчурко Ф.А., 1926 г.н., 2001. Заполле Кос.

**Дару грошы і кладу на канты, каб былі чатыры сыны і ўсе музыканты.** Здзітавец А.М., 1912 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Дару грошы і пень, каб малады меў моц увечары і ўдзень.** Міхнюк В.В., 1938 г.н., 1990. Размеркі Стайк.

**Дару грошы, каб былі дзеці харошы.** Гардзейка А.М., 1915 г.н., 1995. Галік Міл.

**Дару грошы, каб мужык быў харошы.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Дару грошы, сама зарабляла, хачу, каб маладая маладога пацалавала.** Лушчык М.Э., 1996 г.н., 2013. Заполле Кос.

**Дару гусі, каб маладая маладому давала бусі.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

**Дару даляры, каб усё жыццё пражылі ў пары.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

**Дару дваццацьпятку, каб малады пацалаваў маладую ў пятку.** Макарчэня М.М., 1934 г.н., 1995. Заполле Кос.

**Дару дугою, каб не бегаў за другою.** Бахур Г.В., 1923 г.н., 2003. Яглевічы Ягл.

**Дару жменю медзі, каб дзеці былі як мядзведзі.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 1985. Бялавічы Кос.

**Дару зайца, каб свайго мужыка трымала за яйца, дару паленца, каб малады маладую пацалаваў у каленца.** Зайка А.І., 1953 г.н., 2013. Заполле Кос.

**Дару капейку на шчаслівую сямейку, дару дзве, каб не жылі ў бядзе, а пятак, каб не давала за так.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2013. Размеркі Стайк.

**Дару качан капусты, каб не дазваляў жонцы распусты.** Крыштопік С.В., 1967 г.н., 2013. Зялёны Бор Стайк.

**Дару клубочкі, каб былі два сыны і дзве дочкі.** Стась Я.І., 1948 г.н., 1983. Заполле Кос.

**Дару маладым міску, каб у хаце было многа піску.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1987. Альшаніца Квас.

**Дару маркоўку, каб нявестка пацалавала свякроўку.** Бурына Ф.А., 1939 г.н., 2001. Сакоўцы Міл.

**Дару маслабойкаю, каб не была перадойкаю.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1995. Альшаніца Квас.

**Дару мяшок гліны, каб праз год былі нарадзіны.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

**Дару ніткі, каб не заглядваў на чужыя лыткі.** Бахур Г.В., 1923 г.н., 2003. Яглевічы Ягл.

**Дару палена, каб малады пацалаваў маладой калена.** Голуб В.І., 1930 г.н., Скураты Квас.

**Дару путам, каб стаяў прутам.** Зайка У. В., 1930 г.н., 1979. Заполле Кос.

**Дару рошчу, каб зяць пацалаваў цёшчу.** Рабчэня Т.І., 1942 г.н., 2002. Заполле Кос.

Рошча – аспарагус. "*Рошча – расьліна такая, маладой у вэлюм чаплялі*" (тлум. інф.).

**Дару суніцы, каб не хадзіў да другое маладзіцы, дару кош буракоў, каб не заглядала на чужых мужыкоў, і букет бярозы, каб мужык дадому прыходзіў цвярозы.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2008. Заполле Кос.

**Дару цыбулю, каб маладая свякрусе не давала дулю.** Мікалайчык Л.А., 1930 г.н., 2004. Боркі Падст.

**Дару шыла, каб усю ноч варушыла.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1995. Альшаніцы Квас.

**Каб вам жылося, хацелася, вялося і маглося.** Бакавец Г.І., 1961 г.н., 2011. Івацэвічы.

**Каб вам каровы і свінні добра вяліся, каб вы, маладыя, добра жыліся.** Доўжык В.Ф., 1906 г.н., 1991. Заполле Кос.

**Каб здаровыя ды багатыя былі і гаршком грошы мералі.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Каб маладому даў Бог здароўя ў ручкі, у ножкі і ў яечка трошкі.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Каб пілося, елася і яшчэ хацелася.** Здзітавец М.М., 1885 г.н., 1966. Заполле Кос.

**Каб праўнукаў дачакалі ды гора не зналі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1995. Альшаніца Квас.

**Каб у нашым вуллі пчолы вяліся, каб у нашай хаце дзеці радзіліся, каб мне даждаці вашых дзяцей пагадаваці.** Максімчык В.У., 1936 г.н., 2000. Бялавічы Кос.

**Каб штогадочка даў Бог сыночка.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

**Колькі ў лесе пянькоў, каб столькі вам сынкоў.** Емяльянчык В.А., 1957 г.н., 2013. Івацэвічы.

**Колькі ў хаце падушак, каб гэтулькі было дачушак, колькі ў хаце куточкаў, каб гэтулькі было сыночкаў.** Зайка І.І., 1958 г.н., 2006. Заполле Кос.

**На доўгі век, на добрае здароўе.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Няхай вас Бог гадуе і лёс шыхуе.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Свату, свату, дай на лапату. Не дасі на лапату – развалю табе хату.** Юдчыц Л.У., 1958 г.н., Стайкі Стайк.

Жартоўная вясельная прыгаворка. Даць на лапату – тут: даць на руку, на далонь, каравай.

**Хай будзе гэтак, як усе кажуць.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

**Хай вас Бог благаславіць шчасцем, доляю і ўсім добрым.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Што год вам, то удод, што гадок, то жыдок.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1987. Альшаніца Квас.

У гэтай вясельнай прыгаворцы жадаюць шмат дзяцей. Удод – птушка са стракатымі пёрамі, жыдок – верабейчык.

**Я хадзіла ў лес – зязюля кукавала, хачу, каб маладая свякроў падазвала і пацалавала.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2013. Размеркі Стайк.

# ЯЗЫКАЛОМКІ

**Ад бацвіння – пасі свіння, ад гароху – паспі троху, ад капусты – жывот тлусты.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Жабрак жабрака жабраваць вучыць.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Ішоў кнур з кнуранятамі.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

**Каласы каласавалі, каласавалі, выкаласаваліся.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Каму па каму, а каму і два камы.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

Ком – тут: бульбяная каша.

**Макацёр, макацёр, поўны рукі верацён, як ідзе, то прадзе, як сядзіць, то гудзіць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Мачаха – чаха, чортава саха, чорт ёю граў і соху паламаў.** Зайка Г.А., 1900 г.н., 1984. Заполле Кос.

**Павук вусаты наеўся салаты, салата спушыла, павука задушыла.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Перапіў, пераеў, пералушчыў. Ніхто не такі, як пастух такі: і дома жарэ, і з сабою бярэ, а прыйдзе дахаты – "дай, маці, есці!"** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Гэтая языкаломка – імітацыя словамі песні жаўранка.

**Пуп, пуп наеўся круп, крупы спушылі, пупа задушылі.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Рошча, рошча, дзед бабу хвошча, рукавы закасаўшы, спадніцу задраўшы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Рошча – расліна аспарагус.

**Саладуха, саладзіся, толькі ў ражку не згадзіся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Стары Піліп да лаўкі прыліп.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос. 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Хвалю за хватку, заб'ю муху – дам лапатку.** Зайка А.І., 1953 г.н., 2012. Заполле Кос.

***Языкаломка-гульня.*** *Нехта з дарослых кладзе руку на галаву дзіцяці і пачынае качаць, прыгаворваючы:* **"Бег чаборык цераз папоў дворык, нёс сякерку, табакерку, рог і качан".** *Пытаецца ў дзіцяці:* **"Рог ці качан?"** *Калі малое адкажа "качан", то качае далей. Калі ж скажа* **"рог"**, *то са словамі* **"валачы цераз парог!"** *адштурхоўвае галаву дзіцяці ад сябе.* Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

# ВІТАННІ

*Уваходзячы ў хату або сустракаючыся, кажуць:*

**Добры дзень!** Паўсюль.

**Дзень добры!** Паўсюль.

**Дзень добры ў хату!** Паўсюль.

**Добрага дня!** Паўсюль.

**Добрага здароўя!** Паўсюль.

**Здаровенькі былі!** Паўсюль.

**Здаровенькі начавалі!** Паўсюль.

**Здароўя вам!** Паўсюль.

**Маё шанаванне!** Паўсюль.

**Вечар добры!** Паўсюль.

**Добры вечар!** Паўсюль.

**Добры вечар вам у хату!** Паўсюль.

**Добрым людзям добры вечар!** Паўсюль.

*Пры развітанні кажуць:*

**“Аставайцеся здаровы!” – “Хадзеце здаровы!”** Паўсюль.

**Будзьце здаровы!** Паўсюль.

**Бывайце здаровы!** Паўсюль.

**Бывайце здаровы, жывеце багата!** Паўсюль.

**Да пабачэння!** Паўсюль.

**Дабранач!** Паўсюль.

**Добрай ночы!** Паўсюль.

**“Заставайцеся з Богам!” – “Ідзеце з Богам!”** Паўсюль.

**Усяго добрага!** Паўсюль.

**Усяго найлепшага!** Паўсюль.

*Калі вітаюцца або развітваюцца добра і даўно знаёмыя людзі, можна пачуць дасціпны жарт, гульню слоў:*

**“Здароў!” – “Здароў, калі не жартуеш”.** Рабчэня У.І., 1940 г.н., 2008. Заполле Кос.

**“Здароў!” – “Здароў, каб па табе поп зароў!”** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

**“Як жывяце?” – “Жывем, хлеб жуем”.** Шыманчык В.П., 1910 г.н., 1983. Альшаніца Квас.

**“Добры вечар!” – “Добры вечар! Добра білі, добра енчыў!”** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Добрай ночы! Ляжаць да паўночы, вытрашчыўшы вочы!** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

# ЗЫЧЭННІ

*Зычэнні з розных нагод і выпадкаў:*

**Дай, Божа, вам лепей смяяцца, чым плакаць!** Паўсюль.

**Дай, Божа, вам прадаваць, а не купляць!** Паўсюль.

**Дай, Божа, гэтага свята яшчэ прыждаці!** Паўсюль.

**Дай, Божа, каб пілося, елася ды яшчэ хацелася!** Паўсюль.

**Дай, Божа, не апошняе!** Паўсюль.

**Дай, Божа, спакойную старасць!** Паўсюль.

**Дай, Божа, час добры!** Паўсюль.
Кажуць, як пачынаюць работу: збіраць ягады, палоць грады і інш.

**Ежце, што Бог даў!** Паўсюль.

**Каб здаровая знасіла і на другое зарабіла!** Паўсюль.

**Каб здаровыя ды багатыя былі!** Паўсюль.

**Каб здаровыя ды багатыя былі і гаршком грошы мералі!** Паўсюль.

**Каб на тваім вяселлі паскакаць!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.
Зычаць, калі адзначаюць дзень нараджэння хлопца ці дзяўчыны.

**Каб не хварэлі!** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Каб не хварэлі ды ўвесь хлеб паелі!** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

**Каб праўнучкаў прыждалі ды гора не зналі!** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

**Каб спажылі ў добрым здароўі!** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2009. Грыўда Міл.

**Каб табе Бог доўгі век даў!** Паўсюль.

**Каб твае словы ды Богу ў вушы.** Паўсюль.

**Каб ты бяды (гора, ліха) не знаў!** Паўсюль.

**Каб ты здаровая была!** Паўсюль.

**Каб цябе Бог любіў!** Паўсюль.

**Каб цябе хлопцы любілі!** Паўсюль.

**На доўгі век, на добрае здароўе!** Паўсюль.

**Не гняві Бога!** Паўсюль.

**Няхай вам Бог шчасце дае!** Паўсюль.

**“Памагай Бог!” – “Казаў Бог, каб ты памог!”** Паўсюль.

**Смачна есці!** Паўсюль.

**“Хлеб-соль вам!” – “Ем свой!”** Паўсюль.

**“Хлеб-соль вам!” – “Просім!”** Паўсюль.

**“Хлеб-соль!” – “Садзіся, госцем будзеш!”** Паўсюль.

**Радзі, Божа!** Паўсюль.

**Радзі, Божа, галаўкі з вядро!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Калі садзяць капусту.

**Радзі, Божа, як мая галава!** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Калі садзяць цыбулю. бульбу, іншыя агародныя культуры.

**Каб вялося!** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

Кажуць, калі ёсць набытак у гаспадарцы: купілі нешта з жыўнасці на кірмашы (цялятка ці свінчо) або свая карова ацялілася ці свінне апарасілася.

**Каб здаровыя спажывалі!** Паўсюль.

Кажуць пад час свежавання парсюка.

**Дай Бог, каб здаровыя спажывалі і яшчэ гадавалі!** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

Кажуць у час частавання з выпадку свежыны.

**Каб здаровыя спажывалі ды яшчэ большых гадавалі!** Шчурко Ф.А., 1926 г.н., 1999. Заполле Кос.

**Чым багаты, тым і рады!** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

**Дай Бог, каб гэтая хата згніла!** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Гэтак на ўваходзінах жадаюць гаспадарам шчаслівага і доўгага жыцця ў новай хаце.

**Шчаслівай дарогі!** Паўсюль.

Кажуць таму, хто выпраўляецца ў дарогу.

**Будзь здарова, як карова, а плодна, як свіння!** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Кажуць пры чханні.

**Будзь здароў!** Паўсюль.

Кажуць, калі чалавек чхне.

**“Будзь здароў!” – “На здароўе!”** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1992. Альшаніца Квас.

Жадаюць здароўя пры чханні. *“Будзь здароў, Іване!” – “На здароўе, Сцяпане!”* (прыклад інф.).

**Вялікі расці, будзем за чуб трасці!** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Вялікі расці, будзеш мак трасці!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Кажуць пры чханні.

**Хрэн у нос!** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2001. Заполле Кос.

Кажуць пры чханні.

**Зямля яму пухам!** Паўсюль.

**Каб яму добра было на тым свеце!** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Кажуць на хаўтурах за жалобным сталом.

**Каб яму лёгкая была зямелька!** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

Пры пахаванні нябожчыка.

**Каб яму на тым свеце лёгка ікнулася!** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

Кажуць, калі згадваюць памерлага чалавека.

**Царства яму нябеснае!** Паўсюль.

Пра памерлага.

*Зычэнні-засцярогі:*

**Барані Бог!** Паўсюль.

**Бронь Божа!** Паўсюль.

**Дай Божа, каб з вашае лёгкае рукі павялося!** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

**Дай, Божа, у добры час сказаць, а ў ліхі прамаўчаць!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Крый Божа!** Паўсюль.

**Не гняві Бога!** Паўсюль.

**Не дай Бог!** Паўсюль.

**Не давядзі Бог!** Паўсюль.

**Не проці ночы кажучы!** Паўсюль.

**Не проці ночы спамінаючы!** Паўсюль.

**Не тут кажучы!** Паўсюль.

**Не ў гэтай хаце ўспамінаючы!** Паўсюль.

**Няўрокам кажучы!** Паўсюль.

**Няхай Бог крые!** Паўсюль.

**У добры час кажучы!** Паўсюль.

**Хай Бог крые (ратуе)!** Паўсюль.

# ВЕТЛІВЫЯ, ЛАСКАВЫЯ ВЫРАЗЫ

**А мае вы саколікі (галубочкі)!** Паўсюль.

**А мая ты мамачка, а мая ты зязюлька!** Паўсюль.

**А мой ты братка!** Паўсюль.

**А мой ты сыночак даражэнькі (родненькі)!** Паўсюль.

**А мой ты татачка родненькі!** Паўсюль.

**Бабачка, галубачка!** Паўсюль.

**Бабачка, сівенькая зязюлька мая!** Паўсюль.

**Братачка мой родненькі!** Паўсюль.

**Выбачайце, калі што!** Паўсюль.

**Галубка мая!** Паўсюль.

**Галубок мой!** Паўсюль.

**Галубок мой сівенькі!** Паўсюль.

**Дзіцятачка ты маё роднае (залатое)!** Паўсюль.

**Дзядулік мой!** Паўсюль.

**Дзякуем вам за добрае слова!** Паўсюль.

**Дзякуй (дзякую, дзякуем)!** Паўсюль.

**Зязюлька мая сівенькая!** Паўсюль.

**Зорачка мая ясная!** Паўсюль.

**Калі ласка!** Паўсюль.

**Каточак ты мой!** Паўсюль.

**Крывіначка ты мая!** Паўсюль.

**Ластавачка ты мая!** Паўсюль.

**Любчык мой!** Паўсюль.

**Мамачка любая мая!** Паўсюль.

**Мая ты галовачка!** Паўсюль.

**Мая ты зязюлька!** Паўсюль.

**Мая ты залаценькая!** Паўсюль.

**Мілае маё дзіцятачка!** Паўсюль.

**Мой ты галубок!** Паўсюль.

**Мой ты дзядзечка!** Паўсюль.

**Просім за стол!** Паўсюль.

**Просім у хату!** Паўсюль.

**Птушанятка маё маленькае!** Паўсюль.

**Рыбачка мая залатая!** Паўсюль.

**Салавейка ты мой галасісты!** Паўсюль.

**Сірацінка ты мая няшчасная!** Паўсюль.

**Сыночак мой залаты!** Паўсюль.

**Сястрычка мая родная!** Паўсюль.

**Ягадка ты мая салодкая!** Паўсюль.

# ПРЫСЯГАННІ

**А каб мне Бог нічога добрага не даў!** Зайка А.П., 1911 г.н., 1984. Заполле Кос.

*“А кап мне бох нічого добраго не даў, калі гэто няпраўда!”* (прыклад інф.).

**А каб мне рукі, ногі паадсыхалі!** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1996. Скураты Квас.

*“А кап мне рукі, ногі паатсыхалі, калі гэтаму праўда!”* (прыклад інф.).

**А каб я не даждаў заўтрашняга дня!** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

**Во табе перахрышчуся!** Паўсюль.

Кажучы гэтыя словы, хрысцяцца.

**Дальбог праўда!** Паўсюль.

**Дзяцьмі пабажуся!** Шыманчык Е.Л., 1920 г.н., 1995. Заполле Кос.

*“Дзяцьмі пабажуся, шчо гэтаму праўда!”* (прыклад інф.).

**Каб мне мову адняло!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

*“Кап мне мову адняло, калі я гэто гаварыла!”* (прыклад інф.).

**Каб мне язык адсох!** Шчурко М.А., 1936 г.н., 2001. Заполле Кос.

*“Кап мне язык атсох, калі я маню!”* (прыклад інф.).

**Каб мне язык калом у роце стаў!** Лісок Р.В., 1937 г.н., 1998. Альшаніца *Квас.*

*“Кап мне язык калом у роце стаў, калі я гэто казала!”* (прыклад інф.).

**Каб мяне на лаву паклалі!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

*"Каб мяне на лаву паклалі, калі гэто няпраўда!"* (прыклад інф.).

**Каб я божага свету не ўбачыў!** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

**Каб я да вечара не дажыў!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Каб я да вечара не дажыла, як гэтаму праўда!"* (прыклад інф.).

**Каб я да заўтрашняга дня не дажыў!** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2003. Грыўда Міл.

*"Каб я да заўтрашняга дня не дажыў, калі няпраўду кажу!"* (прыклад інф.).

**Каб я да хаты не дайшоў!** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

**Каб я дзяцей сваіх не бачыў!** Касавец Р.В., 1913 г.н., 1995. Азярцо Падст.

*"Каб я дзяцей сваіх ні бачыў, калі я бачыў, хто гэто зрабіў!"* (прыклад інф.).

**Каб я лета не прыждаў!** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

*"Каб я лета не прыждала, калі гэтаму праўда!"* (прыклад інф.).

**Каб я ноч не пераначаваў!** Грэцкі У.М., 1910 г.н., 1979. Бялавічы Кос.

**Каб я першым куском падавіўся!** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1984. Альшаніца Квас.

*"Каб я першым куском падавіўся, калі я вінаваты!"* (прыклад інф.).

**Каб я праваліўся наскрозь зямлі!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Каб я свету белага не бачыў!** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

*"Каб я свету белаго ні бачыў, як гэтаму праўда!"* (прыклад інф.).

**Каб я сонца яснага не ўбачыў!** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 2002. Бялавічы Кос.

*"Каб я сонца яснаго ні ўбачыў, як ты кажаш, што ў Косаві мяне бачыў!"* (прыклад інф.).

**Каб я старасці не прыждаў!** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1984. Альшаніца Квас.

*"Каб я старасьці ні прыждаў, калі я тваю пілу ўкраў!"* (прыклад інф.).

**Каб я так дыхаў!** Мінчук М.Дз., 1930 г.н., 1997. Галенчыцы Ягл.

**Каб я так сваіх дзяцей бачыў!** Куратнік І.С., 1915 г.н., 1997. Гічыцы Ягл.

**Клянуся табе!** Паўсюль.

**Мамай роднай клянуся!** Шыманчык М.А., 1949 г.н., 2003. Заполле Кос.

*"Мамай роднай клянуся, шчо ні браў я тваіх грошай!"* (прыклад інф.).

**Не зысці мне з гэтага месца!** Паўсюль.

**Праваліцца мне на гэтым месцы!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Руку (галаву) даю адсекчы!** Шчурко І.П., 1923 г.н., 1995. Заполле Кос.

*"Руку даю атсекчы, ні бачыў я твайго каня ў смузе!"* (прыклад інф.). Смýга – лагчына, нізіна.

**Руку на сэрца паклаўшы, клянуся!** Шыманчык У.А., 1917 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

*"Руку на сэрца паклаўшы, клянуся, што не вінаваты!"* (прыклад інф.).

**Як перад Богам клянуся!** Верабей М.Ф., 1924 г.н., 1998. Аўсто Стайк.

# ПРАКЛЁНЫ

**А гары яно гарам!** Альшаніца Квас.

Г. зн. няхай прападае. *“А гары яно гарам, буду я мучыцца на гэтым полі, хай зарастая”* (з аповеду інф.).

**А гары яно ўсё сінім полымем!** Кушняры Падст.

**А каб табе скула ў роце села!** Бялавічы Кос.

**А каб ты не даждаў!** Жамайдзякі Міл.

Г. зн. каб не дачакаўся жаданага выніку.

**а) Каб ты не прыждаў!** Квасевічы Квас.

**А каб ты скруціўся!** Квасевічы Квас.

*“Кап ты скруціўся, як ты круцісься, сядзі ціхо!”* (прыклад інф.).

**А каб цябе Пярун на гладкай дарозе цэліў!** Альшаніца Квас.

Пярун – у беларускай міфалогіі бог маланкі і грому.

**Акыш, каб вы павыздыхалі!** Скураты Квас.

Такім воклічам праганяюць курэй.

**Акыш, каб на вас карбунец напаў!** Альшаніца Квас.

Карбу́нец – хвароба, калі на целе з’яўляецца гнойны нарыў.

**Акыш, каб вас шуляк пахватаў!** Хрышчонавічы Квас.

Шуляк – каршун.

**А няма на вас халеры!** Бусяж Міл.

**А няхай вас чорт пабярэ!** Быч Стайк.

**А няхай ты згары!** Бялавічы Кос.

**А няхай яно затане!** Заполле Кос.

**Бога на цябе няма!** Старажоўшчына Кос.

**Дай Бог табе доўга жыць, але аднаму!** Скураты Квас.

**Добрых людзей цаляе, а цябе, пашкуду, нічога не цэліць!** Заполле Кос.

Пашкуда – брыдкі, агідны чалавек. Цаляе – тут: трапляе. *“Як добры чалавек, то няшчасьці адольваюць, а злыдню, пашкудзі якой нічого ні робіцца”* (тлум. інф.).

**Еж, каб ты падавіўся!** Галенчыцы Ягл.

**Замаўчы, каб ты навек замаўчаў!** Ёдчыкі Квас.

**Здыхаты на цябе няма!** Старажоўшчына Кос.

**З’еў, каб ты яго не вы́дыхаў!** Заполле Кос.
*“Тое, шчо зьеў, каб ні пайшло на карысьць”* (тлум. інф.).

**Зжэрлі, каб вас парвала!** Ёдчыкі Квас.

**Ідзі, каб ты адтуль не вярнуўся!** Заполле Кос.

**І карбуноты (здыхоты) на цябе няма!** Альшаніца Квас.

**І пагібелі няма на тваю галаву!** Бялавічы Кос.

**Каб вас параспірала!** Верашкі Квас.
*“Паелі вы мае дулі, каб вас ад іх парасьпірало!”* (з аповеду інф.).

**Каб вас сырая зямля накарміла!** Заполле Кос.
*“Ні панаядаяцеся, каб вас сырая зямля накарміла!”* (з аповеду інф.).

**Каб вас халера пабрала!** Заполле Кос.

**Каб вы да ранку не дажылі!** Харошча Міл.

**Каб вы здохлі!** Размеркі Стайк.

**Каб вы павыдушваліся!** Заполле Кос.
*“Паграблі ўсе грады куры, каб яны павыдушваліся!”* (з аповеду інф.).

**Каб вы прутам пасталі!** Гошчава Стайк.
Прутам пастаць – апруцянець.

**Каб ёй Бог долі не даў!** Галынка Міл.

**Каб з цябе духі выперла!** Даргужы Міл.

Духі выперці – сканаць.

**Каб з цябе духі выгнала!** Жамайдзякі Міл.

*"Ні гані, кап сь цябе духі выгнало!"* (з аповеду інф.).

**Каб зямля твае косці павыкідала!** *Быч Стайк.*

Адзін з самых страшных праклёнаў. Так кажуць на заклятага ворага.

**Каб іх агонь папаліў!** Бялавічы Кос.

**Каб іх акалелых павывозілі!** Жамайдзякі Міл.

Акалелых – тут: мёртвых.

**Каб мае слёзы не на зямлю падалі, а на цябе!** Альшаніца Квас.

Кажуць так з вераю ў тое, што Бог пакарае крыўдніка.

**Каб на вас бура найшла!** Панкі Люб.

**Каб на вас ліха!** Скураты Квас.

**Каб на вас пагібель!** Альшаніца Квас.

**Каб на вас чорна смерць прыйшла!** Ёлкі Ягл.

Чорна смерць – так даўней называлі страшную хваробу – чуму.

**Каб на табе на тым свеце смалу вазілі!** Альшаніца Квас.

Народнае павер'е пра тое, што грэшнікі на тым свеце будуць вазіць смалу.

**Каб на табе цела ад касцей паадпадала!** Стайкі Стайк.

**Каб на табе шэрсць курэла!** Заполле Кос.

**Каб на цябе адзёр найшоў!** Альшаніца Квас.

Адзёр – дзіцячая хвароба, калі цела пакрываецца гнойнымі балячкамі.

**Каб на цябе здыхата напала!** Харошча Міл.

**Каб на цябе кароста напала!** Ябланка Жытл.

**Каб на цябе крываўка напала, каб з цябе ліло, як з бусла!** Бялавічы Кос.

Крываўка – дызентэрыя.

**Каб на цябе сарочка не налезла!** Лазаўцы Міл.
Тут: апух ад хваробы.

**Каб на цябе тытус найшоў!** Скураты Квас.
Тытус – тыф.

**Каб на цябе халера!** Сярадава Жытл.
*"Но, ваўкарэзіна! Каб на цябе халера!"* (з аповеду інф.).

**Каб на цябе чума напала!** Ятвезь Квас.
Чума – хвароба.

**Каб па табе званы званілі!** Сенькавічы Падст.
Калі хаваюць нябожчыка, то звоняць у царкоўныя званы.

**Каб па табе вячэру елі!** Альба Квас.
Вячэра – памінкі па памерлым.

**Каб па табе квас з'елі!** Заполле Кос.
Квас – рытуальная страва, грыбны суп, які ядуць на памінках.

**Каб табе бельмы павылазілі!** Скураты Квас.
Бельмы – вочы.

**Каб табе Бог здароўя не даў!** Альба Квас.

**Каб табе век дабра не было!** Хадоркі Кос.

**Каб табе вочы павылазілі!** Ёлкі Ягл.
*"Ні бачыш, кап табе вочы павылазілі!"* (з аповеду інф.).

**Каб табе галаву завярнула!** Рацкевічы Міл.
*"Павярнуў ты мае каравы, кап табе голоў завярнуло!"* (з аповеду інф.).

**Каб табе горла запухла!** Дубітава Міл.

**Каб табе духі выперла!** Альшаніца Квас.

**Каб табе духі заняло!** Хрышчонавічы Квас.
Духі заняло – спынілася дыханне.

**Каб табе дыхнуць не дало!** Бялавічы Кос.

**Каб табе заняло!** Ёлкі Ягл.
*"Сьціхні, кап табе заняло!"* (прыклад інф.).

**Каб табе зенькі павылазілі!** Хадоркі Кос.
Зенькі – вочы.

**Каб табе з тых дошак труну зрабілі!** Любішчыцы Люб.
*“Украў у мяне дошкі, кап табе зь йіх труну зрабілі!”* (з аповеду інф.).

**Каб табе кашаль грудзі збіў!** Размеркі Стайк.

**Каб табе кутніцу выперла!** Альшаніца Квас.
Кутніца – простая кішка, рэктум. *“Кап табе кутніцу выперло, куды ты йіх прэш?!”* (з аповеду інф.).

**Каб табе мае слёзы адрыгнуліся кроўю!** Заполле Кос.

**Каб табе маё дабро калом у горле стала.** Дубітава Міл.
Клянуць так таго, хто паквапіўся на чужое.

**Каб табе мазгі адсохлі!** Гошчава Стайк.

**Каб табе морду сабакі лізалі!** Бялавічы Кос.
Г. зн. каб стаў нямоглы ці п’яніца.

**Каб табе на тым свеце добра было!** Хадоркі Кос.

**Каб табе не дало ні дыхнуць, ні зяўнуць!** Юкавічы Стайк.

**Каб табе ногі (рукі) паадсыхалі!** Заполле Кос.

**Каб табе рукі ды ногі скруціла!** Заполле Кос.
*“Скруціў мае грошы, кап табе рукі да ногі скруціло!”* (з аповеду інф.).

**Каб табе рукі, ногі паламала!** Аўсто Стайк.

**Каб табе скула на язык села!** Харошча Міл.
Жадаюць так таму, хто гаворыць няпраўду.

**Каб табе тое дзерава на труну пайшло!** Заполле Кос.
Дзерава – лесаматэрыял. *“Кап табе тое дзераво на труну пашло, як ты яго ў мяне ўкраў!”* (з аповеду інф.).

**Каб табе чорт шкуру спісаў!** Кушняры Падст.

**Каб табе чэрці рэбры паламалі!** Даргужы Міл.
*“Паламаў плот, кап табе чэрці рэбра паламалі!”* (з аповеду інф.).

**Каб табе язык выперла!** Гошчава Стайк.

*“Кап табе языка выперла, кап ты ні гаварыў, да выў!”* (з аповеду інф.).

**Каб табе язык адсох!** Панкі Люб.

**Каб табе язык апух, як калода!** Сярадава Жытл.

**Каб табе язык прутам стаў!** Яглевічы Ягл.

**Каб такія людзі густа сеяліся, але рэдка ўзыходзілі!** Альшаніца Квас.

Тут: ліхія, нядобрыя людзі.

**Каб твае вочы павылазілі!** Альшаніца Квас.

Так кажуць гняўліваму чалавеку. *“Кап твае вочы павылазілі, як ты йіх на ўсіх вывальваяш!”* (з аповеду інф.).

**Каб твае косці сабакі валачылі!** Ятвезь Квас.

**Каб твае рукі не хадзілі ля маёй галавы!** Заполле Кос.

Так кажуць, калі сварка паміж блізкімі людзьмі прыводзіць да поўнага разрыву. *“Даўней падрушкі адна адну ўбіралі, плялі косу, а як пасварацца, то ўжэ не”* (тлум. інф.).

**Каб тваё мяса гайвараны (крумкачы) цягалі!** Бялавічы Кос.

Гайваран – грак.

**Каб тваё семя звялося!** Квасавічы Квас.

**а) Каб ты з семя звёўся!** Заполле Кос.

Г. зн. каб не пакінуў нашчадкаў.

**Каб твайго каня (карову) воўк з’еў!** Няхачава Стайк.

**Каб твая душа курэла!** Хрышчонавічы Квас.

*“Кап твая душа курэла, як ты гэты табак бясконца курыш!”* (прыклад інф.).

**Каб твая хата апусцела, каб твой надворак зарос!** Размеркі Стайк.

Г. зн. каб звёўся род.

**Каб тое сала табе калом у горле стала!** Стайкі Стайк.

*“Украў ты ў мяне сала, каб яно табе калом у горлі стало!”* (з аповеду інф.).

**Каб ты аглухла гэдак, як я!** Аўсто Стайк.

**Каб ты ад ветру хістаўся!** Заполле Кос.
Г. зн. каб зблажэў, аслабеў.

**Каб ты акалеў!** Кушняры Падст.

**Каб ты апух!** Аляксейкі Стайк.

**Каб ты ашалеў!** Бялавічы Кос.

**Каб ты бегаў без памяці!** Заполле Кос.

**Каб ты бегаў з гарачкі!** Ёдчыкі Квас.
Гарачка – тэмпература; тут: непрытомны.

**Каб ты бегаў на грады, каб табе ніхто не даў рады!** Альшаніца Квас.
Бегаць на грады – тут: здурэць.

**Каб ты без агню згарэў!** Яблонка Жытл.

**Каб ты белага свету не бачыў!** Бусяж Міл.

**Каб ты больш ніколі нічога не меў!** Заполле Кос.
*"Украў у мяне цыбулю, кап ты больш ніколі нічога ні меў!"* (з апоВеду інф.).

**Каб ты быў маленькі скруціўся!** Бялавічы Кос.
Тут: памёр у маладым веку.

**Каб ты быў ногі паламаў, як да мяне ішоў!** Заполле Кос.
Так кляне жонка мужа.

**Каб ты вечара не прыждаў!** Грыўда Міл.

**Каб ты выздых!** Хрышчонавічы Квас.
Выздых – тут: памёр.

**Каб ты выпруціўся!** Хрышчонавічы Квас.
Г. зн. каб памёр.

**Каб ты высах і выпетраў!** Боркі Падст.
Г. зн. каб моцна захварэў.

**Каб ты высах на нітку (на трэску)!** *Жытлін Жытл.*

**Каб ты выхвараў!** Заполле Кос.
Выхварацць – захварэць, знемагчыся ад хваробы.

**Каб ты гаварыць не магла, толькі шаптала!** Бялавічы Кос.

**Каб ты галавою аб сцяну біўся!** Размеркі Стайк.
*“Кап ты галавою ап сьцену біўся, як ты мяне б'еш!”* (з аповеду інф.).

**Каб ты галаву сабе скруціў!** Заполле Кос.
*“Кап ты галаву сабе скруціў, як ты гэтыя кветкі пакруціў!”* (з аповеду інф.).

**Каб ты галаву скруціў, як ішоў да мяне!** Альшаніца Квас.

**Каб ты гэтак да дзяцей гаварыла!** Альшаніца Квас.
Так адкажуць на абвінавачванне ў распусканні плётак. *“Кап ты гэдык да дзяцей гаварыла, як я гэто гаварыла!”* (з аповеду інф.).

**Каб ты гэтак дзяцей сваіх бачыў!** Бялавічы Кос.
*“Кап ты гэдак дзяцей сваіх бачыў, як гэтаму праўда!”* (з аповеду інф.).

**Каб ты гэтак на месяц брахаў!** Заполле Кос.
Звычайна сабака брэша на месяц. *“Кап ты гэдык на месяц брахаў, як ты на мяне брэшаш!”* (з аповеду інф.).

**Каб ты гэтак на тым свеце гаварыла!** Любішчыцы Люб.
*“Кап ты гэдак на тым сьвеці гаварыла, як я гэто гаварыла!”* (з аповеду інф.).

**Каб ты да канца сваіх дзён плакаў!** Бялавічы Кос.

**Каб ты да ранку не дажыў!** Лазаўцы Міл.

**Каб ты задушыўся!** Панкі Люб.
*“Украў у мяне цыбулю, кап ты ёю задушыўся!”* (з аповеду інф.).

**Каб ты зваляўся пад плотам!** Размеркі Стайк.
Тут: п’яны.

**Каб ты згарэў!** Руда Падст.

**Каб ты здох!** Зыбайлы Жытл.

**Каб ты з’ела тое, што я думаю!** Альшаніца Квас.

**Каб ты з жывата качаўся!** Куляшы Міл.

**Каб ты змарнаваўся!** Хрышчонавічы Квас.

**Каб ты з таго свету не вярнуўся!** Жамайдзякі Міл.

**Каб ты зямлю еў, як ты мяне ясі!** Заполле Кос.

Есці – тут: бурчаць без прычыны, крыўдзіць.

**Каб ты каменем лёг (сеў)!** Альшаніца Квас.

Г. зн. каб змярцвеў.

**Каб ты крыцаю сеў!** Хрышчонавічы Квас.

Крыца – кавалак порыстага жалеза з балотнай руды; знаходзяць на старажытных селішчах. "*Кап ты крыцаю сеў – гэто кап сеў і ні падняўся*" (тлум. інф.).

**Каб ты крычаў на жывот!** Бялавічы Кос.

**Каб ты лёг ды не ўстаў!** Бусяж Міл.

**Каб ты на вяроўцы гуляў!** Альшаніца Квас.

Г. зн. каб не меў волі. "*На вяроўку цяля прывязваюць на пашы, пазбаўляюць волі*" (тлум. інф.).

**Каб ты на дактароў рабіў усё жыццё!** Косава.

Г. зн. каб не меў здароўя, шмат грошай аддаваў на лекі.

**Каб ты на жывот качаўся!** Бялавічы Кос.

Г. зн. каб моцна балеў жывот.

**Каб ты на могліцах гаварыў!** Альшаніца Квас.

Могліцы – могілкі. Г. зн. каб плакаў па некім.

**Каб ты на сваіх дзецях убачыла, што ты мне думаеш!** Заполле Кос.

Тут выяўляецца вера ў тое, што незаслужаныя праклёны пяройдуць на таго, хто праклінае, або нават на яго дзяцей.

**Каб ты на сцяну лез!** Гошчава Стайк.

Г. зн. каб некага спасціг невыносны боль.

**Каб ты не вярнуўся, куды ты пайшоў!** Квасевічы Квас.

**Каб ты не дагледзела сваіх дзяцей!** Альшаніца Квас.

Не даглéдзець – тут: не выгадаваць.

**Каб ты ні нагою, ні рукою не паварушыў!** Заполле Кос.

**Каб ты ногі выцягнуў на лаве!** Бялавічы Кос.

Г. зн. каб памёр.

**Каб ты ногі паламаў!** Скураты Квас.

**Каб ты пад плотам зваляўся!** Ёдчыкі Квас.

**Каб ты першым куском падавіўся!** Бялавічы Кос.

**Каб ты праваліўся!** Жамайдзякі Міл.

**Каб ты прапаў, як муха ў зеллі!** Заполле Кос.

**Каб ты прапаў, як сліна!** Мілейкі Міл.

**Каб ты прасветнай гадзіны не бачыў!** Мілейкі Міл.
Г. зн. каб чалавека адольвалі турботы нават у святы.

**Каб ты рукі паламаў, як другую абдымаў!** Грыўда Міл.

**Каб ты сабе месца не знайшоў!** Рацкевічы Міл.

**Каб ты са свету звёўся!** Хрышчонавічы Квас.
Са свету звесціся – не пакінуць па сабе нашчадкаў. *"Зьвёў ты мяне, кап ты са сьвету зьвёўся!"* (прыклад інф.). Звёў – падбіў на нядобрую справу.

**Каб ты свае хаты не пазнаваў!** Альшаніца Квас.
*"Кап ты свае хаты ні пазнавай, як ты мяне ні пазнаеш!"* (з аповеду інф.).

**Каб ты сваёй смерцю не памёр!** Заполле Кос.

**Каб ты сваё наймілейшае закапаў!** Бялавічы Кос.

**Каб ты сваіх дзяцей не пазнаў!** Аляксейкі Стайк.

**Каб ты свайго ценю баяўся!** Альшаніца Квас.

**Каб ты свету белага не бачыў!** Мілейкі Міл.

**Каб ты святое нядзелькі не прыждаў!** Скураты Квас.

**Каб ты сканаў!** Гошчава Стайк.

**Каб ты скасаваўся!** Альшаніца Квас.

**Каб ты скасаваўся ў маладым веку!** Хрышчонавічы Квас.

**Каб ты скіс!** Галынка Міл.
Г. зн. каб прапаў, змарнаваўся.

**Каб ты скрозь зямлю праваліўся!** Быч Стайк.

**Каб ты скруціўся малым!** Заполле Кос.

*"Кап ты скруціўся малым, як ты круцісься!"* (з аповеду інф.). Круціцца – тут: жыць, ігнаруючы нормы паводзін, маралі.

**Каб ты смак у гарэлцы пазнаў (пачуў)!** Заполле Кос.

**Каб ты смаку ні ў чым не знаў (не меў)!** Ёлкі Ягл.

**Каб ты смалы (чэмеру) напіўся!** Косава.

Так клянуць апівошу, п'яніцу.

**Каб ты спрах!** Жамайдзякі Міл.

*"Гэто значыць кап ператварыўся ў прах"* (тлум. інф.).

**Каб ты спрогся!** Заполле Кос.

Спрогся – ад спражыць, стаць гатовым у выніку пражання. Тут: сканаў.

**Каб ты спрындзіўся (спруцянеў)!** Гошчава Стайк.

Спрындзіцца – згінуць, прапасці.

**Каб ты спух!** Мілейкі Міл.

**Каб ты сто год жыў, дзвесце ракам поўзаў!** Альшаніца Квас.

**Каб ты сцежкі перад сабою не бачыла!** Альба Квас.

*"Кап ты сьцешкі перат сабою ні бачыла, як ты мяне ні бачыш!"* (з аповеду інф.).

**Каб ты сцежку мацала, каб ты сонца не ўбачыла!** Азярцо Падст.

**Каб ты счарнеў на галавешку!** Заполле Кос.

**Каб ты счарнеў, як гэтая зямля (як тая галавешка)!** Галенчыцы Ягл.

**Каб ты так жыў, як гэта праўда!** Размеркі Стайк.

**Каб ты тое з'ела, што мне думаеш!** Альшаніца Квас.

**Каб ты ў Бога здароўя прасіў!** Була Міл.

**Каб ты ў вадзе стаяў і піць прасіў!** Дубітава Міл.

**Каб ты ў вір галавою цэліў!** Сенькавічы Падст.

Цэліць – трапіць. *"Кап ты ў вір галавою цэліў, як ты сюды цэліў!"* (з аповеду інф.). Так клянуць прымака-няўдаліцу.

**Каб ты ў гарачае лета не нагрэўся!** Скураты Квас.

**Каб ты ўдавіўся!** Азярцо Падст.

**Каб ты ў мой след уступіла!** Альшаніца Квас.

*"Ты радуясься маёй бядзе, маёй хваробі, то кап ты ў мой сьлед уступіла, кап цябе мая бяда спаткала!"* (з аповеду інф.).

**Каб ты ўсё жыццё ракам поўзаў!** Скураты Квас.

**Каб ты хадзіла пад сябе!** Заполле Кос.

Г. зн. каб вельмі моцна захварэла, не магла паклапаціцца пра сябе.

**Каб ты я́му заваліў!** Даргужы Міл.

Г. зн. каб памёр.

**Каб ты яснага сонейка не бачыў!** Сенькавічы Падст.

**Каб у цябе душа курэла!** Хрышчонавічы Квас.

Г. зн. каб на душы было цяжка, самотна.

**Каб цябе бура панесла!** Бялавічы Кос.

*"Нясеш, кап цябе бура панесла!"* (прыклад інф.).

**Каб цябе вадзілі як сляпога!** Жамайдзякі Міл.

**Каб цябе ванцак заеў (схапіў)!** Альшаніца Квас.

Ванцак – заварот кішак.

**Каб цябе вопадзь кінула!** Хрышчонавічы Квас.

Вопадзь – эпілепсія.

**Каб цябе вошы заелі!** Гічыцы Ягл.

**Каб цябе вывалаклі ўперад нагамі!** Ёлкі Ягл.

Уперад нагамі выносяць нябожчыка з хаты. Тут: жадаюць, каб памёр.

**Каб цябе вырабіла на тонкую нітачку!** Альшаніца Квас.

Г. зн. каб высах, схуднеў, хварэючы.

**Каб цябе гарачка ўзяла!** Заполле Кос.

Гарачка – ліхаманка.

**Каб цябе жывот рэзаў!** Скураты Квас.

**Каб цябе завярнула!** Альшаніца Квас.
Г. зн. каб спаралізавала, скруціла.

**Каб цябе сагнула і не адагнула!** Бялавічы Кос.
"*Як прыпадзя радзікуліт, то загне чалавека ў дугу*" (тлум. інф.).

**Каб цябе сагнула ў тры пагібелі!** Плехава Люб.

**Каб цябе зламала ў маладым веку!** Быч Стайк.
"*Зламаў ты мой плот, кап цябе зламала ў маладым веку!*" (з аповеду інф.).

**Каб цябе зямля заела!** Заполле Кос.
"*Кап цябе зямля заела, як ты мяне жыўцом ясі, спакою ні даеш*" (з аповеду інф.).

**Каб цябе карбунцы ўзялі!** Юкавічы Стайк.

**Каб цябе кохля трэсла!** Аўсто Стайк.
Кохля – коклюш.

**Каб цябе кроўю гнала!** Стайкі Стайк.
Гнаць кроўю – хварэць на крываўку (дызентэрыю). "*Кап цябе кроўю гнала, куды ты йіх жанеш?!*" (з аповеду інф.).

**Каб цябе крукам паставіла!** Гошчава Стайк.
"*Гэто значыць, кап сагнула ад хваробы*" (тлум. інф.).

**Каб цябе крываўка ўзяла!** Заполле Кос.

**Каб цябе людзі не пазналі!** Косава.
Г. зн. каб так захварэў, што ажно змяніўся з твару.

**Каб цябе маланка спаліла!** Альшаніца Квас.

**Каб цябе мор вымарыў!** Альшаніца Квас.
Мор–пошасць, эпідэмія.

**Каб цябе на гладкай дарозе цэліла!** Размеркі Стайк.
Г. зн. каб нечакана прыпала бяда.

**Каб цябе на іrху выстругала!** Заполле Кос.
Ірха – тонкая палоска аўчыны. Г. зн. каб схуднеў, высах.

**Каб цябе на шнурку сляпога вадзілі!** Бялавічы Кос.

**Каб цябе не пазналі бацька і маці!** Альшаніца Квас.
Жадаюць, каб моцна захварэў, змяніўся з твару.

**Каб цябе ногі не насілі на гэтым свеце!** Гошчава Стайк.

**Каб цябе нуда заела!** Скураты Квас.

**Каб цябе падняло і гопнула!** Альшаніца Квас.
Гопнуць – кінуць, бразнуць на зямлю.

**Каб цябе пад рукі вадзілі!** Рацкевічы Міл.
Водзяць пад рукі моцна хворага, нямоглага. *“Водзіж за нос, кап цябе пад рукі вадзілі!”* (з аповеду інф.). Вадзіць за нос – падманваць, ашукваць.

**Каб цябе па лапе разарвалі!** Хрышчонавічы Квас.

**Каб цябе паляруш забраў!** Альшаніца Квас.
Паляруш – паралюш, параліч.

**Каб цябе панясло, каб ты не супыніўся!** Размеркі Стайк.

**Каб цябе па полі лавілі!** Старажоўшчына Кос.
Тут: ловяць па полі вар’ята.

**Каб цябе парвала!** Кушняры Падст.

**Каб цябе пастаца ўзяла!** Заполле Кос.
Пастаца – ліхаманка.

**Каб цябе пранцы з’елі!** Жамайдзякі Міл.
Пранцы – сіфіліс.

**Каб цябе пякотка пякла!** Воля Жытл.

**Каб цябе Пярун забіў!** Ёдчыкі Квас.

**Каб цябе Пярун на гладкай дарозе забіў!** Хадакі Жытл.

**Каб цябе родная маці не пазнала!** Юкавічы Стайк.

**Каб цябе рэзалі, каб з цябе па куску даставалі!** Косава.
Жадаюць, каб трапіў на аперацыйны стол.

**Каб цябе скруціла ды не выпрастала!** Корачын Жытл.

**Каб цябе скруціла і не адпусціла!** Бялавічы Кос.

**Каб цябе ўзяло за печані!** Заполле Кос.

**Каб цябе халера ўзяла!** Хрышчонавічы Квас.

**Каб цябе чорная крываўка ўзяла!** Альшаніца Квас.
Чорная крываўка – дызентэрыя.

**Каб цябе шуляк задзёр!** Скураты Квас.

**Каб цябе шухля трэсла!** Галенчыцы Ягл.
Шухля – ліхаманка, трасца.

**Каб цябе якая халера ўдушыла!** Грыўда Міл.

**Каб я па табе хоць адны пасталы стаптала!** Альшаніцы Квас.
Г. зн. каб муж раней памёр за жонку.

**Каб яго за жывот узяло, хто гэта ўзяў!** Няхачава Стайк.

**Каб яго холяр душыў!** Заполле Кос.
Холяр – халера.

**Каб яму вочы павылазілі, каб ён свету божага не бачыў!** Альшаніца Квас.

**Каб яму дыхаць не дало!** Сярадава Жытл.

**Каб яму жылы павыцягвала!** Заполле Кос.
*"Пацягаў ён мой лён, каб яму жылы павыцягало!"* (з аповеду інф.).

**Каб яно агнём пайшло!** Жамайдзякі Міл.

**Каб я цябе пахавала маленькага!** Бялавічы Кос.

**Няхай вас халера задушыць!** Яглевічы Ягл.

**Няхай табе Бог за тваю "дабрату" заплоціць!** Заполле Кос.

**Няхай яно затане, такое жыццё!** Хрышчонавічы Квас.

**Няхай яно спрахне, такое жыццё!** Любішчыцы Люб.

**Пастацы на цябе няма!** Альшаніца Квас.

**Пі, каб ты смалы напіўся!** Скураты Квас.

**Пі, каб цябе парвала!** Плехава Люб.

**Трасца тваёй матары!** Заполле Кос.

**Трасцу табе ў бок!** Альшаніца Квас.

**Хай тыя рукі паадсыхаюць, што на бацьку з маткай падымаюцца!** Альба Квас.

**Хай цябе Бог пакарае ліхім суседам!** Альшаніца Квас.

**Хай цябе кадук задушыць!** Скураты Квас.
Кадук – нячысцік, чорт.

**Хай цябе карбунец задушыць!** Заполле Кос.

**Хай цябе сляпога водзяць!** Бялавічы Кос.
Страшны праклён. Клянуць таго, хто даўся ў знакі, здзекаваўся з людзей.

# ЖАРТОЎНЫЯ ПРАКЛЁНЫ

**А каб ты здаровы жыў!** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

**А каб цябе качкі стапталі!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**А няхай цябе камар убрыкне!** Зайка А.П., 1911 г.н., 1984. Заполле Кос.

**Дай Бог табе адным куском падавіцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001.

Жадаюць, каб усё жыццё пражыў (пражыла), маючы аднаго мужа (жонку).

**Каб табе жонка сем дачок нарадзіла!** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2002. Скураты Квас.

**Каб ты ноччу не еў, а днём не спаў!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Каб цябе дзеўкі любілі!** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2002. Размеркі Стайк.

**Каб цябе курыца ўбрыкнула!** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

**Каб яму на тым свеце лёгка ікнулася!** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2001. Бялавічы Кос.

# АДКЛЯЦЦІ

**Брашы на асінавы кол!** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Брашы на сваю галаву!** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Кляні ды сабе бяры!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Мяне кляні, а сабе бяры!** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2002. Скураты Квас.

**Соль табе ў вочы!** Паўсюль.

**Соль табе ў вочы, кацаўба ў зубы, засланка ў плечы!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Кацаўба́ – кій з патаўшчэннем на канцы.

**Хай Бог міласцівы ўберажэ ад тваіх слоў!** Лісок Л.І., 1951 г.н., 1999. Заполле Кос.

**Хай Бог мілуе!** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Хай твае словы (праклёны) на сухі лес ідуць!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Ціпун табе на язык!** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

# ЗНЕВАЖАННІ

**Абібок!** 1985. Заполле Кос.
Пра лежня, гультая.

**Абдзірус!** 1985. Заполле Кос.
Пра рухавага, няўрымслівага хлапчыну, які не шануе адзення.

**Абліва́нец!** 1996. Скураты Квас.
Пра поўнага, тоўстага мужчыну.

**Абодранік!** 1998. Грыўда Міл.
Пра чалавека, які носіць старое, лапленае адзенне.

**Аброчная торба!** 1998. Верашкі Квас.
Так зняважліва кажуць пра тоўстую жанчыну.

**Абух тупы!** 1991. Заполле Кос.
Пра чалавека невялікага розуму.

**Авечка дурная!** 1995. Аўсто Стайк.

**Аглобля яловая!** 1997. Заполле Кос.
Пра высокага, худога, невялікага розуму чалавека.

**Агрэбнік!** 1997. Мілейкі Міл.
З асуджэннем кажуць пра неахайнага чалавека.

**Адлюднік ты!** 1985. Даргужы Міл.
Пра дзіклівага чалавека.

**Ад'яда сэрца!** 1985. Альшаніца Квас.
Так асуджальна кажуць пра чалавека, які непакоіць сваімі ўчынкамі, паводзінамі.

**Азіят!** 1996. Скураты Квас.
Пра нядобрага, ліхога чалавека.

**Ака́луха!** 1988. Бялавічы Кос.

Неакуратная жанчына.

**Альфабэт дурны!** 1985. Заполле Кос.

Пра непісьменнага, неразвітога чалавека.

**Анціхрыст!** 1985. Хрышчонавічы Квас.

Тут: бязбожнік.

**Анчу́тка!** 1996. Заполле Кос.

Анчутка – нячысцік, сатана.

**Апівош (апівоша, апівошына) гэты!** 1991. Скураты Квас.

Пра п'яніцу.

**Арыштант гэты!** 1985. Квасевічы Квас.

Кажуць на неслуха, забіяку.

**Асма́лак чорны!** 1991. Старажоўшчына Кос.

Гэтак смяюцца з смуглявага чалавека.

**Атрута на блохі!** 1985. Альшаніца Квас.

Пра ўяду, назолу.

**Баба, а не чалавек!** 1985. Заполле Кос.

Баба – тут: жанчына. Гэтак кажуць пра таго, каму бракуе мужчынскіх якасцяў.

**Ба́йстар!** 1985. Заполле Кос.

Байстар – пазашлюбнае дзіця.

**Балдавешка дурная!** 1985. Альшаніца Квас.

Так зняважліва кажуць пра лянівага, някемлівага чалавека.

**Баран дурны!** 1985. Бялавічы Кос.

Пра таго, хто часта памыляецца праз сваю ўпартасць.

**Басота гэтая!** 1991. Галік Міл.

Кажуць на таго, хто бедны праз сваю бесклапотнасць, гультайства.

**Бізун!** 1997. Гічыцы Ягл.

Бізун – тут: неслух.

**Блэндала пустое!** 1985. Заполле Кос.

Пра таго, хто гаворыць шмат, але без ладу.

**Болабацень!** 1985. Заполле Кос.
Болабацень – пустабрэх, пустаслоў.

**Бомкала!** 1985. Альшаніца Квас.
Чалавек, які гучна, невыразна гаворыць.

**Бот з левае нагі!** 1985. Заполле Кос.
Тут: дурань.

**Брахун!** 1984. Дубітава Міл.
Г. зн. манюка, пустамеля.

**Брыда несусветная!** 1995. Жытлін Жытл.
Пра чалавека невысокіх маральных якасцяў.

**Брыдоцце!** 1979. Альшаніца Квас.
Пра непрыгожага, няўклюднага чалавека.

**Бурва́лак!** 1995. Даргужы Міл.
Здзекліва кажуць на тоўстага мужчыну.

**Бу́ркля!** 1996. Быч Стайк.
Чалавек, які часта выказвае незадавальненне па дробязях.

**Бэзла!** 1996. Юкавічы Стайк.
Кажуць на нявыхаванага, грубага чалавека.

**Бэйбус!** 1996. Альба Квас.
Бэйбус – гультай, абібок.

**Бэйля (бэля)!** 1985. Альшаніца Квас.
Неахайная жанчына.

**Бязмен замест галавы!** 1985. Мілейкі Міл.
Пра неразумнага чалавека.

**Бязмозглы!** 1985. Жамайдзякі Міл.

**Валацуга!** 1985. Размеркі Стайк.
Пра таго, хто не пільнуецца хаты.

**Валет дурны!** 1985. Заполле Кос.
Пра чалавека недалёкага розуму.

**Валю́ля!** 1995. Любішчыцы Люб.
Пра маруднага, павольнага чалавека.

**Ва́нтух!** 1985. Бялавічы Кос.
Вантух – жывот, трыбух. Кажуць на тоўстага чалавека.

**Варона бязмозглая!** 1985. Сярадава Жытл.
Неразумны.

**Ваўкарэзіна!** 1993. Заполле Кос.
Кажуць на ліхога чалавека.

**Вашывік!** 1985. Скураты Квас.
Вашывік – той, хто завашывеў; неахайны, брудны. Вельмі зняважлівая абраза.

**Вогір!** 1996. Квасевічы Квас.
Вогір – жарабец. Так насміхаюцца з ганарліўца.

**Волік!** 1997. Хадоркі Кос.
Пра маруду, гультаяватага чалавека.

**Вы́бай!** 1981. Заполле Кос.
Першае значэнне слова – гультай, другое – распуснік.

**Выдра!** 1985. Гошчава Стайк.
Кажуць на сварлівую жанчыну.

**Вы́жла!** 1985. Заполле Кос.
Кажуць на жанчыну, якая дамагаецца свайго ўсімі сродкамі, нават амаральнымі.

**Вырадак!** 1985. Мілейкі Міл.
Пра таго, хто сваімі паводзінамі ганьбіць сям'ю, род.

**Вы́рвус!** 1997. Жамайдзякі Міл.
Вырвус – няўрымста, свавольнік.

**Вы́скірка!** 1999. Альшаніца Квас.
Кажуць на жанчыну, якая без прычыны смяецца.

**Гадота!** 1983.Альшаніца Квас.
Пра таго, хто выклікае агіду; брыдота.

**Гад печаны!** 1985. Заполле Кос.
Пра нядобрага, ліхога чалавека.

**Галавач!** 1996. Альба Квас.
Чалавек з вялікай галавой, галавасты.

**Галадамéр!** 1984. Бялавічы Кос.
Пра таго, хто бедны праз сваё гультайства.

**Галёпа!** 1997. Альшаніца Квас.
Кажуць на худую, высокую дзяўчыну.

**Галíтар!** 1980. Заполле Кос.
Бедны чалавек.

**Ганучнік!** 1985. Бялавічы Кос.
Пра таго, хто збірае, валачэ ўсё, што трапіць пад руку, дадому.

**Гарка́вік!** 1982. Заполле Кос.
Чалавек, які нячыста, няправільна вымаўляе гукі [р], [л].

**Гарцы́ля!** 1979. Альшаніца Квас.
Жанчына, апранутая без густу.

**Гінда папова!** 1985. Квасевічы Квас.
Худая, высокая жанчына.

**Гіцаль!** 1985. Альшаніца Квас.
Кажуць на неслуха.

**Глухяндзя́!** 1985. Заполле Кос.
Пра чалавека, які моцна недачувае.

**Глу́шман!** 1993. Грыўда Міл.

**Гніда ганавічная!** 1985. Альшаніца Квас.
Кажуць у злосці, каб абразіць, прынізіць некага.

**Гніда паршывая!** 1985. Заполле Кос.
Тое самае.

**Гопа!** 1985. Заполле Кос.
Скажуць на жанчыну з непрыгожай хадой.

**Грыб раскіслы!** 1985. Бялавічы Кос.
Кажуць на старога кавалера.

**Гультай!** 1985. Жамайдзякі Міл.

**Гультая кавалак!** 1985. Бялавічы Кос.

**Дармаед!** 1985.Заполле Кос.

**Даўбешка дурная!** 1999. Жамайдзякі Міл.
Някемлівы чалавек.

**Дзевуля́ (дзяўля́)!** 1982. Альшаніца Квас.
Дарослая дзяўчына, якая паводзіць сябе як малое дзіця.

**Дзюба!** 1978. Альшаніца Квас.
Чалавек з вялікім гарбатым носам.

**Доўбня!** 1995. Хадоркі Кос.
Доўбня – тут: тупы, неразвіты чалавек.

**Дурань дурны!** 1985. Альшаніца Квас.

**Жаба лупатая!** 1985. Заполле Кос.
Пра вірлавокага чалавека.

**Жаба-падрубніца!** 1985. Альшаніца Квас.
Тут: непрыгожая, рабая жанчына.

**Завала гэты!** 1985. Скураты Квас.
Пра гультая.

**Заваліна!** 1995. Мілейкі Міл.
*“Лодыр, гультай, які ляжыць калодаю, цэлымі днямі”* (тлум. інф.).

**Закўтнік!** 1995. Мілейкі Міл.
Чалавек, які прывык увесь час быць дома.

**Зараза!** 1995. Стайкі Стайк.

**Зацэнлівы конь!** 1996. Быч Стайк.
Пра ўпартага чалавека, якога не пераканаеш ні ў чым.

**Звягá!** 1995. Хадоркі Кос.
Пра звяглівага, бурклівага чалавека.

**Згíбельнік гэты!** 1980. Заполле Кос.
Марнатраўца.

**Здыхляк гэты!** 1985. Ёдчыкі Квас.
Пра худога чалавека. *“Косьці ды рэбры”* (тлум. інф.).

**Зякра́ч!** 1985. Заполле Кос.
Вірлавокі чалавек.

**Ідал, а не чалавек!** 1995. Няхачава Стайк.
Кажуць на ліхога, помслівага чалавека з нізкімі маральнымі якасцямі.

**Ідал пракляты!** 1995. Заполле Кос.
Тое самае.

**І́кала!** 1996. Юкавічы Стайк.
Пра заіклівага чалавека.

**Ірад!** 1995. Заполле Кос
Пра ліхога, страшнага чалавека.

**Кадук!** 1983. Заполле Кос.
Чорт, нячысцік.

**Калупайла!** 1993. Була Міл.
Пра маруду.

**Камёлак!** 1985. Руда Падст.
Пра поўнага, тоўстага чалавека.

**Камла́ч!** 1982. Альшаніца Квас.
Пра чалавека з калматымі, кудлатымі валасамі.

**Каніска!** 1996. Галік Міл.
Пра дужага, але гультаяватага юнака.

**Капа́чка!** 1997. Быч Стайк.
Тут: маруда, неахайніца.

**Капі́ца!** 1996. Аўсто Стайк.
Капіца – невялікая капа саломы, сена. Тут: тоўстая, прысадзістая жанчына.

**Карачун!** 1985. Альшаніца Квас.
Пра малога ростам чалавека.

**Карка́вік!** 1980. Заполле Кос.
Пра чалавека, які дрэнна вымаўляе гук [р].

**Катарэзнік!** 1995. Заполле Кос.
Жорсткі, нялюдскі чалавек.

**Ке́шкала!** 1978. Бялавічы Кос.
Маруда.

**Кіла́вік!** 1996. Няхачава Стайк.
Чалавек, хворы на грыжу. Кажуць на любога.

**Клыбач!** 1996. Бараны Ягл.
Чалавек, які кульгае.

**Кнур вылегчаны!** 1997. Сярадава Жытл.
Кнур – кныр.

**Кныш ты!** 1984. Заполле Кос.
Кажуць на нізкарослага чалавека.

**Крук!** 1985. Альшаніца Квас.
Пра згорбленага чалавека.

**Круцель!** 1995. Панкі Люб.
Тут: ілгун, манюка.

**Крывапівец!** 1995. Заполле Кос.
Кажуць на чалавека, які праліў нявінную кроў.

**Крывы чорт!** 1995. Яглевічы Ягл.
Так завуць благога чалавека з фізічным недахопам: кульгавага, гарбатага, з пакрыўленым тварам.

**Крыкля!** 1996. Панкі Люб.
Пра крыклівага чалавека.

**Ку́длач!** 1995.Гошчава Стайк.
Чалавек з доўгімі непрычасанымі валасамі.

**Ку́ндаль!** 1995. Быч Стайк.
Кундаль – сабака.

**Ку́ндаліска!** 1995. Заполле Кос.
Тое самае.

**Курду́пель малы!** 1993. Заполле Кос.
Чалавек малога росту.

**Ку́чма!** 1983. Заполле Кос.
Чалавек са злямчанымі, кудлатымі валасамі.

**Ламіна!** 1996. Бялавічы Кос.
Пра чалавека дужага, здаровага, але гультая.

**Ла́нтух!** 1994. Заполле Кос.
Так завуць чалавека з празмерна вялікім жыватом.

**Лу́пач!** 1996. Хадоркі Кос.
Вірлавокі чалавек.

**Лярва!** 1996. Сярадава Жытл.
Пра распусную жанчыну.

**Мазгавешка дурная!** 1995. Яблонка Жытл.
Мазгавешка – галава.

**Малатарня!** 1995. Хрышчонавічы Квас.
Пра таго, хто шмат і хутка гаворыць.

**Малпа бясхвостая!** 1985. Альшаніца Квас.
Здзеклівая абраза.

**Маўмы́га!** 1996. Аўсто Стайк.
Пра хмурага, маўклівага чалавека.

**Мех салявы́!** 1993. Заполле Кос.
Пра невысокага, тоўстага чалавека.

**Мікалаеўская дзеўка!** 1993. Бялавічы Кос.
Пра жанчыну, якая не выходзіла замуж.

**Мокрая курыца!** 1993. Скураты Квас.
*"Так завуць чалавека, які згорбіўся, сьцяўся, як мокрая курыца"* (тлум. інф.).

**Му́рзач!** 1996. Альшаніца Квас.
Неахайны, мурзаты чалавек; мурза.

**Му́тар (му́тач)!** 1983. Заполле Кос.
Хлус, манюка.

**Мухамор стары!** 1985. Альшаніца Квас.
Часцей кажуць пра старога кавалера.

**Муце́ль!** 1993. Заполле Кос.
Тое самае, што і мутар.

**Муцялíска!** 1995. Квасевічы Квас.
Тое самае.

**Мыш рудая!** 1995. Бялавічы Кос.
Так кажуць на невысокую рудую жанчыну.

**Мядзведзь непаваротлівы!** 1993. Заполле Кос.
Пра высокага, тоўстага, маруднага чалавека.

**Мяла!** 2002. Старажоўшчына Кос.
Непаваротлівы, марудны чалавек.

**Мянёк!** 1996. Грыўда Міл.
Пра тоўстага, гладкага чалавека.

**Набовіч!** 1984. Альшаніца Квас.
Пра таго, хто настойліва прапаноўвае сябе ў дапамогу, маючы карыслівыя мэты.

**Навалач!** 1985. Скураты Квас.
Пра прышлых людзей, чужынцаў.

**На́даўбень (на́дуўбень)!** 1995. Бусяж Міл.
Пра ні на што не здатную дзеўчыну, маладзіцу.

**Незграбоцце!** 1997. Галенчыцы Ягл.
Тое самае.

**Нелюдзь!** 1995. Хрышчонавічы Квас.
Так назавуць таго, хто парушыў усе нормы людской маралі.

**Не́мера!** 1980. Заполле Кос.
Гэта непраходная багна. Тут: вырадак, вылюдак.

**Нерадзь!** 1982. Заполле Кос.
Пра недаростка.

**Нехлюя́!** 1995. Размеркі Стайк.
Неакуратная, неахайная жанчына.

**Нехрысць!** 1985. Скураты Квас.
Пра таго, чые паводзіны, учынкі не стасуюцца з нормамі хрысціянскай маралі.

**Норнік!** 1980. Заполле Кос.
Занадта запаслівы чалавек.

**Нэнза!** 1995. Мілейкі Міл.
Той, хто ўвесь час ные, скардзіцца.

**Нячыстая сіла!** 1995. Альшаніца Квас.
Кажуць таму, хто паводзіць сябе абуральна.

**Падскрэ́буха!** 2003. Скураты Квас.
Пра апошняе дзіця ў сям'і.

**Пашку́да (пашку́дзяр)!** 1995. Харошча Міл.
Брыдкі, агідны чалавек.

**Певень восеньскі!** 1985. Альшаніца Квас.
Кажуць на маладога задзірыстага хлопца. "*Певянь восеньскі – с позьніх куранят. Ён малады, задзірысты, яму хочацца пабіцца с старым пеўням*" (тлум. інф.).

**Піскля!** 1996. Галік Міл.

**Польскі кавалер!** 1995. Альшаніца Квас.
Стары халасцяк.

**Порацік!** 1980. Заполле Кос.
Маруда.

**Поркала!** 1986. Альшаніца Квас.
Тое самае.

**Порхаўка старая!** 1995.Аляксейкі Стайк.
Здзеклівая абраза. Кажуць на дзеўку-векавуху.

**Прайдзісвет!** 1996. Яблонка Жытл.
Кажуць на таго, хто не трымаецца роднага кута, а гойсае па белым свеце.

**Прыблуда!** 1996. Размеркі Стайк.
Першае значэнне: прымак; другое – чужы, нетутэйшы чалавек.

**Пудзіла агароднае!** 2011. Заполле Кос.
Пра неахайнага ці безгустоўна апранутага чалавека.

**Пунтовік!** 1995. Сенькавічы Падст.
Зацяты, упарты чалавек.

**Пустабрэх!** 1997. Дубітава Кос.
Пра таго, чыя гаворка пустая.

**Пустамеля!** 1996. Яблонка Жытл.
Тое самае.

**Пэцкала!** 2001. Хадоркі Кос.
Пэцкаль, няўмелы, неакуратны ў працы чалавек.

**П'яніца горкі!** 1995. Плехава Люб.

**Раззёва!** 1995. Хрышчонавічы Квас.
Разява.

**Размазня, а не мужык!** 1993. Заполле Кос.
Пра нерашучага, слабавольнага чалавека.

**Раме́ннік!** 1986. Бялавічы Кос.
Чалавек у брудным, заношаным адзенні.

**Рапу́ха!** 1996. Размеркі Стайк.
*"Рапуха падобная да жабы, з бугрыстай скурай, шэрая. Выклікае агіду. Гэдак і благі чалавек"* (тлум. інф.).

**Рыдва́нец! 1980**. Заполле Кос.
Тоўсты, непаваротлівы чалавек.

**Рэ́йдала!** 1985. Альшаніца Квас.
Чалавек, які гаворыць бязглуздзіцу.

**Сабака валацужны!** 1991. Альба Квас.

**Салапя́ка!** 1980. Заполле Кос.
Салапяка – чалавек, у якога вывальваецца язык з рота. Тут: няўважлівы, разгублены.

**Сапе́ль!** 1985. Скураты Квас.
Падлетак, маладзён.

**Свіння свіннёю.** 1991. Ятвезь Квас.

**Сві́нтух!** 1996. Квасевічы Квас.

**Серка!** 1980. Заполле Кос.
Мітуслівы чалавек, які шмат за што бярэцца, але не даводзіць да канца.

**Сікун!** 1996. Рацкевічы Міл.
Кажуць на падлетка.

**Скнэра!** 1995. Бусяж Міл.
Плакса.

**Скупяндзя́!** 1995. Лазаўцы Міл.
Кажуць на скупога чалавека.

**Слепяндзя́!** 1997. Зыбайлы Жытл.
Кажуць на чалавека з дрэнным зрокам.

**Сляпу́ндра!** 1997. Зыбайлы Жытл.
Тое самае.

**Смаркач!** 1995. Мілейкі Міл.
Малады гадамі, недаростак.

**Смырод!** 1980. Заполле Кос.
Тое самае.

**Смяцю́х!** 1980. Заполле Кос
Пра малога ростам юнака.

**Сойба (соўба)!** 1985. Альшаніца Квас.
Насатая жанчына.

**Стары корч!** 1996. Міхнавічы Стайк.

**Стары пень!** 1996. Міхнавічы Стайк.

**Ста́ўдур!** 1996. Панкі Люб.
Пра высокага нязграбнага чалавека.

**Страшыдла!** 2011. Заполле Кос.
Пра таго, хто мае страшны выгляд

**Сухарэбрык!** 1995. Бусяж Міл.
Худы чалавек.

**Таўкач камяк таўчы!** 1996. Верашкі Квас.
Камяк – бульбяная каша. Таўкач – прылада, якой таўкуць камяк. Так кажуць пра неразумнага чалавека.

**Трыбухач!** 1985. Заполле Кос.
Кажуць на чалавека з вялікім жыватом.

**Ту́мар!** 1980. Заполле Кос.
Тумар – сугней, нелюдзень; пануры чалавек.

**Тэндаль!** 1996. Альшаніца Квас.

*"І гаворка ў мушчыны альбы-якая, і ходзіць нага за ногу – гэто тэндаль"* (тлум. інф.).

**Убоіска!** 1980. Заполле Кос.

Лянівы як вол.

**Хамло!** 1999. Бялавічы Кос.

Нявыхаваны, грубы чалавек.

**Хамула!** 1999. Бялавічы Кос.

Тое самае.

**Хамут!** 1998. Боркі Люб.

Нявыхаваны, неадукаваны чалавек.

**Хвалідýп!** 1985. Заполле Кос.

Чалавек, які любіць пахваліцца; хвалько.

**Хварсун!** 1996. Гошчава Стайк.

Задавака.

**Храпáч!** 1979. Альшаніца Квас.

Чалавек з шырокімі ноздрамі.

**Хрýля!** 1980. Заполле Кос.

Пра таго, хто доўгі час хварэе, не папраўляецца.

**Целямпей!** 1995. Быч Стайк.

Маруда, цяльпук.

**Цынцоха!** 1996. Заполле Кос.

Жанчына з вялікім бюстам.

**Цытра!** 1996. Стайкі Стайк.

Пра нахабную, ліхую жанчыну, якая нікому не выбачыць.

**Чмутáр!** 1996. Стайкі Стайк.

Варажбіт.

**Чорт лупаты!** 1996. Косава.

Пра вірлавокага чалавека.

**Чорт лысы!** 1995. Харошча Міл.

Пра лысага чалавека.

**Чорт рагаты!** 1995. Харошча Міл.
Пра таго, хто паводзіць сябе непрыстойна, нахабна.

**Шалота!** 1985. Заполле Кос.
Пра чалавека, які гаворыць непатрэбшчыну.

**Ша́хвараст!** 1996. Гошчава Стайк.
Чалавек, які не шануе адзення, абутку.

**Шахра́й!** 1996. Куляшы Міл.
Пра таго, хто хутка траціць грошы.

**Шкара́да!** 1996. Боркі Падст.
Так кажуць на непаслухмянага падлетка.

**Шлёма!** 1984. Заполле Кос.
Пра чалавека, які ходзіць, цягаючы ногі.

**Шломба!** 1999. Альшаніцы Квас.
Тое самае.

**Шыбельнік!** 1996. Заполле Кос.
Пра таго, па кім плача шыбеніца.

**Юда прадажны!** 1985. Скураты Квас.

# ДРАЖНІЛКІ-КЕПІКІ

**Андрэй за усіх мудрэй.** Свігла В.А., 1958 г.н., 2002. Косава.

**Андрэй, не дурэй, не дзяры сарочкі, ты не праў, ты не ткаў – не твае і дочкі!** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Гаварыў чорт: "Кузьму вазьму!"** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Гаўрыла заліў рыла.** Зайка Е.Я., 1903 г.н., 1980. Заполле Кос.

Заліў рыла – напіўся.

**Даніла паехаў па мыла.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2002. Скураты Квас.

**Дзяніс палез на ніз.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

**За гарою вецер вее, а Мікіта жыта сее. Мікіціха козы доіць, а Мікіта хлявы строіць. Мікіта-чыкіта, ні я то – твой тато. А ў Антося хлеў з палосся, а ў Мікіты – хлеў з ракіты. Мікіта-чыкіта, не я то – твой тато.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

Палоссе – вузкія, доўгія палосы лыка.

**Зося без спадніцы і валосся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Ігнат не вінават, вінавата Агата, што лягла пад Ігната.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Купяр'ян вірлавокі, ты паві мне валокі, а за гэты валокі – ты Купяр'ян вірлавокі.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Купяр'ян – размоўнае імя да Купрыян. Валокі – аборы для лапцей.

**Марка бегае шпарка.** Стась І.В., 1912 г.н., 1995. Заполле Кос.

**Матруна села драць пер'е і заснула.** Голуб В.І., 1930 г.н., 2000. Скураты Квас.

**Пахом на свінні ехаў вярхом.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2002. Скураты Квас.

**Піліп да лаўкі прыліп.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2003. Косава.

**Прыехала басота з запалянскага балота. Не пілі, не елі, а ўсю свінню з'елі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Басота з запалянскага балота – тут: моладзь з вёскі Заполле.

**Пятрок ходзіць без парток.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Пятрусь злавіў гусь, Петрусіха – качку, пасадзілі на прыпечку, цалавалі ў срачку.** Лушчык В.І., 1928 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

**Скажы, Рыгор, што між гор?** Зайка Е.Я., 1903 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Такую Марцэлю я і на сметніку цэлю.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2004. Заполле Кос.

**"Тамаш, хлеба нямаш?" – "Была скарынка – з'ела Марынка, быў пiражок – з'еў каток".** Здзітавец М.М., 1885 г.н., 1966. Заполле Кос.

**Тодар да работы лодар.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 2001. Заполле Кос.

Лодар – гультай.

**У нашага Антося штаны з палосся.** Шумовіч А.В., 1924 г.н., 1997. Хрышчонавічы Квас.

**У нашага Ігната барада калмата, барадою патрасе, гарэлачкі прынясе.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2004. Заполле Кос.

**У нашага Кандрата ўся хата абадрата: аблупілася, аблупілася.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Хітры Дзімітры, але і Саўка не дурны.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Хрысціна ў кутку мышы хрысціла.** Лісок Ё.І., 1936 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Цімох паехаў па мох, моху не надраў, пяты абадраў.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Цярпі, Грышка, карчма блізка.** Рабчэня У.І., 1940 г.н., 2005. Заполле Кос.

**Якаў курыцу драпаў.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2002. Скураты Квас.

**Якаў плакаў – воз накапаў.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Янку куця́ збіла з пуця́.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Куця – неахайная жанчына.

# ПАРАЎНАННІ

**Абадралі як ліпку.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 1999. Бялавічы Кос.

Ліпу дралі на лыка. Тут: абабралі, пазбавілі маёмасці.

**Абарваўся як бізун.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Ад частага ўжывання бізун, віты з лёну або канапель, трэплецца, калмаціцца; параўнанне адзення чалавека з такім бізуном відавочнае.

**Абарваўся (абнасіўся) як жабрак.** Хацімка К.П., 1891 г.н., 1974. Гошчава Стайк.

**Аблезлы як рудая мыш.** Зайка А.С., 1920 г.н., 1987. Бялавічы Кос.

**Аблезлы як стары грыб.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2004. Заполле Кос.

"*Кажуць так пра таго, хто маладзіцца, хварсіць, а сам мае багата гадоў*" (тлум. інф.).

**Аблез як сабака.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 2004. Заполле Кос.

**Аблізваецца як кот на сала.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1986. Альшаніца Квас.

**Аблупілі як вавёрку.** Грэцкі У.М., 1910 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Аблупілі – тут: абабралі, абакралі.

**Аброс як мядзведзь.** Максімчык В.У., 1936 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

Г. зн. даўно не голены, з доўгімі раскудлачанымі валасамі.

**Абрыдла як горкая рэдзька.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра надакучлівага чалавека. *"Даўней пасьцілі людзі, ні елі скаромнаго, часто елі рэдзьку, ажно збрыдня яна. І на чалавека надакучліваго, неаччэпнаго так казалі"* (тлум. інф.).

**Абсекся як язык праглынуўшы.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

*"Хацеў сказаць альбо нідобрае, альбо тайнае, але прыкусіў язык, стрымаўся"* (тлум. інф.).

**Абсмакталі (абабралі) як сабакі костку.** Вясна А.А., 1901 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. забралі ўсё, што можна, да апошняй ніткі.

**Абстрыглі як авечку.** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 1997. Бялавічы Кос.

Інфармант засведчыў два значэнні: 1) абабралі, абакралі; 2) неакуратна, няроўна падстрыглі.

**Абыходзіцца як з велікодным яйцом.** Бахур Г.В., 1923 г.н., 2003. Яглевічы Ягл.

Г. зн. вельмі далікатна. *"Велікоднае яйцо сьвянцонае, яго берагуць"* (тлум. інф.).

**Агарод як курыцы сесці.** Гардзейка А.М., 1915 г.н., 1995. Галік Міл.

Г. зн. малы.

**Адбілі як авечку ад статка.** Еўтух А.І., 1941 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"Як адаб'юць ваўкі авечку ат статка, то прапала. Гэдык і маладзіца. Трапіць у другую сям'ю, у ліхія людзі, то праведаць бацькоў ні дадуць. Трымаюць як у клетцы"* (тлум. інф.).

**Адваліў як каня.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Адваліць – адлупцаваць, моцна набіць.

**Адзелася (апранулася) як пападдзя.** Жылка М.С., 1941 г.н., 1996. Заполле Кос.

Пра таго, хто апранаецца ў доўгае адзенне.

**Адзеты (апрануты) як жабрак.** Бахур І.В., 1925 г.н., 1996. Боркі Падст.

Г. зн. вельмі бедна.

**Адзеўся (апрануўся) як Амялян на Пакровы.** Пархута Г.У., 1925 г.н., 2008. Жамайдзякі Міл.

*"Некалі жыў у вёсцы дзядзько на ймя Амялян. На Пакрову ён апрануўся па-сьвяточнаму, але ў адным пралічыўся: ні так, як трэба, зашпіліў пінжак. Выйшло адно крысо вышэй, а другоя ніжэй. С таго часу пайшла гэтая покаска"* (тлум. інф.).

**Адзін як вока ў лобе.** Вясна А.А., 1901 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра чалавека, які жыве ў адзіноце, не мае радні.

**Адзін як кол пры дарозе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Адзін як месяц у небе.** Карловіч І.П., 1914 г.н., 1983. Бялавічы Кос.

**Адзін як палец.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 1998. Размеркі Стайк.

**Адзін як пень.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Адскочыў як уджалены.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

**Ажаніўся як з лавы (з печы) зваліўся.** Лушчык В. І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Неспадзявано, доўго зь дзеўкай не хадзіўшы"* (тлум. інф.).

**Ажаніўся як утапіўся.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Г. зн. паспешліва, няўдала.

**Ажаніўся як у яму ўваліўся.** Шчурко Т.І., 1940 г.н., 1998. Заполле Кос.

**Апрануўся як цыбуліна.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1984. Заполле Кос.

Г. зн. апрануў на сябе шмат адзення.

**Апусціўся як ліхія (рваныя) ганавіцы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Ганавіцы – нагавіцы, штаны. *"Ходзіць ніахайны, уся адзёжа падрата"* (тлум. інф.).

**Астаўся як стаю.** Суцько М.Д., 1925 г.н., 2003. Була Міл.

*"Згарэлі мы ў вайну, то асталіся як стаю"* (тлум. інф.). Г. зн. страцілі ўсё нажытае.

**Асунуўся як мех.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Самлеў, знепрытомнеў.

**Баба як венік.** Прыступчык М.В., 1925 г.н., 2003. Падстарынь Падст.

Г. зн. хуткая, вёрткая.

**Баба як кадушка.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 1985. Заполле Кос.

Кадушка – невялікая кадзь. Тут: невысокая, тоўстая, круглая.

**Баба як ступа.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

Ступа – тут: тоўстая, непаваротная, марудная.

**Багатая як зямля.** Шарубейка І.М., 1934 г.н., 2003. Воля Жытл.

**Балбоча як індык (як цецярук).** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. гаворыць хутка, невыразна, глытаючы словы.

**Баліць цела як пабітае.** Грэцкі У.М., 1910 г.н., 1979. Бялавічы Кос.

**Барада як памяло.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2005. Заполле Кос.

Памяло – венік з хваёвых, яловых, бярозавых галінак, надзеты на палку, для вымятання або абмятання чаго-небудзь. Тут: шырокая, густая.

**Бачыць як у сне.** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 1993. Бялавічы Кос.

Г. зн. невыразна.

**Баяцца як агню.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Баяцца як воўк авечкі.** Мінчук М.Дз., 1930 г.н., 1997. Галенчыцы Ягл.

**Баяцца як кот сабакі.** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

**Баяцца як леташняга снегу.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. зусім не баяцца. “*Баюся цябе як леташняго сьнегу*” (прыклад інф.).

**Баяцца як ліхой свекрыві.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

**Бегае за дзеўкамі як певень восеньскі.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

“*Так жартуюць с хлопца-падлетка, якого дзяўчаты не ўспрымаюць усур'ёс празь яго маладосьць*” (тлум. інф.).

**Бегае як дурны.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2005. Заполле Кос.

Пра неўраўнаважанага, нервовага чалавека, які ніяк не знойдзе супакаення.

**Бегае як жыд бровара падпаліўшы.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2010. Размеркі Стайк.

“*Патпаліў жыд бровара, а пасьля пашкадаваў, шчо пагарачыўся, а ні патушыш ужэ. Так кажуць пра запальчываго чалавека, які зробіць альбо скажа нешчо, а назад зробленае ці слова ні верняш*” (тлум. інф.).

**Бегае як з ланцуга сарваўшыся.** Шумовіч А.В., 1924 г.н., 1996. Хрышчонавічы Квас.

Так з іроніяй кажуць пра хуткага, імклівага чалавека.

**Бегае як непрытомны.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

Г. зн. у стане вялікага душэўнага хвалявання.

**Без жонкі як сяннік без саломкі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

“*Сяньнік бес саломы – не сяньнік, а мех, мушчына бяж жонкі – ні чалавек*” (тлум. інф.).

**Без солі яда як трава.** Шумовіч А.В., 1924 г.н., 1995. Хрышчонавічы Квас.

Г. зн. нясмачная.

**Белы як малако.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

Пра чалавека, які знаходзіцца ў стане ўзрушэння.

**Белы як смерць.** Уласавец А.М., 1927 г.н., 1997. Яглевічы Ягл.

**Белы як снег.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 1999. Размеркі Стайк.

**Белы як палатно.** Шумовіч А.В., 1924 г.н., 1998. Хрышчонавічы Квас.

**Белы як сцяна.** Свігла В.А., 1958 г.н., 2001. Косава.

**Бзыіць як авадзень.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2005. Заполле Кос.

Пра бурклівую жанчыну.

**Біць (душыць) як ката ў мяху.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Мучыць, здзекавацца, катаваць.

**Блішчыць як у ката вочы.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1995. Скураты Квас.

**Бляе як авечка.** Суцько М.Д., 1925 г.н., 2003. Була Міл.

Пра няздольнага да спеваў.

**Боль як рукой адняло.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Пра боль, які прапаў.

**Боты як лыжы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Г. зн. вялікія, не па назе.

**Бровы як шнурочкі.** Голуб В.І., 1930 г.н., 1995. Скураты Квас.

Г. зн. вузенькія.

**Брыдкая як рапуха.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

**Брэша як сабака на вецер.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Пра пляткарку.

**Будзе табе як сіваму каню.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2010. Размеркі Стайк.

Пагрозліва кажуць таму, хто ў нечым правінаваціўся.

**Бурчыць як кіла.** Жыромская Н.В., 1918 г.н., 1995. Бусяж Міл.

Кіла – грыжа. Тут: бубніць, сярдзіта мармыча.

**Бурчыць як ліхая свякроў.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

**Бурчыць як скула ліхая.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2001. Бялавічы Кос.

Г. зн. бурчыць без супынку.

**Бухае як у бочку.** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

Г. зн. моцна кашляе.

**Б'юцца як каты ў мяху.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1991. Заполле Кос.

"*Так кажуць пра тых, хто жыве ў нязгодзі ў адной хаці*" (тлум. інф.).

**Бяжыць як на пажар.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. хутка, імкліва.

**Бяжыць як сабака язык высалапіўшы.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1995. Скураты Квас.

Г. зн. вельмі хутка, колькі змогі.

**Бяжыць як у рэчцы вада.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Г. зн. няспынна. Тут: пра імклівасць часу, жыцця.

**Вада чыстая як сляза.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2004. Заполле Кос.

**Вада чыстая як шкло.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

**Валасы як дрот.** Голуб І.В., 1931 г.н., 1996. Скураты Квас.

Г. зн. шорсткія.

**Валасы як лён.** Бурвін К.А., 1937 г.н., 1996. Бялавічы Кос.

Г. зн. мяккія.

**Валасы як на вожыку.** Бурдзь А.М., 1963 г.н., 1978. Заполле Кос.

Пра шорсткія, ускудлачаныя валасы.

**Валачэцца як вяроўка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. павольна, ледзь перастаўляючы ногі.

**Валіць як каня.** Голуб М.С., 1951 г.н., 2001. Квасевічы Квас.

Моцна біць.

**Варочаецца як мядзведзь (як свіння).** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

Пра павольнага, няўклюднага чалавека.

**Ва́рыць як у гаршку.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Пра надвор'е. Тут: спякотна, нават ветрык не падзьме.

**Ведаць як аблупленага.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 1995. Размеркі Стайк.

Г. зн. добра ведаць.

**Вёрткі як вуж.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 1984. Альшаніца Квас.

**Вёрткі як уюн.** Воўна В. Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Відаць як на далоні.** Майсейчык А.А., 1924 г.н., 1984. Гошчава Стайк.

**Вісіць як камень на шыі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Кажуць, калі ад нечага цяжка пазбавіцца.

**Вісіць як на калку.** Бурвін К.А., 1937 г.н., 2005. Бялавічы Кос.

Гаворка ідзе пра адзенне на худым чалавеку.

**Вісіць як у мяшку.** Бялевіч А.Ц., 1909 г.н., 1996. Рацкевічы Міл.

Неба нізкае, хмарна.

**Вішчыць як парася ў плоце.** Бабей Р.Д., 1911 г.н., 1995. Ёдчыкі Квас.

Гучна, прарэзліва.

**Водзіць галава як п'янага.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Так гаворыць пра сябе хворы чалавек.

**Вольны як вецер.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

Пра чалавека, які не абцяжарвае сябе клопатамі, нават пазбягае іх.

**Востры як каса.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2003. Косава.

Пра ўсё, што добра навострана.

**Вочы бегаюць як у злодзея.** Саўчук М.Р., 1922 г.н., 1997. Жытлін Жытл.

**Вочыываліла (вытрашчыла) як сава.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2005. Заполле Кос.

**Вочы як у жабы.** Шчурко Я.Р., 1928 г.н., 2006. Бялавічы Кос.

Г. зн. лупатыя.

**Вочы як у ката.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. блішчаць.

**Вочы як шкляныя.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 1980. Альшаніца Квас.

Такія вочы бываюць у п'янага чалавека.

**Вучоных развялося як сабак.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Іранічнае выказванне пра шматлікіх прамоўцаў, пракаў, якіх шмат развялося ў наш час.

**Вываліў зубы як конь.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 1995. Заполле Кос.

**Вываліўся як жэрдка.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Хлапец вырас, выцягнуўся.

**Выган як бубен.** Турчына Н.К., 1922 г.н., 1995. Грыўда Міл.

Пусты, выгаралы на сонцы, выбіты капытамі жывёл.

**Выдзыгвае як бычок на прывязі.** Лісок М.І., 1932 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Выдзыґваць – падскокваць. “*Маладое цяля і хлапчына-гарэза аднолькава радуюцца свабодзі*” (тлум. інф.).

**Вые як воўк у Піліпаўку.** Жук Дз.А., 1919 г.н., 1995. Жамайдзякі Міл.

Піліпаўка – шасцітыднёвы перадкалядны пост. Гэтым часам ваўкі гуляюць сваё вяселле, збіраюцца ў зграі, выюць. Выць – тут: плакаць горка, няўцешна.

**Вые як сабака.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Выйшаў як памыямі абліты.** Фядосік М.К., 1928 г.н., 1992. Гошчава Стайк.

Г. зн. зняважаны.

**Выквацаўся як свіння.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2005. Заполле Кос.

Выквацацца – выпацкацца.

**Вылезла як вош на лоб.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

Кажуць так тады, калі выявіцца нешта таемнае.

**Вылупіў вочы як кот.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Вылупіў вочы як сава.** Шыманчык У.А., 1917 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

**Вымак як шчур.** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

Г. зн. да апошняй ніткі, увесь.

**Выпацкаўся як чорт.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Вырабіў зямлю на пух.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

Вельмі добра апрацаваў, зрабіў мяккай.

**Вырас як з-пад зямлі.** Серая А.Р., 1877 г.н., 1973. Заполле Кос.

Г. зн. з'явіўся раптоўна, нечакана.

**Высах аж вушы свіцяцца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Тут: моцна схуднеў.

**Высах на былінку (на нітку).** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1974. Заполле Кос.

Пра схуднелага, змарнелага чалавека.

**Высах на трэску (шчэпку).** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

Тое самае.

**Выскаляецца як жалезка знайшоўшы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Ж а л е з к а – тут: падкова ці сцізорык. "*Так кажуць пра чалавека, які бес прычыны сьмяецца*" (тлум. інф.).

**Выскачыў бы піліп з канапель.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2003. Заполле Кос.

Г. зн. нечакана, раптоўна. П і л і п – тут: заяц.

**Выскачыў як апараны.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

Г. зн. імкліва, хутка.

**Выскачыў як з агню.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

Тое самае.

**Выскачыў як спалоханы.** Гоган І.Я., 1931 г.н., 2006. Заполле Кос.

Тое самае.

**Выскачыў як чорт з канапель.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2008. Бялавічы Кос.

Г. зн. знянацку.

**Высокі як тычка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Пра чалавека.

**а) Выцягнуўся як тычка.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2002. Косава.

**Вытрашчыў вочы як жаба.** Мінчук М.Дз., 1930 г.н., 1997. Галенчыцы Ягл.

**Выцягнуў лапы як камар.** Грыб А.І., 1953 г.н., 2011. Косава.

Сканаў, памёр. “*Жыў-жыў, выцягнуў лапы як камар – нічого ўжэ яму ні трэба*” (тлум. інф.).

**Вялы як рыба.** Ганчарэня Л.А., 1947 г.н., 1992. Заполле Кос.

**Гаваркі як малатарня.** Мяцечка У.А., 1923 г.н., 2006. Мілейкі Міл.

**Гаворыць як блёкату наеўшыся.** Невяроўская Н.А., 1914 г.н., 1995. Юкевічы Стайк.

Блёкат (*Hyoscyamus*) – атрутная травяністая расліна з сям’і паслёнавых. Г. зн. гаворыць, як непрытомны, як сам не свой.

**Гаворыць як бобу наеўшыся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. бязглуздзіцу.

**Гаворыць як з кніжкі чытае.** Дакучыц С.Р., 1929 г.н., 1996. Ятвезь Квас.

Выразна прамаўляючы словы, складна.

**Гаворыць як лістом сцеле.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. лісліва, запабягаючы.

**Гаворыць як макам сыпле.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Тут: хутка, адрывістымі фразамі.

**Гаворыць як масла на патэльні.** Шчурко Я.Р., 1928 г.н., 2006. Бялавічы Кос.

Гучна, адрывіста.

**Гаворыць як не сваім голасам.** Мігель А.А., 1918 г.н., 1976. Заполле Кос.

Г. зн. спалохана, разгублена.

**Гаворыць як п'яны.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

Г. зн. з цяжкасцю прамаўляючы словы.

**Гаворыць як стары.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2002. Бялавічы Кос.

Пра дзіця, якое разважае, як дарослы.

**Гаворыць як тры дні не еўшы.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

Г. зн. ціха.

**Гаворыць як у торбу кладзе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. хораша, складна.

**Гады як вада сплываюць.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Галава гудзе як збан.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Кажуць, калі моцна баліць галава.

**Галава як брушка.** Суцько М.Д., 1925 г.н., 2003. Була Міл.

Г. зн. круглая, вялікая.

**Галава як бязмен.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1981. Заполле Кос.

**Галава як гарбуз.** Мігель А.А., 1918 г.н., 1979. Заполле Кос.

Г. зн. круглая, вялікая.

**Галава як дзіравае рэшата.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Пра бяспамятнага чалавека.

**Галава як калена.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. лысая.

**Галава як на кію.** Шчурко Ф.А., 1926 г.н., 2003. Заполле Кос.

*"Пра вяртлявага чалавека, быстрага"* (тлум. інф.).

**Галава як ражка.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Г. зн. вялікая. Ражка – драўляная пасудзіна ў выглядзе цэбрыка з ручкай.

**Галава як цабэрак.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Тое самае. Цабэрак – невялікі цэбар.

**Галасок як званочак.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Г. зн. звонкі.

**Галодны як воўк.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Галодны як сабака.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

**Галоўка як макаўка.** Шчурко Т.І., 1940 г.н., 2008. Заполле Кос.

Г. зн. круглая, як галоўка маку.

**Ганяюць як Марку па пекле.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра чалавека, які ніяк не даб'ецца праўды. Пасылаюць, ганяюць яго ад аднаго начальніка да другога, з аднаго месца ў другое.

**Ганяюць як сабаку.** Голуб В.І., 1930 г.н., 2001. Скураты Квас.

**Гарачы як агонь.** Куіс М.Д., 1925 г.н., 2005. Косава.

Пра запальчывага чалавека.

**Гарачы як прысак.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 2008. Заполле Кос.

**Гарыць як рабіна.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"Так кажуць пра нешчо яркае, якое ажно вочы адбірая"* (тлум. інф.).

**Гладкі як мянёк.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

Мянёк – мянтуз. Тут: пра чалавека гладкага, тлустага.

**Глухі як пень.** Івановіч Г.К., 1919 г.н., 2001. Халап'я Падст.

Пра чалавека, які моцна недачувае.

**Глядзець у вочы як салавей.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

*"Пільно глядзець, патрабавальна, вымольваючы бытто нешчо"* (тлум. інф.).

**Глядзець як на дзіва.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

**Глядзіць з-пад ілба як воўк.** Майсейчык А.А., 1924 г.н., 1976. Гошчава Стайк.

Г. зн. пагрозліва, з нянавісцю.

**Глядзіць чужых дзяцей як сваіх родных.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Глянуў як тры грошы даў.** Шыманчык В.В., 1933 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

*"Гэто значыць зь непрыязнасьцю, як на апошняго чалавека, на жабрака"* (тлум. інф.).

**Годзіць як ліхой скуле.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Годзіць – дагаджае. Тут: пакорліва, выконваючы ўсё, што скажуць.

**Голы як бізун.** Міраноўскі У.П., 1927 г.н., 1997. Хадакі Жытл.

**Гол як сакол.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Г. зн. бедны.

**Горача як на печы.** Шумовіч А.В., 1924 г.н., 1995. Хрышчонавічы Квас.

**Горкі як палын.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Горкі як чэмер.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Чэмер (*Veratrum*) – атрутная травяністая расліна з сям'і лілейных.

**Грабецца як курыца на сметніку.** Мінчук П.І., 1918 г.н., Стайкі Стайк.

Пра маруднага чалавека.

**Гразны як свіная ражка.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Гразны – брудны. Ражка – драўляная пасудзіна ў выглядзе цэбрыка з ручкай, у якой звычайна мяшалі корм свінням.

**Грошай як гразі.** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

Г. зн. вельмі шмат.

**Грошы бягуць як вада.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1997. Альшаніца Квас.

Г. зн. трацяцца неўпрыкмет, хутка разыходзяцца.

**Грошы як сліна.** Станкевіч В.В., 1933 г.н., 1991. Заполле Кос.

Г. зн. хутка разыходзяцца, знікаюць.

**Грудзіна як у каня.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Грудзіна – грудная клетка. Тут: пра шырокага ў плячах мужчыну.

**Грыбоў як насеяна.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

Г. зн. вельмі многа.

**Грызе як іржа жалеза.** Свігла В.А., 1958 г.н., 2003. Хадоркі Кос.

*"Дзень у дзень, ні ведаючы спачыну, бурчыць, усім нізадаволены"* (тлум. інф.).

**Грызуцца як кот з сабакам.** Ганчарэня Л.А., 1947 г.н., 1996. Заполле Кос.

Г. зн. сварацца кожны дзень.

**Грызуцца (гыркаюцца) як сабакі.** Шумовіч А.В., 1924 г.н., 1995. Хрышчонавічы Квас.

**Губы як каўбасы.** Лунь А.М., 1916 г.н., 1987. Заполле Кос.

Г. зн. тоўстыя.

**Гудуць як пчолы ў вуллі.** Шыманчык А.П., 1941 г.н., 2003. Скураты Квас.

Так кажуць, калі сабралася шмат людзей і ўсе размаўляюць.

**Гуляе як кот з мышшу.** Горбач Р.І., 1961 г.н., 2012. Івацэвічы.

"*Гэдакія гулі да бяды даводзяць*" (тлум. інф.).

**Гуляе як цяля на вяровачцы.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

"*Яно як бы й на волі, але ш вяроўка ні дае разгуляцца. Так і пра чалавека скажуць*" (тлум. інф.).

**Дабраўся да гарэлкі як свіння да гразі.** Бурвін М.М., 1931 г.н., 1996. Заполле Кос.

**Дабраўся як жыд да мыла.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Г. зн. многа нечага набраў.

**Дагарае як свечка.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

Пра чалавека, які дажывае апошнія дні.

**Дапаможа як мёртваму кадзіла.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Нічога не дапаможа.

**Дапаможа як хваробе кашаль.** Сяўчук Л.А., 1905 г.н., 1983. Бялавічы Кос.

**Дарваўся бы свіння да карыта.** Мяцечка У.А., 1923 г.н., 2004. Мілейкі Міл.

Г. зн. нахапаць чагосьці без меры, у вялікай колькасці.

**Дарога як ляск.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2003. Альшаніца Квас.

Г. зн. язджалая, гладкая, без выбоін. "*Ляск – зь ляшчыны кіёк. Ён роўны, ажно блішчыць*" (тлум. інф.).

**Дарога як струна.** Снітка Г.В., 1925 г.н., 2001. Любішчыцы Люб.

Г. зн. роўная, простая.

**Дарога як шкло.** Гарчакоў А.К., 1938 г.н., 2001. Бараны Ягл.

Пра гладкую, коўзкую зімовую дарогу.

**Даў як воўк кабыле.** Жаліс Э.В., 1939 г.н., 2004. Няхачава Стайк.

Тут: нічога не даў.

**Даюць есці як кату лізнуць.** Петручэня М.І., 1931 г.н., 2006. Кушняры Падст.

Г. зн. мала, вобмаль.

**Дзень пратаўкласяя як таўкач у ступе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

"*Так кажа пра сябе жанчына: здаецца, цэлы дзень рабіла, рупілася, а работы не відно*" (тлум. інф.).

**Дзерава як звон.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Тут: моцная, стрыжнёвая драўніна. "*Стукняш сакерою па дзераві, ажно зьвініць*" (прыклад інф.).

**Дзерава як струна.** Аўласевіч С.С., 1921 г.н., 2001. Няхачава Стайк.

Г. зн. роўная, простая драўніна, без сучкоў.

**Дзеўка – агонь.** Коцік І.М., 1933 г.н., 2004. Падстарынь Падст.

Г. зн. баявая дзеўчына, весялуха.

**Дзеўка як лялька.** Бакіевіч А.К., 1918 г.н., 2004. Косава.

Г. зн. прыгожая.

**Дзеўка як падушка (пампушка).** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

"*Так скажуць пра пульхную, тоўстую дзеўчыну*" (тлум. інф.).

**Дзеўка як півоня.** Ступак М.П., 1930 г.н., 2004. Падстарынь Падст.

Г. зн. прыгожая, вылучаецца сярод іншых.

**Дзеўка як ягадка.** Кукса М.П., 1928 г.н., 2001. Куляшы Міл.

**Дзеці як грыбы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Пасадзіла дзяцей на лаўку адно ля аднаго, то як грыбы тыя ў лесі, адно харошайшае за другое"* (прыклад інф.).

**Дзівіцца як сляпы ў торбу.** Зеляня М.М., 1944 г.н., 2011. Квасевічы Квас.

Дзівіцца – глядзець. Тут: пільна, уважліва.

**Дзіравы як рэшата.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

**Дзіця здаровае як крамушка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Крамушка – крэмень.

**Дзіця як анёлачак.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Г. зн. харошае, прыгожае.

**Дзіця як камлучок.** Собаль П.З., 1927 г.н., 2002. Квасевічы Квас.

Г. зн. гладзенькае, тоўсценькае.

**Дзіця як лялька.** Бародка В.П., 1949 г.н., 2006. Заполле Кос.

Г. зн. харошае, прыгожае.

**Дзіця як пампушка.** Собаль П.З., 1927 г.н., 2002. Квасевічы Квас.

Г. зн. гладзенькае, тоўсценькае.

**Дзыгнаты як журавель.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Дзыгнаты – худы, высокі.

**Дзярэ як воўк кабылу.** Куленіч С.С., 1928 г.н., 1996. Корачын Жытл.

**Дзяцей як бобу.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2006. Заполле Кос.

Г. зн. многа.

**Дождж як з вядра.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Так скажуць пра заліўны дождж"* (тлум. інф.).

**Дождж як з цэўкі.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Цэўка – драўляная трубачка для намотвання нітак. Тут: моцны.

**Доўгі як аглобля.** Шчурко В.В., 1959 г.н., 2001. Заполле Кос.

Пра высокага, танклявага чалавека.

**а) Доўгі як жэрдка.** Рудзько В.Ф., 1930 г.н., 1996. Любішчыцы Люб.

**Дробны як мак.** Рабчэня Т.В., 1972 г.н., 2002. Квасевічы Квас.

*«Пра ўсё, што дробнае, кажуць: "Дробны як мак"»* (тлум. інф.).

**Дружныя як лапатаю збітыя.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2008. Размеркі Стайк.

*"Дружаць паміш сабою, боляй йім ніхто ні трэба"* (тлум. інф.).

**Дрыжыць як асінавы (дубовы) ліст.** Малыгіна В.А., 1923 г.н., 1998. Аляксейкі Стайк.

**Дужы як конь.** Крыштопік С.В., 1967 г.н., 2000. Зялёны Бор Стайк.

Пра моцнага, дужага чалавека.

**Дужы як свіння ў лужы.** Лушчык В.İ., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Так смяюцца з чалавека, які выхваляецца сваёй сілаю.

**Дурны як баран.** Ялоўскі У.С., 1930 г.н., 1995. Зыбайлы Жытл.

**Дурны як бот.** Аніщчык В.А., 1935 г.н., 1995. Була Міл.

**Дурны як корак ад пустой бутэлькі.** Лушчык В.İ., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Дурны як пень.** Гоган А.Д., 1922 г.н., 2002. Заполле Кос.

**Дурны як сала без хлеба.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

**Едуць як на суд.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2003. Альшаніца Квас.

*“Так жартуюць с тых, шчо едуць на адным возі, але сядзяць сьпіною адзін да аднаго”* (тлум. інф.).

**Есці хочацца як плакаць.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Г. зн. надта моцна.

**Есць мяне як іржа жалеза.** Жук А.І., 1934 г.н., 2004. Уласаўцы Жытл.

Пра нудлівых, бурклівых мужа ці жонку.

**Есць як апошні раз.** Гардзейка А.М., 1915 г.н., 1995. Галік Міл.

*“Есьць многа, нібы заўтра ні дадуць”* (тлум. інф.).

**Есць як жабрак.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

Г. зн. прагна, спяшаючыся.

**Есць як з галоднага краю вырваўся.** Мяцечка У.А., 1923 г.н., 2004. Мілейкі Міл.

Тое самае.

**Есць як кот.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. мала.

**Есць як на агонь кідае.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Есць прагна, з апетытам.

**Есць як на агонь ляціць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. вельмі хутка.

**Есць як назаўтра.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. вельмі марудна.

**Есць як нежывы.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. надта павольна, без апетыту.

**Есць як не сваім ротам.** Воўна Г.П., 1910 г.н., 1984. Заполле Кос.

Тое самае.

**Есць як не ў сябе.** Валах Л.Л., 1970 г.н., 2011. Бялавічы Кос.

Г. зн. многа, прагна.

**Есць як пярэчынка перачыняе.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пярэчынак – пласт сена, саломы, які збіваецца граблямі. Тут: есць паволі, з смакам.

**Есць як у прорву пхае.** Голуб І.В., 1931 г.н., 1996. Скураты Квас.

Вельмі многа, прагна.

**Жджэ як Бога.** Аўласевіч С.С., 1921 г.н., 2001. Няхачава Стайк.

Г. зн. з надзеяй, як выратавання.

**Жоўты як жаўток.** Клявец Г.І., 1926 г.н., 2005. Няхачава Стайк.

**Жыве як гарох пры дарозе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Пра безабароннага чалавека, якога кожны можа пакрыўдзіць.

**Жыве як жабрак.** Ступак М.П., 1930 г.н., 2002. Падстарынь Падст.

**Жыве як кот з сабакам.** Ткачук Я.В., 1915 г.н., 1996. Міхнавічы Стайк.

**Жыве як пані.** Самсонік Н.І., 1935 г.н., 1987. Заполле Кос.

"*Жыве ў дастатку, усё мая: і піці, і есьці, і апрануцца*" (тлум. інф.).

**Жыве як труцень.** Палонскі І.А., 1932 г.н., 2001. Панкі Люб.

"*Жыве толькі для сябе, нікому ні ў чым ні паможа*" (тлум. інф.).

**Жыве як ту́мар.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Тумар – сугней. Г. зн. жыве, цураючыся людзей.

**Жыве як у Бога за дзвярыма (за плячыма).** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 2001. Руда Падст.

Г. зн. у дастатку, без бяды.

**Жыве як у раі.** Андрыяшка А.В., 1933 г.н., 2008. Размеркі Стайк.

**Жыве як чалавек.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. прыстойна, сумленна, па-людску.

**Жывот дрыжыць як кісель.** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 2001. Руда Падст.

**Жывот як бочка.** Бялевіч А.Ц., 1909 г.н., 1996. Рацкевічы Міл.

**Жывуць як браты.** Свігла В.А., 1958 г.н., 2002. Хадоркі Кос.

Г. зн. мірна, у згодзе, ладзячы.

**Жыву́чы як кот.** Шумовіч В.В., 1930 г.н., 1996. Хрышчонавічы Квас.

*"Ї есьці німа чаго, і ў хаці холад, і нічого да яго не прыстае – жывучы як кот"* (тлум. інф.).

**Жыта як гай.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. высокае, густое.

**Жыта як сцяна.** Высоцкі К.К., 1930 г.н., 1995. Юкевічы Стайк.

**Жыта як чарот.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. умалотнае, з буйным коласам. *"Жыто як чарот, трудно было пераламаць на серп"* (прыклад інф.).

**Жыць як набяжыць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Трэба жыць, як выходзіць, як набяжыць: калі лепш, калі горш"* (тлум. інф.).

**Забаўляецца як малое дзіця.** Шчурская Н.У., 1942 г.н., 1997. Альшаніца Квас.

*"Зьдзяціняў чалавек: забаўляяцца як малое дзіця, з унукамі ў фудбол гуляя"* (тлум. інф.).

**Забег як агню ўхапіўшы.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

“*Даўней запалкоў ні было, пазычалі адзін у аднаго вугалькі, жарынкі. Так казалі, калі зайшлі да каго ў хату на трошкі*” (тлум. інф.).

**Забег як вады ўхапіць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. на кароткі час.

**Завыў як воўк на Грамніцы.** Таўрэль У. А., 1938 г.н., 1995. Була Міл.

Грамніцы – свята, якое прыпадае на 15 лютага. Тут: моцна закрычаў, заенчыў (ад болю, ад страху).

**Заглядае ў вочы як салавей.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

“*Нечаго хочучы, лісьліва*” (тлум. інф.).

**Задаецца як вош на грэбені.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Так пасміхаюцца з пыхлівага чалавека, ганарліўца.

**Задаецца як муха на шклянцы з мёдам.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Задушыць як гада.** Рамашка У.І., 1931 г.н., 1995. Галынка Міл.

*«Кажу яму: “Будзяш піць – задушу як гада”»* (з аповеду інф.).

**Зайздросны як паповы вочы.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

“*Поп – зайздросьнік, усяго яму было мала*” (тлум. інф.).

**Зарабіў як Блоцкі на мыле.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

“*Кап ні плаціць грошы за перавоз, нейкі Блоцкі прывязаў сваё мыло да парахода, а мыло ў вадзе растало, размўзяло*” (тлум. інф.).

**Зарос як поп.** Рабчэня А.А., 1944 г.н., 2006. Заполле Кос.

Пра зарослага, няголенага чалавека.

**Засаромеўся як дзяўчына.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

**Заснуў як забіты.** Рабчэня В.П., 1951 г.н., 2003. Заполле Кос.

Пра чалавека, які заснуў моцным сном.

**Застаўся адзін як палец.** Ганчарэня Л.А., 1947 г.н., 1997. Заполле Кос.

Г. зн. самотны, без сям'і, без радні.

**Застаўся адзін як сірата.** Мяхведзь А.П., 1930 г.н., 2007. Руда Падст.

**Зацяўся як заценлівы конь.** Воўна Н.П., 1935 г.н., 1984. Заполле Кос.

Г. зн. заўпарціўся.

**Зашыўся як заяц у кусты.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

Г. зн. забраўся ў глухое месца, у куток.

**Збіліся як авечкі ў статак.** Прыступчык В.К., 1925 г.н., 2001. Руда Падст.

Г. зн. сабраліся разам, у гурт.

**Збірае як сабака косці.** Фядосік М.К., 1928 г.н., 1995. Гошчава Стайк.

"*Па грыбы хадзіў, ніц німа, зьбіраў як сабака косьці: дзе-нідзе па адном*" (тлум. інф.).

**Збялеў як палатно.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

**Збялеў як смерць.** Гарчакоў Р.К., 1934 г.н., 2004. Сярадава Жытл.

**Зваліўся як сноп.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра чалавека, які пасля цяжкой працы хутка заснуў.

**Звініць як пустая бочка.** Шыманчык А.П., 1941 г.н., 2002. Скураты Квас.

Пра шматслоўнага чалавека, гаворка якога пустая, нікчэмная.

**Згад як падла.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 1998. Заполле Кос.

Тут: надакучыў, абрыдзеў.

**Згад як сабака.** Рабчэня Н.В., 1957 г.н., 2009. Заполле Кос.

**Зганіць як сабаку.** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

Г. зн. аблаяць.

**Згінуў як рудая мыш.** Бакіевіч А.К., 1918 г.н., 2003. Косава.

Пра чалавека, які бясследна прапаў.

**Здаровая як апечаная.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2003. Альшаніца Квас.

Г. зн. крамяная, моцная, дужая (пра дзяўчыну, маладзіцу).

**Здаровы як дуб.** Рудзько В.Ф., 1930 г.н., 1996. Любішчыцы Люб.

**Здаровы як камёлак.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

Камёлак – тоўсты, здаровы хлапчына.

**Здаровы як крамушка.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Крамушка – крэмень. Пра чалавека, які не ведае хвароб.

**Здаровы як лось.** Зайка У.І., 1944 г.н., 1997. Заполле Кос.

Г. зн. рослы, моцнага целаскладу.

**Здаровы як мур.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

**Здароўе як рэшата.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

Г. зн. благое, слабое.

**Здох як сабака.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2006. Стайкі Стайк.

Пра чалавека, які памёр ганебнай смерцю.

**Зерне як золата.** Ёвік У.П., 1924 г.н., 1996. Кушняры Падст.

**Злосны як мухі на Спаса.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Якраз на Спаса, у канцы лета, з'яўляюцца асабліва "куслівыя" мухі.

**Злосны як чорт.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 1995. Заполле Кос.

**Зляцеліся як крумкачы на падліну.** Міраноўскі У.П., 1927 г.н., 1997. Хадакі Жытл.

*«Казаў той чалавек: "І знаць ні хацелі браты, як жывы быў, а як памёр, то зьляцеліся як крумкачы на падліну, пачулі спажыву"»* (тлум. інф.).

**Змерз як сабака.** Мацвіеня В.К., 1917 г.н., 1995. Лазаўцы Міл.

Г. зн. моцна змерз.

**Золата чалавек.** Зайка І.І., 1958 г.н., 2005. Заполле Кос.

Г. зн. вельмі добры.

**Зрабіўся белы што снег.** Букшта В.К., 1938 г.н., 2001. Сенькавічы Падст.

**З табой як з бараной у лесе.** Касавец Р.В., 1913 г.н., 1995. Азярцо Падст.

Пра таго, хто не дапамагае, а замінае ў рабоце, дакучае, назаляе.

**Зубы што часнык.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Зялёнае што рута.** Собаль А.М., 1935 г.н., 1986. Хрышчонавічы Квас.

Рута – шматгадовая травяністая расліна, зялёная ўвесь год.

**Зялёны як жаба.** Зайка Г.А., 1900 г.н., 1983. Заполле Кос.

Часцей за ўсё так кажуць пра хваравітае дзіця, худое, бледнае.

**Зямлі як дзіцяці (як курыцы) сесці.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Г. зн. надта мала.

**Зямля як попел.** Голуб В.І., 1930 г.н., 2001. Скураты Квас.

Г. зн. вельмі сухая.

**Зямля як прысак.** Станкевіч В.В., 1933 г.н., 1991. Заполле Кос.

Г. зн. сухая і гарачая.

**Зямля як пух.** Кікун У.Ф., 1933 г.н., 2001. Мілейкі Міл.

Выробленая, мяккая.

**Зямля як ток.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

Цвёрдая.

**Ідзе як курыца з яйцом.** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1974. Заполле Кос.

Г. зн. асцярожна ступаючы.

**Ідзе як нежывы.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Ідзе як назаўтра.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. павольна, ледзь ногі перастаўляючы.

**Ідзе як не сваімі нагамі.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

**Ідзе як пава.** Рабчэня Т.І., 1942 г.н., 2007. Заполле Кос.

Г. зн. з ганарліва ўзнятай галавой.

**Ідзе як пан.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Г. зн. паважна, самавіта.

**Ідзе як піша.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. роўна, прыгожа.

**Ідзе як п'яны.** Серая В.В., 1912 г.н., 1984. Заполле Кос.

**Іржуць як коні.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Іржуць – рагочуць. Тут: гучна, нястрымна.

**Казаць як на споведзі.** Лісок В.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

Казаць шчыра, праўдзіва, даверліва.

**Калючы як бадзяк.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

*"Пра чалавека, які ні ш чым ні згаджаяцца, мая на ўсё сваю думку"* (тлум. інф.).

**Капуста як трава.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Капуста – тут: страва. Кажуць "як трава" пра ўсякую непасоленую ежу.

**Кацалапы як мядзведзь.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 2008. Заполле Кос.

Кацалапы – каратканогі, крываногі, з пляскатай ступнёй.

**Кашляе як авечка матылічная.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Матыліца – захворванне авечак і коз, выклiканае лярвамі стужкавых рабакоў. Праяўляецца праз кашаль.

**Кашляць як у бочку.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

Г. зн. глуха.

**Кідаць як у бяздонны калодзеж.** Шарубейка І.М., 1934 г.н., 2003. Воля Жытл.

*"Памагаю во і сыну, і дачцы, – кажа сусед, – але ні шануюць яны капейку, як у бяздонны калодзеш кідаю"* (тлум. інф.).

**Кіпіць як у катле.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Г. зн. горача, спякотна на дварэ.

**Кіпцюры як у ката.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1995. Заполле Кос.

**Кіслы як воцат.** Ганчарэня Л.А., 1947 г.н., 1996. Заполле Кос.

**Колас як пранік.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Пранік – пляскаты драўляны брусок з дзяржальнам для абівання, абмалоту лёну, збажыны. Тут гаворыцца пра важкасць коласа.

**Корпаецца як жук у гнаі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. робіць што-небудзь марудна, няўмела.

**Корпаецца як курыца ў гняздзе.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2003. Заполле Кос.

Тое самае.

**Корпаецца як сляпы ў торбе.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Кажуць пра чалавека, які доўга нешта шукае.

**Косіць як піша.** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 1995. Руда Падст.

Г. зн. пракос кладзе роўна, чыста выкошвае сенажаць.

**Косы як мышыныя хвосцікі.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2009. Размеркі Стайк.

**Кругленькі як пампушка.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2002. Заполле Кос.

**Кругленькі як яблычак.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

**Круглы як гарбуз.** Уласавец Н.Я., 1936 г.н., 2008. Уласаўцы Жытл.

**Круціцца як вада на коле.** Вясна А.А., 1901 г.н., 1980. Заполле Кос.

"*Цяпер так ні скажуць, бо німа вадзяных мліноў. А даўней пра хапаткого, руплівага чалавека так і казалі: круціцца як тая вада на коле*" (тлум. інф.).

**Круціцца як вярцёлка.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Пра жвавае, няўрымслівае дзіця.

**Круціцца як кола.** Зайка Г.В., 1957 г.н., 2009. Заполле Кос.

"*Так скажуць пра хуткаго, вёрткаго чалавека*" (тлум. інф.).

**Круціцца як уюн на патэльні.** Мяхведзь К.П., 1925 г.н., 1995. Руда Падст.

**Круціцца як шалёны сабака.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

**Крычыць як на жывот.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 1999. Заполле Кос.

Г. зн. моцна крычыць. Гэтак крычаць ад нясцерпнага болю ў жываце.

**Крычыць як яго рэжуць.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Тое самае.

**Крэкча як стары дзед.** Кукса М.П., 1928 г.н., 2001. Куляшы Міл.

**Купаецца як нырка ў лаю.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

Пра чалавека, які жыве ў дастатку.

**Кучаравы як баран.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

**Лава (падлога, стол) як жаўток.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

*"Даўней падлогу ў хаці і мэблю ні фарбавалі, а мылі, выскрабалі чысто, да жоўценькаго"* (тлум. інф.).

**Ласы як кот на каўбасы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Лезе ў вочы як аса.** Бакіевіч А.К., 1918 г.н., 2001. Косава.

**Лезе ў вочы як слата.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра надакучлівага, назойлівага чалавека.

**Лезе ў вочы як дым.** Ганчарэня Г.Р., 1907 г.н., 1991. Заполле Кос.

Тое самае.

**Лёгкі як пух (пярынка).** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Лёгкія як кавальскія мяхі.** Трында В.Я., 1962 г.н., 2002. Заполле Кос.

Г. зн. вялікія, магутныя.

**Лёд як шкло.** Кулецкая Р.А., 1928 г.н., 1997. Грыўда Міл.

Г. зн. гладкі, бліскучы.

**Лётае як вецер.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Увесь час рухаецца, не сунімецца, не пастаіць ні хвілінкі.

**Лётае як шалёны.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2005. Заполле Кос.

Носіцца, бегае імкліва, без супынку.

**Лопнула як болбатка (бурбалка).** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2001. Косава.

Пра няспраўджаную задуму.

**Лупаты як сава.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2001. Заполле Кос.

Пра вірлавокага чалавека.

**Лысая галава як калена.** Мацвіеня В.А., 1917 г.н., 1995. Галік Міл.

**Лье як з дудкі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра хворага на дыярэю.

**Лье як з цэўкі.** Шчурко Ф.А., 1926 г.н., 1999. Заполле Кос.

Кажуць так, калі ідзе заліўны дождж. Ц э ў к а – драўляная трубка, на якую навіваюць ніткі і якую ўстаўляюць у чаўнок пры тканні.

**Лье як у бочку (кадушку).** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Пра п'яніцу.

**Любіць як сабака кія.** Макарэвіч Т.І., 1935 г.н., 2001. Галенчыцы Ягл.

**Любіць як цыган сляпую кабылу.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Заполле Кос.

**Любяцца як галубкі.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1984. Заполле Кос.

**Людзей што чорная хмара.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. многа. *"Людзей ішло што чорная хмара"* (прыклад інф.).

**Людзей як маку.** Максімчык В.У., 1933 г.н., 1996. Бялавічы Кос.

Тое самае.

**Людзей як на кірмашы.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2007. Заполле Кос.

Тое самае.

**Людзі падаюць як мухі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. паміраюць раптоўна, не хварэючы.

**Ляжыць як гара.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 1995. Заполле Кос.

Пра нябожчыка вялікага целаскладу.

**Ляжыць як дуб.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

Пра раптоўна памерлага чалавека, маладога, дужага.

**Ляжыць як жывы.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2008. Размеркі Стайк.

Пра чалавека, які пасля смерці не змяніўся з твару.

**Ляжыць як завала.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

Пра гультая, абібока.

**Ляжыць як нежывы.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

Пра чалавека, які прыціх, знерухомеў.

**Ляжыць як павесма.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

Г. зн. пластом, нерухома, не маючы сіл рухацца (пра хворага). Павесма – мера апрацаванага лёну.

**Ляжыць як паражэля.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Паражэля – парадзіха. Тут: пра лянівую жанчыну.

**Ляжыць як сабака пад плотам.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

Пра п'яніцу.

**Ляжыць як свіння.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра п'яніцу, які ляжыць у брудзе.

**Лянівы як вол.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Ляпнуў як пасталом па вадзе.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пасталы – даўнейшы абутак з цэлага кавалка скуры. Тут: пра чалавека, які сказаў недарэчнасць, глупства.

**Ляціць як вецер.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2001. Бялавічы Кос.

Г. зн. імкліва, хутка.

**Ляціць як куля.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

Тое самае.

**Ляціць як птушка з выраю.** Шчурко Я.Р., 1928 г.н., 2006. Бялавічы Кос.

**Ляцяць як мухі на мёд.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 1996. Альшаніца Квас.

**Мароз як на Коляды.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1984. Заполле Кос.

На Каляды звычайна трашчыць мароз.

**Матляецца як торба за плячыма.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 1997. Заполле Кос.

Пра чалавека, які праз сваю легкадумнасць ніяк не знойдзе сябе на жыццёвай дарозе.

**Маўчыць як вады ў рот набраўшы.** Касавец Р.В., 1913 г.н., 1995. Азярцо Падст.

Г. зн. нічога не адказвае.

**Маўчыць як мыла з'еўшы.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

*"Папаўся на крадзяжы, дапытваюцца, нашто браў, а ён маўчыць як мыла зьеўшы, ні ведая, што сказаць"* (тлум. інф.).

**Маўчыць як нямко.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

Г. зн. нічога не адказвае.

**Маўчыць як рыба.** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

Тое самае.

**Маўчыць як сцяна.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

Тое самае.

**Маўчыць як язык праглынуў.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Тое самае.

**Меле языком як малатарня.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Пра чалавека, які любіць пагаварыць, але ў гаворцы яго мала толку.

**Меле языком як свіння (цяля) хвастом.** Мінчук П.І., 1918 г.н., Стайкі Стайк.

**Менціць языком як мянташкаю.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

Пра чалавека, які многа і без толку гаворыць.

**Мруць як мухі.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*“Мама казала, што даўней людзі мерлі як мухі, найчасьцей ат прастуды”* (прыклад інф.).

**Многа як гразі.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

**Мокры як квач.** Шыманчык С.М., 1967 г.н., 1996. Бялавічы Кос.

Г. зн. увесь мокры, з ног да галавы, няма сухой рубінкі.

**Мокры як курыца (хрушч).** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Мордачка як у Сымонкі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1986. Альшаніца Квас.

Тут: сыты, круглы.

**Моцная як агонь.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Такую характарыстыку даюць гарэлцы.

**Моцны як дуб.** Шыманчык А.П., 1941 г.н., 1999. Скураты Кос.

**Моцны як мур.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

**Мужчына як дуб.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

Пра мужчыну моцнага целаскладу, дужага.

**Мужык як ануча.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

*“Гэдыкім не падапрэсься. Мужык у цябе як ганучa”* (тлум. інф.).

**Мужык як п'яўка.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

*«Убачыла сваю таварышку, а яна жаліцца: "Мужык як п'яўка: так прысмактаўся, усю маю кроў выпіў. Дажываю во век с такім, куды дзенясься"»* (тлум. інф.).

**Мурзаты як чорт.** Мігель А.А., 1918 г.н., 1976. Заполле Кос.

**Муркае як кот.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

**Муціць як шые.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Муці́ць – маніць. Тут: вельмі складна, праўдападобна гаворыць.

**Мы з табою як рыба з вадою.** Брыль А.А., 1937 г.н., 2001. Плехава Люб.

Г. зн. неразлучныя.

**Мяккі як воск (пух).** Зайка А.П., 1911 г.н., 1984. Заполле Кос.

**Мяняе як цыган коні.** Бурына Ф.А., 1939 г.н., 1999. Сакоўцы Міл.

Часцей так кажуць пра мужчыну, які быў жанаты шмат разоў.

**Мех як падняць (як панесці).** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

Г. зн. цяжкі.

**Набралася як бэйля.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1984. Заполле Кос.

Бэйля – тут: п'яніца.

**Набраўся як жаба мулу.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. напіўся гарэлкі.

**Набраўся як свіння.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

Напіўся гарэлкі да бяспамяцтва.

**Нагуляўся як цяля на вяровачцы.** Дылюк С.В., 1926 г.н., 2001. Стайкі Стайк.

Г. зн. мала, не гэтулькі, колькі хацелася.

**Надакучыў як горкая рэдзька.** Рудзько В.Ф., 1930 г.н., 1996. Любішчыцы Люб.

а) **Надакучыў як горкі яблык.** Шыян М.П., 1931 г.н., 2001. Сярадава Жытл.

**Надзьмуўся як індык.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 2008. Заполле Кос.

**Надзьмуўся як мыш на крупы.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Жартоўнае параўнанне. Пра таго, хто злуецца беспадстаўна.

**Надзьмуўся як нарыца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Нарыца – свішч, нарыў у каня. Пра хмурага, усім не задаволенага чалавека.

**Надзьмуўся як сыч.** Ёвік У.П., 1924 г.н., 1996. Кушняры Падст.

Пра маўклівага, панурага чалавека.

**Наедку як з печанага рака.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

Г. зн. надта мала.

**Наеліся як горы.** Лісок Н.В., 1929 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

"*Прыйшлі каровы с пашы, наетыя як горы*" (прыклад інф.).

**Наеўся як на вяселлі.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Квас.

**Наеўся як на Дзяды.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Дзяды – абрад памінання нябожчыкаў, а таксама дзень, калі выконваўся гэты абрад. "*На Дзяды на стале мусіла быць ні менш як дванаццаць страў*" (тлум. інф.).

**Нажэрся як свіння.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Накінуўся як галодны на хлеб.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

**Наклаў як дроў.** Мяцечка У.А., 1923 г.н., 2003. Мілейкі Міл.

*"Паршука закалоў, то наклаў сала ў кубеляц як дроў"* (прыклад інф.).

**Наклаў (насыпаў) як падняць.** Зыбайла С.А., 1909 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Г. зн. многа, пад завязку, як здужае падняць.

**Наляцелі як саранча.** Здзітавец М.М., 1885 г.н., 1966. Заполле Кос.

Пра людзей, якія, нечакана з'явіўшыся, робяць шкоду.

**Наляцеў як каршун.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2002. Заполле Кос.

Г. зн. нечакана, раптоўна, з дрэннымі намерамі.

**Напхалася як селядцоў у бочку.** Андрыяшка А.В., 1933 г.н., 2010. Размеркі Стайк.

Г. зн. вельмі многа.

**Нараві яму як скуле.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2009. Бялавічы Кос.

Наравіць – дагаджаць. *"Нараві яму як скуле, дагаджай, бойся сказаць напоперак слова. І як ты жывеш с такім чалавекам?"* (з аповеду інф.).

**Насаты як склюд.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра чалавека з вялікім носам. Склюд – цяслярская сякера з доўгім лязом.

**Наставіўся як ёрш.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**а) Настабоўчыўся як ёрш.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**б) Натапырыўся як ёрш.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Насыпаў як завязаць.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Г. зн. поўна, да верху, пад завязку.

**Натапырылася як мыш на крупы.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2005. Заполле Кос.

**Начапурылася як Чыта.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2002. Размеркі Стайк.

Г. зн. апранулася без густу. Начапурыцца – прыбрацца. *“Некалі жыла жанчына, якую звалі Чыта. Любіла прыхарошвацца, прыбіралася ў дарагую адзежу, але рабіла гэто бяз густу”* (прыклад інф.).

**Не адагнаць як сабаку ад сукі.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

*“Прычапіўся, не адвязацца! Не адагнаць як сабаку ад сукі”* (прыклад інф.).

**Не вырвеш як у воўка з зубоў.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2003. Косава.

**Не дагодзіш як ліхой скуле.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Непаваротны як волік.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Памянш. ад вол.

**Не ўбачыш як свае патыліцы.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2005. Бялавічы Кос.

**а) Убачыш як сваю патыліцу.** Здзітавец С.І., 1921 г.н., 1995. Бусяж Міл.

**Не ўбачыш як сваіх вушэй без люстэрка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**а) Убачыш як свае вушы без люстэрка.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Ногі тоненькія як у казы.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

**Ногі што калодкі.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1984. Заполле Кос.

Г. зн. апухлыя.

**Ногі што лядоўні.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

Л я д о ў н я – склеп, які абкладвалі лёдам і засыпалі пілавіннем. Даўней выконвала ролю халадзільніка. Тут: вельмі халодныя.

**Ногі як точаныя.** Шчурко В.В., 1959 г.н., 2005. Заполле Кос.

Г. зн. стройныя, прыгожыя.

**Нож тупы, хоць за бацькам кідай.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Так кажуць, калі нож вельмі тупы.

**Носіцца як дурань.** Максімчык В.У., 1936 г.н., 2004. Бялавічы Кос.

**Носіцца як кот з салам.** Шыманчык В.В., 1933 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

*"Купіла сусетка хустку, то завязаць шкадуе, ано любуецца, носіцца як кот с салом"* (прыклад інф.).

**Носіцца як курыца з яйцом.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Г. зн. задаецца, празмерна захапляецца кімсьці, чымсьці.

**Носіцца як з лялькаю.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 2008. Заполле Кос.

Г. зн. залішне клапоціцца пра кагосьці.

**Нос як дуля.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Тут: вялікі, мясісты нос.

**Нос як сліва.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Найчасцей бывае ў п'яніц; фіялетавы, сіні.

**Ноч – год.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. вельмі доўгая. Так кажа чалавек, якога мучыць бяссонніца.

**Пабег як апараны.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2003. Грыўда Міл.

Г. зн. хутка, імкліва.

**Пабег як жару на хвост насыпалі.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2001. Заполле Кос.

Тое самае.

**Пабег як падмяцёны.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2009. Размеркі Стайк.

*"Даўней кожну суботу дзяўчата мялі надворкі і гуліцу. А кавалеры жартавалі, заміналі рабіць. То дзеўчына праганяла, адганяла веніком. Ён уцякаў. Такі быў жарт, такая была гульня маладых. Гэто аттуль пайшло: пабех як падмяцёны. Гэто значыць хутка, імкліва"* (тлум. інф.).

**Паглядвае як кот на мыш.** Ляховіч П.У., 1934 г.н., 1995. Гладышы Міл.

Г. зн. прагна.

**Пагуляў як Парася ў Сцяпана на печы.** Шчурко Л.І., 1949 г.н., 2008. Куляшы Міл.

Г. зн. пагуляў няўдала, з прыгодамі. *«Адзінокая Параска жыла ў благой хаці. І летом, і зімой босая. Але кажух мела. Усё на вечаркі да людзей хадзіла. Калі пыталіся, куды йдзе, ахвотна адказвала: "Іду пагуляць". Хоць усе ведалі, што ішла пагрэцца. Прыходзіла і адразу лезла на печ. Ці ўчадзела, ці заблудзілася, але аднаго разу ўпала сь печы ды проста ў цэбер с тоўчанай бульбай. Вось пасьля гэтага і сталі гаварыць: "Пагуляў (пагуляла) як Парася ў Сьцяпана на печы"»* (з аповеду інф.).

**Падбрыквае як бычок.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2006. Бялавічы Кос.

Так звычайна кажуць пра вясёлае, гарэзлівае дзіця.

**Падлога ў хаце як жаўток.** Шарубейка І.М., 1934 г.н., 2003. Воля Жытл.

Г. зн. добра вымытая.

**Паднябенне ў роце чорнае як у сабакі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Кажуць, у ліхога чалавека паднябеньне чорнае"* (тлум. інф.).

**Падскочыў як уджалены.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

**Падушкі як горы ляжаць.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2008. Размеркі Стайк.

*"Даўней мацяркі рыхтавалі дочкам падушкі ў пасах, вялікія, пуховыя. Ляжалі як горы на лошках"* (тлум. інф.).

**Пайшоў на дно як камень.** Пархута Р.С., 1931 г.н., 1995. Куляшы Міл.

**Пайшоў як сабака пабіты.** Шыманчык В.В., 1933 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

Г. зн. выкрыты ў дрэнным учынку.

**Пакаціўся як качалка.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Качалкі – прыстасова для разгладжвання тканіны, бялізны ды інш. Тут: хутка пакаціўся.

**Пакаціўся як клубок.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Палажыла як мастом.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

*"Захварэлі ўсёй сям'ёй"* (тлум. інф.).

**Памог як заяц кабыле.** Шыманчык А.П., 1941 г.н., 2002. Скураты Квас.

Г. зн. ніяк не дапамог.

**Панадзіўся як свіння ў агарод.** Дакучыц С.Р., 1929 г.н., 1996. Ятвезь Квас.

Пра бессаромнага чалавека, які прывык карыстацца крадзеным.

**Пануры як сыч.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

Пра панурага, непрыветнага чалавека.

**Папала як сляпой курыцы зерне.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 1986. Заполе Кос.

Г. зн. выпадкова пашанцавала ў нечым.

**Парасяты як пачынкі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. тлустыя, адкормленыя. Пачынак – прадзіва, наматанае на верацяно або знятае з верацяна.

**Парыць як у гаршку (у катле).** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Пра гарачае, душнае надвор'е.

**Пасварыцца што запалку запаліць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. хутка, у адзін момант, без дай прычыны. "*Яму пасварыцца што запалак* (м. р.) *запаліць*" (прыклад інф.).

**Паслалі як па смерць.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

"*Яго ано па сьмерць пасылаць, то нажывесься, – жалілася сусетка. – Пайшоў па хлеп у краму і прапаў*" (тлум. інф.).

**Пасуе як карове набедрыкі.** Зайка В.С., 1949 г.н., 2005. Заполле Кос.

Г. зн. зусім не пасуе. Набедрыкі – конская збруя (без дугі і хамута).

**Пасуе як свінні пацеркі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. не да твару.

**Патрэбны як лысаму грэбень.** Горбач Р.І., 1961 г.н., 2012. Івацэвічы.

Г. зн. не патрэбны.

**Патрэбны (трэба) як у мосце дзірка.** Бародка В.П., 1949 г.н., 2003. Заполле Кос.

Тое самае. "*Трэба ты мне як дзірка ў мосьце*" (прыклад інф.).

**Патрэбны (трэба) як леташні снег.** Валах Л.Л., 1970 г.н., 2011. Бялавічы Кос.

Тое самае.

**Патрэбны як пятае кола ў возе.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 2008. Заполле Кос.

Тое самае.

**Патрэбны як сабаку пятая нага.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

Тое самае.

**Паўзе як чарапаха.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра таго, хто ідзе паціху, не спяшаючыся.

**Пахаваліся як мышы ў норы.** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

**Пачырванеў як рак.** Пытляк С.А., 1929 г.н., 1997. Яглевічы Ягл.

**Паша як бубен.** Рудзько В.Ф., 1930 г.н., 1996. Любішчыцы Люб.

Г. зн. трава на ёй з'едзеная дарэшты, выбітая капытамі жывёл ці выгарала на сонцы.

**Пашкадаваў як воўк цяля.** Зайка Ф.Я. 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Перці як конь.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

Напорыста, імкліва рухацца.

**П'е як за каўнер лье.** Грынчык Н.І., 1970 г.н., 2011. Заполле Кос.

Г. зн. без меры.

**П'е як у бочку лье.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Тое самае.

**Піша як курыца лапаю.** Гоган Н.М., 1981 г.н., 2009. Заполле Кос.

Г. зн. непрыгожа.

**Плача як баба.** Валах А.У., 1964 г.н., 2007. Івацэвічы.

Пра мужчыну, які нястрымна, уголас плача.

**Плача як бабёр.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра таго, хто плача без супыну, горкімі слязьмі.

**Плача як малое дзіця.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

Г. зн. горка, жаласліва.

**Плечы як засланка.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1995. Альшаніца Квас.

Пра чалавека шырокага ў плячах.

**Плечы як у свінінцы дзверы.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Г. зн. шырокія.

**Плодная як свіння.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

Пра жанчыну, якая штогод нараджае дзяцей.

**Пнецца як жаба на купіну.** Грынчык Н.І., 1944 г.н., 2008. Івацэвічы.

Пра чалавека, які што моцы імкнецца да чагосьці.

**Поўны як вока.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Вады вядро набрала поўнае як вока, па берагі"; "Ягад назьбірала кош поўны як вока, зь вярхом"* (прыклады інф.).

**Прагнаў з хаты як сабаку.** Ткачук Я.В., 1915 г.н., 1996. Міхнавічы Стайк.

**Пражыла як на свінні праехала.** Зайка Е.Я., 1903 г.н., 1985. Заполле Кос.

Паскардзіцца жанчына, якой не шанцавала ў жыцці.

**Прападзеш як кураня ў крапіве (у зеллі).** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

*"Сядзі дома, ні едзь на тыя заробкі, бо прападзеш як кураня ў зельлі"* (прыклад інф.).

**Прападзеш як сабака.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

**Прападзе як сліна.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Прапала як рудая мыш.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

**Прапаў як камень у вадзе.** Жаліс Э.В., 1939 г.н., 2002. Няхачава Стайк.

**Прапаў як карова языком злізала.** Коцік І.М., 1933 г.н., 2004. Падстарынь Падст.

**Прапаў як пад зямлю праваліўся.** Бакіевіч А.К., 1918 г.н., 1997. Косава.

**Прапаў як у вір з галавою.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Працавіты як мурашка.** Івановіч Г.К., 1919 г.н., 2001. Халап'я Падст.

**Працавіты як пчала.** Дылюк Г.В., 1959 г.н., 2012. Івацэвічы.

**Працаваў як чорны вол.** Андрыяшка А.В., 1933 г.н., 2010. Размеркі Стайк.

Г. зн. многа і цяжка.

**Просты як струна.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**а) Роўны як струна.** Уласавец Н.Я., 1936 г.н., 2008. Уласаўцы Жытл.

**Прыбралася як пад вянец.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра таго, хто прыгожа, па-святочнаму апрануўся.

**Прыбралася як на вяселле.** Макарэвіч Т.І., 1935 г.н., 2001. Галенчыцы Ягл.

Тое самае.

**Прыбралася як пані.** Мікалайчык Л.А., 1930 г.н., 2004. Боркі Падст.

Тое самае.

**Прывык як дзіця да матчынай цыцкі.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так звычайна кажуць пра таго, хто шмат курыць.

**Прывязаўся як смала.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**а) Прыліп як смала.** Палонскі І.А., 1932 г.н., 2001. Панкі Люб.

**б) Прычапіўся як смала.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра напорыстага, дакучлівага чалавека.

**Прыгожая як кветка.** Шчурко Ф.А., 1926 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Прыгожы як анёлак.** Голуб В.І., 1930 г.н., 2003. Скураты Квас.

**Прыгрэўся як кот на сонцы.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Прыйшла як агню ўхапіла.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. вельмі мала пабыла.

**Прыляпіў як гарбатага да сцяны.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Але ш ты, чалавеча, і прыбіў дошкі ў сьвінінцы – абы-як, абы з рук, як гарбатаго да сьцяны прыляпіў"* (з аповеду інф.).

**Прынёс вады як пазычыў.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. мала.

**Прычапіўся як вош да кажуха.** Зайка А.М., 1945 г.н., 2013. Заполле Кос.

Пра неадчэпнага, дакучлівага чалавека.

**Прычапіўся як кароста.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

Тое самае.

**Прычапіўся як клешч (як п'яўка).** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Тое самае.

**Прычапіўся як слата.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2005. Заполле Кос.

Тое самае.

**Пыхнуў як порах.** Івановіч Г.К., 1919 г.н., 2001. Халап'я Падст.

Пра запальчывага чалавека.

**П'яны як дурны.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

**Рабая як зязюля.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2003. Заполле Кос.

З рабаціннем на твары.

**Рабіць як ласку.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Папрасіла памахчы, згадзіўся, але робіць як ласку, с такім незадаволеным выглядом, лепяй яго ні прасіла п"* (прыклад інф.).

**Рабы як галубінае яйцо.** Міхінкевіч А.В., 1962 г.н., 2004. Гічыцы Ягл.

**Рабы як кніжынае яйцо.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Кніжынае яйцо – яйка кнігаўкі. Яно ў крапінкі.

**Раве як бык.** Міскевіч М.М., 1913 г.н., 1995. Харошча Міл.

**Раве як рэзаны.** Лісок М.І., 1932 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Рагоча як жарабец.** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 2001. Руда Падст.

**Рады як дзіця.** Паўлоўская Т.М., 1948 г.н., 2003. Косава.

**Разбегліся як мышы па свеце.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Пагадавалі яны дзяцей, разьбегліся тыя як мышы па сьвеці, а бацькі адны веку дажывалі"* (з аповеду інф.).

**Разгадаваўся як паршук.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2003. Заполле Кос.

Паршук – парсюк. Тут: стаў тоўсты, тлусты.

**Разлезлася як гліна.** Шчурко Л.І., 1949 г.н., 1999. Заполле Кос.

*"Забылася схаваць грутку масла ў халадзільнік, а яно ў цяпле разьлезласё як гліна"* (з аповеду інф.).

**Разлёгся як пан.** Крыштопік В.Л., 1965 г.н., 2003. Зялёны Бор Стайк.

Г. зн. свабодна раскінуўшыся, заняўшы шмат месца.

**Разрабілася як печ.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Разрабіцца – патаўсцець. Тут: стала тоўстай, непаваротлівай, грузнай.

**Разышліся як сцежкі ў лесе.** Цiток В.Р., 1955 г.н., 2010. Косава.

*“Разышліся іхная дачка зь зяцем як сьцешкі ў лесе, а цяпер шкадуюць. Маладыя былі, дурныя, пасьпяшаліся”* (з аповеду інф.).

**Разявіла горла як варона.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

Пра сварлівую, крыклівую жанчыну.

**Расказаў як папу на споведзі.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

Г. зн. ва ўсім прызнаўся, не захаваў таямніцы.

**Раскіс як масляк.** Носава В.У., 1949 г.н., 2010. Жамайдзякі Міл.

Пра старога чалавека, ужо нядужага, тоўстага.

**а) Раскіс як стары грыб.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Распусціла косы як русалка.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

**Распухла (нага, рука) як калода.** Жук А.І., 1934 г.н., 2004. Уласаўцы Жытл.

**Рассеўся як пан.** Сніткa Г.В., 1925 г.н., 2001. Любішчыцы Люб.

Г. зн. заняў шмат месца.

**Рассеўся як у гасцях.** Міскевіч М.М., 1913 г.н., 1995. Харошча Міл.

*“Усе люткі клеплюць косы, а ты чаго расьсеўся як у гасьцях? У цябе што, каровы німа?!”* (з аповеду інф.).

**Расспявалася як курыца на сваю галаву.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2003. Заполле Кос.

Паводле народнай прыкметы, калі курыца заспявае, чакай бяды ў хаце, таму ёй адразу адсякаюць галаву. Тут: папярэджанне чалавеку, які праз меру весяліцца.

**а) Спявае як курыца на згібель (на сваю галаву).** Зайка Н.П., 1944 г.н., 2008. Заполле Кос.

**Расставіў пер'е як індык.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Так кажуць на фанабэрыстага, ганарлівага хлопца.

**Растапырылася як мокрая курыца.** Шыманчык А.П., 1941 г.н., 1999. Скураты Квас.

Мокрая курыца выглядае вельмі несамавіта. Так кажуць пра нязграбнага чалавека.

**Растаў як снег.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**а) Растаў як туман.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Растуць як грыбы пасля дажджу.** Казімірчык Т.Р., 1949 г.н., 2011. Івацэвічы.

Звычайна кажуць, згадваючы дзяцей. Гэта яны растуць як грыбы пасля дажджу, хутка, незаўважна.

**Расхадзілася як цеста ў дзяжы.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2003. Заполле Кос.

Пра жанчыну, калі яна разгневаецца.

**Расце як крапіва каля плоту.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Пра дзіця, выхаваннем якога ніхто не займаецца.

**Расце як на дражджах.** Мікалайчык Л.А., 1930 г.н., 2004. Боркі Падст.

Г. зн. хутка, прыкметна.

**а) Расце як пампушка на дражджах.** Шчурко Т.І., 1940 г.н., 2008. Заполле Кос.

"*Дзіцятка расьце як пампушка на дражджах*" (прыклад інф.).

**Расце як на лес гледзячы.** Ярома Е.А., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

"*Яго ўнук гэдакі высокі, расьце як на лес гледзячы*" (з аповеду інф.).

**Рве як сабака.** Грэцкі У.М., 1910 г.н., 1979. Бялавічы Кос.

Пра шалёны вецер.

**Робіць як дурны.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Так часам кажуць пра чалавека працавітага, які не шкадуе сябе.

**Робіць як мокрае гарыць.** Максімчык В.У., 1933 г.н., 1999. Бялавічы Кос.

Г. зн. надта марудна.

**Робіць як назаўтра.** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

*"Наняла суседа дрова пакалоць, а ён робіць як назаўтры. Добры работнік за дзень гэту горбу пакалоў бы, а ён за тры дні ці адужая"* (з аповеду інф.).

**Робіць як на смех.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2002. Скураты Квас.

*"Вачам баліць глядзець на яго работу: плота загарадзіў абы-як – і няроўно, і куры будуць лесьці ў агарот. Зрабіў як на сьмех"* (з аповеду інф.).

**Робіць як сабе.** Анішчык В.А., 1935 г.н., 1995. Була Міл.

Г. зн. дбайна, старанна.

**Робіць як у наймах.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1982. Заполле Кос.

Г. зн. абы дзень да вечара.

**Рукі дрыжаць як у злодзея.** Куратнік І.С., 1915 г.н., 1997. Гічыцы Ягл.

**Рукі што лёд.** Гоган У.У., 1968 г.н., 1983. Заполле Кос.

Кажуць, калі дужа змерзлі рукі.

**а) Рукі як ледзяныя.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Рукі як граблі.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. неспрактыкаваныя, не звыклыя да працы. *"Села за варштат, а нічога ні выходзіць – рукі як граблі"* (з аповеду інф.).

**Рукі як капа́чкі.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Пра няўмеку. Капачка – рыдлёвачка.

**Рукі як карчы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. нязграбныя.

**Рукі як коцаўбы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Пра неспрактыкаванага чалавека, няўмеку. Кацаўба́ – таўкач.

**Рукі як кочаргі.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра нязграбнага, няўмелага ў працы чалавека.

**Ручкі як перавязаныя.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Пра дзіцячыя тоўсценькія пульхныя ручкі.

**Рыжы як сабака.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

**Сагнуўся як свіны татка.** Лісок Ё.І., 1936 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

*"Сьвінымі таткамі называлі хлопчыкаў-падлеткаў, якія пасьвілі сьвіней. І спаць хочацца, і непагаць, а ім трэба пільнаваць статок. Утуліць галаву ў плечы, згорбіцца, загнецца, але трывая"* (тлум. інф.). Загнуцца – тут: сагнуцца.

**Салёнае, што ляк.** Гардзейка А.М., 1915 г.н., 1995. Галік Міл.

Ляк – лёк.

**Салодкі як сон.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

**Сапе як кавальскі мех.** Мінчук М.Дз., 1930 г.н., 1997. Галенчыцы Ягл.

**Сарваўся як сабака з ланцуга.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2003. Заполле Кос.

*"Слова яму ўпоперак ні скажы, пабех, як сабака з ланцуга сарваўся"* (з аповеду інф.).

**Сварацца як звядзёныя.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Свае, родныя, а сварацца як зьвядзёныя, як іх сілаю разом жыць застаўляюць"* (з аповеду інф.).

**Сівы як голуб.** Кухценя П.М., 1923 г.н., 1995. Сенькавічы Падст.

**Сівы як лунь.** Міраноўскі У.П., 1927 г.н., 1997. Хадакі Жытл.

**Сказаў як абухам па галаве даў.** Шыманчык В.В., 1933 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

Паведаміў нешта дужа непрыемнае.

**Сказаў як звязаў.** Букшта В.К., 1938 г.н., 2001. Сенькавічы Падст.

Г. зн. вельмі складна.

**Сказаў як нажом адрэзаў.** Івановіч Г.К., 1919 г.н., 2001. Халап'я Падст.

Г. зн. заявіў катэгарычным тонам.

**Сказаў як пугаю па вадзе ляснуў.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2002. Скураты Квас.

Г. зн. не падумаўшы.

**Сказаў як сякерай адсек.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Катэгарычна, як пра канчаткова вырашанае.

**Скача як змяя.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2002. Альшаніца Квас.

Г. зн. лезе ў вочы, назаляе.

**Скача як казёл.** Шыманчык А.П., 1941 г.н., 2005. Скураты Квас.

Пра таго, хто чапляецца да каго-небудзь, дакучае каму-небудзь.

**Скача як певень.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Пра таго, хто турбуе, дакучае, назаляе.

**Склаў рукі як святы.** Зайка Е.Я., 1903 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра таго, хто доўгі час сядзіць нерухома.

**Скрывіўся як серада на пятніцу.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

*"Серада і пятніца – посныя дні, але ў пятніцу пост стражэйшы"* (тлум. інф.).

**Скрыпіць як воз нямазаны.** Міскевіч М.М., 1913 г.н., 1995. Харошча Міл.

Пра бурклю, нэндзу.

**Слёзы як боб (як гарох).** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Слёзы як у бабра.** Грэцкі У.М., 1910 г.н., 1979. Бялавічы Кос.

**Слізкі як масляк.** Дылюк С.В., 1926 г.н., 2001. Стайкі Стайк.

**Слізкі як уюн.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

Той, хто дужа запабягае перад начальствам; прыстасаванец.

**Служыць як верны сабака.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2002. Размеркі Стайк.

**Смаку як у вараным раку.** Гойшык І.І., 1923 г.н., 1996. Размеркі Стайк.

Смачна, але мала.

**Смярдзіць як падла.** Бялевіч А.Ц., 1909 г.н., 1996. Рацкевічы Міл.

**Смярдзіць як тхор.** Шыманчык А.П., 1941 г.н., 1999. Скураты Квас.

**Снег як каша.** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 2001. Руда Падст.

**Снег як пасталы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Тут у пераносным значэнні – камякамі. *“Снег падае як пасталы”* (прыклад інф.).

**Сонны як сава.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Сон як у руку даў.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 2009. Заполле Кос.

Тое, што снілася, збылося, здзейснілася.

**Спадніца як папоня.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Папоня – доўгая накідка на кажух. Тут: доўгая, да пят.

**Спіць як забіты.** Грэцкі У.М., 1910 г.н., 1979. Бялавічы Кос.

Пра чалавека, які спіць моцным сном.

**Спіць як заяц.** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

Г. зн. чуйна.

**Спіць як малое дзіця.** Макарчэня М.А., 1945 г.н., 2003. Заполле Кос.

Г. зн. салодкім сном.

**Спіць як нежывы.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

Г. зн. моцным сном.

**Спіць як пшаніцу прадаўшы.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Тое самае.

**Спрытны як вавёрка.** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

**Спявае як салавей.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Ссінеў як гусіны пуп.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Тут: моцна змерз.

**Стаіць, разявіўшы рот, як варона.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

**Стаіць роўна як цвік.** Шыманчык В.В., 1933 г.н., 1979. Хрышчонавічы.

**Стаіць у вачах як жывы.** Баркоўская Г.Ф., 1924 г.н., 2005. Альба Квас.

Пра нябожчыка.

**Стаіць як доўбня.** Пархута Г.У., 1925 г.н., 2008. Жамайдзякі Міл.

Г. зн. моўчкі. "*Стаіць, нічога не гаворыць, як тая доўбня*" (з аповеду інф.).

**Стаіць як кадаўб.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

Г. зн. трывала, моцна. Ка́даўб – пасудзіна, выдзеўбаная з калоды.

**Стаіць як пень.** Ганчарэня Л.А., 1947 г.н., 2002. Заполле Кос.

Г. зн. на адным месцы, не варушачыся, замінаючы іншым.

**Стаіць як растаропша.** Пархута Г.У., 1925 г.н., 2008. Жамайдзякі Міл.

Растаропша – неахайна апранутая жанчына.

**Стаіць як свечачка.** Шчурко Ф.А., 1926 г.н., 1999. Заполле Кос.

*"Стаіць як сьвечачка. Так кажуць у нас пра дзяўчынку, маладзенькую, стройную"* (тлум. інф.).

**Стаіць як укопаны.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Г. зн. здранцвелы.

**Стаіць як чорт над добраю душой.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

*"Ці лён трэплям, ці картоплі капаям, ці яшчэ шчо робім, ад нашаго брыгадзіра нідзе не схаваясься, гатоў зьесьці цябе, стаіць цэлы дзень як чорт над добраю душою"* (з аповеду інф.).

**Старанная бы пчолка.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

**Старое як малое.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2001. Бялавічы Кос.

*"Старое й малое аднолькавыя: любяць усё смачнае"* (тлум. інф.).

**Стары як корч.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

**Стары як порхаўка.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

*"Стары ўжэ як порхаўка, парахня зь яго сыпляцца"* (з аповеду інф.).

**Стары як свет.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Страха як рэшата.** Бародка В.П., 1949 г.н., 2003. Заполле Кос.

Г. зн. уся свіціцца, дзіравая.

**Сукенка як карова пажавала.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. пакамечаная.

**Суп як памыі.** Здзітавец А.М., 1912 г.н., 1982. Заполле Кос.

Г. зн. нясмачны.

**Сухі як порах.** Максімчык В.У., 1933 г.н., 1998. Бялавічы Кос.

**Сухі як трэска.** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 1995. Руда Падст.

**Счарнеў як галавешка (як цёмная ноч).** Лушчык А.І., 1953 г.н., 1998. Альшаніца Квас.

"*Так кажуць пра чалавека, у якого вялікае гора*" (тлум. інф.).

**Счарнеў як цёмная ноч.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 1998. Альшаніца Квас.

Тое самае.

**Сшурпіўся як мокрая курыца.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца *Квас*.

Сшурпіцца – натапырыцца. Тут: скурчыўся ад холаду.

**Сыкае як змяя.** Грэцкі У.М., 1910 г.н., 1979. Бялавічы Кос.

**Сыны як дубы.** Снітка Г.В., 1925 г.н., 2001. Любішчыцы Люб.

Г. зн. здаровыя, дужыя.

**Сыпле снег як з мяха.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Кажуць, як ідзе густы снег.

**Сыплецца як парахня.** Кікун У.Ф., 1933 г.н., 2001. Мілейкі Міл.

Пра тое, што ад доўгага захоўвання збуцвела, спарахнела, сатлела.

**Сыты як мянёк.** Вясна У.Л., 1942 г.н., 2002. Заполле Кос.

Мянёк – мянтуз (*Lota lota*). Тут: тоўсты, гладкі.

**Сядзіць моўчкі як тхор у нары.** Гоган І.Я., 1931 г.н., 2004. Заполле Кос.

**Сядзіць, рукі склаўшы, як святы.** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 1999. Бялавічы Кос.

**Сядзіць ціха як мыш.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2005. Заполле Кос.

**Сядзіць як ведзьма.** Грэцкі У.М., 1910 г.н., 1979. Бялавічы Кос.

Г. зн. злосная, надзьмутая, незадаволеная.

**Сядзіць як вош на грэбені.** Мінчук М.Дз., 1930 г.н., 1997. Галенчыцы Ягл.

Г. зн. навідавоку.

**Сядзіць як квактуха на яйках.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

Г. зн. нерухома.

**Сядзіць як костка ў горле.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2003. Размеркі Стайк.

Пра таго, ад каго цяжка пазбавіцца, хто надакучыў.

**Сядзіць як міністр.** Пархута Г.У., 1925 г.н., 2008. Жамайдзякі Міл.

Так смяюцца з ганарлівага, важнага чалавека.

**Сядзіць як мокрая курыца.** Шыманчык С.М., 1967 г.н., 2005. Бялавічы Кос.

Кажуць пра таго, хто збедніўся, утуліў галаву ў плечы.

**Сядзіць як мыш пад венікам.** Касавец В.Р., 1921 г.н., 1995. Азярцо Падст.

Г. зн. ціха, незаўважна.

**Сядзіць як на вяселлі.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. не думае брацца ні за якую работу.

**Сядзіць як на карове сядло.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Пра адзенне, якое не пасуе чалавеку.

**Сядзіць як труцень.** Жаліс Э.В., 1939 г.н., 2004. Няхачава Стайк.

*"Усе па работах разышліся, а ён сядзіць як труцень адзін у хаце, гультаіна гэты"* (прыклад інф.).

**Сядзіць як ціхае лета.** Верабей Д.І., 1933 г.н., 2001. Быч Стайк.

Г. зн. не прыносячы нікому турбот.

**Сядзіць як цытра.** Жук А.І., 1934 г.н., 2004. Уласаўцы Жытл.

Цытра – нахабная, ліхая жанчына.

**Сядзяць як пасварыўшыся.** Гоган А.Д., 1922 г.н., 2004. Заполле Кос.

Г. зн. моўчкі.

**Сядзяць як сонныя мухі.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

**Так брэша як лён чэша.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. складна маніць.

**Такое жыта як мая доля.** Санчыкоўская С.Р., 1923 г.н., 1997. Ёлкі Ягл.

Г. зн. слабое, благое.

**Танцуе як карова на лёдзе.** Ціток І.І., 1951 г.н., 1999. Заполле Кос.

Г. зн. няўклюдна, нязграбна.

**Таргуецца як цыган.** Жук Дз.А., 1919 г.н., 1995. Жамайдзякі Міл.

Пра таго, хто настойліва дамагаецца зніжэння кошту тавару.

**Твар як печаны яблык.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

Г. зн. вельмі маршчыністы.

**Тваё "зараз" як польскае "пачэкай".** Зайка А.П., 1911 г.н., 1984. Заполле Кос.

Аднолькава доўга трэба чакаць, пакуль просьба будзе выканана.

**Твая хвароба як маё здароўе.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1984. Заполле Кос.

Так кажа хваравіты чалавек таму, хто вельмі скардзіцца на сваё здароўе.

**Тлусты як барсук.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Тонкі як лісток.** Гойшык І.І., 1923 г.н., 1996. Размеркі Стайк.

**Тонкі як тычка.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

**Тоўстая як печ.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

**Тоўсты як бочка.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Тоўсты як калодка.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2005. Грыўда Міл.

**Тоўсты як матушка.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Матушка – пападдзя. *"Матушцы людзі нясуць усё смачнае, яна есьць і таўсьцея"* (тлум. інф.).

**Трава густая як шчотка.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Трапечацца як птушачка.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

**Трасецца як у трасцы.** Шыманчык У.А., 1917 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Трасца – ліхаманка, малярыя.

**Трымаецца як сляпы за торбу.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2008. Заполле Кос.

Г. зн. моцна трымаецца за нешта.

**Трымацца як вош кажуха.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

*"Трымайся работы як вош кажуха. Вош кажуха ні пакіня, бо цяпло, гэдак і ты: трымайся работы, лепшае ні знойдзяш"* (прыклад інф.).

**Трымаюць як у клетцы.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Г. зн. пазбаўлены свабоды, права на думку.

**Тупы як бот.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Тыцкаецца як сляпая курыца.** Сірыдзіна Н.Ф., 1945 г.н., 2012. Бусяж Міл.

**Уваліць як каню.** Шыманчык А.П., 1941 г.н., 2003. Скураты Квас.

Г. зн. моцна набіць.

**У галаве шуміць, як вецер дзьме.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2004. Размеркі Стайк.

**Углядаецца як сляпы ў торбу.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Г. зн. пільна прыглядаецца.

**Уз'еўся бы сабака.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

Пра таго, хто прыдзіраецца, чапляецца да іншага беспадстаўна.

**Узяло як багатага за печані.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Бедняку печане ні баляць, бо ён есьць поснае, а багаты ўсё на мясо налягае, на скаромнае. Яны яму й баляць*" (тлум. інф.).

**Уквэцаўся як свіння.** Грынчык Н.І., 1944 г.н., 2008. Івацэвічы.

**Улез як жук у гной.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

Трапіў у непрыемнае становішча.

**У лесе як у старой хаце.** Шчурко Т.І., 1940 г.н., 2008. Заполле Кос.

"*Ні нагрэяісься, але заціішно*" (тлум. інф.).

**Уляцеў як вецер (як віхор).** Карловіч І.П., 1914 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

Г. зн. імкліва.

**Унадзілася як свіння ў агарод.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

**Унадзіўся як заяц у капусту.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

**Упарты як вол.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Упарты як дым.** Грэцкі У.М., 1910 г.н., 1979. Бялавічы Кос.

*"Дым, куды захоча, туды верня. Гэдык упарты чалавек: што задумоў, што прышло ў голаў, тое й зробіць, ніхто яму ні ўказ"* (тлум. інф.).

**Упаў як сноп.** Зайка С.М., 1947 г.н., 2012. Косава.

Пра чалавека, які вельмі стаміўся, знямогся.

**У садочку як у вяночку.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1995. Скураты Квас.

Г. зн. прыгожа.

**Усё знае як стары.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1907. Заполле Кос.

**Ускочыў як вады ўхапіўшы.** Ціток К.С., 1963 г.н., 2011. Заполле Кос.

Г. зн. зайшоў на хвілінку.

**Ухапіў як воўк авечку.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. нечакана, знянацку.

**У хаце як у лядоўні.** Шчурко М.А., 1936 г.н., 1999. Заполле Кос.

Г. зн. вельмі халодна.

**У хаце як у хляве.** Воўна Г.П., 1910 г.н., 1984. Заполле Кос.

Г. зн. брудна, не прыбрана.

**Уцякае як ад агню.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Уцякае як чорт ад крыжа.** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

*"Нячыстая сіла баіцца крыжа, малітвы й жагнаньня"* (тлум. інф.).

**Учапіўся як клешч.** Бялевіч М.І., 1922 г.н., 2001. Косава.

**Учапіўся як рак кляшнёю.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

**Халодны як жаба.** Вайцяшук М.Т., 1916 г.н., 1995. Верашкі Квас.

**Халодны як лёд.** Лушчык В.І. 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Харошая як кветка.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Хата згарэла як запалак.** Бахур Г.В., 1923 г.н., 2003. Яглевічы Ягл.

Г. зн. хутка.

**Хата як ва ўдавы.** Жук А.І., 1934 г.н., 2004. Уласаўцы Жытл.

Г. зн. недагледжаная, не бачна мужчынскай рукі.

**Хата як Вільня.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. вялікая, прыгожая.

**Хата як казарма.** Гоган І.Я., 1931 г.н., 2002. Заполле Кос.

Г. зн. прасторная.

**Хата як лялька (як цацка).** Мінчук П.І., 1918 г.н., 2005. Стайкі Стайк.

Г. зн. прыгожая, пафарбаваная.

**Хата як стадола.** Сірыдзіна Н.Ф., 1945 г.н., 2010. Бусяж Міл.

Стадола – вялікі хлеў, канюшня наогул. Тут: вялікае, няўтульнае памяшканне, жыллё.

**Хата як шклянка.** Шыманчык В.В., 1933 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

Акуратна збудаваная, ладная, высокая.

**Хаўкае як рыба без вады.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1998. Даргужы Міл.

Хаўкаць – хапаць паветра і выдыхаць раскрытым ротам. Тут: цяжка дыхае.

**Хітры як ліс (як чорт).** Мінчук М.Дз., 1930 г.н., 1997. Галенчыцы Ягл.

Ліс ды чорт у народнай міфалогіі вызначаюцца хітрасцю.

**Хлопцаў будзе мецць як рукавіц.** Лушчык В. І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Г. зн. шмат.

**Хлопчык як пачынак.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Тоўсценькі, пульхненькі. Пачынак – большае верацяно, на якое навіваюць прадзіва з некалькіх верацён.

**Хмуры як восеньскі дзень.** Станкевіч В.В., 1933 г.н., 1991. Заполле Кос.

**Хмуры як чорная ноч.** Рамашка У.І., 1931 г.н., 1995. Галынка Міл.

**Ходзіць бы качка.** Бурвін К.А., 1937 г.н., 1996. Бялавічы Кос.

Г. зн. peравальваючыся з нагі на нагу.

**Ходзіць бы на павадку.** Шчурко Л.І., 1949 г.н., 2012. Заполле Кос.

Пра чалавека, які знаходзіцца ў залежнасці ад іншых. Гэта замінае яму дзейнічаць свабодна.

**Ходзіць па пятах бы сабака.** Воўна Н.П., 1935 г.н., 1983. Заполле Кос.

**Ходзіць як бугай.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

Г. зн. дэманструючы, які ён здаровы, дужы.

**Ходзіць як бусел.** Самсонік Н.І., 1935 г.н., 1983. Заполле Кос.

**Ходзіць як ганучнік які.** Анішчык В.А., 1935 г.н., 1995. Була Міл.

Ганучнік – анучнік. Тут: у старым, лапленым адзенні.

**Ходзіць як душа без цела.** Максімчык В.У., 1936 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

Як бяспамятны, сонны.

**Ходзіць як жабрак.** Касавец Р.В., 1913 г.н., 1995. Азярцо Падст.

Г. зн. бедна апрануты.

**Ходзіць як курыца з яйцом.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Г. зн. асцярожна ступаючы.

**Ходзіць як непрытомны.** Шарубейка І.М., 1934 г.н., 2003. Воля Жытл.

**Ходзіць як пава.** Верабей Д.І., 1933 г.н., 2001. Быч Стайк.

Г. зн. паважна.

**Ходзіць як пад зямлёю.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2003. Размеркі Стайк.

Пра чалавека, у якога здарылася бяда.

**Ходзіць як сам не свой.** Ткачук Я.В., 1915 г.н., 1996. Міхнавічы Стайк.

"*Бяда ў хаці – памёр зяць, то гаспадар як сам ні свой ходзіць*" (з аповеду інф.).

**Ходзіць як сонная муха.** Высоцкая Н.А., 1914 г.н., 1995. Юкевічы Стайк.

**Ходзіць як спутаны.** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1974. Заполле Кос.

**Ходзіць як цень.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

"*Бяда ў чалавека, высах на трэску, ходзіць як цень*" (з аповеду інф.).

**Ходзіць як чорная хмара.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2003. Бялавічы Кос.

Пра злоснага чалавека, які ўсім не задаволены.

**Ходзяць як Мірон з Чычырындаю.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

*“Гэто наша кушняроўская прыгаворка. Хто былі такія Мірон і Чычырында, ніхто ні памятая. Але так кажуць часьцей пра маладых, якія швэндаюцца бяс справы, як валацугі якія”* (тлум. інф.).

**Ходзяць як пастух з пугаю.** Зайка Н.П., 1944 г.н., 2008. Заполле Кос.

Г. зн. неразлучна.

**Хочацца як багатаму паміраць.** Ляховіч П.У., 1934 г.н., 1995. Гладышы Міл.

Г. зн. зусім не хочацца.

**Худы як жэрдка.** Бялевіч А.Ц., 1909 г.н., 1996. Рацкевічы Міл.

**Худы як з крыжа знялі.** Бурвін М.М., 1931 г.н., 1985. Заполле Кос.

Пра змарнелага чалавека, які доўгі час хварэў, пакутаваў.

**Худы як ніколі хлеба не бачыў.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

**Худы як шкілет.** Ганчарэня Л.А., 1947 г.н., 1994. Заполле Кос.

**Цацкаецца як з велікодным яйцом.** Грэцкі У.М., 1910 г.н., 1981. Бялавічы Кос.

*“Велікоднае яйцо шануюць, берагуць”* (тлум. інф.).

**Цвёрды як дуб.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Цвёрды як камень.** Шыманчык А.П., 1941 г.н., 1999. Скураты Квас.

**Цвёрды як падэшва.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

**Цвіце як кветка.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1982. Заполле Кос.

*“Само бярэцца ў гады дзеўчына. Кажуць тады: цьвіце як кветка”* (тлум. інф.).

**Цвіце як мак.** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1975. Заполле Кос.

Пра дзяўчыну.

а) **Цвіце як ружа.** Голуб І.В., 1931 г.н., 2003. Скураты Квас.

**Цела белае бы смятана.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Цесна як у труне.** Рабчэня У.І., 1940 г.н., 2002. Заполле Кос.

**Цёпла як на печы.** Радзюк У.А., 1930 г.н., 1997. Грыўда Міл.

**Ціха як у вусе.** Дакучыц С.Р., 1929 г.н., 1996. Ятвезь Квас.

**Цыбуля як лаза.** Кукса М.П., 1928 г.н., 2001. Куляшы Міл.

*"Калі цыбуля кусьцістая, пер'е вялікае, кажуць, цыбуля як лаза"* (тлум. інф.).

**Цягаецца як Лейзарава карова.** Шчурко Кацярына, 1903 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Ходзіць ён, швэндаяцца ад хаты да хаты, як Лейзарава карова – ад аднаго чужого сташка да другого"* (з аповеду інф.).

**Цягнецца як ануча.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Цягнецца як ануча – гэто калі чалавек ледзьве йдзе, атстаў ад усіх"* (тлум. інф.).

**Цягне як вол.** Крыштопік В.Л., 1965 г.н., 2004. Зялёны Бор Стайк.

Пра вельмі працавітага чалавека.

**Цягнуць як вала на страху.** Бахур Г.В., 1923 г.н., 2003. Яглевічы Ягл.

Кажуць так, калі змушаюць да бесталковай, непатрэбнай працы.

**Цягнуць як казіну смерць.** Невяроўскі А.Г., 1922 г.н., 1995. Юкевічы Стайк.

Пра работу, якую ніяк не насмеляцца пачаць, адкладваюць на потым.

**Цяжкі як гліна.** Шумовіч А.В., 1924 г.н., 1997. Хрышчонавічы Квас.

**Цяжкі як падняць.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Цячэ як рэшата.** Рабчэня Н.М., 1974 г.н., 2009. Заполле Кос.

**Чалавек прапаў як муха.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

**Чорны рот як у злоснага сабакі.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

*"Кажуць, хто натто ліхі, то ў яго рот чорны"* (тлум. інф.).

**Чорны як галавешка.** Максімчык В.У., 1936 г.н., 2004. Бялавічы Кос.

**Чорны як галка.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Чорны як зямля.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 1994. Размеркі Стайк.

**Чорны як папова мурза.** Зубко Л.У., 1935 г.н., 2001. Бялавічы Кос.

*"Так кажуць пра смуглявага чалавека, прыпамінаючы сабаку ў папа"* (тлум. інф.).

**Чорны як саган.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Саган – чыгун.

**Чорны як сажа.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2001. Грыўда Міл.

**Чорны як смалены воўк.** Трында Л.М., 1934 г.н., 2009. Заполле Кос.

**Чорны як смоль.** Бабей Р.Д., 1911 г.н., 1995. Ёдчыкі Квас.

Смоль – тое, што абгарэла.

**Чорны як хмара.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Чорны як цыган.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2001. Скураты Квас.

**Чуў як праз сон.** Грудавы Р.А., 1904 г.н., 1984. Бялавічы Кос.

*"Гэто значыць ці чуў, ці прыдалося"* (тлум. інф.).

**Чухаецца як свіння аб прушняк.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1983. Заполле Кос.

П р у ш н я к – вушак.

**Чыгун як раменны.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

Брудны, нямыты. *"Дайней рамень, што ў мушчын, ад доўгаго карыстаньня станавіўся брудным, заношаным, як і чыгуны, што ў печ ставілі"* (тлум. інф.).

**Чырвоны як бурак.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2001. Размеркі Стайк.

**Чырвоны як рак.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

**Чыста як у Дробата на надворку.** Гоган І.Я., 1931 г.н., 2005. Заполле Кос.

*"Жыў дайней Дробат, які трымаў свой надворак у чысьціні й паратку"* (тлум. інф.).

**Чысты як сляза.** Радзюк Л.М., 1958 г.н., 2011. Грыўда Міл.

**Чытае як рэпу грызе.** Шастала Ю.І., 1938 г.н., 2004. Косава.

Вельмі добра чытае, выразна, гучна.

**Шалёны як звер.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

**Шальпочацца бы мыш.** Голуб М.С., 1951 г.н., 2001. Квасевічы Квас.

Ш а л ь п а т а ц ц а – варушыцца, шастаць.

**Шануй як роднага бацьку.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Шануюць як на вілах.** Шаўкун М.У., 1936 г.н., 2003. Кушняры Падст.

Г. зн. жадаюць ліха.

**Шанцуе як вісельніку.** Шчурко М.З., 1907 г.н., 1983. Заполле Кос.

*"Чула ат старых людзей, шчо дайней, калі вешалі злачынцу і вяроўка рвалася, то пакідалі жыць"* (тлум. інф.).

**Швэндаецца як непрытомны.** Собаль К.С., 1912 г.н., 1975. Бялавічы Кос.

Швэндацца – хадзіць, валачыцца.

**Шкада як леташняга снегу.** Ялоўская А.І., 1926 г.н., 1997. Зыбайлы Жытл.

**Шкодлівы як кот.** Зайка А. Ф., 1948 г.н., 2002. Заполле Кос.

**Шмыганула як мыш.** Рабчэня У.І., 1940 г.н., 2002. Заполле Кос.

**Шукае як ветру ў полі.** Апуневіч У.С., 1923 г.н., 1999. Бялавічы Кос.

*"Сам ні ведае, што яму трэба, што ён шукая"* (тлум. інф.).

**Шукае як сляпы ў торбе.** Саўчук М.Р., 1922 г.н., 1997. Жытлін Жытл.

**Шукай як хлеба.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2010. Заполле Кос.

*"Так раяць старэйшыя маладым, калі тыя пакідаюць родную хату ў пошуках долі"* (тлум. інф.).

**Шустры як венік.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2005. Заполле Кос.

**Шчабеча як сарока.** Фядосік М.К., 1928 г.н., 2000. Гошчава Стайк.

**Шыхуюцца як да вяселля.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Шыхавацца – рыхтавацца. Тут: прыбіраюць, чысцяць, усё прыводзяць у парадак.

**Шыя доўгая як у бусла.** Зайка С.М., 1947 г.н., 2009. Косава.

**Ягады зялёныя што мурава.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

**Ягад як калу.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2003. Заполле Кос.

Кал – гразь. Тут: многа, шмат.

**Ягад як хмелю.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

Так кажуць, калі ягады ядраныя.

**Язык доўгі як у змяі.** Шыманчык В.В., 1933 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

**Язык ходзіць як сабачы хвост.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

**Язык як арэх.** Шчурко М.Дз., 1941 г.н., 2014. Заполле Кос.

*"Калі натто спалохаясься, то язык задзеравянея, станя непаваротлівы, цьвёрды як арэх"* (тлум. інф.).

**Язык як брытва.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра вострага на слова чалавека.

**Язык як мянташка.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

**Язык як памяло.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

**Як агню баіцца.** Бакіевіч А.К., 1918 г.н., 2004. Косава.

Г. зн. моцна баіцца.

**Як агню ўхапіў.** Ялоўскі У.С., 1930 г.н., 1995. Зыбайлы Жытл.

Г. зн. вельмі хутка.

**Як адрэзала.** Здзітавец А.М., 1912 г.н., 1976. Заполле Кос.

Так кажуць, калі рэзка мяняюць свае погляды на іншага чалавека. *"Здаецца, неблагі быў чалавек, але пачула, як мацяру абазваў, то як адрэзало мне, глядзець на яго ні хачу"* (з аповеду інф.).

**Як бяльмо на воку.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

Пра чалавека, які дакучае сваёй прысутнасцю, назаляе ўсім.

**Як вецер.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

Пра несур'ёзнага, легкадумнага чалавека.

**Як воўк на мясе.** Зайка Е.Я., 1903 г.н., 1980. Заполле Кос.

*«Як воўк мяса мая много, то е і людзі, у каторых грошай много. Таму кажуць: "Людзі на грашах як воўк на мясі"»* (тлум. інф.).

**Як гара.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

*"Карову здуло, як гара. Трэба па веціірынара ісьці"* (з аповеду інф.).

**Як гара з плеч спала.** Майсейчык А.А., 1924 г.н., 1984. Гошчава Стайк.

"*Пасадзіў картоплі, то як гара сь плеч спала*" (з аповеду інф.).

**Як гарох ад сцяны.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1996. Скураты Квас.

Пра неслуха. "*Ад яго атскоквая як гарох ат сьцяны*" (прыклад інф.).

**Як дзеравяная.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2008. Заполле Кос.

Пра зашэрхлую частку цела.

**Як добры дурань.** Бялевіч І.М., 1920 г.н., 1995. Даргужы Міл.

"*Пляце рэзгіні, а я слухаю, вушы разьвесіўшы, веру яму, як добры дурань*" (з аповеду інф.).

**Як другі раз на свет нарадзіўся.** Стась І.В., 1912 г.н., 1995. Заполле Кос.

"*Кінуў, братко, курыць, то паверыш, як другі раз на сьвет нарадзіўся*" (з аповеду інф.).

**Як за пазухай жылі.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2005. Заполле Кос.

Г. зн. у цяпле, у доглядзе, у дастатку.

**Як запалку запаліць.** Лушчык А.І., 1953 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Хуткі да бітвы як запалка* (м. р.) *запаліць*" (прыклад інф.).

**Як за рукі пабраліся.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1980. Заполле Кос.

"*Адно за адным паўміралі як за рукі пабраліся*" (з аповеду інф.).

**а) Як за рукі пабраўшыся.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Пайшлі на той сьвет як за рукі пабраўшыся*" (з аповеду інф.). Г. зн. памерлі хутка, адно за адным. Звычайна кажуць пра мужа і жонку.

**Як застыў.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

"*Гэдак спалохаўся воўка, што мову адняло, стаю як застыў*" (з аповеду інф.).

**Як з зубоў вырваў.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 1985. Скураты Квас.

“*Хацела табе навіну расказаць, а ты як з зубоў вырваў, сам гаворыш*” (з аповеду інф.).

**Як з казла малака.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2012. Заполле Кос.

“*Зь яго толку як с казла малака*” (прыклад інф.).

**Як з крыжа зняты.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

Пра чалавека вельмі худога, змучанага.

**Як з ланцуга (прывязі) сарваўся.** Верабей Н.С., 1930 г.н., 1998. Аляксейкі Стайк.

“*Сказалі, што палучку ў канторы даюць, то як з ланцуга сарваўся, гэдык хутко пабех*” (з аповеду інф.).

**Як з таго свету вярнуўся.** Гоган А.Д., 1922 г.н., 2003. Заполле Кос.

“*Хварэў мой сусед моцно, але дзякаваць Богу выжыў, як с таго сьвету вярнуўся*” (з аповеду інф.).

**Як камень з душы спаў.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 1995. Заполле Кос.

“*Памірыўся с суседом, то як камень з душы спаў, адразу паляхчэло*” (з аповеду інф.).

**Як камень на сэрцы.** Шчурко Я.Р., 1928 г.н., 2006. Бялавічы Кос.

“*Накрычаў на дзіця, а яно душою не вінаватае, мне гэто як камень на сэрцы цяжаром лягло*” (з аповеду інф.).

**Як камень на шыі.** Лісок Л.І., 1951 г.н., 2004. Заполле Кос.

“*Паставілі пасьля вайны на пастой начальніка да нас, а ён як камень на шыі*” (з аповеду інф.).

**Як карова языком злізала.** Рабчэня А.У., 1967 г.н., 2011. Заполле Кос.

Пра тое, што раптоўна знікла. “*Усталі рано, а сьнегу німа, як карова языком зьлізала*” (з аповеду інф.).

**Як костка ў горле.** Шыманчык В.С., 1901 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

Пра тое, што дакучае, моцна перашкаджае.

**Як літы.** Зайка А.Ф., 1948 г.н., 2004. Заполле Кос.

Пра чалавека, яго постаць: каржакаваты, моцнага целаскладу.

**Як лялька за тры грошы.** Верабей В.І., 1930 г.н., 1998. Аўсто Стайк.

Жартоўнае параўнанне. "*Такі харошы як лялька за тры грошы*" (прыклад інф.).

**Як май змаяваў.** Пропер А.А., 1950 г.н., 2005. Верашкі Квас.

Пра тое, што прапала, знікла ў адзін момант, увачавідкі.

**Як макавае зерне.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2004. Размеркі Стайк.

Пра нешта малое, дробнае.

**Як малаком аблітыя.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1982. Заполле Кос.

"*Вясна, вішні цьвітуць, як малаком аблітыя*" (з аповеду інф.).

**Як мёдам намазана.** Лісок М.І., 1932 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Ідзе ды йдзе да іх Мікалай, яму там як мёдам намазано*" (з аповеду інф.).

**Як нажом па горле.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

"*Сказаў ты мне гадасьць, мне гэто як нажом па горлі, але хай цябе ліхо, не хачу я цябе зачэпаць*" (з аповеду інф.).

**Як наліты.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2001. Альшаніца Квас.

"*Німа ў яго здароўя, як наліты. Кажуць, сэрца хворае*" (з аповеду інф.).

**Як на мне малацілі.** Шыманчык В.В., 1933 г.н., 1979. Хрышчонавічы Квас.

"*Усё цела баліць як усё роўна на мне малацілі*" (з аповеду інф.).

**а) Як на мне чэрці гарох малацілі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

"*Баліць усё цела як на мне ўсю ноч чэрці гарох малацілі*" (з аповеду інф.).

**Як на мне ўсю ноч чэрці ваду вазілі.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1985. Альшаніца Квас.

*"Баліць усё цела як усё роўна на мне ўсю ноч чэрці ваду вазілі"* (з аповеду інф.).

**Як на раз укусіць.** Шастала Ю.І., 1938 г.н., 2004. Косава.

Г. зн. вельмі мала.

**Як на смех (зрабіў).** Гоган А.Д., 1922 г.н., 2003. Заполле Кос.

Абы-як, абы з рук збыць.

**Як на споведзі.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1985. Заполле Кос.

Шчыра, не тоячыся.

**Як на сто коней сеў.** Бакіевіч А.К., 1918 г.н., 2003. Косава.

*"Як паставілі сына за брыгадзіра, то сусед як на сто коней сеў, не падходзь, гонар які"* (з аповеду інф.).

**Як неба парвалася.** Грэцкі У.М., 1910 г.н., 1979. Бялавічы Кос.

Надта моцны, навальны дождж. *"Такі дошч як небо парваласё"* (прыклад інф.).

**Як недавараны.** Зайка І.І., 1958 г.н., 1999. Заполле Кос.

*"Няўдалы хлопяц у іх, цяшко яго разварушыць, як нідавараны"* (з аповеду інф.).

**Як не ў людзей.** Шчурская Н.У., 1942 г.н., 1995. Альшаніца Квас.

*"У цябе ўсё як не ў людзей"* (прыклад інф.).

**Як нырка ў сале.** Міхнюк Г.Ф., 1942 г.н., 2008. Размеркі Стайк.

*"Жыве ў дачкі, а тая годзіць бацьку. Жыве ён як нырка ў салі, у дастатку"* (з аповеду інф.).

**Як па драбіне едзеш.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

*"Дарога дрохкая, як па драбіні едзяш"* (прыклад інф.).

**Як пахаваў каго.** Шашук Ф.С., 1922 г.н., 2001. Руда Падст.

*"На сэрцы цяшка, як пахаваў каго"* (прыклад інф.).

**Як пугай па вадзе.** Цiток В.І., 1918 г.н., 2003. Заполле Кос.

Сказаць абы-што, не падумаўшы.

**Як родныя браты.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Г. зн. дружна, у згодзе.

**Як рукамі адняло.** Панко Т.Ф., 1906 г.н., 1995. Мілейкі Міл.

Пра боль, які згінуў, прапаў.

**Як рукой падаць.** Грэцкі У.М., 1910 г.н., 1979. Бялавічы Кос.

Г. зн. блізка, побач.

**Як рыба без вады.** Харэвін К.К., 1925 г.н., 2011. Грыўда Міл.

**Як рыба ў вадзе.** Міхнюк А.В., 1965 г.н., 2008. Гошчава Стайк.

Пра чалавека, які вольна пачувае сябе ў грамадзе.

**Як рыжык здаровы.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Рыжык – грыб. Ён крамяны, здаровы.

**Як сам не свой ходзіць.** Ткачук Я.В., 1915 г.н., 1996. Міхнавічы Стайк.

"*Бяда ў хаці – памёр зяць, то гаспадар як сам ні свой ходзіць*" (з аповеду інф.).

**Як стары.** Жаліс Э.В., 1939 г.н., 2004. Няхачава Стайк.

Пра дзіця, якое разважае па-даросламу.

**Як там быў.** Прыступчык С.К., 1934 г.н., 2008. Падстарынь Падст.

Пра таго, хто ўсё ведае, усё бачыў.

**Як таўкач.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

Пра чалавека маруднага, нерухлівага.

**Як туман у вачах.** Бялевіч А.Ц., 1909 г.н., 1996. Рацкевічы Міл.

"*Ні бачу, як туман у вачах*" (прыклад інф.).

**Як у Бога за плячыма.** Зайка А.П., 1911 г.н., 1985. Заполле Кос.

Жыць пад абаронай, нічога не баючыся.

**Як у душу плюнуў.** Зайка Ф.Я., 1907 г.н., 1980. Заполле Кос.

Г. зн. сказаў нешта вельмі непрыемнае, крыўднае.

**Як у лесе вырас.** Мяцечка У.А., 1923 г.н., 2004. Мілейкі Міл.

Г. зн. маўклівы, дзікаваты.

**Як у падушку б'юць.** Воўна В.Ф., 1939 г.н., 2002. Заполле Кос.

Удары глухія, частыя.

**Як у шчопці ўзяць.** Казімірчык А.П., 1928 г.н., 2004. Скураты Квас.

Г. зн. мала.

**Як цяляты язык аджавалі.** Лушчык І.І., 1928 г.н., 1984. Альшаніца Квас.

"*Маўчыць, як яму цялята языка аджавалі*" (прыклад інф.).

**Як чэрці на яго селі.** Лушчык В.І., 1930 г.н., 2000. Альшаніца Квас.

"*Чалавек перамяніўся, як чэрці на яго селі. Так кажуць пра таго, хто робіць шчо хоча*" (тлум. інф.).

Навуковае выданне

**Зайка** Алесь

# Прыказкі і прымаўкі,

## жарты і каламбуры, прыгаворкі і языкаломкі, вясельныя прыгаворкі пры дзяльбе каравая, вітанні і зычэнні, ветлівыя і ласкавыя выразы, засцярогі і прысяганні, праклёны і адкляцці, жартоўныя праклёны і дражнілкі-кепікі, зневажанні і параўнанні, прыкметы народнага календара

## з Касаўшчыны

Рэдактар
*Зьміцер Санько*

Карэктар
*Марыя Журавель*

Тэхнічны рэдактар
*Алесь Дрыбін*

Мастак
*Віталь Катовіч*

Кампутарны набор
*Антаніна Зайка, Ганна Хаванская*

Макетаванне
*Марыя Кавальчук*

Падпісана ў друк 26.01.15. Фармат 60×90 $^1/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура School.
Ум. друк. арк. 18,0. Ул.-выд. арк. 17,6. Наклад 1000 паасобнікаў. Замова № PUZ118930.
НВК “Тэхналогія”. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы і распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/379 ад 01.07.14. Вул. Ляўкова, 19, 220007, Мінск.
АТ “Спаўда”. LT-05120, Вільня, Летува, пр. Лайсвес, 60.



**Алесь Зайка** — спецыяліст у галіне лакальнай этналогіі. Кола яго навуковых зацікаўленняў улучае дыялекталогію, фразеалогію, парэміялогію, мікратапаніміку, фальклярыстыку і гісторыю сялібаў. Аўтар кніг “Дыялектны слоўнік Косаўшчыны” (2011), “Населеныя пункты Івацэвіччыны” (2012), “Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны” (2014).

Гэтая кніга — першае сістэматызаванае апісанне парэміялагічнага і фразеалагічнага багацця мовы жыхароў аднаго з куткоў Беларусі — радзімы Тадэвуша Касцюшкі. Запісы фальклорнага матэрыялу зроблены даследнікам у 1969–2014 гадах.

